# АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

## Том 2

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1993

ББК 84Бел
А72

Рэдакцыйная калегія:
*Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Пімен Панчанка, Максім Танк*

Укладальнік
*Алег Лойка*

Рэдактар
*Рыгор Барадулін*

4702120000—019
А ———————— 135—90
М 302(03)—93
ISBN 5-340-00120-2 (т. 2)
ISBN 5-340-00180-6



# МІХАСЬ ЧАРОТ

Міхась Чарот (Міхаіл Сямёнавіч Кудзелька; 7.11.1886, г. п. Рудзенск Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.— 29.10.1937). Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1917). З 1920 г. супрацоўнік, у 1925—29 гг. рэдактар газеты «Савецкая Беларусь». Ініцыятар стварэння, а з 1923 г. кіраўнік літаратурнай арганізацыі «Маладняк». У 1937 г. асуджаны. Друкаваўся з 1918 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Завіруха» (1922), «Сонечны паход» (1929), паэм «Босыя на вогнішчы» (1921), «Чырванакрылы вяшчун» (1923), «Ленін» (1924), «Беларусь лапцюжная» (1924), «Марына» (1925), «Карчма» (1926). Выступаў і як празаік і драматург. Выйшлі «Творы» (т. 1—3, 1932—36), «Збор твораў» (т. 1—2, 1958), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967) і інш.

## ВЕДАЙ, СВЕТ...

Ведай свет, што я сын мужыка-бедняка,
Які доўга ў няволі стагнаў...
Узгадавала мяне яго чорна рука,
А купала нядолі адвечнай рака,
Голад, холад мне ў твар пазіраў...

Дні ішлі... ў беднай вёсцы пеў песні народ,
Разганяў гэтай песняй нуду...
Ў полі жыта ў снапах, нібы той акалот,
Хата згніўшая ўся, хлеў стары без варот,
Вось якую я бачыў бяду...

Ўсе казалі, што й сын, як і бацька-мужык,
Перад панам свой горб будзе гнуць...
Што з другімі людзьмі ён не пойдзе у лік,
Запрацуе сабе лапці з ліпавых лык,
Вольнай песні не будзе ён чуць.

І запала тады іскра ў сэрца грудзей,
Запаліла там помсты пажар,
І з агнём тым у свет я пайшоў да людзей,
Песні сам пачаў пець я пра волю смялей,
Каб быў кожны сабе гаспадар.

Бач, ад песні маёй скалыхнуўся ўвесь свет,
Сонны край я ураз разбудзіў...
І на тым кургане, дзе спяваў сумна дзед,
Дзе мінулай няволі не змыт яшчэ след,
Прамень шчасця ужо засвяціў.

Паўстаюць, як з зямлі, рвуцца к волі з цянёт,
Песня ў сэрцы спаткала адгук!
Йдуць да сонца яны, йдуць к жыццю — напярод,
Абагрэцца хутчэй, асушыць кроў і пот,
Загаіць мазалі чорных рук...

Ведай, свет, я вясковы,— мужычы сынок,
Я пяю, што пяе селянін...
А ты чуеш? Іграе заводаў гудок,
Ў кузні гучна звініць каваля малаток,—
Пра адно мы пяём, як адзін!

*1921*

## БУНТАР

Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар.
Я балота буджу гучным шумам.
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць не дам сваім струнам.

Уздыму дух людзей, пабуджу іх ад сну,—
Славу, будучнасць я ім прарочу...
Я, мяцежны бунтар, клічу жыцця вясну,
Клічу к працы свабоднай і творчай.

Як не счуюць мяне, я мацней загуду,
Дам гучнейшы акорд песні новай...
А каб змыць з зямлі бруд, скалыхну я ваду,
Што дажджом налілася свінцовым.

Чаму ж вы, песняры, што будзілі людзей,
Чуць не хочаце песні чарота?
Нашы песні — наш кліч, бо адных мы грудзей,
Край адзін наш — то наша балота.

Дык шумі, як шумеў, велікан-ясакар,
Шапаці, спелы колас, у полі...
А я песню сваю буду пець — я бунтар!
Буду клікаць народ свой да волі.

*1922*

## СЕНАЖАЦІ І ПОЛІ АСНЕЖАНЫ

Сенажаці і полі аснежаны,
Рэкі выслany гладкім памостам.
Воўк з гушчару дарогай наезджанай
Бяжыць к вёсцы няпрошаным госцем.

Лес у шлюбным адзенні, а хмурыцца,
Не вітае ён песнямі рання...
А у вёсках завеяны вуліцы,
Ў мяккіх горбах купаюцца сані.

Сівалапы гуляе пад вокнамі,
Пазірае хаціне у вочы,
Толькі ў поўдзень часамі замоўкне ён,
А як вечар — у шыбы стукоча.

Дзеці пальцамі шыбы з узорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы.
Згорнуць ў жменю сняжыначкі-зоры
І бягуць пасмактаць у запеччы.

Ноччу печ заспявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасцелі ім сніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

*1922*

## МАЛАДНЯК

Тут учора бура выла нам.
Вецер-чмут гайсаў з кутка
ў куток,—
Стары бор з карэннем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца — вір агню...
Буралом спаліла з голлямі!..
Зніклі хмары... і пад чырванню
Ўсе прасторы сталі голымі.

А сягоння чутны водгукі:
— Нам расці — дык мала дня!
Толькі тут узняцца мог такі
Волат лес — наш Маладняк.

Стройны лес і горды выглядам,
Нібы раць, што мкнецца ў бой.
Яго шум — што голас: «Выедам
Пастаяць за праўду галавой».

Маладняк сваімі лісцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі конніцу.

Перастаў і сумны спеў гусці,
Дні прыйшлі — ажно не
верыцца...
Хто ж адвагі знойдзе, смеласці
З сілай моладзі памерацца?

*1923*



# КАНДРАТ КРАПІВА

Кандрат Крапіва (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) нарадзіўся 5.3.1896 г. у в. Нізок Уздзенскага р-на Мінскай вобл. Вучыўся ў Уздзенскім народным вучылішчы, 4-класным гарадскім вучылішчы ў Стоўбцах і Койданава. У 1913 г. экстэрнам здаў экзамен на званне народнага настаўніка. Настаўнічаў (1914—15, 1918—20, 1924—25). Удзельнік 1-й сусветнай вайны, у 1920—23 гг. у Чырвонай Арміі. З 1925 г. у Мінску. Працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры (1925—26), у часопісе «Полымя рэвалюцыі» (1932—37). Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1930). Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Айчынную вайну працаваў у франтавых газетах, рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1943—45). У 1945—47 гг. рэдагаваў сатырычны часопіс «Вожык», у 1947—52 гг.— загадчык сектара мовазнаўства Інстытута літаратуры і мовы АН БССР, у 1956—82 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік

АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). З 1947 г. дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Друкуецца з 1922 г. Выдаў зборнікі сатырычных вершаў, баек, фельетонаў «Асцё» і «Крапіва» (1925), «Байкі» (1927), «Ухабы на дарозе» (1930), «Калючы строй» (1932), «Выбраная сатыра» (1938), «Смех і гнеў» (1946), «Жаба ў каляіне» (1957), «Вершы і байкі» (1967), «Пучок жыгучкі» (1973), «Загадкі дзеда Кандрата» (1986) і інш. Выступаў як празаік. Вядомы як драматург: п'есы «Канец дружбы» (1934), «Хто смяецца апошнім» (1939, Дзяржаўная прэмія СССР, 1941), «Мілы чалавек» (1945), «Пяюць жаваранкі» (1950, Дзяржаўная прэмія СССР, 1951), «Брама неўміручасці» (1973, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы, 1974), «На вастрыі» (1982) і інш. Дзяржаўная прэмія СССР 1971 г. за комплекс прац у галіне беларускай дыялекталогіі.

---

* * *

Не зайздрошчу я Чароту
І Купалу не раўня,
А жыву сабе пад плотам
Ціха дзень тут ада дня.

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? — смех, дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.

Я расту вось тут пад плотам
І не так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі папякла.

Хто палез за агуркамі,
Хай той носіць пухіры —
Мяне голымі рукамі
Асцярожна, брат, бяры,

Хто сустрэўся быў са мною,
Дакрануўся раз ці два,
Дык той ведае ўжо, хто я:
Я — пякучка-крапіва.

*16.XII.1922*

## КАЛІ Ў КРАМЕ ЁСЦЬ НЯСТАЧА...

Калі ў краме ёсць нястача,
Дык «усушка» там, няйначай,
Ці «утруска», ці мо «мышы» —
Так заўсёды ў актах піша.
На «усушку» ўсе зладзеі
Ускладаюць шмат надзеі:
Дзе «усушка» ды «утруска»,
Дык там выпіўка й закуска,
А дзе псута ад мышэй —
Падымай, браток, вышэй.
Толькі ўмей складаць ты акты,
Каб пасведчыць тыя факты.
У закупшчыка Антося
Вунь жалеза «увасхлося»
Кіло тысячу ды з гакам,
І Антось па ім не плакаў.
За прылаўкам у Матруны
Шмат «утрэслася» картуны,
Метраў сорак ці мо й болей,
Адным словам — ёй даволі.
У загадчыцы Антолі
Мышы з'елі скрыню солі,
А пасля яшчэ, заразы,
Бочку выжлукталі газы.
Весялей Антоля ходзіць,
І мышам яно не шкодзіць.
Так двухногія з рукамі
Тыя «мышы» з «пацукамі»
І псуюць сабе патрошку...
Трэба, трэба на іх «кошку».

*9.VIII.1925*

## ЯЗЫЧОК

Вось дык ладзіць!
Вось дык гладзіць!
Вось дык ліжа!
Ніжай! Ніжай!
Яшчэ вазьмі
Вось тут лізні
Разоў ля ста,
Каля хваста.
Вось так! Вось так!
Дальбог, мастак!
Што ні скажа —
Маслам мажа
З плеч да лытак.
Вось дык крытык!
Вось бы гэты язычок
Ў прыбіральню на цвічок!

*1925*

## СУКА Ў ЗБАНЕ

**Байка**

Сцяпан і брат яго Васіль
Шнурок надоечы касілі.
А пацягаць касу да полудня ад ранку —
Не то, што выпіць кавы шклянку
Ды павадзіць пяром па гэтай вось паперы,—
Змарыліся касцы без меры.

Аднак жа не даюць спакою косам —
Пракос праходзяць за пракосам.
А Фінця-сука ў халадку
Ляжыць, як пані, на баку
Пад вербалозавым кустом,
Памахвае сабе хвастом:
То пазяхне, то дрэмле зноў,
То ловіць мух, то скакуноў.
Ужо спаўдня, і ўжо касцу
Аж гоніць з голаду асцу.
Паклаўшы косы пад пракос
І ўцёршы лоб і потны нос,
Касцы падселі к кусту,
Дасталі з торбы хлеба лусту,
Збан малака ды кожны сваю лыжку
І пачалі сярбаць пакрышку.
А Фінця ім глядзела ў рот
(І ёй падцягвала жывот)
Ды прагавітымі вачыма
За лыжкаю сачыла,
Хвастом віляла і прасіла,
Але як не касіла,
То не пазвалі й да збана —
Апаражнілі ўдвух да дна.
Скурыўшы дзве «сабачых ножкі»,
Васіль прылёг на трошкі;
Сцяпана зноў жа сон змарыў
(Хоць ён, здаецца, не курыў),
А Фінця гэтым часам
Даўно ў збане ўжо з мордай ласай,
Ды толькі ёй лізаць няміла,
Бо галаву ўшчаміла.
Яна й сюды, яна й туды,—
Ніяк не збыць ліхой бяды,
Хоць адракайся галавы,—
І стала выць.
Пакуль касцы праз сон пачулі тыя гукі,
Пакуль дасталі з гладыша,
Дык чуць не вылезла душа
У беднай сукі.
І, як агню, з тых дат яна
Баіцца кожнага збана.

---

Цераз мяжу і фабрыкант, і пан
Так сквапна шчэрацца на наш савецкі збан:
Гатовы праглынуць, не толькі палізаць,—
Так точаць іх пражэрства мукі,
Не ўпэўнены адно драпежніцкія сукі,
Ці з галавою вернуцца назад.

*1925*

## ДЗЕД І БАБА

**Байка**

Ехаў Дзедка на кірмаш,
З ім на возе — Баба.
Конік з выгляду — дарма,
Ды цягнуў ён слаба:

Меў не болей двух гадоў,
Як суседзі кажуць.
Баба ж тая — сем пудоў,
Сама меней, важыць.

Пад узгорак або ў гразь —
Конь насілу возьме.
Стала Баба памагаць...
Седзячы на возе.

Што ж, каню другі гадок.
Дык яна — за білы
Ды нагамі ў перадок
Пхне, як мае сілы.

— Кінь, дурная, бо зганю! —
Дзед тут Бабе кажа.—
Ты паможаш так каню,
Як хваробе кашаль.

— Ах ты, ёлупень стары! —
Баба Дзеда лае.—
Стой жа тут, хоць ты згары!
Мне бяда малая.

Потым — гоп яна з калёс,
Села ля дарогі,
А каня як чорт панёс, —
Дзе ўзяліся й ногі!

---

Ва ўстановах часам ёсць
Вось такія ж «бабы»:
Здэцца, й робяць яны штось,
Але справы слабы.

Ды такая не ўцячэ!
Скажам ёй нарэшце:
— Мо без вас было б лягчэй?
Паспрабуйце злезці!

*1925*

## МАНДАТ

**Байка**

Аслу раз выдалі мандат, —
Няйначай, памылкова.
(Такія і ў людзей памылкі — не наўда,
Але аб іх пасля размова.)
Ад шчасця гэтага ў Асла
Аж галава кругом пайшла,
І вылецеў з яе апошні розум —
Як п'яны стаў Асёл, хоць быў цвярозым:
Такога ўраз задаў разумнік тону,
Такога шуму нарабіў, такога звону,
Што не спрачаліся жывёлы ані крышку
І палічылі ўсе Асла за шышку.
— Ну й розум! Вось дык галава! —
Не раз гучалі хвалы словы.
Другі дык ледзь не цалаваў
Капыцікі асловы.

А «галава» з мандатам у паўметра
Стаіць над яслямі ў хляве:
Ніводнай думкі ў галаве —
Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.
Пры гэтым бедныя жывёлы
І чхнуць баяцца без дазволу.
Адзін вось толькі Лыска,
Калі Асла пабачыць блізка,
Дык пратэстуе: «Гаў-гуў-гуу!
Цярпець я дурня не магу!»
Ды Лыска той сядзеў на ланцугу.

---

Бывае іншы раз і з нашым братам,
Што галаву заменьваюць мандатам,
Ды мы справаджваем такіх аслоў
Без лішніх слоў.

*1925*

## МОДА

**Байка**

Якімсьці чынам, невядома,
З вар'яцкага шпіталя ці то дома
Ды збегла раз няшчасная кабета,
Якая з малых год
Была паклонніцаю моды
І розум страціла праз гэта.
Было, між іншым, лета.
Яна тут зараз цераз плот
І скокнула ў гарод
Ды, завязаўшы нейк па-свойму хустку,
Давай тут прыбіраць старанна галаву:
Лісцё ўтыкае морквы і капусту,
І кроп, і іншую траву.
Пасля па вуліцы прайшла, як быццам каралева,
Хоць грудзі голыя і цела ўсё свіціцца,

Аж сэрца, гледзячы, сціскаецца ад жалю.
Аднак жа паабапал — справа, злева —
За ёю бегла разявак мо з трыццаць,
Галёкалі, іржалі;
І нават нейкія два франты,
Згубіўшы свой «шляхетны» сорам,
Таксама любаваліся уборам,
Хвалілі, што «пікантны»,
А колькі модніцам-кабетам
Іх пахвала абыдзецца і грошай і турбот,
Няшчасныя не думалі аб гэтым.
Назаўтра ўжо ва ўсіх паклонніц мод,
Якія пераймаць заўсёды рады,
Дык не адзін заўважан быў распорак,
А ззаду й спераду — па сорак.
На галаве ж у іх не грады
І нават не гарод,
А проста — цэлае шматполле:
Бульбянік тут развесіў голле,
Там далей — іншы караньплод;
На самай макаўцы ячмень
Пад вецярком сабе шумеў,
А далей сарадэля
Так міла белым тварыкам глядзела,
І роем навакол гулі
Двухногія чмялі.

---

Якія ж выведу я тут маралі?
Каб на галовах не аралі,
Заводзячы севазварот шматпольны?
Ды не, браткі, зусім
Я клапачуся не аб гэтым
І байку прысвячаю ўсім,
Хто слепа модзе пакланіцца здольны:
Дзяўчатам ды кабетам,
А больш за ўсіх дык маладым паэтам.

*1926*

## ДЫПЛАМАВАНЫ БАРАН

**Байка**

Ў адным сяле (не важна — дзе)
Хадзіў Баран у чарадзе.
Разумных бараноў наогул жа нямнога,
А гэты дык дурней дурнога —
Не пазнае сваіх варот:
Відаць, што галава слабая.
　　А лоб дык вось наадварот —
　　Такога не страчаў ніколі лба я:
　　Калі няма разумніка другога,
　　Пабіцца каб удвух,
Дык ён разгоніцца ды ў сцену — бух!
У іншага дык выскачыў бы й дух,
　　А ён — нічога.
І вось за дурасць гэту
Яго вучоным раз празвалі нейк на смех,
А каб двара не перабег,
На шыю прывязалі мету.
— Вось,— кажуць,— і дыплом табе.
Што гэта за «дыплом», Баран — ні «мя», ні «бэ»,
Аднак жа перад Кошкаю пачаў ён ганарыцца.
　　— А што ты думала, сястрыца!
　　Хіба мне пахваліцца няма чым?
　　Дыплом я заслужыў, здаецца ж, галавою,
　　І не раўнуйся ты са мною.
— Аб гэтым лепей памаўчы,—
Сказала яму Кошка.—
Каб ты быў разумнейшы трошка
Ды розумам раскінуць мог авечым,
То ўбачыў бы, што ганарыцца нечым,
Бо заслужыў ты свой дыплом
Не галавой, а лбом.

---

Другі баран — ні «бэ», ні «мя»,
А любіць гучнае імя.

*1926*

## САВА, АСЁЛ ДЫ СОНЦА

**Байка**

Сава лятала паначы,
З сабою птушкам смерць насіла,
Хаўтурны спеў ім пеючы,—
Сама там драла іх, сама ж і галасіла,
Ды так не ўбачыла, як нахапіўся дзень
І сонца яркага прамень
Дарэшты асляпіў ёй вочы.

Сава ўцячы тут хоча,
Ды толькі вось ляцець не можа,
А поблізу няма дупла нідзе.
Заплакала Сава ў бядзе —
Ну, хто ж Саве паможа?
На шчасце, ёй тут лёс паслаў
Знаёмага Асла.

І кажа ён: — Не плач, сястрыца,
Ды надта не бядуй,
З бяды мы вырабімся самі,
І Сонцу нам не прыйдзецца скарыцца.
Я вушы доўгія на Сонца навяду
І засланю яго вушамі.

Як цемра ўсю пакрые галу,
Як згіне прыкрае святло,
Дык ты й ляці сабе ў дупло
Тады памалу.

І наш Асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І процi Сонца стаў.

Калі ж налева глянуў коса —
Святла там яркая палоса.
Ён — гоп у левы бок.
Пасля глядзіць — святло і справа;
Тады назад ён — скок.

Нарэшце бачыць — дрэнна справа:
Скакаў, скакаў і ўжо насілу ходзіць,
А Сонцу ўсё ніяк не шкодзіць,—
Ні каплі не памог Саве,
А вочы высляпіў сабе.

І вось Аслу нарэшце ясна стала:
Каб Сонца засланіць — вушэй аслiных мала.

---

Вось гэту праўду едкіх слоў
Нясу, абураны, я на фашысцкіх соў
І іх заступнікаў-аслоў.

*1927*

## ЖАБА Ў КАЛЯІНЕ

**Байка**

Пагода — проста нібы дым,
У вёсцы рух, у вёсцы ўздым:
Упарта кліча сенажаць.
І ні старым, ні маладым
Тут некалі ляжаць.
Грабель мільганнем, звонам кос
Трымцяць лілёвыя прасторы,
І вось, нібы ў зялёным моры,
Плыве бухматы воз.
Далонню ўцёршы потны лоб,
Як паміж рыфаў, паміж коп
Лахматы капітан яго вядзе.
Ён важнасць тварy надае
І, каб не стала, загадзе
Сваёй адзінай «конскай сіле»,
Якая й так напружвае ўсё жылле,
Ён пугай пары паддае.
Яно хоць «сілы» троха й шкода,
Ды некалі — стаіць пагода,
Аж смагне, ныючы, асірацелы куст.
А Жабе гэта не пад густ:
І Сонца горш цяпер пячэ,
Скарэй і бусел напаткае,
І як яна тут ні ўцякае,
Як ні скача,
У цень нікуды не ўцячэ.

Ад крыўды Жаба ледзь не плача.
А ўсё двухногі гэты госць
З сваім вялізным возам!
Апанавала Жабу злосць,
І падказаў ёй жабін розум:
«Ага, ну-ну!
Ты пажыві яшчэ хвіліну,—
Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану
І к чорту воз перавярну.
Тады — капут, і ты мяне не зловіш,
Бо галаву, напэўна, зломіш».
І скок Жабоцька смела
Ды ў каляіну села.
Тут колам — хрась!..
І кроў і гразь...

. . . . . . . . . . .

Пад кола, жаба, не падлазь.

---

Ці не такі ж і кожнай жабы лёс,
Што пнецца на хаду кульнуць савецкі воз?

*1927*

## МАХАЛЬНІК ІВАНОЎ

**Байка**

Таму ўжо будзе, мусіць, з год,
Вучэбную стральбу праходзіла пяхота.
Дык вось страляў аднойчы ўзвод
Ці, можа, нават рота.
А тут раптоўна Шэф вярхом аднекуль — шасць:
Цікава паглядзець, а як страляе часць?
Ці вока вернае, ці цвёрдая рука
Ў чырвонага стралка?
Зайгралі «пападзі»,
Гарыць чырвоны флаг.

Стралкі — на лінію. Ляглі ўсе па упорах.
Вось выстраліў адзін,
Вось разам — пах-пах-пах!
І лезе ў нос, і дражніць востры пах
(Калісьці Шэф таксама нюхаў порах).
Вось скончылі. Адбой.
Начальнікі здаволены стральбой:
Той тры папаў, той пяць.
Ахвота тут і Шэфу пастраляць.
Ён пяць патронаў у кішэнь,
Нагледзеў лепшую мішэнь,
Прылёгшы на упор,
І стрэльбу да пляча прыпёр.
Зажмурыў вока — бах! Пад носам землю ўзрыла.
Другі раз. Гэта ў бок завыла.
Яшчэ за імі тры,—
Усе «за малаком».
—Ах, чорт вас пабяры! —
Злуецца Шэф цішком.—
Хоць бы адну папаў, а то скандал страшэнны!
Але махальнікі падходзяць да мішэні,
Давай яму махаць
(У іх быў добры нюх):
Дзве, тры, чатыры, пяць!
У самы, значыць, круг.
Шэф хоча вынікі другім праверыць разам,—
Махальнікаў назначыў зноў жа тых
І ўзяў патронаў... халастых.
Дык што ж вы думалі? — ніводнай не прамазаў.
Як далажыў махальнік Іваноў:
«У цэнтру самую ўсе пяць загналі зноў».
І дзіва дзіўнае было там цэлай часці,
Што можна з халастых ды «ўсе пяць куль» папасці.
А ваенком дык Іванова нават пахваліў:
— Ты,— кажа,— Іваноў, сапраўдны падхалім.

---

У падхалімаў так вядзецца век-вяком!
Ці б'е начальства ў цэль, ці шле «за малаком»,
Ды знойдуцца заўсёды Івановы,
Што памахаць яму гатовы.

*1928*

# ЕДЗЕ КРЫТЫК МАЛАДЫ

**Да 23 красавіка 1932 г.**

На замораных гнядых,
Сам непадкаваны,
Едзе крытык малады
З пугай дратаванай.

Воз нялёгкі па гразі
Па калодкі грузне:
— Гэй, папутнік, не бузі!
Шавялі, саюзнік!

Вось дастану па вушах!
Гэй, шамкамі бразгай!
Выпаўзай на біты шлях
З каляіны гразкай!

Ходзіць пуга па хвасце:
— Не бал-лу-уй, папу-утнік!
На пятнаццатай вярсце
Не сцярпеў пакутнік:

— Крытык! Родненькі! Даруй
Мне з маёю музай.
Кіраваць-то ты кіруй,
Ды не вельмі тузай.

*1932*



# ІГНАТ КАНЧЭЎСКІ

Ігнат Канчэўскі нарадзіўся ў маі 1896 г. у Вільні. Скончыў рэальнае вучылішча, вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, перавёўся на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1916 г. мабілізаваны ў армію. Прапаршчыкам ваяваў на Румынскім фронце. У 1917 г. прыязджае ў Маскву, дзе вучыцца на вышэйшых кааператыўных курсах пры універсітэце Шаняўскага. У 1919 г. пераехаў у Вільню, працаваў кааператыўным інструктарам Саўнаргаса Літоўска-Беларускай ССР. Пасля акупацыі палякамі Вільні прымаў актыўны ўдзел у беларускім культурным руху. Пісаў палітычныя артыкулы, літаратурныя рэцэнзіі і вершы.

Памёр 21 красавіка 1923 года ў Вільні.

## ВЕРАСНЁВАЕ ПАНО

У Барнардынскай прысадзе шапочуць пажоўклыя лісці,
Ледзь прыкметны па сцежках бліскучыя скуркі каштанаў,
І вада ў Вяленцы ад зімна сіней і празрысцей,
Гаманіць з камянём аб працёкшых гадох без устану...
...І выходзіць між дрэў, ў патаёмную вечара пору,
Князь апошні Літвы, ў хвалях гаснучых зыбкага свету,
З барадой кучаравай — даспелых каштанаў калёру,
Са струсёвым пяром, што, як воблак, пад чорным берэтам.
І, суваючысь крокам павольным па сцежынках саду,
Ён усходзе на гору, падходзіць да вежы цаглянай,
І, апёршысь рукой пад плашчом на злачоную шпаду,
На прыціхшае месца глядзіць аж да самага рана...
І чакае... пакуль не засмуціцца ноч над ракою,
Над вадой пабялеўшай прытуляцца сонныя мары,
І ў празрыстай імгле паплывуць лебядзі чарадою,
А над іскрамі росаў праблісне апратка Барбары...

*1923?*

## НА МАТЫВЫ Р. ТАГОРА

Ты — Вялікі,
а маё жыццё падобна на гульні малых дзетак
на пяску пры рэчцы.
Яны будуюць заторы, кіруюць бег вады
ў пракапаных дзяцiннай лапатачкай каналы
і дзіўна засмучоныя, калі неасцярожна
плёснуўшая хвалька змывае ўсе іх дзіцячыя хітрыкі.
Так я, забавіўшыся ў сваёй дзяцiннай
гульні, забываюся аб Тваёй вечнай прысутнасці,
і толькі незнарок прыляцеўшы боль
сціскае мукай збалелае сэрца і змушае
звярнуць да Цябе твар, Айцец мой.
І тады я чую, што глядзяць на мяне
з ласкай Твае вочы, і дзякую Табе,
што разам з прыкрым болем Ты
даў мне шчасце пазнаць Тваю
сталую вечную прысутнасць на
нашай шумнай дзяцiннай гульні.

*1923?*



# МАКАР КРАЎЦОЎ

Макар Краўцоў (1880, в. Баброўня каля Скідаля на Гродзеншчыне — (?). Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, да першай імперыялістычнай вайны настаўнічаў на Гродзеншчыне. З пачаткам вайны быў мабілізаваны, ваяваў на Паўночна-Заходнім фронце. Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху Беларусі пачатку стагоддзя. Быў рэпрэсіраваны ў санацыйнай Польшчы і пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1918 г. Аўтар слоў першага беларускага адраджэнскага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...». Супрацоўнічаў у часопісе сатыры і гумару «Маланка». Перакладаў на беларускую мову творы М. Ю. Лермантава («Мцыры», 1924, «Дэман», 1926, Вільня), Л. М. Талстога, М. В. Гогаля, А. У. Купрына.

Дата і месца смерці невядомы.

## СПЯВАЙ!

Спявай, гаротны беларусе,
Паплакаў годзе ты!
Такой, як мы, працоўнай, — мусі
Не злічыш галіты.

Раней не значыў ты нічога,
Запомніў сам сябе —
І шмат так часу дарагога
Не сніў аб барацьбе.

Аж вось загуў грымот аб Волі:
«Народы, хто жывы!
Падбайце самі ўжо аб долі
Сваёй уласнай вы!»

І ты, плячыма варухнуўшы,
З вачэй заслону здзёр
Ды, імя ўласнае пачуўшы,
Пячатку рабства сцёр.

Што на табе была вякамі,
Атрутай на душы...
Хоць сёння дружнымі рукамі
Свой лёс паварушы!

Пад моц надзеі уваскросшай
Быломy кінь: «Бывай!»
Пад гук дуды свае заглохшай
Нанова заспявай!

І гумар прашчураў свабодна
Маланкай распалі,
Каб красавала мова родна
На беразе Вяллі.

А там папрэцца год за годам
Твой новы быт увысь,
Пачнуць і нас лічыць народам,
Як мусілі калісь...

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...

**(Ваяцкі марш)**

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!
Дамо адпор!

Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух,
Вольны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух.

На бой! За шчасце і ва волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...
На бой! — усе да аднаго!
Да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім;
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
Ў крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!
Жыццё Рэспублікі сваей!

*1919*



# АЛЕСЬ СМАЛЕНЕЦ

Алесь Смаленец (Ружанцоў Аляксандр, 12.8.1893, г. Вязьма — 23.7.1966). Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Удзельнік першай імперыялістычнай вайны і вайны з белапалякамі — на чале беларускага батальёна ў Літоўскім войску. Да Вялікай Айчыннай вайны жыў у Коўне, пасля вайны — у эміграцыі.

Падрыхтаваў зборнік вершаў «У роднай старонцы» (пакуль што не адшуканы).

Друкаваўся з 1921 г.

## НА ФРОНЦЕ

Спакой і ціш ў яго мурах,
Жаўнераў не відаць у мундзірах,
Прабіт жаўнерні моцны дах,
Вада стаіць у капанірах,
Суніцай параслі пакаты,
Арэшнік буйны у равах,
Паміж кустоў ржавеюць краты...
Спакой і ціш ў яго мурах.

## ПРАД АТАКАЙ

Ўжо празвінела трубкі рытурнель.
Вушмі крануўшы, задрыжэлі коні.
На штандары чырвоным знак Пагоні
Яскрава свеціць... Трэснула шрапнель.
Праменні слонца заліваюць блоні.
Перад вачмі як быццам акварэль.
Мацней сціскаеш шаблю у далоні
І чуеш, як ляціць яшчэ шрапнель.



# МІХАСЬ КЛІМКОВІЧ

Міхаіл Мікалаевіч Клімковіч (20.11.1899, в. Сялітранікі Барысаўскага р-на Мінскай вобл.— 5.11.1954). У 1915 г. скончыў Барысаўскае вышэйшае чатырохкласнае вучылішча. Здаў экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка. Настаўнічаў на Барысаўшчыне (1915—21), служыў у Чырвонай Арміі (1921—23). Друкаваўся з 1926 г. Аўтар драматычных паэм «Кацярына Жарнасек» (1937), «Адплата» (1945), «Уся ўлада Саветам» (1956), драматычнай трылогіі «Георгі Скарына» (1946—47, 1955), лібрэта опер «Апошні вечар на хутары» (1940), «Кастусь Каліноўскі» (1959), «Песня аб шчасці» (1959), балета «Князь-возера» (1949), аднаактовак «На віленскім шляху» (1939), «На скрыжаванні дарог» (1945), «Маленькая хмарка» (1946).

Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР.

## МАЙСТРА

На ўзлессе выходзіць малы пастушок,
У руках у хлапца берасцяны клубок,
Лучынак пучок і муштук адмысловы,
Што вытачыў сам са станінкі кляновай.
Ён сеў на пяньку пад бярозай старой,
У хлопца вясёлы, рабочы настрой,—
Прысвісне, прымера, складзе, параўнае,
Бяростай муштук аплятаць пачынае.
З лучынак раструб прыплятае далей,
Сціскае, мацуе, не трэба і клей!
З вачэй аганькі захаплення не сходзяць:
Труба, як жывая, у майстра выходзіць!
Кладзецца бяроста кружок на кружок,
Намітусь абрублен апошні сцяжок,
Здаецца, не сплецена рэч і не сшыта,
А з срэбра скавана ці з плаціны зліта.
Вось скончана праца. Гатова труба,
Падносіць, здаволена ўстаўшы, к губам.
— Ту-га і ту-га!.. Не тугу, а уцеху
Рассыпаў па лесе сярэбраным смехам.
Рад хлопец: ён творца,— і водгук і гук
Народжан майстэрствам і сэрца і рук.
Ён творца — і рэха далёка па ўзлессю
Нясе яго светлую звонкую песню.

*1953*



# АРКАДЗЬ МОРКАЎКА

Аркадзь Андрэевіч Моркаўка (26.1.1900, в. Зазер'е Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.— 24.4.1957). Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1934). Працаваў тэлеграфістам на ст. Мінск (1916—26), на заводзе «Беларусь» і ў Палаце мер і вагі ў Мінску. У Айчынную вайну партызанскі сувязны ў Мінску. Друкаваўся з 1922 г. Аўтар зборнікаў лірыкі «Дым жыцця» (1928), «Гады, як ветразі» (1959), «Вершы» (1973).

## СТУКНІ Ў ДЗВЕРЫ

*Я. М-чу*

Стукні ў дзверы, ціха стукні ў дзверы,
І табе, як сонцу, буду рад,
Бо з маленства ў шчырасць сэрца верыў,
Мой таварыш, брат.

Бо гарэць святлом заўсёды можна
І згарэць — цяпло душы спаліць
На шляху, дзе радасна й трывожна,
На шляху — зямлі.

Шлях вядзе... і горкіх красак столькі
Зацвіло, збуяла пад нагой!
Мо таму, што важаць шчасце й болькі
Не аднэй вагой.

Шлях вядзе... Няўжо не хопіць веры,
Дай руку сюды, таварыш, брат!
Стукні ў дзверы, ціха стукні ў дзверы —
Буду сонцу рад.

*1927*

* * *

Ці вершы складаю, ці поле ару,
Ці сею увесну пшаніцу —
Заўсёды краіна мая Беларусь
Ляжыць прада мной плашчаніцай.

З балючае раны кроў млява цячэ
На сцежку... па кроплі... вякамі...
І сум датлявае у глыбі вачэй...
Пад голаў — падкінуты камень...

Распнулі цябе на крыжы, Беларусь,
Цвікамі скалечылі рукі...
Ці ж бачыш ты з крыжа на ўсходзе зару, —
Канец гэтай вечнае мукі?..

*1942*

* * *

Рукі свае прасціраю удалеч,
Клічу з туманнага берага човен.
Не, немагчыма пакутваць так далей,
Жыць у няпэўнасці чорнай.

Лёсам благім караблі у завеях
Спынены ў ходзе і, мёртвыя, стынуць...
Мары мае, вас ніколі не смее
Смутак балючы пакінуць.

Кожную ноч недарэчнае сніцца:
Ветразь у моры, на беразе — хвоі,
Тройчы на дзіды я падаю ніцма,
Тройчы сцякаю крывёю.

*1942*

* * *

Пазалочаны кволы ліст
Сумнай музыкай падаў з клёнаў.
Журавы ад яго паплылі
Да другіх берагоў, зялёных.

Пазляталі з палеткаў сны,
І ваўкі у пагоне выюць.
Але ўсё ж пад ярэмы сыны
Не падставяць ніколі шыі!

Залілася ты ўся слязьмі,
У пакуце сваёй святая.
Дык хоць сэрца маё вазьмі,
Мая матухна залатая!

*1943*

* * *

Хочацца вочы ад страху рукамі закрыць,
Каб не глядзець у душу чалавека;
Яркім крывавым рубінам нянавісць гарыць
Ныне і прысна й на векі.

Помстай напружана кожная кропля крыві:
Час наш і суд наш калісьці надыдзе!..
Ворагаў люду, Радзіма, мяне благаславі
Ўсёю крывёй ненавідзець!

Так ненавідзець, каб колас у полі дрыжаў,
Сохла, як дрот пераблытаны, рута,
Каб ад нянавісці вострае джала нажа
Пахла смяротнай атрутай.

*1943*

## ПАМЯНІЦЕ ЦВЕТ ВЕТЛІВЫМ ЛЕТАМ

Калі снежнаю замеццю вішань
Зацярушаны сцежкі й сады —
Вецярок малады ледзьве дыша,
Ледзьве дыша ў садах тады.

Задумённа на свет непаўторны
Пазірае з-пад вішань трава,
І пялёсткі у просіні зорнай
Срэбным снегам на дрэвах
гараць.

І стаіць нерухомая ціша
У садах маладых на ўвесь свет.
Вецярок у садах ледзьве дыша,
Каб не здуць урачысты цвет.

І як замецці, ветлівым цветам
Абсыпаюцца сцежкі й сады...
Памяніце цвет ветлівым летам,
Падліваючы дні і гады!

*1945—1947*

* * *

Мо таму нас несмяротным палам
Сонца шчодрае адухавіла,
Каб трывожна ў сэрцы трапятала
Неспакойная жывая сіла.

Мо таму і дзедавы пачуцці —
Пяць пачуццяў сціплых, чалавечых,—
Каб маглі па каменю адчуць вы,
Ці ён годны на падмурак вечны...

Перад намі — малаток і камень...
І калі ў грудзях агонь не ўтоен —
Камень песняй неўміручай стане,
Песня стане зоркай залатою.

*1947*

* * *

Уранавы камень праменіць пагрозу
Віхуры смяротнай раз'юшаных сіл...
А тут, у бары, залатыя бярозы
Лістоту страсаюць на сцежкі у пыл.
Над атамным векам заслона узнята...
У гульбішчы дзікім напружаных сіл
Бурліць несціхана стрывожаны атам,
Каб выбухнуць сонцам ці смерцю для ўсіх.
І сэрца жывое, як мечам заклятым,
Наскрозь пранізалі надзея і жах...
Над атамным векам заслона узнята,
І золак яго — ў чалавечых вачах.
Магутныя сілы ў будовах з бетону
Бушуюць віхурамі млечных шляхоў...
Няхай у віхурах сумненне патоне,
Няхай яно згіне на векі вякоў!
Няспынна і цвёрда да пэўнае мэты
Мы будзем ісці у наступныя дні,
Бо полымем сэрца з маленства сагрэта,
Бо ў ім патушыць немагчыма агні...
І будзе ўладарыць сумненне і розум
Над бурай сляпой пераможаных сіл...
І зноўку паволі увосень бярозы
Накрыюць нячутна лістотаю пыл.

*1954*



# УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

Уладзімір Адамавіч Жылка (27.5.1900, в. Макашы Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.— 1.3.1933) скончыў гарадское вучылішча ў Міры (1914), вучыўся ў Багародзіцкім агранамічным вучылішчы Тульскай губерні (1915—17). Працаваў аграномам пад Мінскам (1918—19). Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Дзвінску, з лютага 1923 г. студэнт гісторыка-філалагічнага факультэта Карлава універсітэта ў Празе. Хварэў туберкулёзам. З 1926 г. у Мінску. Працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», перакладчыкам у Белдзяржкіно, выкладаў беларускую літаратуру ў музычным тэхнікуме. 10.4.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Уржум Кіраўскай вобл. З 1931 г. у г. Уржум Кіраўскай вобл.

Друкаваўся з 1920 г. Выдаў лірычную паэму «Уяўленне» (Вільня, 1923), зборнікі вершаў «На ростані» (Вільня, 1924), «З палёў Заходняй Беларусі» (Мінск, 1927). Пераклаў на беларускую мову «Слова пра Якуба Шэлю» Б. Ясенскага (1932), асобныя творы А. Блока, А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Волькера і інш.

У Мінску выйшлі кнігі «Вершы» (1970), «Пожні» (1986).

## БЕЛАРУСЬ

Беларусь, Беларусь — гэты зык
Паліць душу маю, як агнём.
Я не ведаю, чым ён вялік,
Але думак не змог я аб ём.
Як пачую яго, задрыжыць
Маё сэрца, заные ў грудзях,
І балюча так робіцца жыць,
І шукаеш чагосьці ў людзях.

Беларусь, Беларусь... гэтых слоў
Пойме музыку, хто ўсёй душой
І магутны, тужлівы іх зоў
Зловіць думкай сваёю жывой, —
Затрапеча, бы ранены, ён,
Задрыжыць пад навалаю дум:
Гэткі страшна пакутны іх стогн
І аб волі бязмерны іх сум.

Беларусь, Беларусь — гэта дзей
І разумных, і слаўных прыклад;
Край вялікіх і дум, і людзей,
І бяздольна схіліўшыхся хат,
Дзе нядоля і гора спрадвек
І беднота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка і здзек
Краскай макавай ярка цвітуць.

Беларусь, Беларусь —
Край замчышч, курганоў,
Дзе таяцца страхоцці і звод,
Дзе русалкі выходзяць з віроў
І начніцы вядуць карагод,

Дзе пад шум каласоў ведзьмары
На палетках заломы кладуць
І ў Купальскую ноч у бары
Забабоны ў пацёмках снуюць.

*1920*

* * *

Душа мая тужлівая —
Лілея між балот.
Яна ўзрасла, маўклівая,
Між багны сонных вод.

Ёй сніцца неба сіняе,
Дзе сонечна вясна,
І песняй салаўінаю
Атручана яна.

І нешта патаёмнае
Шапоча родна ціш,
І ў ночы цёмна-цёмныя
Чаруе зорна выш.

Наўкол жа ціна брудная,
І плесня, й гадкі пах,
Чыесь ўздыханні трудныя,
Нуда і нейкі жах.

І штось незразумелае
Шуміць-пяе чарот,
Чаго не пойме белая
Лілея між балот.

*1921*

## КАВАЛЬ

Горан мехам раздзьмухаю,
Палажу на горан сталь.
Што рабіць, я знаю, знаю —
Недарма куе каваль!

Падзялілі чужаніцы,
У няволі старана.
Не скую у плуг паліцы —
Не прыдасца мне яна.

Закаваны люд мой, волат,
Крыўд нязлічаных цяжар.
Вышай, вышай верны молат,
Нестрыманы ў сэрцы жар...

Хлопцы, хлопцы,— на змаганне!
Гэй, крыўдзіцель, вораг,—
прэч!
Нездарма каваў я зранне,
Недарма навостран меч.

## ПАЛІМПСЕСТ

Ёсць рукапісы, змест якіх сцярты
ледзь знаць
Ці нат другі напісан сэнс бязбожна.
Іх палімпсестамі прынята здаўна зваць,
І першы іхні змысл пайме не кожны.

Краіна родная! Так сталася й з табой.
Багацце й хараство твае прыроды
І прошласць слаўную змяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.

Але працоўны дух, разбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы змесці.
І з дзіўнай любасцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімпсесце.

*1921*

## КАХАННЕ

З'явілася, і чую сіл крыніцу,
І думы незвычайныя мае —
То боль жыцця, то лёгкасць смерці сніцца,
І сэрца незнаёмае пяе.

Яна ж красой варожыць, чараўніца:
Як гады, віснуць косы з плеч яе,
А вочы з-пад павек — з-за хмар зарніца,
І тайнасць складак вопраткі заве.

Атручан хмельным соладам кахання,
На кліч таёмны йду без дум, пытанняў
Вітаці светлавокую Лауру.

А з вуснаў шчырых рвецца ўжо санет
Гучны, нібы віхор свавольны ў буру,
І радасны, бы ўлюблены паэт.

*1921*

## УЯЎЛЕННЕ

*Прысвячаецца Леапольду Родзевічу*

I

Радасць мая велікодная —
Сына, пазнаўшага Маці,
Песняй прадвесня лагоднаю
Ўсіх я пачну абдараці.

Знаю, крыніцы гаючыя
Ёсць на радзімай зямлі.
Даллю захоплен бліскучаю,
Выслаў ёй дум караблі.

Брацці, зраблю вас багатымі,
Зорамі высаджу край.
Сонцам заззяе над хатамі
Словаў маіх каравай.

Сэрцы пратну зараніцаю
Новых надходзячых дзён;
Выпішу сказ бліскавіцаю,
Выяўлю дзедаўскі сон.

Гэй, гаруны, і бядулі, і сумныя,
Ваш гэта чуецца плач?
Годзе! Бяседа ў нас шумная,
Ў хаце сялянскай багач.

Змрок заняпаду кудзеляю
Выпрадзе ўвесь яго світ.
Будзьма вясёлымі: бель Яе
Неба аздобіць блакіт.

II

Запраўды,
Радасць — рацыя: —
Бацькаўшчына Беларусь
Ёсць
Наймалодшая нацыя.

З будняў блядых Чорная косць
Раздзьмухала Рух
Стараны,
Вёсак і сёлаў.
Перуны завірух
У захапленні
Грымяць аб адным: —
Паўнагучна Адраджэнне!
Бачу за ім
Бязмерныя далі
І
Вялікія вартасці.
Божа! У сведкі:
Мужычы голаў,
Знаны ўпартасцю,
Разбух.
Абрадзініцца ён
Новых дзён
Папараць-кветкай.

III

А было пагана як,—
Ветры дзьмулі лютыя,
Спалі паслухмяныя
Вёскі, сцюжай скутыя.

Горш былі за ворагаў
Ёй сыночкі родныя —
Ждалі скону скорага
І слязы ніводнае.

Але што да гэтага
Мне, ад руху п'янаму?
Чую спеў няпетага,
Музыку нязнанаму.

Вінны я, віну ўшчыню.
Я ні ў чым не каюся,—
Небыцця мінуўшчыны
Тройчы раз зракаюся!

IV

Між пушчаў,
У гушчах
Лясоў,
Ў балотах
Ад слоты
Без слоў
Без рыс
Выразных твару
Без жару
У сэрцах-горнах,
Пакорна,
Як хмыз
Ці зной
Чужога поля,
Гібеў, як стой,
У бязволлі,
Ў няволі,
Ў нядолі,
Мой люд. (...)

Але наш Дух,
Даючы рух,
Жыццё,
Праз крыўду, здзекі
І забыццё,
Спрадвеку,
З гадоў старых,
Быў захаваны.
І вось — нязнаны —
Сягнуў тварыць.
І з першых дзён
Змог сну палон
І ночы глуш.
Мужычых душ
З'явіў красу
І бель.

V

Мячы маланак пелі,
І навальніцы йшлі,
І гром вясняным хмелем
Паіў абшар зямлі.

А вечарам у неба
Хтось пеўня выпускаў
І аб штодзённым хлебе
Там праўды ён шукаў.

І да глухой паўночы
Вылізваў цемнату.
Сачылі з верай вочы
Пажараў яснату.

Ды «Пяты» коўдрай чорнай
Прыкрыла ноч сама,
Каб зноў былі пакорны,
Каб зноў... Але дарма!

Дзірван узрылі буры
Шматкамі жорсткіх слоў,—
Чакаюць вёскі — Юры
З вясной затрубіць зноў.

VI

Нашая ніва.
Сейбіт зары
Сее маўкліва
Сум аб дабры.
Жменяю семя,
Дужы ўзмах.
У золаку дрэме
Сонечны шлях.

Дзевы-дзянніцы
Кленчыць на ўсход
У кроплях расіцы
Буйны ўмалот.

Усюды прароцтвы...
Хто з іх пайме?
Розум — убоства,
Верыць зіме.

Вецер слязліва
Ўторыць яму;
Лозы жахліва
Вяжуць думу.

Толькі ж без меры
Слёзы чаму?
Хто у зняверы
Плача на цьму? —

Мудрасцю сівы
Сейбіт зары
Сее на нівы
Сум аб дабры.

Ўзыдуць зярняты —
Ліху канец.
Весткі крылатай
Жду — пасланец.

VII

Песняў, песняў, скочных чынаў:
Выцвіў ночы аксаміт!
Перад скрыняй будучыні
Я — юнак Давыд.
Сэрцам верным
Сею лерна
Вешчы вершаў мак. (...)
Перад світам зоры згодна
Сталі ў тайны знак.
І святлей за крыж
Ён азначыў выш.
Каб жа Бог
Дапамог!..

VIII

Сняжок напрадвесні
Вуркоча, бяжыць,
Зацвіўшае плесняй
Не здолее жыць. (...)

К трывогам знявага,
Раздзёрта імгла,
І творчасці смага
Агнём праняла.

Шырокаю тропай
Ў нас гэты з пакус
На мапу Еўропы
Ўзышоў беларус.

У лапцях лазовых,
Па світцы рушнік
І светам Хрыстовым
Зіяе аблік.

IX

Нябескіх трамаў
Звісае край,—
Віхура Браму
Зламала ў рай.

О, Божа, позні
Твой голас слаб:
На райскай пожні
Ў сярмязе раб.

Збірае зораў
Гарох ў палу,
Каб імі гора
Гаціць імглу.

Ў крывіцкіх вёсках
Узняўся гуд,
І ў адгалосках
Зрастае цуд:

Гаўядзе нашай
Сыцець чарод:
Буяе паша
Маіх балот.

X

Ой, не белыя галубы
Раніцою раненька
У блакіт шыбалі.

— Чаго рады быў?
Ці запраўды далі
Вабілі ясненька?

Не драпежныя крумкачы.
Не чарнюськая хмара,
Нам нанесла гора —
Вамі, Крывічы,
Завалодаў вораг,
Насмяяўся з мараў!..

## XI

Ноччу, ах, ноччу
Хтосьці шапоча!
Голас прарочы...
«Ганьба, о, ганьба над намі,
Сорам сяброве з сынамі.
Ныюць так раны.
Слёзным туманам
Засцяцца вочы.
Ні праўды святое,
Ні волі тое.
Чужынцы, напасці,
Пакута падзелам.
Па беламу целу
Знаком ад нажа
Крывавіць мяжа.
Толькі — не,
Не пазбыць...
Не міне
Чаму быць!
Мой дух не парух,
Не пагас праз вякі,
Паходняю свеціць.
Пад хмараў павеццю
Гарыць і іскрыцца
Агнём-бліскавіцай.
На родных узлоннях
Натхнёная сіла
Мазольных далоняў
Разбіла, знішчыла
Ярма ланцугі;

Спаліла, скрышыла
Ўрокі благіх.

. . . . . . . . . . . .

Выходзяць дзяўчаты
Выгукваць вясну...
Я славу вам, хаты,
На дзідзе вярну!»
Голас яе...
Бурай пяе...
Я ж вачэй не ўзніму, багавіца,
Толькі ўзрушаны думкі чамусь...
О, як соладка сэрцу маліцца:
Беларусь, Беларусь, Беларусь!

### XII

Народы! Прадбачу:
Шпаркасць коняў
Пагоні
Суліць удачу.
Вам на пасадзе
Пакутніцу
Нявехнай бачыць.
З доляй-закутніцай
Ў ладзе,
З ясным абліччам,
З глуму, з нягодаў,
Слову заручана,
Кліча
Да брацтва, згоды.
Раны змучанай,
Дым пажараў —
Ахвяра
За вашу злачыннасць,
Народы.
Ды ведайце толькі:
Ёй
Над «сёння» золкім
Будучына
Квяцістай пуцінай
Сцеле вясёлкі.

*1922*

## ХАРАСТВО

Няясны і трывожны сны людства́,
І блудны цёмныя яго дарогі,
Але па-над будзённыя трывогі
Узносіць нас туга да харaства.

Так дробная, вясковая дзятва
З-пад курных стрэх
(прытулак іх убогі)
Да рэчкі бег кіруе на разлогі,
Дзе яснасць вод і золата жарства.

І верым мы, што злучны дух і маса,
Гармонія ў жыцці і сэнс-акраса;
Прытулак ёсць, дзе адпачыць ільга,

Дзе дасканаласці чаруе ўсмешка.
Ды дзіўна неяк: хістка сцежка
І да яго вядзе людства туга.

*1923*

* * *

Ляпей жабрачы лёс,
У рукі кій, за плечы торба;
Ляпей страха нябёс,
Бясконцы шлях і ліры корба;

Ляпей чужыны золь,
Сцякаць ад чорнай працы потам;
Ляпей, не змогшы боль,
Сканаць самотнаму пад плотам —

Але не лёс раба
З бязволля ўласнага й бяссілля;
Не гэтая жальба,
Не скутыя рабамі крыллі.

Хто волю верна сніць,
Працят лятункам аб вялікім,
Таго не спакусіць
Ні ўладай, ні дабром бязлікім.

І хай прысуд гняце
І нікнуць вербалозы ніца,—
Душы аб пекнаце
Неператожна-думных сніцца.

*1923*

## МЕЧ

Яго ў зямлі знайшоў маёй разлогай,
Аручы прадзедаў вузкі загон,
Вясёлым звонам аказаўся ён,
Калі чапіў канцом майго нарога.

Абцёр пабожна йржу часу благога,
І заблішчаў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон,—
«Дарэшты бой!»
зірнуў загадам строга.

І вось няма нясмеласці, разваг.
Для сэрца вернага — чужынцам страх:
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!

Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зіхціць непераможны, востры.
Змагуся сам — дык сотням перадам!

*1924*

## РАНІЦОЮ

Бывайце! Ізноў мне ўсміхаюцца далі,
І сонца ў крыві і пястуе валоссе.
Забыўся я дома нудоту і жалі,
І ў свеце — мне сніцца — ліхое звялося.
Чароўнасцю веюць хмурынак румянцы,
І з цішаю звонкасць цалуюцца ў губы.
О ветрыку свежы, скажы там каханцы,
Які гэты свет — і салодкі і любы!
Іду я па росным зялёным каберцы,
І песня ад шчасця ў знямозе нямее,
І сэрца, як сонца, і сонца, як сэрца,
Сусветнае сэрца гарыць, палымнее!

*1929*



# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка (15.7.1900, в. Агароднікі Пастаўскага р-на Віцебскай вобл.— 20.3.1976). З сялян. Скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава ў Маскве (1925). Настаўнічаў. У 1922—25 гг. рэдактар беларускага тэксту «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адначасова адказны сакратар пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР. У 1924—27 гг. выкладчык беларускай літаратуры ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, у 1926—30 гг. рэдактар беларускага аддзела «Зводу законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду Саюза СССР». 10.4.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Яранск Кіраўскай вобл., а ў лістападзе 1937 г.— на 10 гадоў высылкі. Жыў да 1956 г. у Чувашыі, Грузіі, на Далёкім Усходзе, у Краснаярскім краі. Друкаваўся з 1921 г. Аўтар кніг паэзіі «Строма» (1923), «Трысцё» (1925), «Credo» (1926), «Наля» (1927), «Выбраныя творы» (1959), «Палеская рапсодыя» (1961 г., Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1962 г.), «Вершы» (1970), кніжак вершаваных казак для дзяцей «Цудоўная знаходка» (1960), «Кветкі — сонцавы дзеткі» (1963), «Казкі»

(1968), «Залатыя зярняты» (1975) і інш. У 1965 г. выйшлі «Выбраныя творы» ў 2-х тамах. Аўтар апавяданняў, аповесцей для дзяцей. Вядомы і як перакладчык твораў У. Шэкспіра («Санеты», 1964), Дж. Байрана, В. Брусава, П. Тычыны, Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, У. Бранеўскага і інш.

---

## ІМЖА, І СКЛІЗОТА, І ПРЫКРАЯ ЗОЛЬ

Імжа, і склізота, і прыкрая золь
за скрогатам ветру — навалай.
У чмарнасць убралася светава столь,
блакіт ад зямлі адарвала.

Журба расплялася кудлатай лазой,
у сэрца цярушыцца шэрань.
А вецер шпурляе, як морскі прыбой,
пясок і журбу аб каменне.

І скогат, і скарга — спакою нідзе,
пад засцілай ночы — варожасць.
А ўпартасць да мэты вядзе і вядзе,
пра шчасце і радасць варожыць...

*1922*

## О БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй, пад колер сталі,
праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не развіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Камуны Свету,
каб радасць красавала скрозь.

Варожасць шляху не зачыніць:
у перашкодах дух расце.
О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!

*1925*

## ПАЛЬЦЫ ЖОЎТЫХ КЛЯНОВЫХ ЛІСТОЎ

Пальцы жоўтых кляновых лістоў
мкнуцца восень схапіць за шыю.
Не парушаць яе харастве,
не парушаць лісты залатыя.

Клён у вокны забразгатаў,
адгукнулася каняю рэха.
Месяц рваў арэхі з куста,
раскідаў над сусветам арэхі.

Яны ў воўне блакітнай ляглі,
сумавала ў даліне ляшчына.
Летуценні не змерклі ў галлі,
летуценняў згасіць немагчыма.

Расцярушацца ў далі і ўвысь,
каб нагадваць аб светлым над чорным.
Ці таму, што сумуюць журавы,
ненасытна свіргочуць жорны?..

Ліставея не моўкне, шуміць
ад вясны да вясны на прасторах.
Поверх стрэх і муроў камяніц
я пабачыў яе учора...

Дзесь далёка галосіць сава,
небакрай апрануўся жалем.
Людзі любяць душу прасаваць,
калі гэта душа чужая.

*1925*

* * *

...І гінулі яны за косы Клеапатры,
за вочы тыя, што не сняцца нават.
Да ног прыносілі,—
а неслі ўпарта,—
жыццё, свой лёс і славу...

...І гінулі яны у хваляванні лавы,
якую слаў, радзіў Везувій.
Апошні раз на мармуровых лавах
лавілі вуснаў лоскат, цень надзеі.
Затым з Пампеяй казкаю заснулі...

...І гінулі яны штодзённа і штогодна,
за ласкі шчырыя, хвілінныя, за ласкі...
Дарма, што з блудніцай нягоднай,
дарма, што многакраць, не першы.
І так ад Рыма да Аляскі...

*1925*

## КАРМАЗЫНАМ АСМУЖАНЫ

Ведаеш добра: ты вельмі прыгожая,
вусны твае кармазынам асмужаны.
Вочы ненацкам жыццё ўстрывожылі
і агарнулі сукрыстасцю кужалю.

Чуў ды не верыў — спатканне на ростані.
Што ж, будзе сумная песня, мінорная.
Наша каханне звычайнае, простае,—
хоць незвычайнай тугой і агорнута.

Лёс табе даў пекнату чараўнічую,
дасць ён, напэўна, і шчасце вялікае.
Шчыра жадаю — не быць табе znічкаю,
каб і ўспамін да сябе ты не клікала...

Хвалямі ў хвалях, пакуль не загінулі,
сэрца твайго каб шкадункі не ўразілі...
Можа, і мы на акрайках дэльфінавых,
быццам хлапчук Рафаэльвай фантазіі...

*1925*

## ЛЕТУЦЕННЕМ ПРОЙДЗЕМ МЫ НАД КРАЕМ

Летуценнем пройдзем мы над краем
і загінем, быццам летуценне.
Для айчыны шчасце мы ствараем —
для свайго і новых пакаленняў.

З сэрцам чыстым і душой адкрытай,
услаўляючы каханне, дружбу,
пройдзем мы на працу і на бітву
крокам несупынным, крокам мужным.

Разам з моцнымі у думцы смелай
пракладаем шлях такі трывалы,
каб яго парушыць не пасмела
самая зацятая навала.

У змаганні многа нас загіне,
у змаганні за Камуну Свету.
Загалосіць вецер пры даліне,
месяц будзе паглядаць, як сведка.

А пакуль у жылах кроў іграе,
славім і каханне мы, і дружбу.
Летуценнем пройдзем мы над краем,
крокам несупынным, крокам мужным...

*1926*

## ГОЛАС ПАРТЫЗАНА

Зарос курган густой травой.
Над ім няспынны шум дубоў.
Знайшлі тут вечны супакой
і я, і шэсць маіх сяброў.

Кароткі мелі мы загад:
— Стаяць, каб вораг
не прайшоў!
Не адступілі мы назад —
ні я, ні шэсць маіх сяброў.

Як бліскавіцы з навальніц,
гарэлі тут агні агнёў.
А мы знішчалі чужаніц —
і я, і шэсць маіх сяброў.

Наш партызанскі ўвесь атрад
дакончыць ворага прыйшоў.
Не сталі толькі з імі ў рад
ні я, ні шэсць маіх сяброў.

Хоць мы ляжалі далавах,
хоць не маглі мы стаць
ізноў,—
сціскалі зброю мы ў руках —
і я, і шэсць маіх сяброў.

Са зброяй гэтай баявой
нас пахавалі ля дубоў.
Знайшлі тут вечны супакой
і я, і шэсць маіх сяброў.

Калі айчына клікне вас,
не дайце ворагу шляхоў,
як не давалі мы ў той час —
і я, і шэсць маіх сяброў...

## І ПУРПУРОВЫХ ВЕТРАЗЕЙ УЗВІВЫ...

**Урыўкі з паэмы**

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэння.
Адзін усцешыцца, другі асудзіць,
і той і той з цікавасцю сустрэне.

Табе не даў я рыфмы мілагучнай,—
ідзі, мой твор, кунегай апавіты.
Цябе без рыфмы думка добра лучыць,
шукаючы для духа акавіты.

Клапоцяцца на свеце больш аб шлунку,
яго капрызы — дыктатура проста.
І стравы разнастайнага гатунку
мы на спатканне маем і на ростань.

А дух трымаем на галоднай норме,
а дух скарынкай эпігоннай сыты.
Яго суседзі, мабыць, не накормяць,
затым патрэбна духу акавіта.

Не знойдзе містыкі у гэтым крытык,
хоць дзе які і будзе клапаціцца.
Калі чамусьці выйсце і закрыта,—
шукае выйсця творчая крыніца.

Будзі шуканні новага у стылі,
пакліч на спрэчкі думнае грамадства,
каб на здабытках даўніх не застылі,
каб не засцюжылі у іх мастацтва.

Занадта ціха стала на Парнасе
у сэнсе творчасці і дасягненняў.
Сядзяць у эпігоннай апранасе
прадстаўнікі абодвух пакаленняў.

Пакуль дайшлі — прытупаліся крышку.
Няхай у добры час адпачываюць!
Не трэба нам спыняцца ў зацішку,
бо ў далі думка нас вядзе жывая.

Мае сябры, супольнікі у працы,
штурмуйце будучыні аванпосты!
Мы звыклі перашкодаў не баяцца,—
яны спрыяюць нашаму узросту.

У час нялёгкі выйшлі мы ў дарогу,
кагорту нашу ксцілі навальніцы.
Байкушы розныя ўздымалі скогат,—
імкнуліся прымусіць нас спыніцца.

А мы ішлі з імпэтам віратлівым,
а мы ішлі няспынна і упарта.
І пурпуровых ветразей узвівы
трымалі курс на сонечнае заўтра.

З нас кожны рэвалюцыяй прыняты,
кладзём шляхі да новых дасягненняў.
Узвышшы высім з пралетарыятам,
здзяйсняючы квяцістыя імкненні.
. . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэння.
Магчыма, хто цябе там і асудзіць
ці вывіх адшукае ў летуценнях...

Ад вывіхаў цябе я застрахую
замовай добрай, можа, дапаможа...
У інтрадукцыі замову надрукую,
каб бяспечней было у падарожжы.

*Замова ад сустаўных звіхаў і несустаўных вывіхаў*
*(каб памагла напэўна — трэба прачытаць адным духам)*

На моры, на лука-моры,
на моры, на акіяне
ёсць выспа, на выспе горы,
на горах вялікі камень...
...Травіцаю звіх каралі,
ўвагналі яго ў каралі.
На месца суставы сталі,
а звіх пакаціўся ў хвалі.
Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і звіхі і гора хавалі,
каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у свет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала б высока,
сохла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ніякіх вывіхаў да скону.
Замоўкні, аўтар, хай ідуць героі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ліловая ссуваецца заслона,
на сцэне нашых дзён гавораць двое.

Лірык

У нашы дні і радасці і гора,
у нашы дні руін і будаўніцтва
часінай хочацца мне адпачынку
для сэрца струджанага і для нерваў.
На думку прыйдзе: кінуць хоць на тыдзень
і гарады і ўвесь штодзённы клопат,

узяць пайсці вандроўным бесхацінцам
па тых шляхах і крыжавых дарогах.
Паслухаць гоманы людскога мора,
разгневанага мора-акіяну...
Пазнаць тугу бяскрайнюю ў дарозе,
пабачыць шчасце без парфумы хцівай...
У нашы дні...

Матэматык

Дзівак ты ці рамантык,
мой дружа любы, гэта вельмі ясна.
Ты руйнаваць і будаваць павінен,
а не бадзяцца нейкім дзеньдзівірам.

Лірык

У нашы дні і радасці і гора
патрэбны дойліды і дзеньдзівіры.
Аднолькава іх права на паветра
ды і на сонца таксама...

Матэматык

Ты разводзіш
крамолу нейкую і два ухілы!
Змагацца трэба з вамі... Ты не чуеш?!
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водбліскам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі ж трывожны для цябе, як сёння.

Лірык

Угледзься, браце мой, у след яго!
Навокал глянь... Што дзеецца навокал!
Здаецца мне, над лесам праплываюць
У край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узвівы —
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
не вернуцца ніколі караблі.

Ды гэта лірыка мне не да смаку:
у нашы дні руін і будаўніцтва
і дыктатуры пралетарыяту
патрэбны нам паэты-змагары,—
не ліквідатары, не смутнагляды.

Лірык

...Я запалю агнём свае імкненні,
я запалю жаданні і надзеі,
і пурпуровых ветразей узвівы
мяне над краем любым пранясуць.
Натхняючы прыдушаных пакутай,
бальзам на вусны смаглыя паклаўшы,
ад твараў стружданых тугу і смутак
я аджану і на палёх рассыплю,
пра радасць новыя навею песні.
Я сам...

Матэматык

А сам?

Лірык

...З тугою і загіну,
бо мне прыемна з ёй, хоць дзіка-страшна...
І караблі праходзяць па-над лесам,
каб зноў вярнуцца заўтра раніцою,
каб зноў пабачыў я цяжар дзівосны
і пурпуровых ветразей узвівы...

Матэматык

Дзівосна так... І ты дзівак, мой браце!
Якое ліха дзеецца з табою?
У сэрцы у тваім і непакою
і панікёрства нейкага занадта...
Ты адыходзіш ад жыцця, змагання,
ты хутка станеш ворагам працоўных
і дыктатуры пралетарыяту.
Ты — шкодны тып! Наколькі я кахаю —
цябе настолькі скора зненавіджу!

Лірык

У кожным сэрцы рознае бывае,
бывае дрэннае у ім таксама.

Заўжды шукаем хібы мы ў суседзяў.
А як паглянем на свае учынкі,
а як прагледзім зробленае намі,
дык і не вельмі радасці багата...
Затым мяне і не трывожаць дужа
твае упікі і твае асуды.
Народ наш ведае даўно пра гэта,
і свайго сына ён не занядбае...

Матэматык

Не ведаю, ці больш цябе шкадую,
ці больш сярдзіты на цябе, мой дружа.
Ты не шукаеш вобразаў рэальных,
даступных і карысных у змаганні.
Замест таго забраўся ў чартаўшчыну
і выцягаеш барахло старое.
У нашы дні руін і будаўніцтва
паэт на фронце антырэлігійным
павінен быць, а не бадзяцца недзе
па балатах палескіх і выгарах.

Лірык

Цудоўны скарб у творчасці народнай
для нас сабраны мудрымі дзядамі.
Яго адкінуць — значыць без пашаны
паставіцца да продкаў працавітых.

Матэматык

Пара адмовіцца табе ад баек,
ад гэтай дробнабуржуазнай твані.
Павінны мы тварыць на грунце новым
сучаснае мастацтва для працоўных.

Лірык

Тварыць зусім нанова, ці узяўшы
што-кольвек і ад даўніх дасягненняў?

Матэматык

Няма памылкі у маім сцвярджэнні!
Пра спадчыну культуры буржуазнай
даволі сказана і зразумела.
Але якое маюць дачыненне

да гэтай спадчыны твае ўсе казкі,—
не ведаю і, больш таго, не разумею...

Лірык

Усё, што створана вяльможным панствам,
што створана культурай буржуазнай,
ты дазваляеш карыстаць паэту?
А тое, што тварыў народ пакутны,
тварыў у полі пры цяжкой рабоце,
калі на гэных творцаў буржуазных
ён ліў свой пот і сваю кроў, народ наш,—
ты адкідаеш словам рызыкоўным?!
Які страшэнны нонсенс і абраза!

Матэматык

Дарэмна ты пакрыўдзіўся на праўду.
Табе даволі поркацца ў старызне!
У нашы дні руін і будаўніцтва,
і электрычнасці, і фізкультуры
ты мусіш ведаць гэтыя законы,
няўхільныя, як заўтра і сягоння.

Лірык

Ты можаш лаяцца усім, чым хочаш,
але майго не зменіш пракананння.
Не веру я, што панская выгадка
перад сярмяжкай мае перавагу.
Пакуль не маем мы уласных скарбаў,
павінны выбраць вартае увагі.
Мая увага выбірае тое,
што створана працоўнаю сям'ёю.

Матэматык

З тваёй упартасці смяяцца трэба.
У гэтым бачу вынік шавінізму
і бачу тормаз развіцця культуры.

Лірык

Ты уважаеш, што культура ходзіць
у портках ката слаўнае Камуны
Парыжскае, у портках Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча,
другога ката, ката нашых дзён?

Не веру я у гэткія акрасы:
я ненавіджу іх, змагацца буду!
І у імя змагання з рознай тванню
вось гэтае шляхетнае культуры —
я лепш вазьму акрасы Беларусі...

Матэматык

Пакінем лепш! А то далёка вельмі
закоцімся мы з гутаркаю гэтай!
Не згодзен я з табой, а ты са мной,
заўсёды супраць буду я...

Лірык

А шкода!

Каб ты не пырскаў так на нашу творчасць,
сказаў бы шмат прыгожага табе.
На стромкую гару цябе узвёў бы,
адтуль ты ўбачыў бы зіхценне перлаў,
праменне самацветаў незлічоных
і глыбіню народнае душы.
Ты паглядзеў бы на зіхценне гэна,
ты, як Тамаш няверны, дакрануўся б
да гэных скарбаў — так яны рэальны.
Але дарэмна гавару з табою...
Пазнаў ты «двойчы два» і тым здаволен.
Вітаю вас!

Матэматык

Чаго ты расхадзіўся?

Хіба пазбаўлен я правоў звычайных
і выказаць не волен думкі смелай?
Як птушка вольная, я ўзлятаю
у будучыню крозаю сваёю!
Сядзі з сваім браснелым барахлом,
з сваімі скарбамі тых самацветаў;
ад іх не горача, не зімна мне.
Ты разумееш? Я без іх шчаслівы!
Карысці з іх не бачу. Вось як!..

Лірык

Вазьмі, на ласку, зборнік нашых казак,
сабраны слаўным дзедам Сержпутоўскім,
і ў гэтым зборніку адразу знойдзеш

ты гэту казку, ясную, як зоры.
Каго народ у казцы той выводзіць,—
не ведаю, бадай, усіх патроху.
Калі удасца быць мне на Палессі,
я запытаюся і напішу.

Матэматык

Якую цноту ты тут прадстаўляеш!
Знайшоў сабе і абарону нават:
«У Сержпутоўскага чытай!» І Шэйна
за хвост прыцягнеш... Кінь такія жарты!
Яны, напэўна, шкодзіць неяк могуць.

Лірык

І сам не ўцяміў добра, а гаворыш.
«Яны нам шкодзіць могуць!» Чым жа шкодзіць?
Якая шкода можа з іх адбыцца?
Узяў ты моду гаварыць насупраць,
як той казаў: «Дуду ты як надзьмеш,
яна іграе гэтак...»

Матэматык

На табе!
Ужо дуда якаясь выплывае!
А зараз ракам пойдуць дударцы...
Няма чаго казаць,— удаўся лірык!

Лірык

Табе бяда вялікая! Хай ходзяць!
А, зрэшты, чым жа дрэнна, што ў народзе
ёсць прыказкі на розныя здарэнні?
Вазьмі дай запытанне мне на спробу,
і я знайду ў адказ апавяданне.

Матэматык

Ты хочаш ухіліцца ад адказу,
схаваўшыся за прыказкі і байкі?
Замест таго каб высветліць пытанне,
ты нейкую заводзіш «віктарыну»?!
Ну што ж... Падобна гэта на задачу —
«плюс — мінус, ігрэк — ікс» і ўсё такое...
Магу табе прапанаваць пытанне:
няхай сабе жыве і «віктарына»...

Лірык

Калі не «віктарына», дык «віктося».
У кожным разе — клічнік з запытаннем.

Бывай...
Дабранач...
. . . . . . . . . . .

Сон як перуном спаліла,
толькі крылле завілося.
Па сваёй дачушцы мілай
маці болей не галосіць.

Матэматык

Дык вось табе і слёзы! Дружа любы!
Каб ты узяў другую форму толькі,—
пацалаваў бы я цябе за тэму...
Якая думка!
Ах, якая думка!
І як жа сапсавана чартаўшчынай!
Вазьмі прыдумай ты для гэтай думкі
сучасную і блізкую нам форму...

Лірык

Прыдумаю, як буду мець магчымасць.
Цяпер мне сумна стала, вельмі сумна,
як быццам сам навекі нешта страціў...

Матэматык

Адкінь ты сум, якую маеш страту!
Глядзі, каб некаму, як слёзы ў сне,
твой сум не стаў прызначанай пакутай.
Падумай толькі добра... Ты не чуеш?
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водбліскам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі ж трывожны для цябе, як сёння.

Лірык

Угледзься, браце мой, у след яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!..
Здаецца мне — над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.

І пурпуровых ветразей узвівы —
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!

Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
не вернуцца ніколі караблі.
Бяры ты прыклад з аўтара, з Дубоўкі,
паслухай, што казаў ён перад намі:
які запал, які настрой бадзёры!
Адкуль ты толькі смутак свой збіраеш?

Лірык

Я слухаў аўтараву ўсю прадмову:
з табою разам выйшлі мы на сцэну.
Прадмовай гэтай аўтар даў настрой мне.
Чаго ж яшчэ ты хочаш?

Матэматык

Ты жартуеш?

Узяў ты, кажаш, свой настрой з прадмовы?
Ну, гэта свінства, так хлусіць нахабна!

Лірык

Давай да аўтара мы пойдзем лепш
і спрэчку нашу вырашым супольна.

Матэматык

А пурпуровых ветразей узвівы
ці прынясуць нас да яго ізноў?

Дубоўка

Пайшлі шукаць мяне мае героі...
Хіба пра іх я дрэнна клапаціўся? —
Злажыў для іх ад вывіхаў замову,
за ўзор народную замову ўзяўшы...
Яны адзін другога вінавацяць,
прычыны нейкія з'явіліся адразу...
І кожны з іх сябе праўдзівым лічыць
у гэтай спрэчцы, можа, і цікавай.

Чакаць?
Мірыць?
Не буду лепш займацца,
а то мае уласныя героі
мяне самога ў нечым звінавацяць.
Няхай ідуць да чытачоў гаворацъ,
супольна з імі вырашаюць крыўды...
Няхай нясе іх творчае гарэнне
і пурпуровых ветразей узвівы...

*1929*



# НІЧЫПАР ЧАРНУШЭВІЧ

Нічыпар Фёдаравіч Чарнушэвіч (14.11.1900, г. п. Капыль Мінскай вобл.— 18.2.1967). У 1917—20 гг. настаўнічаў у Траянаўскім земскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. Служыў у Чырвонай Арміі (1920—22). У 1928 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вучобу сумяшчаў з працай у газеце «Савецкая Беларусь». 10.4.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Вятку (Кіраў). Працаваў у Вятцы (1931—35), у Маскве (1935—41), загадваў аддзелам у газеце «Тюменская правда» (1941—47). З 1947 г. працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве ў Мінску, на Беларускім тэлебачанні, у іншых установах. Друкавацца пачаў у 1923 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Дзіва» (1927), «Нясу надзею» (1962), «Гаворка дум» (1966), «Выбраныя вершы» (1975).

## МАГНОЛІЯ

Чуеш, быццам шапочуць кусты,
Жальбу вецер разносіць угрунь.
Там, дзе поўдзень ляжыць
залаты,
Я на поўнач гляджу, гавару.

Як мне вырвацца згэтуль у свет,
Да прастораў далёкіх яго,
Пастаяць на нязвыклай траве,
На зямлі ўбачыць гурбы снягоў.

Я хацела б усюды пабыць,
Каранямі ўсе глебы абняць,
Стрэць прамень, цеплынёю
скупы,
І пяшчоту халоднага дня.

Бо абрыдла да горычы мне
Аднастайнасць тупая вакол.
Не хачу сярод пальм трупянець,
Як раней пакаленні бацькоў.

О, прынадзен даўно для мяне
Вобраз рускіх бяроз дарагі!
Кліча клён пры вясковым
гумне,
Вабіць кедр у глыбінях тайгі.

Паглядзець мне на іх хоць бы
раз,
Роднасць з імі бліжэй бы
адчуць.
Мо агні там іначай гараць,
Я іх зыркасць уведаць хачу.

## СОНЦА ПАХ

Калі скарга на вачах навісне,
Калі ў грудзі сівы сум запаў,
Прытуліся вуснамі да лісця
І ўдыхні у сябе сонца пах.

Сэрцу дай адчуць святла
павевы,
Імі голаў, як вянком, абві,
І пазнаеш, што гавораць дрэвы,
Пульс жыцця учуеш у травы.

І за марай мара нецярпліва
Ажыве, зайграе, як баян.
Закрасуе тваіх думак ніва,
Дзе гайдаўся сухі бур'ян.

Дык пазычым сілы ў свайго
сонца,
Каб бяскрайнасць думкай
паланіць,
Абарваць таемнасці заслону
І згарэць у барацьбе-агні,

Каб на попеле тваіх жаданняў
Вырас заўтрага кудравы лес...
Дань прыгожаму хутчэй
аддайма,
І душа у нас не стане тлець.

Калі скарга на вачах навісне,
Калі ў грудзі сівы сум запаў,
Прытуліся вуснамі да лісця
І ўдыхні у сябе сонца пах.

*1925—1961*



# ЯЗЭП ПУШЧА

Язэп Пушча (Іосіф Паўлавіч Плашчынскі; 20.5.1902, в. Каралішчавічы Мінскага р-на — 14.9.1964). З сялян. У 1920 г. скончыў Мінскае рэальнае вучылішча. Настаўнічаў. Пасля заканчэння (1922) 9-месячных курсаў беларусазнаўства ў Мінску быў інспектарам Мазырскага, Мінскага павятовых аддзелаў народнай асветы, выкладаў беларускую мову і літаратуру на агульнаадукацыйных курсах, у музычным тэхнікуме ў Мінску. Адзін з заснавальнікаў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». У 1926—27 гг. вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, адкуль перавёўся ў Ленінградскі універсітэт (скончыў у 1929). У 1929—30 гг. стыльрэдактар у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. 10.4.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Шчадрынск на Урале (1931—35). Працаваў у Анапе (1935—36), дырэктарам школы ва Уладзімірскай вобл. (1937—58). З 1958 г. жыў у Мінску. Першыя вершы надрукаваў у 1922 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Раніца рыкае» (1925), «Vita» (1926), «Дні вясны» (1927), «Песні на Руінах» (1929), паэмы «Крывавы плакат» (1930), вершаванай казкі «На Бабрыцы»

(1960), кніг паэзіі «Вершы і паэмы» (1960), «Пачатак легенды» (1963). Выйшлі кнігі выбранага «Вершы і паэма» (1968), «Сады вятроў» (1982).

---

### * * *

Раніцу шчэбет пільнуе
у лісці жоўта-зялёным.
Туліцца жнівень пад пуняй
з ношкай аўсянай саломы.

Сонца бліскучым пласконнем
іскры ў тумане губляе.
Ветры — пужлівыя коні
рвуцца ў мурожныя далі.

У зараслях пудзяцца песні:
выбрыкаваць хочуць —
паверце.
Вёска рыпамі весніц
цешыць сялянскае сэрца.

Сівер расой ахрысціў
поплавы ў сіні шырокай.
Песціцца сонца ў трысці,
цалуючы ветразь у шчокі.

Раніцу шчэбет пільнуе
у лісці жоўта-зялёным.
Туліцца жнівень пад пуняй
з ношкай аўсянай саломы.

### РАНІЦА

У сутонні п'яніцай
хістаецца пад плотам цень.
Умыўшыся яркай раніцай,
на сіні выган
выганяе
сонца пасвіць дзень.

Плаксівую смугу
памялом
змяло,
і промень сонца па шляху
пабег ў сутулае сяло.

З сявянькай працы на плячох
ратай спаткаў яго:
уцеха хлынула з вачэй
і гойснула у сінь бягом.

Падшывалец-вецер
лапоча песняй у лістве:
разбіўся мутны вечар
аб сонца ў сіняве!

* * *

Туляўся выбоямі грэблі
заплаканы променя вырыс.
Апрануты латаным зрэб'ем,
у хаце мужычай я вырас.

Падслухаў там родныя песні,
як пелі дажынкамі жнеі.
Сахою і гонейкі песціў,
кілзаючы сонца у шлеі.

Прастор — сінявокі юнак —
да мяне прытуляўся ў сутонні;
губляючы зоры ў хмызняк,
яму снілася новае сёння.

Туман, ацярушаны пытлем,
цадзіў белаватую боязь.
Падпаскам, ганяючы быдла,
я раніцы кланяўся ў пояс.

Кудлата-зялёныя хвалі
чупрынаю кудзер кудзеліў,—
ветры ж мяне калыхалі
ў ядрана жытняй пасцелі.

Ўсміхалася Свіслач мне
срэбрам,
на пуні прывязваў як прывязь.
Апрануты латаным зрэб'ем,
у хаце мужычай я вырас.

## МНЕ ЧУПРЫНЫ НЕ ХОЧАЦЦА ЗВЕСІЦЬ

Беланогі, расчухраны месяц
лявоніць у лісці кляновым;
мне чупрыны не хочацца
звесіць
ў гэты вечар аўсяна-зялёны.

Хай туман сырадоем абмые
мае веснамайскія кудлы.
Затуліўшыся ў сочнай каліне,
расцалуюся з месяцам блудным.

І пайду сінявою мурожнай
да начлежнікаў хлопцаў
буяных.
Хай прыгорне мяне вербалоззе,
бо я хмелем сягонняшнім п'яны.

Ой вы, поплавы, ў шэрай
сярмязе
веснавейце ў лагчыне імглістай!
Мяне праменем сонца абвяжа
напярэдадні ў зелені лісцяў.

Закалосяцца песні па лесе,
усміхнецца як раніца ў клёне.
Ой, чупрыны не хочацца
звесіць
ў гэты вечар аўсяна-зялёны!

## ЛІСТЫ ДА САБАКІ

### І

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
Далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
А ў збане на акне Юнацтва ружа.

Вятры павеюць хутка золкай сцюжай
І ліст крывавы свой яна уроніць.
Праходзіцьме натоўп з душой няўклюжай
І ў гразь утопча, апусціўшы скроні.

І толькі я адзін, паэт бяздомны,
Над ім схіляюся і акраплю слязьмі.
Тады забросняюць душы затоны,
Калі ў грудзях мой дух зусім мне займе.

А покуль б'е жывой вады крыніца
І хваля творчая гарачым пульсам,
Нашто ж мне падхалімам быць, крывіцца
І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў
І супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча — кпіце над пяснярскім лёсам,
І бэсце,— лайце у гандлярскай краме.

Трывожнасць рытму песня агартае,—
Нязнаны востры боль у адчуваннях.
Мне лепей быць звычайным бы ратаем,
Чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ванне.

Даруй, што я пішу табе аб гэтым,—
Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,
Вуглоў каб не разнеслі людзі вуліц.

Я ведаю — цяпер у вас там восень,
І ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
І намятаюць гурбамі ў зацішак.

І ты адзін правеў у ноч такую,
Правеў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год святкую
І слухаю, ці ў дзверы хто не дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось руку заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак,—
Пішу аб гэтым я табе з Расіі.

## II

Успомніў восень я пятнаццатага году,
І уваччу ж змяёю ўзбіўся чорны шлях.
Ніводзін дзень не ведаў ласкавай пагоды,—
За навальніцай навальніца смерці йшла.

У гэту восень стаў народ наш сіратою,—
Ўздыхнулі цяжка хвалі віленскіх азёр.
Ў капліцы ў дзень жахлівы брат сканаў з сястрою,
У слёзна-золкім небе згасла радасць зор.

Ніхто з людзей не мог адчуць наш боль трагічны;
Была страшная зяб,— рыпелі косці дрэў,
Карэнні іхніх ног былі ў крыві крынічнай.
Выгнання дзень, бы злодзей, краўся па дварэ.

І ты стаў бежанцам у гэты дзень закляты,—
Пайшоў па шчасце у чужацкую зямлю.
Ты выць пачаў пад хатай і пад крыжам
І вочы слёзныя закатываць ў імглу.

Ты позняй восенню ў палёх глухіх брадзяжыў,—
Знайсці прыстанішча сабе ніяк не мог.
Імгліліся жудою хмары сыпкай сажы,
А ты пад імі выў і грыз балотны мох.

І ты, і гаспадар твой сталі жабракамі;
Калі ж вас людзі праганялі з-пад вакна,
Тады чало сціскаў ты лапамі, рукамі
І церні вырываў з пакутнага вянка.

Ішлі тады, міналі дні падзей суровых,
Вяртацца сталі ўсе ў асірацелы дом.
Змянілі шум даўнейшы свой лясы, дубровы,
І поле зарасло бадыльнікам кругом.

Ад мяса і крыві набухлі жылы глебы;
Да іх вярнуцца ты не змог,
не здолеў больш.
Твой гаспадар цябе змяніў на бохан хлеба,
Па целе па тваім тады прабегла дрож.

Пайшоў ты ад сваіх, голаў на дол схіліўшы,
Да бацькі да майго, дзе я й цябе сустрэў.
Падумаў ты: — у свеце гэтым многа лішніх,
І смагла слёзы піў, што падалі са стрэх.

Былі ці не былі ў нас родныя натуры,
А толькі мы адзін другога сталі разумець.
Замоўклі рэвалюцыі вялікай штурмы,
Атрэслі клёны ў сінь лістоў ажоўклых медзь.

І я пайшоў у горад за нязнанай славай,
А ты застаўся там жа пад страхой старой.
Ліста мне ад цябе ні разу не прыслалі,
Хоць ты й пісаў яго вячэрняю зарой.

Туга і боль душу пабілі мне на раны,
І я пачаў успамінаць цябе часцей,
Пачаў выходзіць на шлях дарогі раннем
І запрашаць к сабе няведамых гасцей.

Успамінаў аб табе ўсё нікому не рассеяць:
І знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
Адно спазнаеш ты, спазнаў як Адысея:
Прымі ж ты ад мяне гарачы мой паклон.

### III

Ці я ў тэатры, ў рэстаране п'яным,
Дзе радасць распіваюць пад джаз-банд:
Усюды зрок вачэй блакітных вяне,
І ўсюды бачу я жалобны бант.

Няхай сабе я сёння страшна хворы,
Не трэба ўсё ж рэцэптаў для душы.
Сталеццямі гараць і свецяць зоры,
І іх вятры не ў сілах затушыць.

Няхай, няхай гавораць так і гэтак,
А я пішу табе ўжо трэці ліст,
Няхай сабе аблаюць і ў газетах,
Мо ўспомніць часам хто калісь.

Мой дружа, ці ж у гэтым рытме песень
І смутак сённяшняй красы?
Калі паэт галоў на грудзі звесіць,
Няўжо краіне ён тады не сын?

Мне часта зябка й холадна бывае,
І ўсё ж ніхто ні разу не сагрэў,
Не цалаваў жа здраднымі губамі
Ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.

Стаю вось перад Зімнім тут палацам
І ўвесь, не ведаю й чаго, дрыжу,
І сам не ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыйдзі хутчэй — крыжуй!

Канец хай ўсім маім цярпенням;
Няхай лісты развеюцца з асін,
З чала краіны вырву ўсё ж я церні,
Каб болю іх не ведаў болей сын.

Няўжо мне ранаў песня не загоіць,
Што гэтакі трывожны б'ецца пульс?
Паэт, які не ведае агоній,
Не здолее уславіць Беларусь!

Ой, гэта слова, слова дарагое!..
Ах, дружа мой, заўсёды рытм сабе!
Я ж напісаць хацеў зусім другое,
Хацеў у госці запрасіць цябе.

Адно вось толькі думы непакояць:
Ці ўдасца ўсё ж даехаць да мяне?
Ну, скажам, адвязуць к чыгунцы коні,
Аж бліснуць зоры ў полі з-пад саней.

А там білет, і ты ў вагоне спальным;
Ты снедаць зможаш ў рэстаран пайсці,
У ім зімою зелянеюць пальмы,
І думаеш — зімы няма ў жыцці.

А на вакзал, на светлую платформу
Прыйду я сам, прыйду цябе сустрэць.
Адзін другога горача прыгорнем,—
Даўно, даўно не меў такіх я стрэч.

Не ўспееш з дому перадаць вітання,
Шчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,
І тут жа раптам горыч развітання,
Ў сталіцы не дазволяць жыць табе.

Адзет не будзеш ты ў парадны кіцель,
Не будзеш мець заслугі-медаля,
Збягуцца і абступяць цябе гіцлі,
І будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.

Жыві, жыві, знаць дома лепей;
Услухвайся ў таёмны шум і шэпт,
Чужыя людзі ходзяць каля склепу,
Пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.

## ЛІСТ АД САБАКІ

Добры мой паэт, прабач,
Што доўга не было ліста.
Твой слёзна-горкі плач
Хацеў я днямі залістаць.
Усё хацеў, каб як астыць
Пад ветру свіст з прысад.
Атрымаць лісты, лісты...
Ніяк не здолеў адрасат.
Знаць не знаю — жыў ён, не,
Ці блудзіць з хеўрай валацуг?
Толькі крук тырчыць ў сцяне,
Чаплялі за які ланцуг.
Дом зусім, зусім раскрыт,
Цяпер я ў ім вартую сінь.
Бачыш, стыль які і рытм,
Заместа бацькі піша сын.
Добры мой, лісты твае
Калі мне прачытаў твой брат,
Гойсаць стаў я па траве
І па-сабачаму стаў рад.
Выць пачаў на Млечны Шлях,
Каб ён яшчэ свяціў ярчэй,

Пасля лёг калі шула
І слёзы хлынулі з вачэй.
— Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
Я штоночы і штодня
Не маю радасных гадзін.
Добры мой, пішы яшчэ,
Пішы навіны мне свае.
З песняй жыць куды лягчэй,
Душа не хоча з ёй сівець.
Часта я гляджу удаль,
Ці вобраз твой не ўбачу там?
Развявае лёгкі шаль
Ў даліне сонечнай туман.
Не пайду я з-пад акна,—
Твой чую крок ў людской хадзьбе.
Увесну, як прыедзеш к нам,
Я першы абніму цябе.
Выйду, стрэчу ля варот,—
Такі, такі ўжо ў нас закон.
Будзе мой смяяцца рот,
І цалавацца буду языком.
Знаю, знаю, ты жывы,
Цябе ніхто не запражэ...
Будзь жа, будзь здароў, жыві;
Цябе цалуе моцна Жэк.

*1927*

## НА ВОЗЕРЫ

На возеры вечар зялёны
Пад сонцам ідзе залатым;
Таполі, і ліпы, і клёны
У парку шумяць маладым.

А месяц рассыпаўся срэбрам
І свеціць з блакітнай гары;
На выспах — бярозкі, і вербы,
І песні вячэрняй зары.

На возеры лодкі-маторкі
І вёсел вясёлы усплёс;
Ўсміхнуліся першыя зоркі,
І вечар расінкі растрос.

Тут вербы схіляюцца нізка,
Калі ім пакланіцца госць.
Спявае на возеры Мінскім
Мая і твая маладосць.

*1959*

* * *

Прабач, мой дружа, мой чытач,
Калі не гэтак што, як трэба.
Няўдач шмат болей, як удач,
Было ў мяне пад родным небам.

Быў рад, калі прыйшла у сад
Вясна, а з ёй садоўнік дбалы.
Быў рад, калі на новы лад
Зайгралі скрыпкі і цымбалы.

Святло ад сонца скрозь плыло,
Маёй не абмінала песні.
Было, калі яно ўзышло,
Святлей, цяплей, як напрадвесні.

Дужэў. Вясновы дзень даўжэў.
Я помню светлыя гадзіны.
Бліжэй за ўсіх і даражэй
Была ты мне, мая Радзіма.

З табой ішоў, ў табе знайшоў
Людзьмі нязведанае шчасце.
Ішоў і ўсё хацеў душой
Я да крыніц тваіх прыпасці.

Хацеў не проста для уцех...
Але павеяў вецер золкі,
І ўжо не смех, а зябкі снег
Засыпаў долы і узгоркі.

І тых тваіх крыніц святых
Я не згубіў і ў дзень завейны.
Не сціх звон сосен залатых,
І ў сэрцы голас твой напеўны.

Слатой зляцела тля з лістоў,
Прыйшоў дзень сонечны, уцешны,
Прынёс зямное хараство
І словы новай, гулкай песні.

*1960*



# МІХАСЬ МАШАРА

Міхаіл Антонавіч Машара (18.11.1902, хутар Падсосна Пастаўскага р-на Мінскай вобл.— 7.6.1976). Удзельнічаў у савецка-польскай вайне 1920 г., нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы, зняволены ў віленскую турму Лукішкі. Друкаваўся з 1927 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Малюнкі» (1928, Вільня), «На сонечны бераг!» (1934, Вільня), «Напрадвесні» (1935, Вільня), «З-пад стрэх саламяных» (1937, Вільня), у Мінску выйшлі кнігі «Беларусі» (1944), «Праз навальніцы» (1948), «Урачыстасць» (1952), «Мая азёрная краіна» (1962) і інш. Аўтар цыкла раманаў пра вызваленчую барацьбу ў Заходняй Беларусі.

* * *

Падае, падае лісце,
жоўтае лісце бяроз.
Еду... дарога імгліцца.
Слухаю песню калёс.

Межы і вузкія гоні,—
радасць і сум мужыка,—
зжатыя... Пуста і гола.
Сэрца сціскае туга.

Каля самотнага гаю
паша і статак кароў.
Хлопец прысеў, вывучае
спеў тэлеграфных слупоў.

Мо перакажа калісьці
гэты чароўны напеў...
Жоўта-чырвонае лісце
падае, падае з дрэў.

*1932*

## НА РАЛЛІ

Ў кашулі белай палатнянай
з сяўнёй я выйшаў на раллю
і над ажыўшымі палямі
аўсяным золатам званю.

Як цень, брыдзе за мною следам
сялянскі конь у баране
і з цёплым ласкавым прыветам
ледзь-ледзь махае грывай мне.

А сонца лезе без патрэбы
у вочы, твар і валасы;
і поле пахне свежым хлебам
і хмелем першае расы.

*1936*

## РУЧНІКІ

Прала, выпрадала,—
ночанькі не спала,—
лянок валакністы.

Кросенцы зжанала,
з песняй пачынала
узор прамяністы.

Пільна, пільна ткала,
выткаўшы, паслала
ручнікі на росы.

Да зары мачыла,
на сонцы сушыла,
каб былі бялёсы.

І мне на пацеху
сталі белым снегам
і мякчэй за вату.

Выкачала гладка,
як вучыла матка,
і занесла ў хату.

Жыта каласочкі,
з сінім васілёчкам,
шоўкам вышывала.

Красачак радочкі,
як мілога вочкі,
самі аджывалі.

За работай гэтай
прамінула лета,
лета залатое.

А настала восень,
больш не ткала кросен,—
сталася другое:

сусед нашай хаты
прыйшоў з Янкам ў сваты —
мяне заручаці.

Як ішла да шлюбу
з Янкам сваім любым,
праводзіла маці.

Жытам абсявала,
долю заклікала,
стоячы на ганку,

вешала на шыю
ручнічочкі тыя
мне і майму Янку.

*1936*

## ЛІСТ У НЯВОЛЮ

Мне не ведаць спакою ніколі:
сум балючы да сэрца прырос.
Мне аб горы тваім у няволі
вецер чорныя весткі прынёс:

што чужак падпаліў нашу хату
і дзяцей нашых кінуў туды;
што цябе, маладую, засватаў
цяжкі лёс паланянкі-рабы;

што, звязаўшы любімыя рукі,
па стаптанай, па роднай зямлі
на нядолю, на ганьбу, на мукі
у няволю цябе павялі.

Як ішла ты,— нямелі бярозы,
на шляху вецер плакаў з табой,
і крывавыя горкія слёзы
каты ботам змяшалі з зямлёй.

Не шумелі палеткі жытамі,
не шуршэла трава пад нагой,—
крумкачы кружынялі над вамі,—
і зямля застагнала журбой.

У няволі ў фашыстаў ты дзікіх
паміраеш ад мук і тугі
і завеш мяне з сумам вялікім:
— Уратуй, уратуй, дарагі!

Дарагая! Я чую, я чую!
І ты вер — мне спакою не знаць:
прысягаю на помсту святую,
што прыйду я цябе ратаваць.

*1942*

## МАЯ АЗЁРНАЯ КРАІНА

Маю азёрную краіну
кранула бурамі вясна,
ізноў ажыўшаю на дзіва,
шуміць у зелені яна.

А пасля бур дугой вясёлкі
гараць, падпёршы неба строп,
і лезе сонца проста з горкі
у партызанскі наш акоп.

І на світанні свежых раніц,
пад звонкі посвіст салаўя,
выходзіць з лесу партызаніць
уся Вілейшчына мая.

Мы дачакалі птушак з поўдня
і ўсё гадаем на усход:
ці прыляціць шчасліва сёння
з чырвонай зоркай самалёт.

І гром грыміць над родным краем,
аднекуль вецер гул прынёс:
то партызанка маладая
цягнік пусціла пад адкос.

А там, у спаленых прысадах,
сустрэлі карнікаў хлапцы;
у пераклічцы аўтаматы
затакавалі, як глушцы.

На ўсіх узгорках між азёраў
наш гнеў засадаю залёг,
і помста ходзіць у дазоры
на скрыжаванні ўсіх дарог.

Калі ж пад крыллем навальніцы
азёры гнеўна закіпяць,
тады не спіцца чужаніцам,
асінай здраднікі дрыжаць.

І ад Вілеі да Задзвіння
кіпіць народная вайна.
Маю азёрную краіну
кранула бурамі вясна.



# АНАТОЛЬ ВОЛЬНЫ

Анатоль Вольны (Анатоль Іўсцінавіч Ажгірэй) нарадзіўся 19 лістапада 1902 г. на ст. Пухавічы Мінскай вобл. у сям'і служачага. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, прымаў удзел у грамадзянскай вайне, працаваў у камсамольскім друку. Першыя вершы А. Вольны надрукаваў у 1922 г., а праз два гады выдаў калектыўны (разам з Александровічам) зборнік «Камсамольская нота». У 1926 г. выйшаў зборнік вершаў «Чарнакудрая радасць», у 1927 — «Табе». А. Вольны пісаў таксама аповесці, апавяданні, кінасцэнарыі. У 1933 г. атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Арыштаваны 4.10.1936 г. Расстраляны 29.10.1937 г.

## МІКОЛКА

Эх, Міколка з Гародзенскіх гоняў.
Адгрымеў час гарматаў... прайшоў...
Гэткіх дзён буравая пагоня
Калі пранясецца ізноў?

Мы сустрэлісь на простых загонах,
Камсамольцы дваццатага года,
Ў штурмавых бальшавіцкіх калонах
Першай роты, трэцяга ўзвода.

Мы сустрэлісь ў вясковай ваколіцы,
Разам нават ў разведку ішлі.
Ты і ■ — мы былі камсамольцы,
З беларусаў абодва былі.

Ну і вось падружыліся раптам.
Дружбу гэту сапраўды да смерці
У цапі паабветрылі разам,
Закалілі ў агнёвай праверцы.

Помню вечар з цудовымі ценямі,
Паразбітую пан вабіў раць.
Вёрстаў трыццаць зрабілі за дзень мы,
З боем вёску прыйшлось забіраць.

У той вечар замоўклі гарматы,
Сінім шлемам адзелась зямля...
Мы пайшлі ў вясковыя хаты
Ціха глянуць на золак жыцця.

А у вёсцы звінела жалейка,
Нібы й цэп за сялом не лягла...
Ды чамусьці журба-ліхадзейка
Кучарава ў сэрца цякла.

Эх, Міколка, бы мы, з дыму бурыя,
З смуткам, смуткам разам блукалі.
Нашы вёскі і хаты панурыя
Вызвалення з надрывам чакалі.

— Эх, ратуйма той край, што з суглінкамі, —
Беларусь, край стрыножных палёў! —
Ты сказаў, і, здаецца, слязінкамі
Журба збегла з тваіх вачоў.

Але, можа, мне гэта здалося...
Ну, вядома, бываюць выпадкі,
Бо такі быў хмялёвы вечар,
І так шчыра лучынілі хаткі.

Тр-р-ры-во-га!
Раптам ўзравелі гарматы...
Тр-р-ры-во-га!!!
Сэрцам забіў кулямёт.
Дзесьці зарою «ур-ра-а!» занялося
І камандаваў ўзводны:
— Ўпярод!

Міколка родны з родных гоняў
Рвануўся першым наступаць,—
Байцом у шлеме з гарачым сэрцам
Ва ўдзілах сэрца не стрымаць.

Міколка з першых — першым біўся:
Далёка ззаду цэп пакінуў.
Ў цапі пранеслась: — Бач, сказіўся,
Хлапец зарваўся — знача, згінуў.

Не зразумець было й сабраццям,
Пашто адзін ён уперад лезе.
Эх, каб паведаць, каб сказаць ім,
Што Беларусь хлапец угледзеў.

Як бой замоўк, дык на паверцы...
Сярод другіх — Міколка паў:
Баец у шлеме з гарачым сэрцам
Ва ўдзілах сэрца не стрымаў.
. . . . . . . . . . . . . .
Хіба ж
гэта
калі
забудзецца?
Хіба ж зарасце
бур'янам
шлях там,
Дзе разнузданай
польскай блудніцай
Мужыка
катавала шляхта?

*1924*



# ТОДАР КЛЯШТОРНЫ

Тодар Тодаравіч Кляшторны нарадзіўся 11.3.1903 г. у в. Парэчча Лепельскага р-на Віцебскай вобл. З сялян. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1931). Працаваў на радыё, у прэсе. Друкаваўся з 1925 г. Выдаў зборнікі вершаў «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Праз шторм на штурм» (1934), паэму «Палі загаманілі» (1930), кніжку-малюнак для дзяцей «Пра зайца, ваўка і мядзведзя» (1935). У 1960 г. выдадзена кніжка яго паэзіі «Залатое вязьмо», у 1970 г.— «Выбранае». Рэпрэсіраваны; расстраляны 30.10.1937 г.

## ПА СЛЯДАХ МІНУЛАГА

Бяскрайнія, бяздонныя
Парывы творчых сіл,—
Шырэй за далі сонныя,
Глыбей за небасінь.
Пад слякаццю,
Пад сцюжамі,
Ў раз'юшаныя дні,—
Мы слоту дзён адужалі,
Бяду перамаглі.
Хмялелі штодзень дзеямі,
Запалам барацьбы,
Без роспачы, з надзеямі
І паміралі мы...
Хмялелі нашы ворагі
Крывёю і віном,—
Было ім толькі дорага
Аджытае «даўно».
Пад рогат гільяціны
Свістаў і плакаў меч.
Найлепшымі карцінамі
Тапілі калісь печ.
Найлепшымі паэмамі
Ніхто не даражыў.
Гулялі ў жмуркі з дзеямі
Вясёлыя нажы.
Ды гойсалі,
Ды гойсалі
Па свеце смерць і золь.

. . . . . . . . . . . . . .

Чамусьці сёння ўспомніўся
Далёкі дальні боль...
Чаму?
...А ўсё так хораша,
Навокал многа дзіў.
Ах, так,
Я ў той мясцовасці,
Дзе калісьці хадзіў
З надзейнай карабінкаю,
Вось мой стары акоп.
Я чую, кулі дзінкаюць
Вакол, вакол, вакол...
А даль
Квітнее крозамі,
Так многа розных дзіў...
За рэчкаю Бярозаю
Я многа пахадзіў.
Пад воплескі асеннія
Вось там,
У тыя дні
Мяне па той аселіцы
Расстрэліваць вялі.
Вялі п'яныя ворагі...
Вакол варонкі баль...
Каму ж
Жыццё не дорага?
Кляшторны,
Стаў на банк!
Бяжы!..
А лес рубінавы
Табе падасць руку
Пад рогат гільяцінавы,
Пад свісты дзікіх куль.

. . . . . . . . . . . . . .

І так,
Паміж акопамі,
Паміж жытоў,
Паміж...
Магіла недакопана
І недакончан крыж.
А рэчка
Так жа пеніцца
Крыштальнаю вадой,
Тут цуда сёння дзеецца
Ў краіне маладой.
Тут не гуляе конніца,
Не блудзіць цемрашал.
А выйшлі на спаборніцтва
Машына і... душа.
Трашчаць дубы, авітыя
Стагодняй казкай хваль,

На лесапільні пільна тут
Падвозяць матэрыял.
Бяскрайнія, бяздонныя
Парывы творчых сіл.
Шырэй за далі сонныя,
Глыбей за небасінь.
Сталёвай
Звонкай конніцы
Скарыўся ўвесь абшар...
Не дарма на спаборніцтва
Паклікала душа.
Не дарма
Між завеямі,
Пад сцягам барацьбы
Без роспачы,
З надзеямі
І паміралі мы.
Мы творцы, людзі, геніі,
Нас творчы дух заве,
Мы творчымі імкненнямі
Перабудуем свет.
Хай шмат,
Хай шмат загінула
На гэтым рубяжы...
Мы лепшымі карцінамі
Умеем даражыць!

* * *

Зацвілі сярэбраныя росы
У кілішках выцвілых лістоў,
Запалілі зоры папяросы
Над буланай грывай тумаоў.

Залатой мякінай лістападу
Сыпле клён над скронямі акон,
А ў галлі абветранага саду
Месяц сплёў паўтысячы карон.

Ледзянее ў шэрані рабіна
Па адцвіўшай сонечнай вясне.
. . . . . . . . . . . . . .
Уміраюць палкія гадзіны,
І зямля бялее пакрысе.

Але дні златымі павадамі
Не завяжуць сонечных пуцін.
Не заплача сэрца з журавамі
У туман ажвіраных далін.

Не шкада рассыпаных гадзінаў:
«Мы жылі, жывём і будзем жыць»,
Бо зіяюць зоры над краінай
І ў туман схіляюцца крыжы.

Залатой мякінай лістападу
Пашумяць, сумуючы, гаі...
Скора ў сінь сталёваю
брыгадай
На палях засвішчуць салаўі.

Зацвітуць сярэбраныя росы
У сталёвым колеры машын,
І запаляць зоры папяросы
Над зялёнай пражаю далін.

## ЗАЗІМАК

Мёрзлы месяц з-за гор васількамі
Перасыпаў азёрную сінь.
Стыне ўсё...
Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць.

Тоўпы зор снегавым пералівам
Разматалі ў палях павады.
Быццам коні з намыленай грывай,
У пацёмках застылі сады.

Хтосьці там, у шырокім прыволлі,
Дзе узмежкі гараць серабром,
Заспяваў пра шырокае поле,—
Засвістаў ледзяным салаўём...

Эх, як рвецца душа у прасторы,
Штосьці хочацца вечна кахаць,
І дзіцячае радасці зоры
Ў ледзяных пераззвонах збіраць.

Мёрзлы месяц з-за гор васількамі
Перасыпаў азёрную сінь.
Стыне ўсё...
Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць.

* * *

Упрадае дым у залатую гладзь
Па-над прасторамі бярозавая просінь,
Ружовы дзень спусціўся падрамаць
За верхавінамі смалістых сосен.

Мядовы водар кружыць галаву...
У цішыні задумаліся далі.
Рамашкі белыя аснежылі траву
І ў туманах салодка задрамалі.

О родны край,— саломенныя хаты...
Люблю прастораў казачную муць.
Іду адзін,
А тысячы крылатых
Мне пра любоў адвечную пяюць.

Тут паланець душа не перастане,
Тут не астыне ў жылах кроў...
Тут кожны крыж — адвечнае змаганне,
Тут кожны куст — адвечная любоў...

О, тут усё...
Так хочу жыць і верыць,—
Аддаць душу прыгожасці палёў,
Гатоў скакаць вясёлым піянерам
Пад залатыя гуслі салаўёў.

Па-над прасторамі
Бярозавая просінь
Ўпрадае дым у залатую гладзь
За верхавінамі смалістых сосен
Ружовы дзень спусціўся падрамаць.

*1927*



# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

Арсеннева Наталля Аляксееўна нарадзілася 20.9.1903 г. у сям'і рускага служачага, які паходзіў з роду тых Арсенневых, што даў па жаночай лініі М. Ю. Лермантава. Скончыла Віленскую беларускую гімназію (1921). Вучылася на гуманістычным факультэце Віленскага універсітэта. З восені 1922 г. да пачатку другой сусветнай вайны жыла ў Слоніме (1922—24), Хэлмне (1924—25), Равічах (1925—39), у 1939—40 гадах — у Вілейцы. У 1940 годзе разам з дзецьмі была вывезена ў Казахстан. У маі 1941 года намаганнямі Янкі Купалы, Максіма Танка, Пятра Глебкі і іншых пісьменнікаў была вызвалена і пасялілася ў Мінску. З прыходам нямецка-фашысцкіх акупантаў працавала ў «Менскай (Беларускай) газэце», у Беларускім культурным згуртаванні. У паасобных вершах гэтай пары гучалі ноткі пратэсту супраць фашысцкай акупацыі, хоць у асноўным імкнулася быць «над схваткай». З чэрвеня 1944 года жыве ў эміграцыі: у Заходнім Берліне (1944—48), з 1949 — у ЗША.

Першы друкаваны верш «Восень» з'явіўся 8 верасня 1921 года ў віленскай газеце «Наша думка», якую рэдагаваў М. Гарэцкі. Першы зборнік «Пад сінім небам» выйшаў у 1927 годзе ў

Вільні. Найбольш поўна лірыка Н. Арсенневай пададзена ў кнізе выбранага «Між берагамі» (Нью-Йорк — Таронта, 1979). Стварыла лібрэта да опер «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей», да аперэты «У вырай». Пераклала на беларускую мову творы І. В. Гётэ, А. Міцкевіча і інш.

---

## ЛЮБЛЮ Я СОНЦА ЗАЛАТОЕ

Люблю я сонца залатое,
люблю прыгожаю вясной,
калі ўсё новае, святое
смяецца радасна са мной.

Люблю нябёс вясняных ласкі,
цалункі цёплых ясных кос,
што песцяць дрэвы без падказкі,
што грэюць лісцейка бяроз.

Аджыў наш сад. Да сонца дрэвы
галінкі цягнуць, бы ў паўсне.
Направа сіні сцень, налева —
усё ўсміхаецца вясне!

Цвіце чарэмха і чарэшня,
паненкай яблынька стаіць,
з ёй ветрык песціцца, і песня
святлу, вясне ўвушшу звініць!

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
нясі ж святло, нясі жыццё,
нясі атруту пацалункаў,
красуй, вясна, кахай усё!

Любі, тулі, сагрэй каханнем,
жыццё зямлі, жыццё людзей!
Табе адкажа сад пяяннем,
дый сэрцу будзе весялей.

Цалуй лясы, ідзі гуляці
ў палі, ў лясы пагодным днём.
Кахай, кахай зямліцу-маці,
палі яе, палі агнём!

*1921*

## ЖОЎТАЯ ВОСЕНЬ

Нэрвы ўвосені страшаць нас совамі,
ша... шасцяць кажановымі крыламі...
Непрыветнай вітаемся моваю
мы з асеннімі казкамі-былямі.
А ці ж восень папраўдзе панурая?
Груганнём над ніўямі расселася?
Рызманамі зрудзелымі, бурымі
на асінах павісла, на верасе?
Жоўта скрозь...
Над палямі шырокімі
спяць дубы, як мядзяныя волаты,
ўкруг бярозы стаяць белабокія,
сыплюць з косаў расплеценых золата,
спіць лог жоўты, туманамі змочаны,
пахне мохам, лістамі як ладанам...
І сціскаецца сэрца, не хочучы,
смуткам любым, дзіўным, неразгаданым.
Дзе ж тут жах, кажановыя шэляхі,
плач савіны, вятругі нервовыя?
Восень жоўтая смуткам кудзеліцца,
сном кладзецца на вецце дубовае.
Для мяне яна —
блізкая, знаная,
новай песняй у сэрца ўціскаецца
і нахтненнямі, здаўна чаканымі,
нада мной, як лісцём, асыпаецца...

*1930*

## ЧАСТА ЎВЕЧАРЫ

Часта ўвечары, так, напрадвесні,
калі гасне заход, перад ночай,
гэтак хочацца выліцца песняй,
а так мучыць пачуцце нямочы!
Усе словы здаюцца малымі,
ўсе — не тымі, што выцвісці хочуць,
бо ніяк не параджу я з імі,
што здалёк і смяюцца й сакочуць.

Словы — ветры на крылах птушыных,
словы — зоры са шляху сусветаў,
словы — перлы з нязнаных глыбіняў,
словы — будзьце слухмяны паэту!
Слова — музыка першых грымотаў,
слова — павадка яблын вясновых,
слова — думкі нястрымнай узлёты,
слова — будзь жа паэту слухмяным!
З цябе вытку пояс шматкалёрны,
каб агнём у ім ніткі гарэлі,
упляту ў яго ззянні ды зоры,
раззваню скрозь жаўронкавай трэляй,
аджыўлю ў табе зыркасць зарніцаў
і шум-шэлях расістага жыта,
ўспомню ўсё, што забытым маніцца,
ўспомню ўсё, што даўно пражыта.
Не ўцякай жа нябёснай пуцінай,
не хавайся ў далечах нязнаных...
Слова — вецер на крылах птушыных,
Слова, будзь жа мне, будзь паслухмяным!

*1930, Хэлмна*

## ХАЦЕННІ

Як калоссе ў жытняй ніве —
цягне дух мяне ўгару.
Тут — нічога больш не дзівіць,
тут — нічога не збяру.
Нежывой, зімовай ночай
сніцца мне ліпнёвы змрок,
а ўвясну — пляла б ахвоча
я ўжо восеньскі вянок.
Цямрывою, бездарожжам
аднаго пайшла б шукаць:
што ніколі мець не можна,
што ніхто не можа даць!

*1933*

## АХРЫСЦІЎ МЯНЕ НЕХТА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Не ў царкоўцы малітвай, святою вадой,—
ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін,
я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.
Да мяне
не з імглой, не з мутой ручаін
надыходзіць вясна, і не снегам счарнелым,—
мне смяецца яна жоўтым пухам вярбін,
срэбным звонам жаўронка ў палёх зарунелых.
Не спякотаю й лета мне дыхае ў твар,
не вятрамі красу абівае ■ чарэсняў,—
каласістая ніва —
адвечны пясняр —
залатыя, гарачыя спеліць мне песні.
Восень зноў — не залой, не сцюдзёным дажджом,
не тугою цягучай душу маю раніць,—
мне яна павучынне пляце над мяжой,
сном ціхім на сівое кладзецца аўсянне.
І зіма — не марозамі страшыць мяне,
не сляпою мяцеліцай засціць мне вочы,—
над снягамі, на сінім нябёс палатне
распаляе яна серабраныя ночы...
І заўсёды,
заўсёды паганскай жудой
маё сэрца сціскаецца ночай зімовай.

Не ў царкоўцы малітвай, святою вадой,—
ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

*1936*

## КАЛІ СКОНЧЫЦЦА ДЗЕНЬ

Толькі ўночы жыву я душою узлётнай,
аб якой гэтак часта не помню зусім,
і зайздросціць магла б тады качкам дзікім,
што ўзнімаюцца з крыкам над сонным балотам
рухам вольным і дзіўна мяккім.

Я ляцела б за імі над пасмай зялёнай
шэрым крыллем касіць парудзелы чарот,
і пазбыцца хацела б клапотаў, нягод,
як той дзень, што ў прадонныя, зорныя тоні
адплывае над плесняй балот.
Але тое, што збуджана, сцішыць не можна,
супраць волі, а сэрца начамі гарыць,
супраць волі, ўсё лёгкім здаецца згары,
хай у цесным жыцці, як за кратай астрожнай,
так няўдзячна, так цяжка тварыць!

*1936*

## СПАРЫШЫ

Выйшла я серпам зубчатым
срэбра калоссе крышыць.
Пахла дакучліва мятай,
я ў жыце знайшла спарышы.
Смехам сыпнулі сяброўкі:
«Ой, сцеражыся, глядзі!»
Сноп я вязала, аж змоўклі,
моцна ж вязала, наўздзіў...
Што ж, каб Васіль тут
на полі
зносіў за мною снапы,—
і не ўтуліла б ніколі
вачэй,
не баялася кпін.
Гэтак хацеў ён жаніцца,
так супакойваў мяне...
Усё панясла навальніца.
я ўсё адступіла
вайне.
Змёў, наляцеўшы на вёску,
хлопцаў вясковых віхор,
чырвань пажараў расплёскаў
усюды —
з зямлі аж да зор...
Жудасна, доўга дымілі
гэнымі днямі бары...
Сэрца трывогаю стыла...
Няхай яно лепей згарыць!
Хай спапяляецца на попел
сэрца і ўсё у жыцці!
Як прычакаць цябе, сокал,
сынка як табе нарадзіць?
Дзе успаміны закінуць?
Як тут прысыпаць пяском
ночы струмень цёмна-сіні,
сузор'і — луску акунькоў,
росную мяккасць пракосаў,
здушаны шургат галля,
дзяцельнік ссохлы у косах,
распалены шэпт Васіля?
Эх, Васілёк,
мой хлапчына,
з кім ты начуеш і дзе?
У пыле сыпкім каляінаў,
ў цвілым багавінні ў вадзе?
Выпіў ты ўжо
ці не выпіў
чарку да дна?
Не спяшы...
Пахнуць дакучліва лэпы.
Я ў жыце
знайшла спарышы.

*1941*

## ПЕСНЯ КАЛІНОЎЦАЎ

Палыном і быллём параслі нашы нівы,
як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы збіраюць, не дзіва.
што канае народ твой і ты,
Беларусь!

Але годзе!
Мы ўстанем!
Ціхім раннем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песняў паходзе
возьмем волю сабе і табе,
Беларусь!

Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята,
на змаганне за свята для мазолістых рук,
за зямлю для аратых,
і за сонца у хатах,
за увесь твой народ, за цябе,
Беларусь!

Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,
дык праб'емся ж крыніцай
з-пад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца
наш загон і бязмежжы твае —
Беларусь!

Гэй, смялей,
гэй, далей,
не лякаймася смерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але ты будзеш жыць і расці,
Беларусь!

*1942*

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.

Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць — дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

*1942*

## ГОДЗЕ!

Ціха клёны лісцё наземяць,
паражыўшы сваё
на свеце...
Ці ж, як мы тут, журбой асенняй
будуць песціцца й нашы дзеці?
Дзіўна ж сум нам уеўся ў косці,
неяк самі хінуцца спіны
хай бадзёрымся часам: «Досыць!»
Петушымся: «Нас не запыняць!»
А пацiху — і той закіне,
ну, і гэты ў радкі уцісне:
«Край наш ніцы, дзяды, дзяды мы,
не дае лёс нам шчасця высніць!
Век нам муляе карак зрэб'е,
мы ў лапцёх пагнаілі ногі,
на застоллях у нас — бясхлеб'е,
пазбівала бяда парогі...»
Годзе!
Годзе, нарэшце,
годзе
чарвякамі звівацца, поўзаць!
Хоць нас доляй дагэтуль зводзіць,
хоць ісці нам парой і коўзка,—
насмяёмся яшчэ і з ліха!
Досыць падаць прад кожным ніцма!
Лепш на момант
агнём успыхнуць,

чымся літасцяй век давіцца!
Што далі нам калі чужыя?
Ці калі, хто — наш плач усцішыў?
Досьі
Напружым пастронкі жылаў,
самі злыбяды нашы скрышым!
Ціха клёны лісцё наземяць,
паражыўшы сваё на свеце.
Не,
не будуць журбой асенняй
так, як мы тут, смуціцца дзеці!

*1942*

## МЫ — МОЛАДЗЬ

Мы — праўда,
мы — сіла,
мы — радасць,
мы — рух!
Выцягнем крылы
мы ў сонца, ў зару!
Мы ймкнём на узвышшы,
нам — межаў няма,
здаецца нам прышласць —
праменнай, як май!
Мы — шчырасць!
Сваволя!
Мы — песня!
Мы — смех!
Вітае нас доля
мільёнам уцех.
Бядзе, ураганам
смяёмся мы ў твар,
вясёла, шматззянна
нам зоры гараць!
Ніхто нас не спыніць
у лёце да зор!
Мы — імпат няспынны,
мы — моц!
Мы — віхор!
Мы выйшлі з народу,
з крывіцкай сям'і,
і ў кожнай пагодзе
з ім побач стаім.
Мы з краем каханым
расцём угару.
Мы — свежасць!
Мы — ранне!
Мы — радасць!
Мы — рух!

*1943*

## САЛАВЕЙ

*Забэйду-Суміцкаму*
*на 15-я ўгодкі ягонае песнярскае працы*

З выраем звонкім, што з ветрам плыве,
зноў ты да нас прыляцеў, салавей,
родпаю песняй нас песціць.
Зноўку твой голас узбурыць да дна
нашыя сэрцы, як сонца й вясна,
госці ў закураным месце.
Дык заспявай нам, заліся, вазьмі,
як у зялёным хмызэі салаўі
вечарам сінім у траўні.
Пей нам аб сонцы, што ў лозах густых
жоўта-сярэбраны гойдае дым
рухам павольным і плаўным,
пей аб вясне, што ружовы туман
сцеле ўваччу і на свеце на зман,
пей аб тузе і уцехах.
Песняў тваіх раззалочаны сум
ветры па рунях сівых панясуць,
збудзяць вясновае рэха.
І заліецца ўвесь край, загудзе,
ажно кругі паплывуць па вадзе,
яблыны ўздымуць завею.
Пей, салавей, хай па свеце гучыць:
слаўна ж умеюць спяваць Крывічы,
з песняй — іх лёс не ссівее!

*1944*

## СІВОЙ ВЯРБОЙ

Слата і змрок...
Душа пустуе,
ў смузе маркотнай далячынь...
Сівой вярбой хіба пайду я
над плёсам цішу сцерагчы.
Ўрасту карэннем моцна ў гліну,
карой адзенуся рудой,
шырока рукі разгаліню
над шэрай, соннаю вадой.
І буду жыць,
як жыў спрадвеку
увесь вакольны, вольны свет;
піць туманоў надрэчных лекі,
пух белы сеяць на траве.

І брацць, раскінуўшы галіны,
і з прагай сонца і цяплынь,
у гуд услухвацца пчаліны
і ціха зерняты спяліць.
Ці раз вярбіну ўпесціць лета,
ці раз да сну утуліць снег,—
і я забуду ўсё, што ў свеце
мяне змушала паланець.
І пад карой маёй,
на ветры,
не будзе біцца ўжо й званіць
нямоўчны звон —
людское сэрца,
крыніца праўды і маны.

*1944*

## І БЫЛА ТАМ ВЯСНА...

...але вочы іх былі стрыманы,
дык не пазналі Яго.

*Паводле Лукі св. Евангелле*

І была там вясна,
як наша,
хай не лозы цвілі, а міндаль:
распалялі зялёныя пашы
весніх красак пурпурны вугаль,
па далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,
і буйных белых зор зярняты
рассыпалі лялеі ў лагох...
Срэбна-шэра
курэў гарэшнік,
шнур алівак і вінных лоз...
А вясне напярэймы, сцежкай,
ціха йшоў
Уваскрослы Хрыстос.
Сам —
нясцерпнае ззянне —
у ззянні,
смерцяй, смерць растаптаўшы ушчэнт,
Ён ішоў, і нязгойныя раны
на чале ірдзянелі яшчэ...
У дзіўным, у святым захапленні
Богу-Сыну малілася ўсё —
агарож прыдарожных каменні,
маладых ячмянёў каласcё,

цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў... і сонечны пыл...
і трава, што прабітыя ногі
цалавала, схіліўшы сцяблы...
А паслей —
пацягнуўся шляхамі,
ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс
і народ...
Толькі хто з іх, няўцямных,
знаў, што побач —
Ускрослы Хрыстос?

Праплывалі,
сляпыя,
міма
Боскіх цёплых, пясцівых рук
юнакі з залатымі вачыма,
сцені старцаў, сагнутых у крук,
ды ніхто не схінуў каленаў,
да далоняў святых не прынік,
хай прад сцерплай ад слёз Магдаленай
на імгненне і ўзнік Садаўнік.
І ніхто не азваўся:
«Равуні»,
сам не верачы ў шчасці вачам,
змарагдовых пальмовых галінаў
наламаўшы,
не выбег страчаць...
Падцікаўся нячутна вечар,
сіні змрок...
І не бачыў ніхто
з недарэчных сыноў чалавечых,
як мінаў іх,
раз сто,
Хрыстос,
як ішоў Ён, схіліўшы на грудзі,
светлы твар Свой,
паўз весняй хвалы...
Гора,
гора,
о гора вам, людзі,
бо і сяння
сляпыя вы!

*1959*



# ПІЛІП ПЕСТРАК

Пілíп Сямёнавіч Пестрак (27.11.1903, в. Сакоўцы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.— 22.8.1978). Вучыўся ў Куйбышаўскім універсітэце (1920—21). У 1921 г. вярнуўся на радзіму. Працаваў у тартаку, лесніком, служыў у польскім войску (1924—26). З 1927 г. сакратар Косаўскага падпольнага райкома партыі. У 1933—34 гг. інструктар ЦК КПЗБ. Амаль 11 гадоў сядзеў у турмах буржуазнай Польшчы. Вызвалены ў верасні 1939 г. Чырвонай Арміяй з гродзенскага астрога. Узначальваў бюро Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР (1940—41). У Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. Працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР (1943—45), у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1946—48), літаратурным кансультантам СП БССР (1948—51). Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «На варце» (1940), «За сваю Айчыну» (1946), «Падарожнае» (1962), паэмы «Слова пра Мінск» (1968), раманаэпапеі «Сустрэнемся на барыкадах» (1951—54), раманаў «Серадзібор» (1961—63, Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1964),

«Лесавічанка» (1980, не закончаны) і інш. Выйшаў Збор твораў (т. 1—4, 1969—71; т. 1—5, 1984—86). Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы Э. Ажэшкі, У. Бранеўскага, С. Р. Дабравольскага, Л. Кручкоўскага, Е. Путраманта.

---

## ДАРОЖКА

Дарожка з вербаў выбегла,
памчала за сяло,
як быццам з дому выгнану
бяздолле павяло.

Ляцела, прыпынілася,
цыгнула за масток,
мураўкай пакацілася,
нырнула у лясок,

Зялёнаю красуняю
трашчала па сучках,
пастушкаю-пявунняю
шугнула па кустах.

З лясочка ў жыта роўнае,
як хваля, паплыла
і жнейкаю працоўнаю
далёка жаць ішла.

То хусткаю квяцістаю
між хваляў прамільгне,
то дужкай залацістаю —
сярпом на міг блісне.

А як за жытам вольная
дыхнула сенажаць,—
цябе яна, прасторная,
ляцела абнімаць.

То стан твой стужкай красачнай
абніме-абаўе,
прытуліцца, як ласачкай,
вянок табе саўе.

І так пляла-старалася
дзявочы твой прыбор,
пакуль ты не схавалася
ў далёкі цёмны бор.

Ішла ты борам, сумная,
дзіцячаю пятой,
прыціхлая, задумная,
забытай сіратой.

Бор ціхім шумам дзедаўскім
цябе багаслаўляў
і, як бы нешта ведаўшы,
нічога не казаў.

Як з бору ў поле, шчырая,
разбегшыся, пайшла,
махнула птушкі крыллямі,
ляцела, як страла.

А потым бабкай згорбленай
на горку — ў добры час!
Там дзед-гасцінец з торбаю
бандураю брынчаў.

І ў далі акунулася,
як з ношкай, пабрыла,
прыстала, аглянулася,
слязамі заплыла.

Жабрачкай-папрашайкаю
ў шырокі свет пайшла,
няскончанаю байкаю
ты гора панясла.

Калі ў каптан адзенешся,
лахманная сям'я?
Калі ж багачкай вернешся,
дарожанька мая?

*1936, сакавік,*
*Вільня, астрог «Лукішкі»*

## СОН АБ АГРАНОМЕ

У плыні месячнай ноч сцеле зорамі расы,
Звініць крыніца аб карчы...
Ў чаротных далях змрокі трэплюць валасы,
А пушча
маўчыць.
Дзіч і шорах крочаць,
Гоняць шэлест асакі,
А пушча ўвокал вокам сочыць,
Дзе загараюцца на травах светлякі.

І што ж ты тоіш, пушча?
Што ў сваіх нетрах захавала?
Каму калыскаю была праз век прыгонны,
век дрымучы?

Скажы, каму
ты песні шумныя пяяла?
Звініць крыніца аб карчы...
Скажы мне, пушча, не маўчы.

Тваё мне ведамыя сны,—
Я знаю, сніш ты згубу гору.
Тут кожны корч, і кожны куст,
І шопат кожнае сасны
Душою нашаю гаворыць —
Душой народна-беларускай,
Што лахманом трасла вякамі
Над паншчыннай палоскай грузкай,
Над шляхам, плыўшым жабракамі;
Душой, раздзёртай ад трывог,
Раскрыжаванаю на ростані дарог!

І разам з пушчай сню
Аб родным аграноме бальшавіцкім,
Які народную вясну
Уквеціць сонечнымі лісцьмі.

Калі зары чырвонай шквал
Змяце сляды навалы панскай,
Сваім праменем стрэльне ў лоб
Усёй заразе акупанцкай,—
Не будзем, пушча, гараваць,
Лятунак наш не будзе сном:
Ударны прыйдзе аграном,
Збярэ сыноў сям'і батрачай,
З-пад цёмных стрэх збярэ паход
І на штандары ён назначыць:
«Усё для народа
і ўсё праз народ...»
Рухавіком, нібы стралой,
Пратне балоты, мхі і лозы
І разам з плесняй векавой
Затопіць мукі, здзекі, слёзы.
Квадратаў выкрасліць узор,
Малюнкам кіне на прасторы
І, як вянкамі-дзеразой,
Палеткі новыя прыстроіць,
Шашою бліснe з краю ў край,
І край наш стане, быццам рай.
Люд-пралетар, люд песні-працы
Заб'е прыгоннае пракляцце,—
Па рэйках новых і па шынах,
Ўздыхнуўшы вольнымі грудзьмі,

Сталёвым туркатам машыны
Па пушчы рэхам загрыміць!
І ўторыць будзе перабіўны
Крыніц радзімых спеў турбінны!..

Як будуць змыты ўсе сляды
Амшэлай, дзікай, горкай плесні
Краіны нашай, век забранай,—
Прыйду, праменны, я тады
З той падарожжы барацьбянай
На свята трактарнае песні.

І на чале брыгад змагарных,
Ў паходзе — чырвані штандарнай,
У дзень квітнення прамяністы,
Дарогай — беллю камяністай.
Б'ючы паходным, смелым крокам,
Сустрэне з песняю мяне
Круглавідны, сінявокі,
Рассмеяны і жвавы піянер.

*1937, люты*
*Гродзенскі астрог*

* * *

Я маю сонцы два —
Адно святлом хвалюе,
У працы творчай дня
Яно мяне цалуе.

Другое сонца маю —
Ў надзеі тут і там
Ў ім шчасця я шукаю —
Яго цалую сам.

*1940*

## ПУШКІНСКАЯ ВОСЕНЬ

На полі ціш. Даўно пажаты нівы,
І даль мяраэжыцца асенняю імглой,
Напевы дальнія, як бомы-пералівы,
Плывуць з далін над ціхаю зямлёй.

Міжволі хочацца заслухацца ў прасторы,
Адчуць свае дзіцячыя гады,
Дзе кожны паварот дарогі мне гаворыць
Аб пройдзеным, далёкім, маладым.

Не развітацца мне з таёмным шумам сосен,
Што ўдаль глядзяць з курганнай вышыні,
Дзе ліраю звініць мне пушкінская восень
І будзіць спеўныя для сэрца думы-сны.

І любасць цёплая, як хмарка ў небе чыстым,
Плыве у сэрца з пушкінскіх карцін,—
Той спеў дзяцінства ў вечар серабрысты
Кранае «Бурею» і «Вновь я посетил»...

Здалёку чую шум знаёмы сосен,
Нясу заветнае любові плынь
Да тых бяскрайніх, светлых далячынь,
Дзе ліраю звініць мне пушкінская восень...

*1949*

## ДЗІВАСІЛ

Ёсць расліна дзіўная ў народзе,
Яна ходзіць казкаю па ўсіх,
Мо калісьці пры цяжкой нагодзе
Так празвалі людзі — «дзівасіл».

Мы сядзім ля плота. Бабка з намі —
Усё вядзе свой даўні, дзіўны сказ,
Як жылося цяжка пад панамі,
Як пабіты сын быў — Апанас,

Як паны яму пабілі грудзі,
Бо змагаўся ён за долю ўсіх...
«Я ўжо думала, што жыць не будзе,
Аж знайшлі ратунак... дзівасіл...

Ён падняў на ногі майго сына...»
Бабка кажа рознае пасля,
Як раслінку гэтую так дзіўна
Напаіла сокамі зямля.

А ён вось за плотам жоўтым квеццем
Ўсё ківае нам над галавой
І не ведае, што ён на свеце
Так здружыўся з людскаю бядой.

«Калі вам на сэрцы цяжка стане,
Адбярэ вам немач рэшту сіл,
Не сумуйце, дзеткі...— Бабка ўстала.—
Дам вам на дарогу дзівасіл».

*1956*

## ЖУРАЎЛІ

Станьма. Цішыня. Як адпачын зямлі.
Ледзь чутны дзятла стук у гушчыні далёкай...
Як толькі можа ўвысь заглянуць вока,
У вырай цягнуць ў небе жураўлі...

Ўсё чуе тут асеннюю пару:
Бяроз на ўскраіне задума расставання,
Ў някошанай траве вужакі шалястанне
І сумнае пад небам: кру-кру-кру.

Ляціце, родныя! І [illegible] б хацеў мець вашы крыллі,
Аб чым у цяжкі час не раз душой згараў.
Мне і цяпер к палёту мары не астылі —

Я ж мушу тут адкрыць нязнаны рай!
І што б часы нам ні судзілі,
Я не пакіну родны край!

*1959*

## ДРУГУ НЕВЯДОМАМУ

Знаць, недарма сплятаў вянкі Пятрарка,
клаў на алтар любві свяшчэнны дар
і на пасмех нікому не аддаў
сваіх праменняў сэрца яркіх.

Бо ад тугі да шчасця шлях не гладкі,
яно куецца сэрцам кожны дзень
і за сабой нястрымліва вядзе
агеньчыкам патульным, як украдкам.

Вось так і я, нязнаны, сэрцам жудны,
услухаўся ў асенні шум густы
і у прастор задуманы і мудры,

і за лістком сачу я залатым —
і скрозь павевам ветра прыгалубным
шлю другу невядомаму лісты...

*1959*

## ВЯЧЭРНІЯ ДАЛІ

*Памяці Веры Харужай*

Вячэрнія далі вялі за сабой
Вячэрняю, шэрай задумай,
Нямой пуцявінай, знаёмай журбой,
Сірочаю казкаю сумнай.

Сярод камяністых палёў праляглі
Любімыя сэрцу дарожкі,
Па долах да ціхай стаптанай зямлі
Прыпалі дрымучыя вёскі.

Туды ты ляцела з гарачай душой
І сыпала кветкі уцехі,
І шум захаплення з табою ішоў —
Цвілі саламяныя стрэхі.

Быў шумны і верны народны гушчар,
Ён знаў залатыя праменні —
Цану непадкупных, крывавых ахвяр
І гарт запаветных імкненняў.

Ён ведаў і ведае, чым ты была
Для долі кайданнай, цямрычнай,—
Ты ўсё для народа нясла, аддала,
І смерцю сваёй гераічнай

Ты памяць пакінула ў сэрцах жывых,
Святую пакінула памяць,
І ведай — у буднях і днях баявых
Наш край нашай славы не спляміць,

І там над шляхамі, дзе шум баравы
Пра штурмы і смерці гаворыць,
Не згасне шырокі прастор агнявы,
Што выткалі ціхія зоры...

*1960*



# МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Мікола Хведаровіч (Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч; 6.4.1904, г. п. Капыль Слуцкага р-на Мінскай вобл.— 20.8.1981). Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1931). Працаваў у прэсе. У 1937 г. рэпрэсіраваны, жыў за межамі Беларусі, з 1956 г. у Мінску. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар кніг паэзіі «Настроі» (1929), «Рытмы» (1930), «Тэмпы-кантрасты» (1931), «Усім сэрцам» (1937), «Залаты лістапад» (1957), «Перазвон бароў» (1961), «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1974) і інш. Выступаў і як празаік, перакладчык («Віцязь у тыгравай шкуры» Ш. Руставелі — з А. Звонакам; зборнік Ш. Пецёфі «Ліра і меч», 1971 і інш.).

* * *

Паміж хмараў месяц ясны
Ціха коціцца па небе.
Залатыя віснуць пасмы
Ад калоссяў спелых хлебных.

З гаманліваю асінай
Вецер шэпча на пакошы.
Асыпаецца маліна
У імшысты жоўты кошык.

Зачарованае поле
Абягаюць хмараў цені.
Ціха дрэмле наваколле
Ў цёмнай ночы на каленях.

Ліпы — стройныя красуні
У намітках паркалёвых,
Прытуліўшыся да пуні,
Пра каханне шэпчуць словы.

*1927*

* * *

Гукні мяне,
Вясенні кліч,
І я ізноў прыйду
Набраклай ворнае зямлі
Адчуць жывучы дух.

І не скажу
Нікому я,
Што поўны светлых мар.
Мая чароўная зямля —
Багацця уладар.

А ўсё ж пачуй,
Які разлад
Жаданняў і душы.
Мне хочацца прыйсці назад,
Дзе сон палёў і шыр.

Дзе санцапёк
Тваю красу
Цалуе ясным днём,
Цвіці
І нівай каласуй,
Мой пульхны чарназём.

Мае шырокія палі,
Мой ціхі далягляд,
Загоны ворнае зямлі
І сонца вадаспад!

*1928*

## ТЭМПЫ-КАНТРАСТЫ

Таварышы!
Маладосць кіпіць настроем,
Кожнае слова
Бярэцца з бою.
Нервы дранцвеюць такою
парою,
Сэрца наліваецца
Гарачай крывёю,
Хочацца рынуцца
Ў бойку рашуча,
Ўрэзацца куляй
Ў бар'ер перашкодаў:

Кожнага атама
Ярасць, рашучасць
Агульным імкненням
Аддаць не шкода.
Таварышы!
Гляньце — жыццё  навокал.
Вы чуеце сёння
Яго пульсацыю?
Гэта эпоха нясе ненарокам
Творчай магутнасці
Кандэнсацыю.
Пульса удары —
Сугучны настрою,
Рытмы у працы
З'яднаны, адзіны.
Гляньце!
Наліваецца электрычнай крывёю
Магутнае цела
Маёй краіны.
Гляньце,
Як крышыць яна бар'еры
Ўсякай нікчэмнасці
Сталёвым крокам.
Поўная еднасць
Магутнае веры
Насычана рухам
Электрычнага току.
Чуеце!
Сэрца і імкненнямі разам,
Чуеце!
Рытмы пульсаў сугучны.
Цвёрдая апора —
Энергіі база —
Паверх бар'ераў
Перашкод і кручаў.

Веру і крочу
З эпохаю разам,
Рынуся ў працу,
Дзе больш небяспекі.
Лепш у бяздонне
Зваліцца потарч,
Як чыкільгаць
У жыцці калекай.
Лепш загартуем
Жыццё навальніцай,
Порахам,
Дымам,
Запалам
І громам.

Будзем адважна
За справу біцца,
Ворага не пусцім
Да нашага дома.
Будзем ісці,
Падымацца і падаць,
Праз агнявішчы
Ў атаку бегчы,
Каб чуць перамогі
Магутную радасць,
Удзел каб адчулі
Сяброўскія плечы.
Таварышы!
Гляньце — жыццё навокал.
Вы чуеце сёння
Яго пульсацыю?
Гэта эпоха
Нясе ненарокам
Творчай магутнасці
Кандэнсацыю.

*1931*

## ЕНІСЕЙСКІЯ РЫБАКІ

Пад ветрам бушуюць шумлівыя хвалі
На рэйдзе магутнай ракі.
Ідуць параходы ў палярныя далі,
На поўнач плывуць рыбакі.

А бераг, усыпаны дробнаю галькай,
Як ветразь пад бурай, шуршыць;
І хваля ўздымаецца снежнаю чайкай,
І бераг ад хваляў дрыжыць.

Нагружаны ліхцер не ведае качкі,
Ён вытрымаў мора прыбой.
На снасцях і ў труме вартуюць рыбачкі
Сваіх рыбакоў супакой.

У цёмную ноч пераблытаць дарогі
Няцяжка. Але ліхцяры
На правільным курсе мінаюць парогі,
Падводных завалаў бугры.

Не першы ім раз Казачынскай градою
Мінаць крутабокі завал,
Не раз пагражалі парогі бядою —
Ды рукі трымаюць штурвал.

Нялёгкая справа правесці пуціну:
То сонца іх смаліць, то дзьме снегавей.
На ліхцер рыбак замяняе хаціну
І жонку бярэ, і дзяцей.

Кіпіць Енісей мнагаводны, як мора,
Сустрэўшы сівы акіян.
Рыбак на успененых гнеўных прасторах
Плыве праз сцюдзёны туман,

І норавы хітрыя рыбаў ён знае,
Глыбіні ўсе вымераў злоснай ракі;
Сапаты таймень ад прыманкі ўцякае,
І сеткі сцярляджыя рвуць касякі.

Малых тугуноў ён бярэ венцярамі
На ціхіх затоках ні свет ні зара.
Глыбінныя воды кішаць асятрамі,
Нялёгкая справа — лавіць асятра.

Ужо запаўняюць шырокія бочкі
Срабрыстыя омулі, сыты залом.
Збіраюцца разам лавецкія «точкі»
Падлічваць улоў за брыгадным сталом.

Тым часам віхура ударыць,— палундра!
Нясе акіян марасей.
З балот і азёр неабсяжнае тундры
Пагоніць крыклівых гусей.

І зноў рыбакі, прабіваючы хвалі,
Да родных плывуць берагоў:
Пяюць рыбакі пра туманныя далі,
Пра слаўны багаты улоў.

Нагружаны ліхцер не ведае качкі,
Ён вытрымаў мора прыбой.
У трумах начамі вартуюць рыбачкі
Сваіх рыбакоў супакой.

*1956*

* * *

Белы месяц стаіць уначы,
І, як днём, па ўсёй тундры відно.
Гаманлівыя птушак ключы
Паляцелі на поўдзень даўно.

Толькі шэпча пад ветрам аер,
Звоніць лістам замерзлым пустым,
І блакітныя воды азёр
Заварожаны месяцам тым.

Але там, дзе ў лазе берагі,
На сцюдзёнай азёрнай вадзе,
Пад завеяй сярдзітай пургі,
Засталася сям'я лебядзей.

Ім цяпер да нябёс не ўзляцець,
Бо ў сяброўкі зламана крыло...
І халодную страшную смерць
З берагоў акіяна мяло.

Над замёрзлай азёрнай вадой
Белы лебедзь кружыў і кружыў,
Па сяброўцы любімай сваёй
Лебядзінаю песняй тужыў.

Ён упаў да яе на ваду.
Закружылі ўгары маразы.
І застылі яны на ільду,
Ля кустоў узбярэжнай лазы.

Лебедзь той уваччу прада мной,
У бядзе ён загінуў, як друг,
У змаганні з сярдзітай пургой
Развітальны свой робячы круг.

*1956*



# ПАЎЛЮК ТРУС

Паўлюк Трус (Павел Адамавіч; 6.5.1904, в. Нізок Уздзенскага р-на Мінскай вобл.—30.8.1929). Скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум (1927). Працаваў у рэдакцыі гомельскай газеты «Палеская праўда» (1927—28). Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1928—29). Друкаваўся з 1923 г. Пры жыцці выйшлі зборнікі «Вершы» (1925), «Ветры буйныя» (1927). Надрукаваны «Збор твораў» (1934), «Творы» (1935), кніжкі выбраных твораў («Выбранае: Вершы і паэмы», 1979 і інш.).

## ВЕЕ ВЕЦЕР...

Вее вецер
Ды з-за гаю —
Вецер на даліну,
Над ракою нагінае
Тонкую каліну.

Ой, гайдае над ракою
Ці не кветку-рожу?..
У зацішку з асакою
Ветравей варожыць.

Вецер, вецер,
Буйны вецер!..
Спеў ад сэрца льецца.
Маіх песень голле-вецце
У вянок заўецца!..

Вецер вее
Ды з-за гаю —
Вецер на даліну,
Над ракою
З асакою
Пахіліў каліну.

*1924*

## ЗОЛАК ВЯСНЫ

Зара ружовая абуджвае далі,
І сны таемныя скідае шыр-разгон;
Гамоняць, вольныя, спяваюць струны-хвалі
Жыцця бурлівага.
Гудзе сталёвы звон.

На ўлонні тых жывых чырвоных гоняў,
Дзе ўчора бура нам спраўляла баль,
Жыццё хвалюецца і пеніцца сягоння,
З грудзей зямлі змывае смутак-жаль.

Мінулых дзён размытыя вадою,
Дазорцы вольныя і сведкі — курганы
З туману цягнуцца, выходзяць грамадою
Пабачыць хараство чаруючай вясны.

Абшар лугоў квяцістых, кашміровых
Глытае водгулле і спеў маладняка...
Знікае смага-дым, прачнуліся дубровы,
І песня-гімн плыве ад лазняка.

Зялёны гай смяецца пад блакітам,
Празрыстым поглядам вітае рань-вясну,
А помсты вецярок гуляе на ракітах,
І казку вольнасці разносіць ён адну.

*1924*

* * *

То не гул завірухі мяцежнай
І не рокаты ўпартага мора,—
Гэта Нёман разліўся бязмежна
На грудзях Беларусі прасторнай.

Чую песні стыхіі-разводдзя,
Не стрымаць твае вольнае плыні!
Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.

І шумяць аграмадзіны-крыгі,
Разганяюцца ўдаль безупынна!..
Анямелі мінулага ўздрыгі
Ў хвалях жыцця магутна-няспынных.

О бурліва-кіпучыя хвалі!..
Вам не страшны пажар навальніцы;
У прыгожа люстраныя далі
Разам з вамі і мне не спыніцца.

Адпіхнуўшы ад берага човен
І махаючы прысам кляновым,
Я плыву,— і надзеяю повен,
Што спаткаю сусвет вольна-новы!

*1925*

## ДЗЕСЯТЫ ПАДМУРАК

**Урыўкі з паэмы**

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном...

Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.

Дзесьці у прасторах
празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі
нечае тугі...

І здаецца зноўку —
еду я дадому
Пераведаць родных,
блізкіх, дарагіх.

Адхінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне,

А ў душы квяцістасць
і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
сыплюцца на снег.

Зноў зіма паслала
снежныя кілімы,
Зажурыла беллю
паплавы, лугі,

І прыходзіць радасць
у красе маўклівай.
Адплываюць хвілі
смутку і тугі...

А сняжынкі сеюць
кволую імглістасць,
Падаюць бялюткі
за маім акном,

І цвіце на вішнях
снежная ўрачыстасць,
Сцелецца на скронях
перад ранні сном.

Хочацца навеяць
казкі-таямніцы
Гукамі мелодый,
радасцю без слоў.

І застылі сцені
у маёй святліцы,
Засынаю... сніцца
роднае сяло.

III

. . . . . . . . .

Край легенд,
крыжоў, магіл-курганаў,
край тугі —
бальзам жывых крыніц...

Край смугі,
бялявых кос-туманаў,
край палёў,
краса шумлівых ніў...

Край балот,
нізін, азёраў наскіх,
край лясоў,
маўклівых сосен-струн...

Край паэм,
адвечных песень-казак —
дарагая сэрцу
Беларусь...

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
на гарачых крыллях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
залатыя свецяцца агні.

Дзесяць год упартага змагання,
дзесяць год змагання й перамог.
Толькі сцені плачуць на кургане,
прасціраюць рукі ля дарог.

Хто ж гадаў, як наплывалі хмары,
хто ж гадаў, хто думаў, а ці сніў,
што краіна соннага надхмар'я
расцвіце у чырвані зарніц.

Творчы міг... Напорная імклівасць...
Працай тут заняты муляры.
І пад небам зорнасці маўклівай
вырастаюць волаты-муры.

— Добры дзень, аснежныя прасторы,
добры дзень, сталіца хараства!
Скора ў бляску вечара, ой, скора
празвініць на вуліцах трамвай.

І тады я стану пад гарою,
каб пазбыцца смутку і журбы,
буду слухаць песні Асінстрою,
захаплюся музыкай турбін.

Край легенд,
адвечных песень-казак,
край паэм —
бальзам жывых крыніц...

Край балот,
тугі азёраў наскіх,
край цішы
і громаў-навальніц...

Край лясоў,
мінулых дзён паўстання,
край нізін —
прастораў дальніх шыр...

Край палёў...
О край, —
калі ж ты станеш
краем фабрык дымных
і машын?..

*1928*

## З СТУДЭНЦКАГА ДЗЁННІКА

Расцвітала зара
На чарэшнях у гаі,
Спавівала маністамі нівы...
Ты прыйшла... Адышла...

І пайшоў я у свет,
Ў агняцветны прасцяг —
Ў залатыя прасторы прадвесня,
Каб душою гарэць
Ў бурным моры жыцця,
Беларусі дарыць свае песні!..

Расцвітала зара,
Дагарала ў гаі,
Ціха гаслі асеннія зоры,
Ты прыйшла, адышла,
І на сцежках страі...
І чаўны адплываюць ў прасторы.

А ці помніш? Ці не?
А ці помніш той дзень?
Залатыя зарніцы над краем?
Ты была для мяне
Песняй казак-надзей,
Маці, маці мая дарагая!

*1927*

## ДЗЯЎЧЫНЕ

Яшчэ зіма...
Мярэжы-строі
Ўраніла зорнасць
за акном.

Якая ноч...
Ў маім пакоі
Сон-цішыня
даўно, даўно.

Сяджу адзін...
А на стальніцы
Букет юнацтва
з веаргінь.
І просіць сэрца
навальніцы —
Сімфоній радасці
й тугі...

Пішу... Гадзіннік
адзінока
Прабіў дванаццаць
на сцяне.
О, як шкада,
што мы далёка:
Я — ад цябе,
ты — ад мяне.

І што сказаць?
Ну, што, Марына?
Сказаць адно,
адно ўсяго:
Жыву сягоння
успамінам,
Што падарыла
мне яго.

Я помню дні
сваіх вакацый:
Была вясна...
Сады ў імгле...
Я сустракаў
цябе за працай
У сельсавеце
на сяле.

Цвілі сады...
Я помню вечар...
І ў гэны вечар —
май вясны —
З табой апошняя
сустрэча
Была на мітынгу
адным...

Ты ўся жыла.
Ліліся словы;
Як лебедзь,
плавала рука.
Ты захаплялася
прамовай,
Лістом-адноснікам
ЦК.

Ты гаварыла
аб камуне,
Аб тым, як жыць,
як будаваць.
А свежы вецер
на трыбуне
Тваё аблічча
цалаваў.

Жывым агнём
гарэлі вочы,
Віталі яркую
світань.
Табе не раз,
не раз, а двойчы
Іграла музыка —
«Паўстань...»

Я сам гарэў
агнём трывогі,
Парывам шчасця
ў барацьбе.
Ты верыш сёння
ў перамогу,
Як моцна верыла
ў сябе.

Бывай... Гадзіннік
адзінока
Прабіў чатыры
на сцяне.
А ўсё ж шкада,
што мы далёка:
Я — ад цябе,
ты — ад мяне...

*1929*



# АДАМ РУСАК

Адам Герасімавіч Русак (24.5.1904, в. Пясочнае Капыльскага р-на Мінскай вобл.— 21.3.1987). Скончыў Беларускі музычны тэхнікум (1930), Ленінградскую кансерваторыю (1934). Працаваў музыкантам у Ленінградзе і ў Мінску. Друкаваўся з 1927 г. Аўтар паэтычных кніг «На родных палетках (1946), «Песні» (1954), «Толькі з табою» (1960), «Звонкія крыніцы» (1965), «Закрасуйся, Нёман» (1978), «Засцілайце сталы» (1984) і інш. Для дзяцей выдаў кнігі вершаў «У Буслаўцы» (1967), «Добра ведаю ўрокі» (1981). Многія вершы А. Русака сталі шырока вядомымі песнямі («Бывайце здаровы», «Лясная песня», «Як павёў мяне Цімох» і інш.).

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

Ў зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем,
А вашае ласкі
Павек не забудзем.

Мы слаўна гулялі
На вашым вяселлі,
Было ж нам даволі
Ўсяго, што хацелі.

У вашым калгасе
Шырокае поле,
Няхай жа для шчасця
Цвіце ваша доля.

На рэчках на вашых
Бурліліся б воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.

Каб кожны у працы
Быў дужы, дзябёлы,
Хлявы былі б поўны
Усякай жывёлы.

Кароў шмат і коней,
Свіней і авечак,
А куры каб неслі
Па возу яечак.

Каб жыта у полі
Трубою вілося,
А ў хаце, каб сала
Кублямі вялося.

Штодзень у капусце
Каб плавала скварка,
А к ёй, калі трэба,
Знайшлася б і чарка.

Каб вам шанцавала
Часценька на госці,
Ніхто каб ніколі
Не меў на вас злосці.

Каб дружнай работаю
Вашай брыгады
Усе ганарыліся,
Ўсе былі рады.

Каб вы падрасталі
Ад года да года,
Каб вам і пашана
Была ад народа.

Жадаем яшчэ вам
Прыбытку у хаце,
Ні мала ні многа —
Штогод па дзіцяці.

Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.

Дарогу ж мы знаем
Да вас, ягамосці,
І ездзіць да вас будзем
Часта у госці.

То на адведы,
То на радзіны,
Вазіць каравах
Па дзве паўасміны.

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

*1936*

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады.
    Толькі сэрцам пачую
    Тваю песню лясную
Ды успомню былыя гады.
    Ды успомню пажары,
    І варожыя хмары,
І завеі халодных снягоў,
    І слату, і нягоды,
    І начныя паходы,
І агні партызанскіх кастроў.
    Край любімы мой, родны,
    Ты на свеце свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
    Каб ніколі, ніколі
    Ты не быў у няволі,
Каб чырвонымі кветкамі цвіў.
    Адышлі тыя годы,
    Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць.
    Ой, бярозы ды сосны —
    Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць.

*1950*

## ТОЛЬКІ З ТАБОЮ

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою.
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Ранняй часінай к табе я лячу,
Позняй парою,
Толькі к табе прыхіліцца хачу
Сэрцам, душою.

Выйсці у поле, дзе нівы шумяць
Там, за ракою,
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Гэтак не страшны цяжкія шляхі
Будуць з табою,
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою.

*1955*

## НЕ ШУКАЙ

Не шукай ты мяне
Каля жытніх палёў,
Не шукай,
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай...
Не кажы ты мне слоў,
Што не грэюць цяплом,
Не кажы...
Калі сэрца тваё
Не палае агнём,
Не кажы...

Не спявай пад акном
Ты мне песні сваёй,
Не спявай...
Калі ў сэрцы не я
Буду песняй тваёй,
Не спявай...
Не шукай ты мяне
У цішы вечароў,
Не шукай...
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай...

*1956*

## ДЗЕ ТЫ, ЗОРКА МАЯ

Дзе ты, зорка мая прамяністая?
За якія ты хмары скацілася?
Дзе ты, радасць мая залацістая?
На якой ты сцяжынцы згубілася?

Я шукаю цябе, углядаюся
У нябесныя далі высокія.
Без цябе мне дарога не ясная,
Што ляжыць у прасторы далёкія.

Дзе ты, зорка мая непагасная?
За якімі схавана аблокамі?
Узыдзі, засвяці, зорка ясная,
Шчасцем сэрцу майму адзінокаму.

*1964*

## КАПЫЛЬСКІЯ ДУДАРЫ

У Капылі на гары
Заігралі дудары.
Перша дудка — салавейкам,
А другая — канарэйкай,
Трэцяя — пяе-варкуе,
А чацвёртая — кукуе.
Пятая — дык польку грае,
Аж у скокі паднімае.

А хто ж тыя дудары?
Прыглядзіся, разбяры.
Дзве Алёны — дзве даяркі,
Дзве Настулі — дзве свінаркі,
Дзве закройшчыцы Марылі,
Што ад песень замарылі.
Два Іваны — слесары,
Два Пятрусі — сталяры.

Пра што граюць дудары?
Ты паслухай, разбяры:
Дзве Алёны — пра каханне,
Дзве Настулі — пра спатканне,
Дзве Марылі — пра вяселле,
Слесары — пра наваселле,
Сталяры — пра навіну,
Што ўлюбіліся ў адну.

Слухаў гранне дзед Лявон:
Мне і старасць не закон,
Калі песня душу грэе,
Калі сэрца маладзее.
Дай жа тупну з весялосці,
Каб не нылі мае косці.
Ад капыльскіх дудароў
Буду молад і здароў.

*1968*



# АЛЕСЬ ДУДАР

Алесь Дудар (Аляксандр Аляксандравіч Дайлідовіч; 24.12.1904, в. Навасёлкі Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.). Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Друкаваўся з 1921 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «Беларусь бунтарская» і «Сонечнымі сцежкамі» (1925), «І залацісцей, і сталёвей» (1926), «Вежа» (1928), паэм «Шанхайскі шоўк» (1926), «Слуцк» (1934), апавяданняў. Выступаў як крытык пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі. Перакладаў творы А. Пушкіна, А. Блока, С. Ясеніна, Ф. Шылера, І. В. Гётэ, Г. Гейнэ, С. Стандэ і інш. Арыштаваны 31.10.1936 г. У 1937 г. прыгавораны да расстрэлу.

## ПАЭТЫ РЭВАЛЮЦЫІ

Мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны!
Ў дзень радасці кіпучае на свет з'явіліcь мы,
над нашаю калыскаю не сумны матчын спеў —
грымелі дні агністыя, змагання гром гудзеў.
Нас цешыў песняй-казкаю крывавы бог вайны,
для нас служылі цацкамі былыя кайданы.
Акопы былі школай нам, указкамі — штыкі,
гульня была вясёлая — ў «паны і басякі».
Гулялі не на жарты мы. Мы той гульнёй жылі,
паставілі на карту мы жыццё у той гульні.
Мы выйгралі. У полымі палаючага дня
чырвонай перамогаю спынілася вайна.

І ў грудзёх, натруджаных крываваю гульнёй,
блісвуў матыў абуджаны, гук песні агнявой.
Пяём віхурай песні мы, агнём рытмуем іх —
няма ў іх гнілі, плесені,
няма ў іх слёз нямых.
Ў іх гоман сталі звонкае, удары малатка,
напевы агнятонныя фабрычнага гудка.
Іх песнямі вясеннімі звівае чарназём,
лясы прыгожаць ценьмі іх вясёлы срэбразвон,
у іх не апяваюцца мінулыя вякі —
у іх вітаюць раніцу працоўныя палкі...
Прайшлі мы сцежкі вузкія, да сонца мы ідзём,
сталёвым звонам мускулаў мы вольнымі пяём...
Ў дзень радасці кіпучае на свет з'явіліcь мы,
мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны.

*1924*

## НАВАЛЬНІЦА

Праскакаў над бяздоннем
вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

Што ні крок — агонь і пажар,
і старому — у сэрца ўдар.
І закон — на канцы нажа.
І не страшны ні бог, ні цар.

Чырванее ўжо белы снег:
хто прачнуўся —
больш не засне.
І араб, і суданскі негр
заспявалі аб новай вясне.

Звонка ляснуў і стаў варштат.
Загудзеў рабочы квартал:
— З барыкадаў — ні кроку назад,
злітавання не дасць капітал!..

І на вуліцах б'е барабан:
барацьба, барацьба, барацьба!
Страшны суд затрубіла труба:
памірае ўсяўладны банк.

І гарацъ навальніцы агні.
Свет стары да астатку згніў.
І вякі з верхавін пірамід
паглядаюць на нашы дні.

Праскакаў над бяздоннем вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

*1925*

## КАМЯНІЦА

Гэты дзень пракляў глухі завулак —
для завулка страшны час прабіў.
Як манашкі, заламалі рукі
хаткі — патрухнелыя грыбы.

Муляры — народ такі вясёлы:
малаток ды песня — іх сябры.
Загудзелі людзі, нібы пчолы,
то завулка прадсмяротны крык.

Паляцелі з ног старыя хаткі;
разнясліся з крыўдай груганы:
— Вось яны, праклятыя парадкі!..
— Вось яны, цяперашнія дні!..

Навязлі каменняў, белай вапны;
цэлы дзень працуюць муляры.
На муры скідаюць вокам сквапным
патрухнелых хат гаспадары...

— Нам бы, мабыць, гэтакіх палацаў
не пабачыць як сваіх вушэй!..
Муляры рытмуюць песню з працай,
і муры растуць штодня вышэй.

І ўзрасла надзіва камяніца.
Цешыць сэрца свежасць белых сцен.
Нават і суседняя званіца
перад ёю затанула ў цень.

Палілася сіла з жыл мядзяных,
пацякла з паверха на паверх.
І ліхтар кульгавы жоўтай плямай
перад новым светам ціха змерк.

Замільгалі ціхія газніцы
з шэрых хатак, нізкіх і сляпых.
Што яны прад стройнай камяніцай?
Як прад імі — прыдарожны пыл!..
Прыйдзе час, і з прыдарожным пылам
попелам рассыплюцца яны,
бо буяней кроў ў мядзяных жылах,
бо цвярдзейшы крок у камяніц!

І, як цені, у глухім завулку
дажываюць свой нядоўгі век,
покуль муляр з малаточкам гулкім
ім ў труну заб'е апошні цвік.

*1928*

## НА СТАНЦЫІ

Жыццё імчыцца ў даль, за семафоры,
дзе ціш палёў,
дзе гулкія лясы,
дзе сінню разатканыя прасторы
птушыныя калышуць галасы.

А тут, за вадакачкаю цыбатай,
ў балотцы жабы стогнуць цэлы дзень,
мычаць каровы, сцежкі пахнуць мятай,
ад ліп старых паўзе маўклівы цень.

Тут сонца колеру чырвонай медзі
на насыпах пад вечар зіхаціць;
ля будкі барадатыя суседзі
сышліся перад сном пагаманіць.

А на пероне ўвечары дзяўчаты
глядзяць прыветна ў вокны цягнікоў
і парамі вяртаюцца дахаты,
да звыклых кветак і нязвыклых сноў.

Калі ж лугі агорнуцца ў туманы,
маўклівасць лес напоўніць давідна,
дык будзе рэек сплёт адшліфаваны
гудзець, нібы басовая струна.

І калі будуць шпаркія вагоны
ля нас ў даль бяскрайнюю імчаць,—
мы ведаем: на нашыя загоны
уважлівыя вочы з іх глядзяць.

Але як скажа час і нам падняцца,
дык, углядзеўшыся ў святло ці ў змрок,
мы ўбачым сотні гэткіх самых станцый
на дальняй трасе Мінск — Ўладзівасток.

І нам дзяўчаты яснымі вачыма
са свежасцю семнаццаці гадоў
перададуць ад Мурманска да Крыма
прывет для незнаёмых сваякоў.

І мы памчымся з весткаю шчаслівай
праз гулкі лес, праз жоўтыя палі...
Мы не адны на станцыі маўклівай,
на цёплай нашай, сонечнай зямлі.

*1936*



# УЛАДЗІМІР ХАДЫКА

Уладзімір Марцінавіч Хадыка (3.1.1905, в. Цітва Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 1.7.1940). З 12 гадоў працаваў парабкам. У 1923 г. скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Служыў у Чырвонай Арміі, працаваў сакратаром сельсавета. Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Суніцы» (1926). «Выбраныя вершы» (1932), «Радасны будзень» (1935). Выйшлі «Выбраныя вершы» (1956), «Вершы» (1969), «На ўзвеях дзён» (1986). 26.11.1936 асуджаны на 10 гадоў зняволення ў сталінскіх лагерах.

## СНАПОК АЎСА

Мне сказала маці: выжні
Ты цялятам асакі...
Калыхаўся ціха здрыжнік
Ля блакітнае ракі.

Мне сказала маці: туга
Натапчы і прынясі...
Гаманіла неба з лугам,
Гаманіла з небам сінь.

Маці мне сказала: ў хату
Ты астатняе усып...
Жалі ў полудзень дзяўчаты
Недажатыя аўсы.

Па балотах і аблонях
Я зялёнага шукаў...
Сенажаці збілі коні,
І пасохла асака.

Па дарозе невядомай
Беглі кветкі і раса...
І да матчынага дома
Я прынёс снапок аўса.

*1927*

* * *

Прысядзем, ночка, на траве,
Прытулімся бліжэй к каліне.
Ідылія мая плыве,
Ідылія мая не гіне.

Я помню і дагэтуль твар
І вочкі ў кудзерках заспаных...
Яна была — суладдзе мар,
Яна з лілей была саткана.

Бывала так: вясна гарыць,
І сэрца, чулае надзвычай,
Умела ведаць, што з гары
Яго увечары пакліча.

Я многа выпалатых дум
Кідаю па бярозках рэдкіх
І (блудам выпіты) іду
К табе пагутарыць, суседка.

Мне хочацца цябе адну
Туліць цяплом вясновай былі
І ладзіць чыстую струну
Ў страі малюнкавых ідылій.

Мне хочацца, краса мая,
З табою піць расу пялёстак,
І каб і ты была, як я,—
Непараўнанаю і простай.

*1928*

* * *

Пад сукрыстаю кволай раслінай,
Дзе ускопаны жоўты пясок,
Вецер лютаўскі поўсці аслінай
Адусюль шкуматоў навалок.

Падыходзілі збоку шакалы,
Падвывалі з балота ваўкі...
Веліч дзікая іх падупала,
Адслужылі свой тэрмін клыкі.

І пабеглі за багну ад жаху
Дзікіх мэс і свавольства цары,
Каб не бачыць апошняга шляху,
Каб не чуць негаданай пары.

І ў прамежках брыжовых адтулін,
Ў дбайнай нэндзе сваіх спасцярог,
Аддаюць на астатнія гулі
Старадаўнюю славу бярлог.

Паблажэлі звярыныя твары,
Вочы сумам глухім заплылі...
Не гуляць ужо ім па абшары
На агнях ўзбунтаванай зямлі.

*1931*

* * *

Я разабраў свой дом стары,
Я папаліў гнілыя сцены,
Я тлумам сноў дагаварыў
Над прысакам настрояў тленных.

Імглу жалоб душа кляла,
Ахвярна трушчыла надгробак.
І шкода мне было сяла
І музыкі жытнёвай вобак.

Гула ў здарожаных касцях
Дня рупнасць, дзе ні заначую,—
Што больш, заціснуты ў мурах,
Я гучных вёсен не пачую.

Што не паеду на начлег
З такімі добрымі хлапцамі...
І зімы ў хлюпаце адлег
Каля жалезнай пройдуць брамы.

І вёсны ў зглушанай ганні,
І леты ў штучным бляску камня
Пераляцяць, як авадні,—
Адгугняць згвалчаным паданнем.

* * *

Абрысы старадаўняй пушчы,
Святую смагу баек там
Нутром на попел ператрушчу,
Змяшаю з друзам папалам.

Ўскапаю дзедаўскі дрывотнік,
Па каліву перабяру...
І што не змог народ нямотны —
Я да канца дагавару.

Праз грані дум прайду у негаць
Прыгонных продкаў, курных хат...
За ўласным ценем мне не бегаць,
Не зводзіць вершамі дзяўчат.

Залёты, што былі дагэтуль,
Пазбаўлены свайго кутка...
Прыдумаць дру́жыну паэту
Цяжэй, як вобраз для радка.

Не схілены на ласку, сорам
Замрэ ў ладах натхнёных струн —
Тады ніякім загаворам
Не збыць паэзіі каўтун.

Дык лепш змагацца з невядомым,
Ісці благому насустрэч.
Я сон знайду, я буду дома,
Як спыняць рух вужакі рэк.

Зляту на сухазем'е лістам —
Ўладар начэй і дзён ўладар.
Вятры па горле галасістым
Прагоняць вір крыві і хмар.

Тады сваіх здабыткаў кайстру —
Што не дабраў, што стойваў сам, —
Я перадам другому майстру,
Другому сэрцу перадам.

*1932*

## ЗА СТРОЕМ ДАТ І РУБРЫК

**Урыўкі**

1

Вятры пяюць, прастор узняты спевам.
Празрысты рух блакітавых глыбінь.
Ступіць бы сну на халадок пад дрэвам
Ці целу рынуцца б на хвалі ўплынь.
Ўлагоджанай вады жывое срэбра
Разбіць, рассыпаць бы на ўзмах рукі...
Вярбы старой тарчаць сукі, як рэбры,
Адбітыя ў люстраным шкле ракі,—
Там вільгаць п'е галля шчарбаты рот,
Там мые дзень свой залаты жывот.
Ёй шмат гадоў, што йшлі праз крык тугі
Да першай радасці грымот вясенніх...
Людзей вучылі поўзаць на каленях,
Ўслаўляючы пятлю сваёй чаргі.
І вокам хітрым свой святы парог
Лагодна аглядаў распяты Бог.
Яму вачэй не еў туман малітвы,
Яго паслаўшыя не ведалі пакут...
Няхай жыве, хто край узняў на бітву
З эпохай чорных дзён і горкіх рут!
Няхай жыве, хто ў зброддівую замець
Быў полымем, што растапляла лёд!..
Іх зберажэ давеку наша памяць,
Зямлі аднoўленай аднoўлены народ,—
У сэрцах несучы вялікія імёны
Правадыроў сваіх. З імглы будзённай
Сівой мінуўшчыны на голас іх
Ішлі змагацца цвёрдаю ступою —
За ротай рота армій баявых,
І за героямі ішлі героі.
Ім — сонца вечнай славы, іх крыві...
Вадою срэбнай, светлы дзень, плыві!
Няхай гурчыць крутой ракі струмень —
Бярэ ён даль нячутнымі нагамі,
Нясе з сабой твой залаты прамень,
Бадзёра гутарачы з берагамі.
А прыйдзе ноч — абляжа віск асок
І пад рукой вільготнаю — пясок.

Акрэсляцца спакоем паплавы
І свежасцю паветранай — дарогі.
Заслухаецца шумам вербавым,
Заблытае ў тумане месяц рогі...
Праз сіні змрок прарвуцца стаі мар,
Душа праймецца глыбінёй яскравай —
Жыць будуць ў словах постаці ахвяр,
І словы загавораць нашай явай.
Тут кожны рух авеяны навек
Іх слаўным днём і слаўнай барацьбою,
Іх маладосць хадзіла па траве...
І, можа быць, пад гэтаю вярбою
Не раз туліў юнак лятунак свой,
Каб потым быць павешаным на ёй.
Боль ліхалецця... Плынь крывавых рэк...
Шумлівага лісця суровыя напевы...
Стаіць на беразе старое дрэва,
Як дум ўладар — упарты чалавек.
Як барацьбіт сівы над плёнам былі,
Яно ўзнялося горда над усім,
Што ўпершыню навек мы палюбілі...
І хочацца загаварыць мне з ім
Пра бурны час без хлеба і без сну
І пра яго і пра маю вясну.

II

Нямала дрэў зваліла ў бураломе,
Каб тлом гібець пад срэбны смех завей...
Так рэзала крутая смерць людзей
На першай і апошняй іхняй строме.
Прымеў спакой, хто слёзы знаў адны —
Дзе выбраў міг: без родных, без труны.
Так брала смерць. Аддаць жыццё за веру,
Цара і бацькаўшчыну — добры знак.
Каб неслі ў рай анёлы, як сабак,
Праз чорны ход, стварэнняў подлых дзверы.
Каб крыж усклаў на ваяўнічы лоб
Плюгавы генерал з душою на аркане,
Калі за ўсіх, хто паў на полі брані,—
Маўклівасць слоў пачне выводзіць поп.
Гады прайшлі, згубіў звярыны след

Лад, Богам дадзены, што даўся ў знакі...
Ўтаптаны ў гразь бліскучы эпалет
Адважнага кароннага ваякі.
Ўжо не стаіць на горле царскі трон,
І вывадкі прыдворныя варон
Не выдзеўбуць ужо драпежнай дзюбай —
Ні сэрца братняе, ні вочы любай,
Не вып'юць слёз ні матак, ні сясцёр,
Назаўсягды чужых далёкіх зор
Патушаны старыя дыядэмы
І зрынуты ў прадонне...

### III

Пі, радок,
Пі прагна радасць выбранай паэмы
І дбайна рэй вядзі за крокам крок.
Я атуліў цябе сваёй турботай,
Аддаў давеку цела і душу.
Хай дзівіцца яшчэ якая цнота,
Што аб табе не першы раз пішу.
Хай булькае даўгіх прамоў вада —
Нам у жыцці ўсё гэта не наўда.
Не за сябе і не за свой куплет,—
Трывожыць нас і дзень і ноч другое:
Знайсці такое слова залатое,
Каб пець народжаны ў змаганні свет;
Каб з новай эраю вітаць зямлю,
Якую сэрцам слаўлю і люблю.
Жыць новым днём святлей і дынамічней,
Умець ўва ўсім струну жыцця крануць
І чэмер дум змятаць, як змёў Кастрычнік
Ўсю дрэнь вякоў, ўсю лютаўскую муць.

### IV

Цень перабег на поплаў праз дарогу
І, сцішаны, ў зялёных хвалях знік.
Старэчы сімвал з торбаю былога
Маліцца прыцемкам даўно адвык.
Ў бярэма згробшы дзедаўскія спадкі,

Ён збег з вачэй, зласлівы небарак,—
Багну дзярэ яго сухі кулак,
Склінаюць свет апошнія нашчадкі,
Стагоддзяў чорных плачуць груганы
І ў слёзах слоў палошчуць рызманы.

. . . . . . . . . . . . . . . .

...На росны поплаў мяккі след кладзе
Празрысты вечар. Вецер-гарманіст
Абходзіць круг залатакосых хмарак.
Так круг дзяўчат, калгасніцкіх даярак,
Абходзіць часам ўдалы трактарыст.
Распаліць ён вачэй гуллівы жар —
І ў спрыце ног праходзіць адпачынак,
Як, за гектарам беручы гектар,
Пад ім хадзіла спраўная машына —
Уцеха гордасці і цёплых мар.

V

Мы гадаванцы ўсе адной краіны,
Вартуем часу плынь адных суток.
Крок рэвалюцыі — наш крок няспынны
Праз даль суровую, наперад крок.
За славу працы вольнай і за песні
Мы з кожным днём упарцей і балесней
Трымаем фронт — і трактарыст і бард...
І ў коле дзей, за строем дат і рубрык
Ўстае любіць працоўны авангард
Абшар зямлі, Саюз сваіх рэспублік,
Найлепшую айчыну ўсіх айчын,—
Пад еднасці штандар і гімн адзін.
Наш рэйд і шлях праз шторм варожых шквалаў...
І — ў ладзе хат і гарадскіх кварталаў,
Перад агнём наступных барыкад
Ашчадным быць на кожны цвік і камень —
Шаную, край, твой баявы загад,
Напісаны руплівымі рукамі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## VI

Мой дбайны век шляхам вядзе дазор,
Ўсё зверана да дробязей, да рыскі.
Пішу вясну ў святле наступных зор,
І свет увесь так родны мне, так блізкі.
Агонь жыцця душа вясной заве,
Каторая людской крывёй апета...
А ў плынях рэк, па залатой траве —
Крамянае такое ходзіць лета.
Ў аздобе сонечных жывых акрас
Яно звініць вясёлаю вадою.
Такое толькі можа быць у нас —
Здаровае, тугое, маладое.
Мяняюць твар палі і гарады
Кагортамі людзей, што робяць дзівы,
Вядуць капальні песеннай руды —
Яны у нас і толькі нам ўласцівы.
І хай пра іх не поўны спеў прапет
І дням яшчэ нязграбны дадзен профіль,—
Каравыя жыць будуць нашы строфы
Ў крышталях дум, што новы дасць паэт.

## VII

. . . . . . . . . . . . . . . .

...І хай было, што сэрцу не далося,
Што згінула ў гадах, як гук пусты.
Я не засмучаны, што прыйдзе восень
І ацярэбіць дрэвы і кусты.
Душа такой штогодняй змене рада —
(Хай у ёй свой лёс варожы зброд кляне!) —
І пад суровы вецер лістапада
Мне добра жыць у роднай старане.
Мне добра пець акрэсленей і зычней,
І з новым крокам, новым днём турбот —
Семнаццаты успомніць добра год,
Адсвяткаваць семнаццаты Кастрычнік.

*1934 г.*

* * *

Каму, як не табе, паслухаць
Жывую музыку вясны?..
Нішто тваё не рэжа вуха —
Сніць ноч свае зямныя сны.

Дрыжаць брывей густыя хмаркі...
Іх фарбе ў нервы рэк сысці.
Іх можна разабраць без чаркі,
Да мудрай праўды дарасці.

Мы ведаем усё, што робім,
На гранях дзей праводзім век.
У гэтым сэнс вялікай спробы
Знаходзіць новы чалавек.

Таму і нашым сніцца зорам
Блакіт нябачаных паэм,
Ў каторых проста мы гаворым
Аб тым, што маем, чым жывём.

Ты ў гэтых снах яшчэ суровей,
Яшчэ вастрэйшы твой адказ —
Калі кую, ашчадны ў слове,
Я профіль цьмянага радка;

Калі падкутай рыфмай выб'ю
Я іскры мёртвай пекнаты,—
Мой вырыс песні песняй рыб'яй
Завеш з вялікім правам ты.

Ты лірыкі маёй не любіш
За рэбус і за фарбаў тло...
Ты мой наступны дзень галубіш,
Якому роўных не было.

А я люблю твой светлы эпас,
Твой зрок суровы п'ю да дна...
Душа — не парaная рэпа,
Жывым агнём гарыць яна.

*1934*

## ЗАЦІШАК

Над маім над высокім парогам
Распускаецца клён малады.
Краскі лёгенька выбеглі логам
Паглядзецца ў люстэрак вады.

Дні ім гнуткія станы не ломяць,
Ветры долу галовы не гнуць,
Толькі свісне іх след па саломе,
Калі трэба страху праміну́ць.

Хмар бур'ян як касою скасіла.
Толькі з песні гукнецца калі,
Як таптала нячыстая сіла
Аксаміт рабаванай зямлі.

Мы цяпер сваё права тут пішам
І не знаем заморскіх гасцей...
Помнім толькі адно, што зацішак
Перад громам бывае часцей.

Што ў вятроў недалёка да здрады —
Могуць з ростані рынуць і рваць...
Што смяротным агнём кананады
Давядзецца іх нам сунімаць.

*1936*



# АЛЕСЬ ВЕЧАР

Алесь Вечар (Аляксандр Сцяпанавіч; 25.3.1905, в. Машчыцы Слуцкага р-на Мінскай вобл.— 4.5.1985). Скончыў аграмічны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1929). Працаваў як навуковец. Рэпрэсіраваны ў 1937 г. Да 1959 г. жыў і працаваў у Краснадары. З 1959 г.— загадчык аддзела біяхіміі раслін Інстытута біялогіі, з 1970 г.— загадчык лабараторыі біяхіміі і малекулярнай біялогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. Акадэмік АН БССР (1966). Доктар біялагічных навук, прафесар (1915). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1975). Літаратурнай працай займаўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Кола дзён» (1930), «Зварот да слова» (1977), паэмы «Мая гімназія» (1979). Пераклаў на беларускую мову паэму А. Пушкіна «Домік у Каломне» (1937).

## РЭКАНСТРУКЦЫЙНЫЯ МАТЫВЫ

Набраць бы ў рукі спелага калосся,
ды кожны колас мілаваць і гладзіць...
Густое жыта навакол сплялося
і разгарнула крыллі радасць.

Зямля,
палітая крывавым потам,
не стогне болей у ярме няволі,
таму палі так зарунелі потым,
таму ўраджай такі
на кожным полі.

Ну як жа тут
ды не абняцца з новым!..
Зямную б кулю узваліць на плечы
машын нябачаных, машын сталёвых
і патануць у сонечнай далечы.

Таму і я выходжу на палетак,
бяру ў далоні і спрабую глебу...
Бо лепшы твор найлепшага паэта
не параўнаецца з кавалкам хлеба!

Таму, таму,
што дарагі бясконца
жывых грудзей рытмічныя удары,—
паэзію ж як гэтае от сонца
ніхто не адбярэ і не падарыць.

Пад сонцам —
залаты загар пшаніцы,
палёў калгасных буйнае бязмежжа,
бярозавых пасадак шэраг ніцы,
а на дарозе пескавая свежасць.

Чырвоныя абозы скора пойдуць
спакойным крокам у шумлівы горад
і будуць па дарозе гойдаць, гойдаць
галінамі бярозак ветры ў зорах.

*1934*

## АБ ЦУДОЎНЫМ

*Ц. М. Годневу*

Над Нараччу рос дуб зялёны;
Ды не хадзіў пры дубе тым
Ні ўдзень ні ўночы кот вучоны
На ланцугу на залатым.
Русалка ў голлі не сядзела,
І не блукаў нідзе лясун,—
Прыйшла вясна, той дуб адзела
У невыказную красу.
І расхінае, як далоні,
Свой кожны дрыгатлівы ліст
Насустрач сонцу дуб зялёны,
Аж сам выцягваецца ўвесь.
Імчацца безлічы фатонаў
Ад дыска сонца наўздагон,
Няма прыпынку ім і стомы,
Яны — сам рух, яны — агонь.
Іх прамяністы след на лісці
Вядзе ў сярэдзіну, і вось —
Ляжаць там зярняткі ў калысцы
Дый ізумрудныя наскрозь.
Перад жывой таемнай стромай
Фатоны супыняюць бег,
А карагоды электронаў
Захопліваюць іх сабе.
О, электроны! У мікрасвеце
Вам суджан Праметэя лёс —
Вандруючы ў зялёным вецці,
Вы бераце агонь з нябёс
І даяце ўсяму жывому,
Каб нарастала сіла ў ім.
Хай будзе кропля сілы ў слове
Аб зерні хларафілавым!

*1963*

## КАМЕНТАРЫЙ ДА АРТЫКУЛА

Энцыклапедыя!
Гэта не жарт —
Мець сцежку да нашых патомкаў.
А як перадаць ім душы нашай жар
І сэрца кіпучую звонкасць?
Разбегліся думкі ў маёй галаве,
Іду я па ржэўніку босы,
Мне месца знайшлося пад літарай «В»
Ў адным з тых тамоў шматгалосых.
Радзіўся і жыў я тады і тады...
Ўся праўда пра нашага брата!
Пісаў нават вершы, як быў малады.
Ды толькі апошняя дата
Яшчэ не з'явілася ў дробным радку,
Хоць знаўся я з днямі ліхімі,
Амаль невядома, чаму і адкуль
З мяне вырастаў біяхімік.
Таварыш!
Пакуль я па свеце хаджу,
Пакуль не ўпакаваны ў тару,
Паслухай, будзь ласкаў, што я раскажу,—
Мой сам пра сябе каментарый.
Разгорне патомак вось гэтакі том,
Быць можа, у энным выданні
І стане гартаць яго ліст за лістом,
Ісці між падзей і паданняў.
Спакойна старонку маю праміне.
Не трэба нікога такога.
Крычу праз гады я: «Была і ў мяне
Свая навуковая школа».
Я змалку прывык, каб у кіпені дзён
Высока цанілася праца.
Таму, хто нішчымнаму хлебу жадзён,
Няма больш на што апірацца.
Ў навуку за рукі мяне не вялі,
Ішоў не па гладкай дарозе.
Я знаю, як ныюць мазгоў мазалі
І стыне душа на марозе.
Навука мая прастаяла ў чарзе
Нямала каштоўнага часу.

Змаўчу я, калі пра мяне хто вярзе:
«Вучоны не першага класа».
Навука, па-мойму, падобна жыццю.
Існуе яна не для славы,
Якая звычайна прыходзіць к канцу,—
Існуе для лепшае справы.
Існуе яна, каб на светлай зямлі
Жылі па-разумнаму людзі,
Каб шчасце планеты яны не змялі
У войнах, гультайстве і брудзе.
Патомкі!
У вас ужо, можа, няма
Падзелу на школы і школкі,
Навука сабе вызначае сама,
Што трэба даследваць і колькі.
У вас ужо кожны жывы чалавек
Вышэйшую мае асвету.
Я веру, што ён у сваёй галаве
Трымае не толькі анкеты.
Мне вас, непрыйшоўшых,
не прыйдзецца стрэць,
Мой след зараўнуецца скора,
Але, спадзяюся, не будзе старэць
Мая навуковая школа.

*1972*



# ЮРКА ГАЎРУК

Юрка Гаўрук (Юрый Паўлавіч) нарадзіўся 6.5.1905 г. у Слуцку Мінскай вобл. у сям'і рабочага. Скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава (1925). Першая публікацыя — у 1925 г. У 1935 г. высланы, жыў і працаваў на розных работах у Карэліі, Усходняй Сібіры, Комі АССР. У 1957—1967 гг.— памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Аўтар першай на Беларусі кніжкі паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў» (1928). У 1969 г. выйшаў зборнік арыгінальных вершаў і перакладаў «Іскры з крэменя», у 1975 г.— зборнік выбраных перакладаў паэзіі «Агні ў прасторах». Памёр 18.2.1979 г.

## СЛУЦК

На акне вазоны,
а за акном вецер.
Кошка лапкай мые за вушкам.
А ці будуць госцікі дарагія
пагаварыць аб палітыцы,
аб чалавеку,
аб усім?
Быў бы так рады, так рады...
Сыпле сняжок.
Душна.
Каляды.

*1928*

## ПОМНЮ ВОСЕНЬ

Помню восень, залатыя сцежкі...
Пад нагамі шастала, шуршала,
А навокал тонкія мярэжкі
З павуціння сонца заснавала.

Цёпла, ціха. Скача заяц тлусты
Цераз поле у лясок на ўзгорак.
Бручка, морква, качаны капусты...
У арэхах цоканне вавёрак.

Луг зялёны, выкашаны, роўны.
Нібы шоўк, муравіцца атава.
Радасці і маладосці поўны,
Я спяваў прыродзе: слава, слава!

Палыхалі арабіны жарам,
Чырванела ягада-каліна.
Я да дуба прытуліўся тварам:
— Бацька дубе, ці ты чуеш сына?

Волат лесу быў у тры абхваты,
Ад гадоў і веку не змяніўся,
Распрастаўшы стан свой сукаваты,
Да нябёс каронаю узвіўся.

Слодыч шчасця... Вечнасць і хвіліна...
Ад зямлі ідуць жывыя сокі.
— Бацька дубе, ці ты чуеш сны? —
І абняў я стан яго шырокі.

— Бацька дубе, ці ты чуеш сына? —
Прагучаў любові кліч магутны.
Слава свету! Свет — мая айчына.
І пачуўся зверху шолах смутны.

Жалудок упаў і пакаціўся
У траву пажоўклую, пад камень.
Да падножжа дуба я схіліўся,
І жахнуўся, і ўзмахнуў рукамі.

Там ляжала чорная гадзюка,
Укусіць мяне яна хацела.
Кій схапіўшы, я яе прыстукаў,
Прэч адкінуў гідаснае цела.

І апалі тонкія мярэжкі,
Увайшла ў мяне тады трывога.
Восень, восень, залатыя сцежкі!..
Завілася дальняя дарога.

*1938*

## ПАЎНОЧНЫ АГНЯЦВЕТ

Палярны край. З блакітнага прадоння
Сышліся халады і даў мароз.
У дробных пушчах дрэва стыне, стогне,
А тундра дасягае да нябёс.

Цар-сухавей у злосці надзвычайнай
З усіх канцоў сюды сагнаў снягі.
І ноч лягла пахмурна і адчайна
На бела-ледзяныя берагі.

Бяжыць са свістам, распусціўшы косы,
Кабета ненавісная — пурга...
І раптам праясніліся нябёсы,
Спынілася ліхая мітульга.

I ў цішыні, глыбокай і празрыстай,
Закалыхаўся небывалы бляск,
Істужкай каляровай, прамяністай
Узвіўся над зямлёю і пагас.

I ноч расплюшчыла ў здзіўленні вочы,
Глядзіць на свет мільёнам вострых зор.
Паўстань, з'явіся, агняцвет паўночны!
I запалаў абуджаны прастор.

У буйным зіхаценні задрыжала
Усё, што ёсць і што было ўгары,
Нібы імшу хвалебную спраўляла
Прырода на высокім алтары.

То падымаўся дух зямлі пакутны
З халодных нетраў у бязмежны свет...
I доўга-доўга, як арган магутны,
Іграў у небе дзіўны агняцвет.

*1946*

## ПЕСНЯ ПРА ВЕРБАЛОЗЫ

**Паводле Шэкспіра**

Над рэчкай сядзела дзяўчына адна,
Спявала пра вербалозы.
Схіліўшы галоўку, ўздыхала яна:
Зялёныя вербалозы.
I кволае сэрца ёй сціснуў адчай...
Зялёныя вербалозы.
Закапалі слёзы ў быстры ручай.
Зялёныя вербалозы.
«Мяне ты не любіш. Мой любы, бывай!»
Зялёныя вербалозы.
«Што плачаш, дзяўчына? З другімі гуляй!»
Зялёныя вербалозы.
«Цябе не віню я. Бывай, дарагі!..»
Зялёныя вербалозы.

І сэрца дзяўчыны зайшлося з тугі.
Зялёныя вербалозы.
Упала яна на халодны пясок.
Зялёныя вербалозы.
І лозы звіліся над ёю ў вянок.
Зялёныя вербалозы.

*1948*



# ПЯТРУСЬ БРОЎКА

Пятрусь Броўка (Пётр Усцінавіч; 25.6.1905, в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на Віцебскай вобл.— 24.3.1980). З сялян. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1931). Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945—48 гг. рэдактар часопіса «Полымя», у 1948—67 гг. старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, у 1967—80 гг. галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Дэбютаваў у 1922 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі: «Гады як шторм» і «Прамова фактамі» (1930), «Прыход героя» (1935), «Шляхамі баравымі» (1940), «Дарога жыцця» (1950, Дзяржаўная прэмія СССР 1951), «Пахне чабор» (1959), «А дні ідуць...» (1961, Ленінская прэмія 1962), «Заўсёды з Леніным» (1967) і «Між чырвоных рабін» (1969, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1970), «Калі ласка» (1972), «Што сэрца праспявала» (1979) і інш.

Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г. за ўдзел у стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Выходзілі зборы твораў Петруся Броўкі.

---

## ОЙ, НЕ ШАПЧЫ, МАЯ БЯРОЗКА...

Ой, не шапчы, мая бярозка,
Журлівым шопатам галінаў,
Пайду сягоння ў поле позна —
Сустрэну любую дзяўчыну.

Сустрэну ў полі, дзе бярозкі,
У вечар росны
Вечар мглісты,
І будуць пець зялёным лісцем
У полі белыя бярозкі.

Чуць свет, чуць сонейка устане,
Пайду з касой на луг мурожны.
Трава квяцістая, густая
Будзе губляць сваю прыгожасць.

А сонца яркае устане —
Трава завяне у пракосах,
І я пайду па лузе босым,
Хай з сонцам сэрцайка спявае.

Дык не шапчы, мая бярозка,
Ў ліпнёвы вечар мне не сумна —
Вітаю свету новы росквіт
І Беларусь, маю красуню!

*1926*

## НЕ БУДУ Я СТАЯЦЬ НА РАЗДАРОЖЖЫ...

Усход успыхнуў ясны і прыгожы,
Сплылі далёка моракі начы,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець удалячынь.

Вясна вакол, адгрукалі марозы,
Ручай паміж палеткамі журчыць,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець удалячынь.

*1926*

## БУДЗЕМ СЕЯЦЬ, БЕЛАРУСЫ!

Хутка вызваляцца гоні
З-пад уціску, з-пад прымусу,
Будзем сеяць, беларусы,
На ўсход сонца чыстым зернем...
Смерць на захад мы павернем!

Мы вясну сваю спаткаем,—
Дождж праменны зацярусіць...
Будзем сеяць, беларусы,
Прыйдзе рунь да нас з расою,
А на захад — смерць з касою.

Зацвітуць ля новай хаты
Зноўку яблыні і грушы.
Будзем сеяць, беларусы!
Закуваюць нам зязюлі,
Пахаваюць катаў кулі.

Стане поле каласіцца,
Ляжа шоўкавым абрусам,
Будзем сеяць, беларусы!
Закрасуе буйна збожжа.
Нас ніхто скарыць не зможа!

*1942, Масква*

## БЕЛАРУСЬ

**Урыўкі з паэмы**

> Мой родны кут,
> Як ты мне мілы!..
>
> *Якуб Колас*

I

Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,
У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў — ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог.

Зямля Беларусі! Вачамі азёраў
Глядзіш ты ў празрыстыя высі нябёс,
Начамі, што яблыкі, падаюць зоры,
Знікаюць па водах, па чорных разорах,
Па травах, абсыпаных кроплямі рос.

Былога быліны, старога паданні
Плывуць, як аблітыя сонцам чаўны
Па краю зялёным, прасторах бяскрайніх
Ад Нёмна да Сожа, ад Буга да Гайны,
Па хвалях Дняпра і шырокай Дзвіны.

Бацькоў нашых слава на іх узбярэжжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары,
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І Турава сцены, і шум Белавежы,
І роднага Мінска сівыя муры...

III

Дзяды нашы білі драпежнікаў прускіх,
Не даўшы надзець на сябе кайданы,—
Пад Грунвальдам білі, на возеры Чудскім,
Там разам з украінскім братам і рускім
Сваю Беларусь баранілі яны.

Змагаліся з рознай напасцю варожай,
Прайшлі па смаленскіх, палтаўскіх палях,

Ішлі казакамі ў стэп Запарожжа,
І верылі цвёрда — ніхто іх не зможа,
Бо вечнаю праўдай жыла іх зямля!

Спытайцеся ў кожнай сасны і бярозкі,—
Яны вам раскажуць, як даўняй парой
Хадзіў тут Вашчыла, Хвесько, Каліноўскі,
Вадзілі атрады на подзвіг геройскі,
Іх слава, як сонца, стаіць над зямлёй.

Скарыць не падолелі іх чужаніцы,
Бо быў ім прытулак і крэпасцю бор,
Чало асвятлялі з-пад Нёмна зарніцы,
І грудзі, як сталлю, паілі крыніцы,
А шлях азначаўся мільёнамі зор...

VI

Зямля Беларусі! Тваімі шляхамі
Вярнулася ворагаў мала дамоў —
На даўняй Нямізе іх слалі снапамі,
Крышыў на капусту іх Віцебск мячамі,
У Полацку варам варылі з валоў.

Скуголіць панурая цень Банапарта,
На хмурым чале яго чорны вянец:
«Чаго я імкнуўся сюды так упарта?
З расійцамі біцца ніколі не варта,—
Скарыць іх не зможаш, а знойдзеш канец».

І грознымі хвалямі кажа Бяроза:
«Чужынцам я заўжды прыносіла жах,
Нямала глынула я трупаў варожых,
Нямала іх змерзла на беразе ў лозах,
А колькі касцей у старых курганах».

Гамоняць над рэчкай дубы і чароты
Аб сіле народнай у тыя гады,
Як лезлі з усходу французскія роты,
Як іх дабівалі ў лясах і балотах
Сякерамі, віламі нашы дзяды...

## VIII

Народ беларускі! Ты ўзняўся героем,
Даволі набыўся ў нядолі, бядзе —
І твар свой абмыўшы крынічнай вадою,
Абцёршы усходняй, шаўковай зарою,
У будучнасць смела, адкрыта глядзеў.

Расправіўшы плечы, магутны, высокі
Стаяў ты, як волат, між родных далін,
Як бор, галавою дастаўшы аблокаў,
Над шумным жытнёвым прасторам шырокім,
І вусны цвілі, як агні журавін.

Браты па нягодзе цябе раскавалі,
З вачэй тваіх чорныя хмары знялі;
Як бурнай паводкаю дужыя хвалі,
Як буйныя ветры, што хвалі гайдалі,
Абняў ты палеткі на вольнай зямлі.

Як гоман крынічны, як звон ручаёвы,
Як плёскат бязмежных, блакітных азёр,
Як гоман вясновых лістоў на дубровах,
Тваё зазвінела свабоднае слова,
Хвалой узляцеўшы да сонца і зор...

## XX

Зямля Беларусі! Ты ў гневе, ты ў ранах,
Твой гнеў разгараецца сёння ў агні.
Палямі-барамі сыны-партызаны,
Жыцця не шкадуючы, б'юцца аддана,—
Не рэкі гамоняць, а зброя звініць!

Ты ўстала паўстанкай прад набрыддзю дзікай
З азёрамі помсты ў грозных вачах.
Ды гэта ж не сосны, а вострыя пікі,
Ды гэта ж не вецер, а смерці музыка,
Што грае на чорных, варожых касцях.

Па ўсіх неабдымных прасторах-абшарах
Устала расплата, крывёй загула,

Знаходзіць чужынцаў суровая кара,
Грымяць Налібокі, хвалюецца Нарач,
На бераг з палону выходзіць Сула.

Зямля Беларусі! Ў часіны нягоды
Тваіх абаронцаў нязломная раць.
Хто жыў тваім хлебам, хто піў твае воды,
Хто меў тут прытулак у час непагоды,
Гатоў той памерці, цябе ж ратаваць!..

XXV

Зямля Беларусі! Радзіма герояў!
Сягоння ў змаганні бязмежная шыр.
Ты ворага знішчыш, бо заўжды з табою
Народы Саветаў з адданай душою.
Ты шчасце сустрэнеш і радасны мір!

Як толькі з вайною на мірныя гоні
З'явілася зграя чужынцаў ліхіх,
Ты ўся паднялася пад сцягам чырвоным
І, мужна зрываючы путы палону,
Жывеш партызанкай між дзён баявых.

Зямля Беларусі! Палямі, барамі
Тваімі вакол вызваленне ідзе,
Праз буры-віхуры і снежную замець
Гвардзейцаў праходзяць палкі за палкамі,
А іх сустракаюць мільёны людзей.

Ідуць яны — сонца ўздымаецца, свеціць
Ад горада ў горад, і сяла да сяла,
Па ўсёй Беларусі і маткі і дзеці
Гавораць сягоння ад шчырага сэрца:
— Народу і партыі нашай хвала!

*1943*

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

На Беларусі
Па вёсках ідуць пагалоскі —
З'явіўся Кастусь Каліноўскі.

Чаму так назвалі хлапца — невядома,
Ці, можа, што ў світцы ён шэрай знаёмай?
Ці, можа, што мае блакітныя вочы?
Ці, можа, што тайна з'яўляецца ўночы,
Што мужны ён з твару,
Што ворагам — кара:
Як прыйдзе, успыхнуць у катаў пажары
І ляжа, пабітая, ўпокат пачвара.

А покуль збяруць акупанты пагоню —
Далёка замчаць Каліноўскага коні...
Хай немцы шукаюць
Ля Гайны ўзбярэжжаў,
А ён каля Нёмна ці дзе ў Белавежы
З хлапцамі-сябрамі
Другую стрэў зграю
Ды меч ад варожай крыві выцірае.

І чуе ён голас народны,
Бацькоўскі:
— Ты, сын мой геройскі,
Кастусь Каліноўскі!
Чаму так назвалі, хто знае прычыну?
Ці, можа, што зваўся ён проста — Каліна?
Ці, можа, што воласам светла-ільняны?
Ці, можа, што ў світцы цяпер саматканай?

На гэта мы скажам
Сябрам па-сяброўску —
Ён сэрцам вялікім
Кастусь Каліноўскі.
Калі ён пачуе, як ворагі скачуць,
Калі ён пачуе сірочыя плачы
Ля рэчкі Бярозы, —
Душу яго слёзы
Запаляць.
І будзь ён над Бугам ці далей дзе, можа,

Ён шабляй дастане да самай Бярозы,
Да сэрцаў варожых,
І коцяцца галавы катаў у лозы.

Калі далятаюць кайданныя звоны,—
Ён знае, што родных вядуць да палону,
Дык будзь ён пад Мінскам
Ці ў іншым дзе месцы,—
Ён куляй дагоніць іх варту і ў Брэсце.
Прыходзяць дзяўчаты
Дахаты
І плачуць яны, і спяваюць,
Той песняй яго праслаўляюць,
Што ёсць Каліноўскі на свеце,
Што ён ратаваў іх ад смерці.
Калі ж ён пабачыць — шугаюць зарніцы,—
Ён знае, што ў вёску прыйшлі чужаніцы,
Дык будзь ён ад вёскі
Далёка, далёка,—
Прымчыцца суровы і смелы, як сокал:
Зазвоніць клінкамі,
Паб'е капытамі,—
І ворагі лягуць на доле касцямі.

А з вёскі да вёскі ідуць пагалоскі:
Жыве ў Беларусі Кастусь Каліноўскі;
Ён сілай магутны, душою агністы,
Нядаўна ў калгасе ён быў трактарыстам,
Вясёлы заўсёды,
Вадзіў карагоды;
Як хмары закрылі і сонца і зоры,
Пайшоў партызаніць да бору...

Няздарма чакае штоночы дзяўчына
Свайго закаханага хлопца Каліну,
Ці чэрвеньскім ранкам,
Ці ночкай ліпнёўскай —
Прыйдзе Каліноўскі.

Дзяўчаты са ўсёй Беларусі пачулі,—
Збіраюць яму васількі на кашулю,
І маці праз доўгія, сумныя вёсны
Ткуць пояс квяцісты герою на кроснах;

Чакаюць крыніцы яго ледзяныя,
Лясы, паўзнімаўшы смыкі смаляныя,
Каб разам з вятрамі наладзіць вяселле,
Ударыць па струнах,
Па хвалях дняпроўскіх,—
Што з вечнаю воляй
Прыйшоў Каліноўскі.

*1943*

## НАДЗЯ-НАДЗЕЙКА

Плача сірочая ў лесе жалейка...
Сціхла ты,
Змоўкла, наша Надзейка.
Хто ж гэта думаў, як давялося:
Вочы закрыла хмурая восень,
Выцвілі косы,
Шчокі запалі,
Рукі завялі.

— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.—
Болей рукам тваім
Жыта не жаці,
Жыта не жаці,
Снапоў не вязаці.—
Трэцюю ночку вісне дзяўчына
На белай бярозе ля роднай хаціны.
Горачка-гора сэрца скавала,
Што ж ты, бярозанька, не ўратавала?

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Добрыя людзі, жальбу здыміце,
Лепей мяне вы, бярозу, спіліце.
Гэтую дзеўчыну знала я дзіцем...—
Жоўты пясочак.
Зялёны вяночак.
Сінія вочкі,
Што васілёчкі.

Буйныя ветры, лютыя буры...
Ходзіць па лесе хлопец пануры.
— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.
З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Хлопец-юнача, смутныя вочы,
Зрэж мяне, белую, цёмнаю ноччу,—
Цяжка стаяць мне з горам дзявочым.

Помню я смех ваш,
Гулі-гулянкі,
Песні-вяснянкі
Аж да світанку.

Хлопец жалобу носіць па полі.
Ён у бярозы пытаецца з болем:
— Што ж не схавала ты любую голлем?
— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Як наляцела цемра-навала,
Змеі напалі, джалілі джалам.
Дымам дыхнулі,— чорнай я стала,
З крыкам і тлумам,
Гвалтам і глумам
Красу загубілі,
дзяўчыну забілі.
Ходзіць па лесе, пушчах, дубровах
Хлопец разгневаны, хлопец суровы:
— Скора вярнуся
Разам з сябрамі,
Грукнем маланкамі
Ды перунамі,
Выпечам змеяў жалезам калёным,
Неба ачысцім, хмары разгонім,
Дзеўчыну ўславім,
Голле расправім,
Травы абсыплем чыстай слязою,
Чыстай слязою,
Быццам расою.
Надзя! Надзейка!..— кліча жалейка.

*1943*

## ЯК ЛІСТ ДУБОВЫ...

Не страшна мне
Ні твань, ні багна,
Ані віхуры гул і свіст —
Я за жыццё схапіўся прагна,
Як за галлё
Дубовы ліст.

Па восені,
Мядзяны, дужы,
Між хмурай стыні ён гарыць...
Трасуць яго вятры і сцюжы,
А ён адно ў адказ —
Звініць.

Калі зімой
Матлюга грае
І злосна шчэрыцца мароз,
Ён, як далонню, прыкрывае
Галінку тую,
Дзе прарос.

І толькі ў ясны дзень
Вясновы,
Калі красуе ўсё вакол, —
Перад лістком зялёным, новым
Ён ціха падае
На дол.

*1956*

* * *

Не пытайся пра гэта,
Бо адказу не дам.
Як зрабіўся паэтам,
Я не ведаю сам.

Свой радок на паперы
Не чакаў я спаткаць,
Проста сэрца без меры
Захацела спяваць,

Што зажыў без клапотаў
Я, вясковы юнак,
Што, прыбраўшыся ў боты,
Хлеба зведаў усмак.

Я спяваў пра барозны,
Што за дзень узарэш.
Я чытаў гонкім соснам
Просты, шчыры свой верш.

Не расчуліў дзяўчыну
Вершам я, не скажу,
А пачула хмарына —
І згубіла слязу.

У радках — што хваліцца! —
Не было пекнаты,
Чуў алешнік, і быццам
Падпявалі лісты.

Ды з высокай сялібы,
На бярозе старой,
Бусел клёкатам нібы
Пагаджаўся са мной.

Ну, а далей, а далей,
Як і ў многіх другіх,
Разгарнуліся далі
Дум, пачуццяў людскіх.

На начлезе вясною
Я адкрыўся сябрам,
Ускурылі махрою
Мне тады фіміям.

Хлопцы чарак, дарэчы,
Не трымалі ў руках.
Моцным словам хлапечым
Блаславілі на шлях.

Шлях далёкі, бязмежны...
А натрапіцца ноч —
Аганёк той начлежны
Не спускаю я з воч.

Пагляджу неаднойчы,
Рады я — не пагас...
Ці вы чуеце, хлопцы?
Я спяваю пра вас!

*1959*

## ПАХНЕ ЧАБОР...

Хіба на вечар той можна забыцца?
...Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы.
Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,
Быццам абсыпана промнямі зор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца.
Вось яно — блізкае, яснае шчасце,
Клікнуць хацелася — голас замёр.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Год адзінаццаць, а можа, дванаццаць
Сэрца баліць, што не здолеў спаткацца,
Сэрца нязменна хвалюе дакор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Час той схаваўся за дальняй гарою,
Здасца хвілінай — яна прада мною...
Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

*1957*

## БЕЛЫ БАРАБАНШЧЫК

Злосная мятлюга,
Злосная мятлюга,
Злосная мятлюга
Кружыцца, гудзе...

Белы барабаншчык,
Белы барабаншчык,
Белы барабаншчык
Па зямлі ідзе...

Ён у свіце белай,
Ён у шапцы зорнай,
Да нябёс высознай,
Выйшаў у паход —

Пахаджае смела,
Грукне — грукнуць бёрны,
Грукне — грукнуць сосны,
Грукне — трэсне лёд.

З барабанам-звонам
Ходзіць ён шляхамі,
Барадой калючай
Шчыплецца да слёз —

Грозны, неўгамонны,
З доўгімі рукамі,
Што агонь, пякучы —
Студзеньскі мароз!

*1958*

## ТЫ, МАЯ ПЧОЛКА

Ты, мая пчолка,
З табою не ведаю скрухі:

Ты, мая пчолка,
Гудзіш і гудзіш мне на вуха.

Знаю цябе я,
Што ты ад маленства такая,

Толькі ні кроплі,
Ні кроплі я крыўды не маю.

З першым праменнем
Свае распраўляеш ты крыллі,

Гукаеш мяне,
Каб разам мы ў полі кружылі...

Трутнем не быў я,
З табою мы зладзілі хату,

Кут наш прывабны,
Хай жа ён роіць багата,

Хай жа спявае
Ад рання ажно да заходу.

Ты, мая пчолка,
Не бойся ніякай нягоды!

Здарыцца, трапіш
На злосную хвалю якую,—

Лісцікам лягу,
Сярод акіяна ўратую.

Стэпам бязводным,
Мо будзеш губляць свае сілы,—

Стану расінкай,
Каб смагу збыла, уталіла.

Часам мо стрэнеш
Цяжкія, ліхія віхуры,—

Стану скалою,
Цябе прыхаваю ад буры.

Ты, мая пчолка,
Не джаліш, а звоніш ласкава.

Звон твой руплівы
Слухаюць кветкі і травы!

*1958*

## РОДНЫЯ СЛОВЫ

Яны даспадобы мне,
хай і старыя,
Не толькі ў гучанні хвалюючы змест.
Як многа гавораць мне назвы такія —
Мінск,
Пінск,
Брэст.

Калі паразважыш,
няцяжка дазнацца,
Бо сведчаць на ўсю неабсяжную шыр,
Што продкі любілі спакойную працу —
Шклоў,
Клецк,
Мір.

А вораг находзіў,—
бязлітасна білі,
Трываць не хацелі абразы і слёз,
І разам з Бярозаю катаў тапілі —
Пціч,
Друць,
Сож.

Дзяды і бацькі нашу мову стваралі,
Каб звонка звінела, была, як агонь.
У сёлаў імёны, як гукі цымбалаў,—
Блонь,
Струнь,
Звонь!

*1959*

## АЛЕКСАНДРЫНА

Мне не забыцца песні той даўняе вясны:
— На Мурамскай дарожцы стаялі тры сасны...

Хадзілі мы, спявалі, і з песняй ты цвіла.
Александрына, помніш, якою ты была?

Цяпер магу прызнацца, тады пачаў кахаць,
Цябе з ніякай кветкай не мог я параўнаць.

Сказаць, што васілёчак, дык фарба ў ім адна,
Сказаць, што ты лілея,— сцюдзёная ж яна.

Сказаць, што ты званочак... Ды ўсіх жа мала іх!..
Такою ты здалася ў семнаццаць год маіх.

Мінула часу многа. Мне навявалі сны,
Як дзесьці на дарожцы стаялі тры сасны.

Прайшлі вясна, і лета, і восень, і зіма...
Александрына, дзе ты? Шукаю я — няма!

*1961*

* * *

Калі надыдзе час спачыну,
Адна ёсць просьба да зямлі:
Накрый мяне крылом арліным,
Крыло галубкі пасцялі.

Абодвум з днём маленства босых
Зайздросціў я, як ні кажы,—
Глядзеў услед арлу ў нябёсах
Ды галубінай быў душы.

А ўсё ж калісьці, ў нейкім ранні,
З праменнем першым на расе
Не клёкат грозны — вуркаванне
Няхай мне вецер прынясе.

*1968*

## ТРУБА І ЛІРА

Адзін калісьці крытык вырак
І ўсіх хацеў пераканаць,
Што я трубач,
Што я не лірык,
Пяшчотных струн мне не кранаць.

Што ж, я хадзіў з грымотным вершам,
І з аўтаматам,
І з трубой
І крочыў у шарэнгах першых
Паміж заклі́каных на бой.

І абуджаў, будзіў салдата,
Будзіў адпор рашучы даць,
Трубіў —
Звінелі вокны ў хатах,
Каб Перамогі не праспаць.

Мой крытык не заўважыў ліры,
Ёй за трубой
Адкрыўся шлях,
Яна ж у дні спакою, міру
Гаіла раны на грудзях.

А сёння, сёння толькі гляньце
На шлях яе —
І не адзін,
Яна ж і пасабляе працы,
І сэрца цешыць у спачын.

*1974*

## МАЯ УШАЧКА

Мая маленькая Ушачка,
Спачатку ты —
Лясная плачка
Ды з камянька на камянёк —
Яшчэ рывок, яшчэ рывок,
І ўжо дзяўчынаю гарачай
Ты даплываеш да Ушачы.

Пасля, набраўшы сінізны,
Аж да Заходняе Дзвіны,
Яшчэ далей —
Дзе полем, борам —
Да Балтыкі ідзеш у мора.

Калі я словы падбіраў,
Я чуў —
верш сілу набіраў,
Ён шчасным быў і небаракам,
Ён і смяяўся, ён і плакаў.

З камення падаў,
але й рос
Між камянёў і між бяроз...
Але сцвярджаць таго не стану,
Ці дойдзе ён да акіяна.

*1975*

## А Я НІЧОГА НЕ ХАВАЮ...

А я нічога не хаваю,
Што праспяваў,
Што прапяю.
Я і набытак, што збіраю,
Заўсёды людзям раздаю.

Бабры і лісы скарб у норы
Нясуць.
У кожнага нара.
А я свой скарб, нібы шахцёры,
З глыбіняў сэрца — на-гара!

*1977*

## АХ, КАБ МНЕ РАДАСЦЬ ЗНОЎ ТАКУЮ

Не тая радасць, хоць злаўлю я
Хай рыбы і на сотню страў.
Ах, каб мне радасць зноў такую,
Як плотку першую спаймаў.

Не тая радасць, хоць збяру я
Паўнюткі кош баравікоў,
Ах, каб мне радасць зноў такую,
Як першы баравік знайшоў.

Пішу я вершы. Шмат друкую,
Нямала радасці спазнаў...
Ах, каб мне радасць зноў такую,
Як першы верш надрукаваў.

*1978*



# ПЯТРО ГЛЕБКА

Пятро Фёдаравіч Глебка (6.7.1905, в. Вялікая Уса Уздзенскага р-на Мінскай вобл.— 18.12.1969). З сялян. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1930). Працаваў у прэсе, у выдавецтвах, у Акадэміі навук БССР (у 1952—56 гг. загадчык сектара лексікаграфіі Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва, у 1956—57 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства, у 1957—69 гг. дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору). Акадэмік АН БССР (1957). Друкаваўся з 1925 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Шыпшына» (1927), «Урачыстыя дні» (1930), «Чатыры вятры» (1935), «Пад небам бацькаўшчыны» (1947), «Выбраныя творы» (1952), пісаў для дзяцей. Выйшлі «Зборы твораў» (т. 1—2, 1958; т. 1—3, 1969—71).

## ЛЕТНІ ДЗЕНЬ

За драўлянымі млынамі,
Дзе канчаюцца масты,
Шырачэзнымі лістамі
Ахінуліся кусты.

Ад крутых віроў глыбокіх
На пясчаны перакат
Прамяністая ад спёкі
Выгінаецца рака.

Перад поплавам на градах —
Мак высокі і густы;
Там камандуе парадам
Сам сланечнік залаты.

А за рэчкаю, на правых,
На высокіх берагах
Знепакоіліся травы
У някошаных лугах.

Луг заліўся галасамі:
Да яго ва ўсе канцы
Выйшлі стройнымі радамі
Загарэлыя касцы.

У кашулях ярка-белых,
У чырвоных паясах...
І на голас іх запела,
Адгукнулася каса.

Не пракосы, а палосы
Выжынае чыста сталь,
І павостраныя косы
Асыпаюць звонам даль.

Слава травам, слава кветкам,
Слава летнім яркім дням,
І засеяным палеткам,
І пакошаным лугам!

Слава людзям дружнай працы,
Слава ім!
Мінуць вякі, —
Будзе так жа выгінацца
Шкло празрыстае ракі,

Будзе мак цвісці на градах,
Будзе ў сэрцы з веку ў век
Несці творчай працы радасць
Непакорны чалавек.

*1936*

## ПАСЫЛКА

Ноч. Халодная зямлянка.
Перастрэлка. Цішыня.
Неба чыстае, як шклянка.
Тупат быстрага каня.

Мы пазналі без памылкі,
Што пад сховай цемнаты
Нам даставілі пасылкі,
Тэлеграмы і лісты.

Хто ад маткі, хто ад жонкі —
Кожны вестку атрымаў,
Толькі мне з маёй старонкі
Ні пасылкі, ні пісьма.

Не заныю, не заплачу,
Я да ласкі не прывык...
Да мяне раптоўна, бачу,
Падыходзіць паштавік.

Ён вымае мне са скрынкі
Шоўкам вышыты кісет,
Дзве квадратныя хусцінкі
І малюсенькі пакет.

Незнаёмаю рукою
Там напісана ўгары:
«Беларускаму герою
Ад сяброўкі і сястры.

Вышываны там, дзе горы
На святой зямлі грузін,
Каб ты ведаў, што і ў горы
Ты на свеце не адзін».

Я прыняў дарунак мілы
Перад боем уначы
І да самае магілы
Буду шчыра берагчы.

Не пасылка дарагая,
А братэрская любоў,
Наша дружба векавая,
Дружба верная сяброў.

*1942*

## РОДНЫ ХЛЕБ

Гарыць агонь. Каля зямлянкі
Аб доме тужаць землякі,
А маладыя партызанкі
Пякуць і сушаць праснакі.

Навечна будзь благаславёны,
Запрацаваны ў поце хлеб,
Не квашаны і не салёны,
Для важных спечаны патрэб;

Ад пагарэлага парогу,
Як нашай скаргі пасланец,
З табой на досвітку ў дарогу
З атрада выедзе хлапец.

Пасля пяшком э-пад самай Гродні
Ісці ён будзе да Масквы,
Не раз затоміцца, галодны,
І прыйдзе, можа, ледзь жывы.

Але з апошняе скарынкі,
Што ў кайстры змуліцца на дне,
Ён не адломіць ні крупінкі
І да сустрэчы не кране.

І толькі выйшаўшы з няволі,
З сябрамі сеўшы за сталом,
Успомніць хлеб, што на вуголлі
Пячэцца з кмінам і дымком.

І так, як след па-беларуску
Прынесці ў хату лепшы дар,—
Ён выме з кайстры на закуску
Скарынку чэрствую — сухар.

Разломіць ён яе як трэба
І скажа: «Покуль не пілі,
Закусім, хлопцы, родным хлебам
З далёкай бацькаўскай зямлі».

І — Божа мой! — якім духмяным
Павее водарам яна!
Адразу кожны стане п'яны,
Але не з горкага віна.

Ён будзе п'яны з успамінаў
Аб нашай роднай старане,
Аб той калысцы і краіне,
Дзе маці песціла мяне,

Дзе кожны вечар ля зямлянкі
Сумуюць нашы землякі,
Дзе маладыя партызанкі
Пякуць і сушаць праснакі.

*1943*

## СМЕРЦЬ САЛДАТА

На ратным полі паміраў салдат.
Ён мужна біўся да апошняй кулі,
Ужо сябры яго навек заснулі,
І поруч з імі злёг і ён у рад.

Але не марна ён аддаў сваё жыццё:
Прастрэліўшы дзесяткі чорных касак,
Ён выканаў сумленна абавязак
І адыходзіў ціха ў небыццё.

І толькі прагна аднаго хацеў:
Апошні раз убачыць луг зялёны,
Узяць травінку кволую ў далоні,
Паслухаць зважны гоман родных дрэў.

Ды пуста навакол было зусім —
Трава счарнела, хвоі пагарэлі,
Пластом ляжалі скошаныя елі,
І па зямлі качаўся горкі дым.

Як даўнія асілкі-змагары,
Ўжо на парозе цёмнае магілы
Салдат сабраў астаткі сілы
І павярнуўся тварам дагары.

Над галавой цямнеў густы блакіт.
Дзень пагасаў, і сонца памірала,
За край зямлі павольна адплывала,
Нібы плыло пад цень магільных пліт.

Але яго бяссмертнае святло
Паружавіла белыя аблокі,
Пазалаціла небакрай далёкі
І кожную пясчынку і сцябло.

Нарэшце сонца ўжо зайшло на чвэрць.
Салдат глядзеў шырокімі вачыма:
«Якое хараство ў цябе, радзіма,
Калі так пышна ўбрала нават смерць!

Я не вярнуся больш да родных хат,
Але жыццё ніколі там не згасне.
Красуйся ж вечна, мілы край мой, шчасна!»
Так, паміраючы, казаў салдат.

Мы ўсе памалу прыйдзем к небыццю.
Судзі мне, доля, мужнаму памерці
І праспяваць перад вачамі смерці
Апошняй песняю хвалу жыццю!

*1944*

## ПАД НЕБАМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Пад небам бацькаўшчыны нашай
Прайшла суровая вайна,
А над палеткамі, над пашай,
Над цёмнай пушчаю — вясна.

Сям-там цвісці прабуе вішня,
І тым ясней нам, што парой
Мы паспыталі, аж залішне,
І добрай долі і благой.

Вайною выгнаныя з хаты,
Утраціўшы абжыты кут,
Мы ўсе — і цеслі і салдаты —
Нямала вынеслі пакут.

Але і ў горкі час выгнання,
Дзе ні ступалі па зямлі,
Мы не былі без спачування
І на чужыне не жылі.

Бо хоць брылі з цяжкой паклажай,
Усё ж ішлі мы дзень пры дні
Пад небам бацькаўшчыны нашай,
Між таварыства і радні.

Дарог багата за плячыма
І па куп'і і па трысці,
З трывогай думаю: магчыма,
Мне столькі ўжо і не прайсці.

Як глеба прагне напрадвесні
Аддаць расткам апошні плён,
Так я адной-адзінай песні
Аддаць хацеў бы рэшту дзён.

Маўклівы, нават нелюдзімы,
Я склаў бы гэты любы спеў
У гонар дружбы і радзімы,
Ласкавых траў і чулых дрэў.

Хай зачараванаю пражай
Яны прывяжуць нас навек
Пад небам бацькаўшчыны нашай
Да родных ніў, лясоў і рэк.

*1945*

## АГНІ

У нашым вялізманным доме
Чатырыста дваццаць кватэр.
Жыве ў ім прафесар вядомы,
Заслужаны ўрач, інжынер.

Жыве тут праслаўлены токар,
Народны артыст і паэт,
Жыве малады, адзінокі,
Славуты цясляр — мой сусед.

Жывуць працавітыя людзі...
І ў часе рабочага дня,
На поўныя дышучы грудзі,
У доме стаіць цішыня.

Стаіць і з акон наглядае
За бурным жыццём на двары,
Дзе сонца прастор залівае,
Дзе гоман і смех дзетвары.

Там часта сярод зеляніны
Ля шумнай чародкі дзяцей
Спыняецца моўчкі жанчына
І доўга не зводзіць вачэй.

А ўвечар, калі загамоніць
Увесь велізарнейшы дом,—
Ружовым, зялёным, чырвоным,
Блакітным і сінім агнём.

Ад самага верху да долу
Гарыць ён... І толькі адно
Не свеціцца бляскам вясёлым
На трэцім паверсе акно.

І часам прыезджы каторы
Пытае: — А хто там жыве?
Жыве мацярынскае гора,
Жыве не вясну і не дзве.

Жыве з таго часу, з якога
Да маці прыйшлі не сыны,
А грозна прыйшла да парога
Жахлівая вестка з вайны.

Будынкі суседнія з ласкай
З той даты ці, можа, спакон
Галубяць акно гэта бляскам
Усіх сваіх тысяч акон.

Яны, не згасаючы, свецяць,
Каб гэтае ў горы акно
Заўсёды на ўсім белым свеце
Было ўсім народам відно.

*1955*

## ЗЯМЛЯЧЦЫ

Ты зайздросная трошкі, чаго там таіцца!
Гэту рысу тваю я заўважыў даўно.
І глыбокія вочы, як тая крыніца,
І паходка, і голас — мне сведчаць адно:

Ты зайздросціш той радаснай зорцы, якая
Узыходзіць штовечар над роднай зямлёй,
І таму Спадарожніку, што пралятае
Кожны дзень над палескаю вёскай тваёй,

Ты зайздросціш тым песням, якія нячутна
Напяваеш штораніцы моўчкі адна
І якія у нас, на радзіме, магутна
Запявае адкрыта уся старана,

Ты зайздросціш сняжынкам, што вецер загушкаў,
Ты зайздросціш, што ў нас на радзіме зіма...
А ляціць над табой легкакрылая птушка —
Ты становішся лёгкаю птушкай сама.

Толькі крылляў птушыных табе не хапае,
Каб ляцець і ляцець праз шырокі прастор
Аж туды, на радзіму, дзе з краю да краю
І палі, і снягі, і азёры, і бор.

Дык паедзем! Наш лайнер плыве на радзіму,
Ён дыміць і сірэніць, аж стогне карма,
Каміны яго ў горы счарнелі ад дыму,
А цябе ўсё няма, і няма, і няма.

Не, не веру! Ты з намі! Я ведаю добра:
Ты не можаш спазніцца, не можаш забыць...
І калі не сама, дык твой радасны вобраз
Разам з намі на прыстані сёння стаіць.

Ён паўнюткімі зайздрасці добрай вачыма
Аглядае на ростань чужую зямлю
І ляціць і ляціць аж туды, дзе радзіма...
І за гэта цябе я сапраўды люблю.

*1957*

## БЕЛАРУСЬ

З далёкай едучы краіны,
Я перасек Заходні Буг:
— Дзень добры, родныя мясціны,
Дзень добры, верны горад-друг!

І вось ад Брэста да Краснога
Перада мной ва ўсёй красе
Лягла шырокая дарога —
Маскоўска-Брэсцкае шасэ.

Ідуць знаёмыя малюнкі:
Дыміцца цёмнай хмаркай пыл;
Уздоўж абсаджанай чыгункі
Бягуць дарожныя слупы;

Раз'езды, станцыі, паўстанкі,
Заводы, вёскі навакол;
З пявучай моваю сялянкі
Падносяць хлеб і малако;

На спелых нівах, ураджайных,
Ад краю ў край, ва ўсе канцы,
Махаюць крыламі камбайны,
Спяваюць жнеі і касцы;

Пасля ізноў мільгаюць сёлы,
Драты антэн на вільчаках
І паміж дрэвамі над школай
Чырвоны сцяг, савецкі сцяг...

О Беларусь, мая калыска,
Жыццё маё, прытулак мой!
З гарачаю любоўю нізка
Схіляюся перад табой.

Зямны паклон табе, радзіма,
Тваім палям, тваім лясам,
Тваім заводам з белым дымам,
Тваім гасцінцам і шляхам!

Няма нідзе ім падабенства!..
І тут — не то з даўнейшых кніг,
Не то з далёкіх дзён маленства —
На момант іншы край узнік.

Паўсталі вузкія палоскі,
Сухія дзічкі на палях,
На грэблях вербы ды бярозкі,
Пяскі ды ямы на шляхах.

Каля дарог — глухія сёлы,
Рады каплічак і крыжоў
І за яловым частаколам
Магілы раннія бацькоў.

Скупою высеяўшы меркай,
Няшмат збіралі там, жнучы,
У зрэбных світках і магерках
Радзімічы і крывічы.

І ты адно магла даць блізкім
З тваёй зямлі, з тваёй сасны;
Маламу — дошку для калыскі,
Старому — века для труны.

Так і жыла ты, у шарачку,
Хоць мела свой і двор і дом
І не стаяла, як жабрачка,
Ні пад чыім чужым акном.

Мінулі тыя ліхалецці,
Сышлі даўно ў глухі нябыт.
У яркай зелені і цвеце
Паўстаў твой новы краявід.

Цяпер убрана ты квяціста,
Пад колер слуцкіх паясоў,
У строі нівы залацістай,
У шаты грэчак і аўсоў.

Цяпер на ўсіх тваіх прасторах
Блакіт нябёс, блакіт азёр,
Блакіт ільну і... зоры, зоры —
Мільёны самых чыстых зор!

А пашарэе над палямі,
У змроку, быццам маякі,
Гарадь чырвонымі радамі
Фабрычных вышак аганькі.

Асветлен імі шлях твой зорны,
І ты паміж сваіх сясцёр
Ідзеш упарта і напорна
Да новай славы на прастор.

Прымі ж паклон мой шчыры, нізкі,
Сагрэты чыстым пачуццём,
Мой родны край, мая калыска,
Маё бяссмертнае жыццё!

*1959*



# ЯНКА БОБРЫК

Янка (Іван Іванавіч) Бобрык. Нарадзіўся 21.7.1905 г. у г. п. Глуск. Скончыў БДУ (1929), аспірантуру пры Дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе (1934). Быў навуковым супрацоўнікам гэтай акадэміі, працаваў у Белдзяржкіно, ва Упраўленні па справах мастацтваў Ленінградскага гарвыканкома. Удзельнік абароны Ленінграда. Друкаваўся з 1924 г. Сааўтар зборніка вершаў «Пунсовае ранне» (1926, з А. Звонакам і Я. Туміловічам). Аўтар паэмы «Галіна» (1930). Памёр 25.8.1942 г. у блакадным Ленінградзе.

* * *

*У. Дубоўку*

Прывет табе з Палесся
ад пушчаў ды гаёў;
званлівай лійся песняй,
як стромкіх дрэў галлё.

Шумуй ты спевам вольным,
як хвалі на Віллі...
Каб водгук неўгамонны
прасвідраваў вякі.

Удар па струнах леры,
Хай песня ўсё плыве...
Бо чуць яе прыемна,
Таварыш і паэт...

Прывет табе з Палесся
ад пушчаў ды гаёў:
званлівай лійся песняй,
як стромкіх дрэў галлё.

*1926*

## НОЧ НАД МІНСКАМ

А ноч харошая такая —
І змрок,
 і ціш наўкол,
Ледзь чутна ліст з бярозы ападае —
То слёзы лета капаюць на дол.

А ноч харошая такая,
А ноч —
 не спіцца мне,
Над Мінскам зоры меркнуць, дагараюць,
Як у маёй далёкай старане.

А ноч харошая такая,
А ноч —
 азёрнай сіні гладзь.
Там дзесьці лес таемны замаўкае,
А тут муры агнямі зіхацяць.

А ноч харошая такая,
А ноч —
 краса мая!
Паволі бурны горад заціхае,
А з ім і я.

*1928*



# ВІКТАР КАЗЛОЎСКІ

Віктар (Вінцэсь Іванавіч) Казлоўскі нарадзіўся 6.9.1905 г. у вёсцы Мрочкі Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, а ў 1931 г.— літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Памёр 24.2.1975 г. Упершыню выступіў у друку ў 1925 г. Выдаў у 1932 г. зборнікі вершаў «Слова аб юнай краіне», «Музыка працы» і паэму «Рахіль». Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Асеева, І. Уткіна, В. Кавальскага і інш.

## АБВЯШЧАЮ Я СВОЙ ПРЫГАВОР

Ад Масквы да Уздзенскіх сёл
Я ўсе сцежкі пяшком прайшоў.

І цяпер я прыпомніў крыху,
Што я меў на сваім шляху.

Я апошні губляў свой лёс,
Падбіраючы панскі прост.

Я на карку сваім валок·
Ярмо праз мільён валок.

Нада мною ўзнімаўся біч —
Гнаў няспынна мяне паніч.

У знямозе я піць прасіў —
Мне атруту даваў панскі сын.

*

І ў асенні пажоўклы час
Я па-іншаму жыць пачаў.

Я па свеце бадзяцца стаў...
Не адна прамільгнула вярста.

Не адну я спаткаў бяду,
Здабываючы шчасця руду.

Многа я сустракаў людзей,
Што прайшлі буры грозных падзей.

Многа чуў я пра жах вайны,
Што ўзнімалі на нас паны.

Я тугу мо каўшамі браў,
Калі йшоў на вайну мой брат.

Адыходзіў і панскі сын
Супроць вільгельмскіх сіл.

Брат на брата ішоў з нажом.
А паніч толькі піў ды жор,

Ды хадзіў у прытон — шынок
Афіцэрскіх кахаць жанок.

. . . . . . . . . . . . . . .

І цяпер я толькі пачуў,
Што разлік аддаюць панічу.

Гэта той!
Гэта той паніч,
Што ўзнімаў нада мною біч.

Гэта той!
Гэта той панскі сын,
Ад якога ўвесь свет галасіў.

Я цяпер на ўвесь свет крычу,
Што адпомсціць хачу панічу.

Інжынерам пасля з-за мяжы
Ты прыехаў, паніч, да нас жыць.

Што табе! —
не баліць душа
За краіну машын і шахт,

За краіну вялікіх бур,
За Магніта і Днепрабуд.

Ты хацеў расстраляць зару,
Адабраць волю з нашых рук.

Думаў — будзеш ізноў глядзець,
Як братоў павядуць на смерць.

Думаў — прыйдуць паны з тых краін
Зрабіць з краю красы — край руін.

Думаў — будуць прапелеры ў рытм
Распыляць па-над краем іпрыт.

І натоўп адзічэлых людзей
Будзе з роспаччу бегчы дзесь.

Я ў рэспублікі слова прашу,
Абвясціць хачу свой прысуд.

Вось такую ліхую брыду
На смерць я сам павяду.

Закапаю я гэты труп
Не пад музыку стройную труб,

А пад ворагаў дзікі плач,
Што ішлі для нас ямы капаць.

Пакуль дзень мой яшчэ не змерк,
Я зары не аддам на здзек.

Буду я да апошніх сіл
Ваяваць за краіну красы.

А калі я ў змаганні памру,
Будзе сын вартаваць зару.

*1931*



# ЯНКА ТУМІЛОВІЧ

Янка Туміловіч (Іван Людвігавіч). Нарадзіўся 6(19).9. 1905 г. у в. Сяліба Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. Скончыў БДУ (1927). Працаваў выкладчыкам і ў рэдакцыях рэспубліканскіх часопісаў. Друкаваўся з 1925 г. Быў членам літаб'яднанняў «Маладняк» і «Пробліск». Сааўтар зборніка «Пунсовае ранне» (1926, з А. Звонакам і Я. Бобрыкам). Аўтар паэмы «Ульянаў-Ленін» (1929). 20.6.1937 г. асуджаны на 7 гадоў. Памёр 21.1.1938 г.

## НАЧЛЕГ

Зоркам веснім на небе цесна.
Маладзік, як зараны лямех.
І ідуць маладыя песні
З вёскі шумнай гурмой на начлег.

І зажмурыла цемра вочы,
І бурчыць устрывожаны гром,
Быццам вёску лапцюжную хоча
У паветра падняць віхром.

Ды вясёла бадзёрым хлопцам.
Скача польку агнёвую лоўж.
Налівае па добрай стопцы
Хмелю весняга зорны коўш.

Цішыня навакол такая!
Халадок хмызнякі трасе.
Чуеш нават, як ранак ступае
Басанож па сцюдзёнай расе.

Ноч у стоме спачыць прылегла.
Смокча першы прамень ваду.
Маладыя песні з начлегу
Гаманлівай ватагай ідуць.

*1925*



# МІХАСЬ ВАСІЛЁК

Міхась Васілёк (Міхаіл Восіпавіч Касцевіч; 14.11.1905 г., в. Баброўня Гродзенскага р-на — 3.9.1960). За ўдзел у рэвалюцыйным руху Заходняй Беларусі ўлады буржуазнай Польшчы не раз арыштоўвалі і саджалі ў турму. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска. Трапіў у нямецкі палон, адкуль у 1941 г. уцёк на радзіму. Быў сакратаром Скідальскага падпольнага антыфашысцкага камітэта. Выступаў у партызанскім друку. Друкаваўся з 1926 г. у заходнебеларускіх выданнях. Аўтар зборнікаў вершаў «Шум баравы» (1929, канфіскаваны польскімі буржуазнымі ўладамі), «З сялянскіх ніў» (1937), «Выбраныя творы» (1955).

## УПЕРАД, БРАЦЕ!

Сіня, сіня даль бясконца.
А ў той далі — мэта, сонца...
Хвалі ветрыка
Ў паветры
Прабягаюць,
Срэбрам ззяюць
Ніўкі збожжа.
Як прыгожа!..

Гэй, наперад, браце-дружа!
Што, знядужаў? — не жартуй жа!
Хопіць сілы,
Глянь, як міла
Навакола —
Выйдзем здолу,
Торбы скінем,
Адпачынем.

Хоць прамністы шлях дарогі
Пяруністы — млеюць ногі...
Дух бадзёрны,
Непакорны,
Імпэт волі
На прыволле
З грудзей рвецца,
Ўдаль імкнецца.

Сіня, сіня даль, як мора,
Ужо сягоння, то не ўчора...
Гэй, сяйбіты,
Барацьбіты,
Спее ніва,
Будзе жніва
З нашай працы...
Уперад, браце!..

## НЕ ПЫТАЙ

Не пытай у мяне,
Чаму песня мая
Гэтак сумна гучыць?
Зразумей! — то праклён,
То адбітак тых дзён
Ў сэрцы болем дрыжыць.
То не плач, о павер!
Гэтак ранены звер
Стогнам жаль у душы выклікае,
На адчаю то спеў,
Гэтак змучаны леў
З енкам клетку няволі ламае.

Мой братко, не пытай:
Я — ад плуга ратай,
Не магу я пяяць аб прадвесні,
Покі ў сэрцы зіма,
Навокал мяне цьма —
Я пяяць буду сумныя песні.
Не паэт я — о, не!..
То стварыла мяне
Маіх брацяў пакута-нядоля.
Я ўсяго — Васілёк,
Мяне лёс незнарок
Тут пасеяў між роднага поля.
Міла мне паглядаць,
Як хвалююць-шумяць
Каласочкі на вузенькіх нівах,
Ветрык ледзь скалыхне,
Заварушыць-пакне,
Песціць ласкаю іх жартаўліва.
Я жыву той красой,
Калі з срэбнай расой
Загуляюць праменьчыкі сонца,
Тых блакіт вышыня
Дзіўным росквітам дня
Усміхаецца роднай старонцы.

Запытай у мяне,
Чаму весела мне,
Чаму сум мой тады дзесь знікае,

Ажывае ў грудзёх
Моц — бадзёрнасці дух,
Вера ў яснасць прыгожага мая.
Як кіпіць тады кроў,
З душы льюцца без слоў
Гімны шчасця да сонца-прастору.
А той песні у тон
Мой нясецца праклён
Людскім бедам, злой цемры і гору.

* * *

Тых, хто шчасця дзён пазбыты,
Чые слёзы ціха льюцца,
Хто нядоляю спавіты,
Векам дні каму здаюцца...

Ласкай сэрца тых сагрэю,
Раздзялю іх гора злое —
Бо па іх душой хварэю,
Ім жыццё аддам сваё я.

## РОДНАЙ МАТУЛІ

З балючай у сэрцы тугою
Я ўспомніў, матуля, цябе.
З старонкай далёкай, чужою
Судзіў лёс зрадніцца табе.
Самкнуўшы навек свае вочы,
Ў зямліцы сырой ты ляжыш.
Хто там да магілы сірочай
Прыйдзе пад пахілены крыж?
Парой залацістага мая —
Красы расквітаючых дзён,
Хто родным слаўцом прывітае
Святы векавечны твой сон?

Ніхто... мо палын над магілай
Тужліва шуміць на вясне...
Чужая, матулечка міла,
Чужая ты ў той старане.

Твая да радзімай краіны
Гарачага сэрца любоў
Запала ў душу твайго сына
З дзіцячых, мінулых гадоў.

«Сын мой, ты дарослым пазнаеш
Ўсю крыўду, бяздолле людзей...»
Пазнаў жа, пазнаў, дарагая,
Усё... болем ўласных грудзей.

Пазнаў подласць чорнага бруду,
Пазнаў і красы забыццё...
Пазнаў лёс працоўнага люду,
Пазнаў барацьбу за жыццё.

І сэрца юнацкае кінуў
У ахвяру дзён шчасця, красы.
Тэстамент, што ты дала сыну,
У грудзёх праз жыццё я нясу.



# ІЗРАІЛЬ ПЛАЎНІК

Плаўнік Ізраіль Яфімавіч нарадзіўся ў 1905 г. у мястэчку Пасадзец былога Вілейскага пав. Віленскай губ. Вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Мінску. Працаваў карэктарам у друкарні.

Першыя вершы І. Плаўніка з'явіліся ў друку ў 1925 годзе. Праз год выйшаў зборнік «Звон вясны», у якім змешчаны вершы І. Плаўніка і С. Дарожнага.

Загінуў І. Плаўнік у 1941 годзе ў акупіраваным фашыстамі Мінску.

## САНЕТЫ

I

Наш творчы час жывым агнём палае,
А думак сеў — калёрамі зарніц...
Ў адзін напеў стараемся завіць
Прастор зімы і смех вясёлы мая...

Няхай рычыць нядругаў зграя злая:
«Яны адны — сагнуцца хутка ніц...»
Мелодый жар, змагання бліскавіц
Ім не тушыць!.. Я гэта добра знаю!..

А ты, паэт, гары ў сваім імкненні!..
І да жыцця знайдзі такія звенні,
Каб разам з ім да сонца падысці...

І зазіхцяць твае паходні-словы,
І павядуць бяспутных у быцці
На светлы шлях, праменісты, вясновы!..

II

На светлы шлях, праменіста-вясновы
Імчыць табун віхрастых коней-дзён...
І, нібы гром, стукоча тупат-звон...
Гараць агнём на сонцы іх падковы.

І нас нясуць праз пушчы і дубровы,—
Мы чуем крык — мінулага праклён,
Але яго здушыў часоў закон,—
Здаецца ён слабым і выпадковым.

Глядзі, яздок, шчэ многа у дарозе
Спаткаеш ты заломаў і пагрозаў:
Не паслабляй на хвілю павадоў!..

Кіруй туды, дзе шчасце яснацветам
Мігціцца за фіранкаю гадоў:
У гэтым ёсць тваёй пагоні мэта!..

*1928*



# АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

Андрэй Іванавіч Александровіч (22.1.1906, Мінск — 6.1.1963). З рабочых. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1930). Працаваў у газетах і часопісах. Жыў на Крайняй Поўначы (1938—47), у Краснаярскім краі (1949—55). Друкаваўся з 1921 г. Выдаў кнігі паэзіі «Прозалаць» (1926), «Угрунь» (1927), «Фабрыка смерці» (1929), «Гудкі» (1930), «Вершы і паэмы» (1931), «Узброеныя песні» (1936), «Выбранае» (1958) і інш. Для дзяцей напісаў кніжкі «Рыбак» (1928), «Калыханка» (1930), «Шчаслівая дарога» (1935), «Падарунак дзеткам-малалеткам» (1936) і інш.

## ЗА ІГОЛКАЙ

Песні — гучныя вясёлкі —
Пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка,
Навамоднае манто.
А як толькі звечарэе,
Як заморыцца рука,
Пабягу тады хутчэй я
Хлопца любага спаткаць.
Ой, прысяду каля саду,
Каля саду пры сасне.
Загадае пяць загадак,
Пяць загадак мілы мне:
— Каля дрэўца што віецца?
— А без цвету што цвіце?
— Што без голасу смяецца?
— Што без кораня расце?
— Што бяжыць і след знікае? —
Загадае мілы мне.
Месяц выплыве з-за гаю
На сярэбраным чаўне.
Песні — гучныя вясёлкі —
Пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка,
Навамоднае манто.

*1925*

## САСНА

### 1

Не адна, як струна,
Сасонка расла
У бязмежным
Бары-гушчары.
А сягоння яна,
Пачарнеўшы, лягла
На аснежным
Фабрычным двары.

Зазвінела піла,
Застагнала сасна;
Пры дарозе,
Як слёзы, апілкі.
Сасонка расла,
Як струна,
Не адна —
З ёй і сёстры, як тыя асілкі.

Расла маладзіцай,
Вяршыняю смела
Шумела
І ў сцюжу-завею.
Бывала, імчыцца
Вей-вецер
І вецце
Лёгкім павевам авее.

І птушкі зайграюць
Сасонцы
Да сонца,
Як быццам на гуслях зялёных.
Цяпер, як скала,
Анямеўшы, лягла,
Закрыўшы далонямі скроні.

2

Эх, сасоніца-сасна,
        Дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
        Хата новая.
Гаратлівасці былой
        Час пазбыцца нам,
Забудуем шыр балот
        Камяніцамі!
Свой будуем светлы лёс,
        Цемру гонячы.
Мы кладзём да шчасця мост
        Шляхам сонечным.

Эх, сасоніца-сасна,
Дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
Хата новая.

3

Радасць прыносіць нам праца цяжкая,
Мужнасць людская
вышынь дасягае!
Наш поступ, наш рух
не суняць завірухам.
І хочаш не хочаш,
А песню рабочых,
Песню рабочых —
Слухай:
Гэй жа, разам!
Гэй жа, разам!
Гэй, адразу
возьмем
разам!
Гуртам, дружна,
Хлопцы, здужым!
Гэй, яшчэ!
Яшчэ!
Яшчэ!
Будзе сонца
ззяць ярчэй.
Красавацца
Будзе садам
Наша праца,
Наша радасць.
Час
за нас,
Рабочы клас
Гэй, адразу,
разам —
раз!

4

Эх, сасоніца-сасна,
Дні суровыя,
Бервяно да бервяна —
Хата новая.
Багну высушым да дна,
Стануць караблёвыя,
За сасонкаю — сасна,
Сосны новыя.

*1926*

## ГУДКІ

I

Як толькі ноч суровая
За небасхіл збяжыць,
Зарніца каляровая
Над краем задрыжыць.
Прасторы абуджаюцца,
Удаль, ва ўсе бакі,
Лятуць, пераклікаюцца
Гудкі... Гудкі.

II

За працу стаць напружную
Рабочыя ідуць.
Сярмяжную, лапцюжную
Збыць спадчыну-бяду.
У вёску з самажнейкамі
Імчацца цягнікі.
Зліваюцца з жалейкамі
Гудкі... Гудкі.

III

Была зіма. Праменні нам
Жалобай ткалі сказ.
Замоўкла сэрца Леніна,—
Цяжкі і горкі час.

Заціхлі ўсёй краінаю
Сякеры, малаткі.
Заплакалі хвілінаю
Гудкі... Гудкі.

IV

Мы дужымі, плячыстымі
І крэпнем, і расцём.
Мы будзем камуністамі,
На змену мы ідзём.
Спатрэбіцца — дык зможам мы
У рукі ўзяць штыкі,
Хай загудуць трывожныя
Гудкі... Гудкі.

*1927*

## ПЕРАМОГА

У тундры я пражыў гады,
Там, помню, веі гэтак дзьмулі,
Што тэлеграфныя танулі
У снегавішчах правады.

Здавалася: ад завірух,
Ад сцюжы ветру ледзянога
Жыцця канчалася дарога,
Парой ажно займала дух.

Было, ў палатках мы жылі,
З плеч не скідаючы бушлата,
Пасля пургі мы з тых палатак
Вылазілі, як з-пад зямлі.

Стаяў туман, мароз круты.
Не пераводзячы дыхання,
Вялі мы ўпартае змаганне
З дыханнем вечнай мерзлаты.

І не прайшоў, здаецца, год,
А горда першы рудны камень,
Здабыты ў нетрах тундры намі,
Мы ўжо грузілі ў самалёт.

*1956*



# СЯРГЕЙ ФАМІН

Сяргей Уладзіміравіч Фамін нарадзіўся 29.4.1906 г. у в. Пепелеўка Манастыршчынскага р-на Смаленскай вобл. (РСФСР) у сям'і настаўніка. У 1925 г. скончыў Магілёўскі педагагічны тэхнікум, а ў 1932 г.— Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Памёр 4.12.1941 г. Друкаваўся з 1925 г. у часопісах «Маладняк», «Полымя», «Маладняк Барысаўшчыны» і інш. У 1927 г. выйшла паэма «Балота».

## РАЗВІТАННЕ

На камінку агні адпалалі,
Вечар казкі асеннія сніць...
Ну, бывай! Да вясновых прагалін,
Да спаткання ў зялёныя дні.

Прыйдзеш ты, калі песням пад холад
Не скуголіць журбою імжы,
Калі ўпершы у родныя сёлы
Прыляцяць журавы і стрыжы.

Будуць клікаць цябе аграномам,
Ўвечар ў хату збярэш з паўсяла,
Каб на пустках ад плёну салома
Да зямлі галавой прылягла.

Ну — бывай... Вось фурманка ля школы...
Па цябе... А у сэрцы жаль...
Там, на пустцы здратаванай, голай
Разгарэўся асенні пажар.

*1928*



# СЯРГЕЙ НОВІК-ПЯЮН

Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн нарадзіўся 27.8.1906 г. у в. Лявонавічы Нясвіжскага р-на. У 1924 г. скончыў Нясвіжскую гімназію, у 1926 г.— беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. Быў актыўным удзельнікам грамадскага і культурнага руху ў Заходняй Беларусі. У 1926 г. тагачаснымі польскімі ўладамі быў сасланы на Памор'е, у часы фашысцкай акупацыі сядзеў у турме ў Слоніме, у Калдычаўскім лагеры смерці. Друкуецца з 1926 г. Арганізатар і першы кіраўнік славутага Лявонавіцкага народнага хору, аўтар слоў і музыкі песень «Зорачкі», «Над Шчарай». Выйшлі ў свет зборнікі паэзіі «Раннія песні» (1984), «Зорачкі ясныя» (1986).

## ЗОРАЧКІ

Дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам хвалі рэк бурлівых ўдаль бягуць.
Трэці год ўжо на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.

Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не працягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш нават думак ні з кім тут,
Не прыгорне ў адзіноце родны кут.

Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць.
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне
У маёй роднай ды далёкай старане?

Ці татулька і матулька мае спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?
Мо й яны пытаюць зорак аба мне,
Што раблю цяпер ў далёкай чужыне?

Калі толькі мае родныя не спяць,
Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць,
Занясіце ім, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!

І скажыце, каб не плакаў ні адзін,
Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын!
Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.

З новай верай, з новай сілай зажывём,
Беларускі гімн свой родны запяём,
Гэты гімн, як гром, памчыцца ў аблакі —
Усе пазнаюць, што ўжо вольны бедакі.

Сонца з неба будзе край наш саграваць,
Беларусаў ўсіх да працы прабуджаць,
Беларускай песні роднае пад тон
Заарэм мы і засеем свой загон.

Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць,
Што, як сёння, ў небе будуць зіхатаць...
Занясіце ж вы, пакуль не блісуў свет,
Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!

*1929*

## НАД ШЧАРАЙ

**Слонімскі вальс**

Вечар. Над Шчарай лягла
Белым прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць.
Сном веснавым Слонім спіць.

Толькі адзін я не сплю —
Сэрца баліць, бо люблю!
Меру за крокам я крок,
Мчыць са мной думак паток...

Ноч. А над Шчарай лягла
Дзіўным прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць.
Сном веснавым Слонім спіць.



# АЛЕСЬ САЛАГУБ

Алесь Феафілавіч Салагуб (18.10.1906, в. Зарудзічы Смаргонскага р-на Мінскай вобл.). З сялян. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1922—24). За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы (1924, 1927) зняволены ў віленскую турму Лукішкі. У 1928 г. нелегальна перайшоў польска-савецкую граніцу, жыў у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1931). Друкаваўся з 1925 г. у прагрэсіўных заходнебеларускіх выданнях. У Мінску выдаў зборнік вершаў «Лукішкі» (1929). Выступаў як літаратуразнавец і публіцыст. Арыштаваны, прыгавораны да расстрэлу 9.1.1934 г. Расстраляны 17.5.1934 г.

* * *

Цені ад кратаў кладуцца
На процілеглай сцяне...
Штосьці не спіцца ўсё мне,
Крылатыя думкі нясуцца
І вабяць кудысьці мяне.
Куды?
І нашто сярод ночы,
Як коні стаенныя, мкнуць?
Асабістага шчасця мо вочы
Цярэбяць між дроту шлях-пуць?
Прэч, ілюзіі, прэч, недарэчнасць!
Не да ўласнае мэты мой шлях,
Са мной часу ідэі і вечнасць
І ў крыві апалосканы сцяг!
Да агульнага шчасця, да свету
Скіраваў я канёў сваіх бег.
Пазайздросціў няшчасцям паэта,
Што жыве не для ўласных уцех.
Мо за славай бягу, што блiснула
Мішурой сярод белага дня?
Не ў той бок, не туды ўзлынула
Светлавокая думка мая!
Не па роскаш брыльянтаў, саетаў
Летуценні свае скіраваў,
Не для славы мінутнае свету
Мой спакой, волю, шчасце аддаў.
Маё шчасце у шчасці мільёнаў,
Мая воля — у вольнасці ўсіх,
Калі сэрцы заскачуць без стогнаў
У зіянні агнёў залатых.

*1927*
*Лукішкі*

## ЛІПНЁВАЙ РАНІЦАЙ

Агністы пук, куль сонечнай саломы,
Праз краты пырснуў, дрогнуў на пасцель,
І туману расплывісты кісель
Прапаў і знік, як гукі звона.

Агністы пук лізаў цэменту ногі,
На даху вераб'і спраўлялі гучны хор.
Смяялась даль, смяяўся кругазор,
Здалёк няслося трахтанне дарогі.

Т-р-р-р! Свісток. Астрожнікі ўсталі,
Смяюцца з лёхаў, кашляюць з акон...
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

Перасыпаю дні, як на таку зярно —
Душою, сэрцам я і моцны і цвярозы,
Мне аднастайнасці не страх жыцця:
Я — пралетар, я новых дзён дзіця...

*1927*

## ДА БЕЛАРУСКІХ НАСТАЎНІКАЎ-РЭНЕГАТАЎ

Перед опасностью позорно-малодушны
И перад властию презренные рабы.

*М. Лермантаў*

«Паны» з-пад стрэх сялянскіх хатаў,
«Паны» з шарачку і сярмяг!
У чыіх бацькоў так густа латаў?
Хто з посту-голаду сасмяг?

Народ распяты, здзекі, мукі...
Чужынец смокча скарб зямлі,
Народ за помаччу ўзняў рукі,
А дзе ж сыны? О, дзе яны?

Яны ў манішках і цыліндрах,
На карку выгладжаны фрак,
Кіёк ляскованы ў руках —
Не сунься, бацька-небарака:
То ж гэта лорды ходзяць так.
. . . . . . . . . . . . . .

Перад уладай ён рассыпся макам,
Як мыш пад венікам сядзіць,
Ягоны звычай — хадзіць ракам,
Ягоны лозунг: «Абы жыць...»

Народ распяты, у ганьбе мова,
На ўсім ляжыць нуды пячаць,
А дзе ж сыны, дзе абарона?
— Пайшлі... спаць.

Хто нас скіруе па дарозе?
Дзе нашы брацця-змагары?
— Сядзяць яны, сядзяць у астрозе
Сяўцы барбы, правадыры.

Паны, сыдзіце нам з дарогі!
Не знішчыць вам працоўны гмах,
Сыдзіце, покуль цэлы ногі —
Нам агню-полымя не страх.

Для нас не страх жыцця стыхіі,
Для нас ў турме турмы няма:
Мы бурым замчышчы старыя,
Для нас прастор, для нас вясна.

Будуем хаты рабачаям,
Узносім вольнай працы гмах,
Вякоў кайданы разбіваем,
Каб палымнеў Чырвоны сцяг.

Мы веснаход — нясем свабоду,
Мы крыгалом — нясем цяпло.
Мы змагары, нясем народу
Прасвету, Волю і Дабро.

*1927*



# АЛЕСЬ ЗВОНАК

Алесь (Пётр Барысавіч) Звонак. Нарадзіўся 14.2.1907 г. у Мінску. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1931), аспірантуру Дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства (1934, Ленінград). Працаваў на беларускім радыё (1927—29), у Акадэміі навук БССР (1934—35), у газеце «Літаратура і мастацтва» (1935—36). Арыштаваны 14.9.1936 г., асуджаны на 10 гадоў. Працаваў на геалагічных аб'ектах Поўначы. З 1955 г. жыве ў Мінску.

Друкуецца з 1925 г. Першы зборнік вершаў «Пунсовае ранне» (1926) выдаў з Я. Бобрыкам і Я. Туміловічам. Аўтар паэтычных зборнікаў «Буры ў граніце» (1929), «На лінію агню!» (1932), «Мая Радзіма» (1935), «Табе адной» (1957), «Запаветнае», (1961), «Россып» (1967), «Прадчуванне» (1974), «Санеты» (1982), «Сябрына» (1987) і інш. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1977). Выступае як драматург, крытык. Пераклаў паасобныя творы А. Пушкіна, М. Някрасава, М. Рыльскага, П. Тычыны, Р. Гамзатава, Ю. Славацкага, В. Кавальскага і інш.

* * *

Дагарэла зара ў небакраі,
На зямлю ноч спакойна лягла.
У гармонік бярозавы грае
Ў пералеску срабрыстая мгла.

Цішыня. Над туманнай лагчынай,
Як браты, абняліся дубы...
Трэба выцерпець шмат за айчыну,
Каб яе навучыцца любіць.

Прыпадзі да зямлі цёплай ніцма,
Да узоранай плугам раллі —
Ты пачуеш, як б'ецца крыніцай
Сэрца вечна жывое зямлі.

Ты пачуеш, як новае слова
Завітала да нас на парог,
Як нястрымна праходзіць век новы
Па завілінах даўніх дарог;

Як над краем, калісьці загнаным,
Як над краем спрадвечнай журбы
Узыходзіць світанак чаканы,
Несучы незвычайную быль...

Цішыня. Хутка поўнач надыдзе
Сыпаць зор залаты авёс
Ды папасвіцца месяц выйдзе
На ліловую пашу нябёс.

*1926*

## ЦЕНЬ ЕФРАСІННІ

Па руінах разбураных келляў,
Там, дзе зеўраюць з трэшчын вякі,
Я спускаўся ў твае падзямеллі,
І спалохана ў пальцах трымцелі
Свечак доўгія языкі...

Пачарнелыя глыбы скляпенняў,
Лабірынты бясконцых хадоў
Праглыналі дрыготкія цені...
Быў, як мудрасці сімвал нятленны,—
Сцёрты надпіс далёкіх гадоў.

Сустракалі няветліва госця,
Не ўставалі з сатлелых грабніц
Мудрых продкаў пажоўклыя косці...
А жылі ж, пракліналі кагосьці,
Перш чым пасці закутымі ніц.

Пахла воскам у прыцемку сінім.
І здавалася, з дна тайнікоў
Свецяць вочы Вялікай Княгіні...
Гэта здань твая, Ефрасіння,
Мільганула з глыбінь вякоў!

*1927*

## АСЕННІЯ СКРЫПКІ

Прамення залочаны смык
Асеннія скрыпкі галубіць.
І сэрца знямелага крык
Не кратае скрухаю губы.

Я ў зрэнкі твае зазірну,
Усмешку злаўлю незнарокам,
І раптам згадаю вясну
І вобраз забытай далёкай.

Яна не такая, як ты,
Яе не паблытаць з другою:
І позірк не той яснаты,
І сэрца, напэўна, не тое...

* * *

Вецер носіць лёгкія сняжынкі —
Гэта восень ходзіць белай павай,
Напявае штосьці пад сурдзінку
На лугах няскошанай атаве...

Анічога! Снег яшчэ растане,
Познім сонцам дзень пазалацее,
Прыйдзе, прыйдзе нашае спатканне,
А за ім няхай ідуць завеі...

Адшуміць кастрычнік жаўталісты
І надзене белую карону,
Так і ты з усмешкай прамяністай
Прамільгнеш у забыцця сутонне...

Салаўю ўсё роўна — абы песня,
Абы сонца ды кавалак ценю.
Супраць буры плыць куды пачэсней,
Чым схіліць пакорліва калені.

Пакручастай гэтаю дарогай,
Можа, я вярнуся з падарожжа,
З чыстым сэрцам стану ля парога,
Дзверы мне тады адчыніш, можа?

Я прыйду былога напамінкам
Праспяваць жыццю і шчасцю славу...
...Вецер носіць лёгкія сняжынкі,
Ходзіць восень ціха белай павай...

*1944*

## АРЛАН

Лунаў арлан над сопкай беласнежнай,
Дзе сонца, ў вочы блікамі б'ючы,
Сляпіла пільны зрок арліны.
Яго ўсё вабіў акіян бязмежны,
І бліскавіцы грозныя мячы,
І дзікія міжгорныя лагчыны.
І, ўзняўшыся да краю хмары срэбнай,
Ён крылле белае над светам распластаў,
Пільнуючы нядбайную здабычу.
А дзесьці там, між сланцаватых рэбраў,
Ля выемкі бясцэннага пласта
За ім сачыў здабытчык-паляўнічы.
І грымнуў стрэл.
                І вось шпарчэй, чым камень,
Паў белакрылы на скалу арлан
З асколкам неба ў воку ашклянелым...
...І мне знаёма рызыка шуканняў
І самародкаў рэдкасны паклад,
І ўзлёт увысь,
                і ў бездань крок нясмелы...
Адно нязменна: вечны рух наперад,
І мараў раззлочаны спічак,
І радасць лёту думкі белакрылай...
Таму лаўлю жар-птушкі алай пер'е,
А сам нашу, пакуль жывы, ў вачах
Асколак неба бацькаўшчыны мілай...

*1951*

## ДЗЕ ПРОЙДЗЕ МАЛАДОСЦЬ

Далёкі бераг пеністага мора,
З шырынь паўночных сцюжныя вятры,
Кладзе вялікай ночы шэры морак
Сваю далонь на белыя шатры.

А там,
        дзе даль пазёмкаю дыміцца,
Губляючы уласныя сляды,

Блукае маладая аляніца,
Адбіўшыся ад роднай чарады.

Пільнуе курапатку зыркі собаль
Ды песняй цішыні звіняць снягі,
На след заечы важнаю асобай
Ідзе пясец,
звужаючы кругі.

Успалыхне залётная камета,
На міг праклаўшы ў небе срэбны шрам,
І ловіць зрок,
як добрую прыкмету,
Яе ў дарозе к новым берагам.

Дарма вятроў раптоўныя набегі
Да нас склікалі ліха і бяду,
Спынялі сон кароткага начлегу,
Ды не спынілі мужнасці хаду.

Як старадаўніх дзён землепраходцы,
Мы пракладалі ў белых пустках шлях,
Бо там, дзе пройдуць ногі маладосці,
Дыхне жыццём і мёртвая зямля!

*1954*

## БЕЛАРУСЫ

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

*Янка Купала*

Над горадам вецер асенні гудзе,
Барвянай зарою займаецца дзень...
А хто там, а хто там, а хто там ідзе?
— Ідуць беларусы!

Паўвека ўрачыста адмервае час
З той даты, калі пад сцягі Ільіча
У бой за свабоду плячо да пляча
пайшлі беларусы!

І крыўду, што гнула людзей да зямлі,
Кастрычніцкім ветрам навекі змялі,
Каб з гэтай часіны назвацца маглі
людзьмі беларусы!

А хто там ідзе ды ў такой грамадзе,
Хто песняй і меддзю аркестраў гудзе,
Дзе месца няма ні бядзе, ні нудзе?
— Сыны Беларусі!

Устань жа, паэт, мудрым вокам зірні:
Ты сны аб Камуне трывожныя сніў,—
Ярчэюць яе залатыя агні
па ўсёй Беларусі!

А хто там ідзе? Чуеш гучны адказ:
Ідзе шматмільённы рабочы клас,
Каму падуладны Наступнага час
зямлі беларускай!

Ён шчасце нясе, а не крыўду з бядой,
На плошчы, на вуліцы сёл, гарадоў,
У кожны, асветлены радасцю дом
зямлі беларускай!

А хто там ідзе з паднямонскіх нізін?
З-пад пушчаў палескіх,
наддзвінскіх раўнін?
Прапраўнук Скарыны? Заслонава сын?
— Народ Беларусі!

А хто там ідзе ў алым моры сцягоў?
Шахцёр? Нафтавік? Пакарыцель палёў?
Вучоны ці воін?
— Мільёны сыноў
зямлі беларускай!

А хто на чале тых мільёнаў ідзе?
Хто ў заўтрашні дзень іх да шчасця вядзе?
Як зваць тых нязломных і простых людзей?
— Іх зваць — камуністы!

*1967*

* * *

Multum ex parvo, parvum ex multo.[1]
*Лацінскае выслоўе*

З дробнага вялікае, дробнае з вялікага —
Вось ён, існавання пакручасты ход!
Але вечна жыць жывому, што заклікана
Весці ў свет Наступнага чалавечы род.
Хоць зямля варожасцю надвае расколата,
І крывёй гарачаю збарваваны дол,
А жанчыны кволыя нараджаюць волатаў,
Рушыць дух адзінства ў наступ на раскол;
А блакітны сон нябёс, дажджамі вымытых,
Скалынае гул нябачаных ракет;
А з людское волі, нібы з бронзы, выліты
Веку дваццаць першага бачыцца макет.
З дробнага вялікае, дробнае з вялікага:
Бліскавічны след — жыцця кароткі шлях.
Так з вышынь надмесячных
забаўкаю-бліскаўкай
Астранаўту бачыцца Матухна-Зямля!
Чалавечы дух ні з чым не суразмерны,
Ён з драбніц стварае валатовы гмах
Будучыні той, што з нашым часам зверана,
Што, з хвілін народжаная, зажыве ў вяках.
У малым вялікае ўбачыш толькі розумам,
Створана вялікае з дробных велічынь,
Бо раджаюць шолахі навальніцу грозную,
Бо ствараюць кроплі акіянаў плынь!

*1971*

---

[1] Дробнае з вялікага, вялікае з дробнага.

## ХАРАСТВО

Блакітнай хвалі несціханы бег
На берагі ў смарагдавай аправе...
О Нарач! Сэрца я прынёс табе,
Валодаць ім — тваё сягоння права!

Па-над абрывам схіленай вярбе
Штось шэпчуць сарамлівыя купавы,
Вяслом кранае воблака грабец,
Глядзі: кране і сонца неўзабаве!

Я ўпершыню вітаюся з табой,
Я першы раз красы твае прыгубіў,
Суняўшы сэрца гулкі перабой!

І я дзіўлюся, як у вечным шлюбе
Пясчаных берагоў сухія губы
Цалуе хваляў ранішні прыбой...

*1956*

## ЗЯЛЁНАЕ

Зялёнае.
Светабудовы стрыжань.
Цыклоп з чырвонай зрэнкай — семафор.
І — стоп!
І што ні крок, то бліжай, бліжай
Кут салаўіны, дзьмухаўцы, чабор.

Тут цішыня.
Тут дзень ад сонца рыжы.
Тут разамлеў спякотаю сыр-бор.
Тут з-пад ялінкі вабіць вока рыжык.
Тут вечарком патрэсквае касцёр.

Тут неба — фіялетавым скляпеннем,
Тут водсветы далёкіх навальніц,
Тут вогнішчаў пачварыстыя цені,

Тут водар мацыёл і медуніц.
Зялёнае! Змяні душы тамленне
На цішыню і тонкі пах суніц!

*1960—1966*

## МЕЛОДЫЯ

Свет гукаў трапяткіх, непадуладны,
Як многім іншым, ты і мне, на жаль,
Хоць слых, тваёй мелодыяй суладнай
Апанаваны, рвецца ўвысь і ўдаль!

Хай не будзіў я рухам пальцаў прагных
Ні рэха бур на ўздыме стромых скал,
Ні светлай тайны мрояў далягляднных,
Ні бірузовы ўсплёск гуллівых хваль,—

Затое сэрцам, нерва кожнай ніццю,
Усёй няўтольнай сілай пачуцця,
Праз шэпт былінак, грукат навальніцы,

Праз пошум ветру, шолахі трысця
Я слухаў голас твой, прыпаўшы ніцма,
Мелодыя Радзімы і жыцця!

*1968—1970*

## САГА АБ КАХАННІ

**Сіблагаўская быль**

На сібірскіх роўных лядах,
Дзе разгульвала вясна,
Працавалі дзве брыгады
Ад цямна і да цямна.

Справа — уркі, фармазоны;
Злева — дзевы ўсіх масцей.
Сценкай — зона-забарона,
Шляху ў пекла карацей.

Ты яе не пераступіш —
Сочаць пільныя стралкі.
Анямееш, станеш слупам —
Слепіць зрок пейзаж такі:

Без адзення, каб ім пуста,
З ледзь прыкрытаю красой,
Там высаджвалі капусту
Шчабятлівай чарадой

Не анёлы, а багіні,
Сімвал шчасця і бяды!
(Скажаш так, калі жанчыны
Не пабачыў тры гады!)

Раптам звонкі галасочак
Гаманлівы рэй суняў:
— Пашкадуй, мілок-стралочак,
Дазволь мілага абняць!

Вунь стаіць з кашолкай
бульбы
Ненаглядны мой чугрэй,
Нашу волю, нашы гульбы
Заарканіў ліхадзей.

Дзякуй суддзям, пракурорам
За дзесятку на дваіх —
Дачакацца нам не скора
Зноў дзянёчкаў гулявых...

Канваірчык, галубочак,
Прыгажунчык, маладзец,
Дай хвілінку, каб мілочак
Да маіх прыпаў грудзей!..

Шавяльнуў сяржант вусамі,
Падцягнуліся стралкі:
— Што ж, валяйце, ліха з вамі,
На пацеху цырк такі!..

...Калігулавым нашчадкам
Не сасніць гульні такой:
Дзве брыгады білі ў ладкі,
Сыта рагатаў канвой...
. . . . . . . . . . .

Вёў у лагер, як звычайна,
Нас сяржант у змрочны час.
Так святой кахання тайны
Дакрануўся кожны з нас!



# СЯРГЕЙ ДЗЯРГАЙ

Сяргей Сцяпанавіч Дзяргай (27.9.1907, Мінск — 25.12.1980). Да 1935 г. працаваў падчытчыкам у газеце «Звязда». 26.6.1935 г. асуджаны на 3 гады. Удзельнік падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну. У 1953—67 гг. працаваў у сатырычным часопісе «Вожык». Друкаваўся з 1938 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Вачыма будучыні» (1953), «Крэмень аб крэмень» (1958), «Чатыры стыхіі» (1962, Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1964), «Свята ў будзень» (1964), «На вогненнай сцяжыне. Выбранае» (1977) і інш., гумарыстычных твораў у зборніках «Цешча» (1959), «Салата з дзядоўніку» (1977). Пераклаў на беларускую мову паэмы «Гражына» А. Міцкевіча, «Бацька зачумленых» Ю. Славацкага, творы М. Канапніцкай, У. Бранеўскага, Ю. Тувіма, К. Галчынскага, Л. Стафа, Л. Пастэрнака, С. Р. Дабравольскага, А. Каспровіча, С. Поляка, М. Пехаля, А. Важыка, Л. Шэнвальда, В. Варашыльскага, С. Завадскага і інш.

## МЫСЛЬ І СЛОВА

> Мысль изреченная есть ложь.
>
> *Ф. Цютчаў*

Як крэмень аб крэмень
Ударыш, бывае,—
З ударам нарадзіцца
Іскра жывая.
Калі не пагасне,
Калі ацалее,
Яна яшчэ доўга
Змагаецца, тлее —
То гіне і чэзне,
То цьмяна мігае
І ўрэшце
Вялікім агнём зашугае.
Так мысль:
Нарадзіўшыся ў нас нечакана,
Жыве, ў патаемнай
Глыбі захавана.
Па мозгу
Глухіх лабірынтах блукае,
Ірвецца і б'ецца,
І выйсця шукае,
Пакуль, узмужнеўшы,
Даспеўшы ў тых сховах,—
Янаператворыцца
Ў звонкае слова.
І з'явіцца свету
У велічным ззянні,
Прайшоўшы спакусы
І выпрабаванні...
. . . . . . . . . .

Не, слова, што ў муках
Народжана мною,
Павінна быць праўдаю,
А не маною.

## ЧАТЫРЫ СТЫХІІ

### ПАВЕТРА

Глянь, паветра... такое празрыстае,
Прамяністае, лёгкаіскрыстае,
Ледзь ружовае, ледзь залатое,
То спакойнае, то трапяткое;
Тонкім водарам, пахамі мклівымі
За вятрамі бруіцца гуллівымі.
І чаму ад смяротных затоена,
На якіх яно зёлках настоена?
Глянь, паветра... Яно такое!..
Не знайсці параўнання — якое...
Як і ты, з той жа пражы сатканае,
Дарагая мая, каханая.
Мая весняя песня ўрачыстая,
Светлым-светлая, чыстая, чыстая!
Ці не [illegible] мары?.. Пазнаў. Тая самая —
Шчырым-шчырая, нібы сляза мая.
Без цябе — усё навокал цьмянае,
Нецікавае і нежаданае.
Дакрануцца б ледзь-ледзь,
асцярожна...
Мне пра гэта і марыць няможна.
Паглядзець на цябе
хоць бы мельгам...
Ды паветра ж празрыстае — нельга.
Як смуга у блакіце, жаданне
Ледзь народзіцца — тут і растане.
Як смуга у блакіце, жаданне...

### ВАДА

Развважаю. Стаю над ракою.
Вунь той бераг — падаць рукою!
Але трапіць туды не проста —
Ані чоўна няма, ні моста.
Хіба ўраз з галавой акунуцца
Ды на беразе тым апынуцца!

Рызыкнуць? А як раптам патонею?
Гэта ж справа мая, не староння.
Залюляе на хвалях і, мабыць,
У бяздонне віроў завабіць.
— Месца плыткае тут ці глыбокае?
Ты не скажаш мне, зеленавокая?
Што глядзіш на мяне абыякава,
Як на кожнага, як на ўсялякага?
Прыімруж свае вочы русалчыны...
Мой спакой, мая воля згвалчаны.
Ды чаго ад цябе дачакаешся,
Калі думаеш толькі, а каешся!
Слова кінь, і надзея ўваскрэсне...
Ты маўчыш... І маўчанне — як песня,
Але ў ёй ні маны і ні шчырасці —
З гэтай песні пачуццю не вырасці.

Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая,
Халаджавай спакусаю дыхае.
Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая...

## АГОНЬ

Ці мінула хвіліна, другая?..
А ці час супыніўся навечна?..
Я глядзеў, як агонь шугае,
І стаяў, хоць было небяспечна;
Я сябе падбадзёрваў — выстаю
Гэту немарасць, замець іскрыстую;
Мне тады безразважна здалося:
Усё у полымі гэтым злілося.
Але раптам над вогненнай багнаю
Саламандру я ўгледзеў прагную.
У яе па агністаму джалу
Беглі кроплі жадання і шалу.
І тады здрыгануўся я ўпотай
Усёй сваёй чалавечай істотай.
Як агонь... Ты якраз такая ж:
Зблізу — паліш, здалёк — апякаеш.
Нестрыманая і апантаная,
І жаданая і нежаданая,

Да цябе — у агні і ў полымі —
Не падыдзеш з пачуццямі кволымі:
Апячэш... і мясціну балючую
Не загоіш вадою гаючаю.

Ледзьве ж згасне агонь ненажэрны —
Папялок застанецца... шэры.
Ледзьве згасне агонь ненажэрны...

## ЗЯМЛЯ

Таямніца зямлі — вялікая.
А сама... да чаго ж яна простая!
Да жыцця нас уладна клікае —
Падзе зерне ў яе і прарастае.
І тады, як наш розум стрывожаны,
А пачуцці, як коні стрыножаны,
Калі ласкі, спакою жадаем —
Да грудзей мы яе прыпадаем.
Светлым-светлая ранняя раніца...
Цемра, ноч навальнічная, хмарная...
О зямля, ты жыцця абранніца,
Буйным плодам яго цяжарная.
Як сустрэцца, дзяўчо, нам пашчасціла?
Чым і як ты наўкола ўсё засціла?
Хіба тым, што, як я, ты зямная ж?
Што ўзрасла не пад райскаю пальмай,
Што нічога, як ёсць, не пытаеш —
Разумееш і радасць і жаль мой.
Сэрца прагне і розум дзярзае,
Бо са мною ты уся дарэшты,
Узнімуся — і твар твойззяе,
Упаду я — і не адштурхнеш ты.

Ці не ты заспакоіш, родная,
Пачуццё маё вечна галоднае!
Ці не ты заспакоіш, родная...

## САПРАЎДНАЕ

Сляза заўсёды горкая,
А пот — салоны,
А кроў — чырвоная,
І гора — чорнае.
Ёсць, праўда, слёзы шчасця,
І ў гэтых слёзах — слодыч...
Ды хіба гэта слёзы?
Кроплі бедныя
З неба яснага!
Яшчэ ёсць пот халодны,
Пот баязліўца,
Вынік страху...
Але хіба пакрые ён кашулю
Срэбрам солі?
Ёсць кроў блакітная,
Народжаная хворым уяўленнем
Гнілых арыстакратаў...
Нічога тут не скажаш,
Не дадасі.
І «гора» ёсць — драбнюткае,
Як макавае зерне,
І гэткае няважкае,
Як белы пух таполі,
Пустое, вокамгненнае,
Як косы дождж улетку...
Не, гэта ўсё не тое,
Бо сапраўды ў жыцці:
Сляза заўсёды горкая,
А пот — салоны,
А кроў — чырвоная,
І гора — чорнае.

## АКУПАЦЫЯ

Святло згінула раптам...
Цемра не падпаўзала спакваля,
Не падкрадалася завуголлямі,
Не засылала наперад змрок і цені.

Цемра — паглынула.
Невідушчая, яна ўглядалася:
Што там, яшчэ бліскае надзея ў вачах?
Глухая, яна ўслухоўвалася:
Што там, яшчэ б'ецца сэрца жывое?
Нерухомая і важкая,
Яна намагалася прасякнуць усюды,
Нават у каморкі нашага мозгу;
Немая і гугнявая,
Яна выла сірэнамі,
Глушыла выбухамі,
Высявала мёртвыя словы,
Якім не дадзена было ўзысці.
Белая бяроза стаяла пашчапаная.
Раса ў полі — высахла.
Жытні колас — асыпаўся.
Голад звіў гняздо ў нашым чэраве.
Мінулае было так далёка,
Што цяжка было яго ўспомніць.
Будучыня... Замест яе была Вера.
Да мэты ішлі наўпрасты,
Абмінаючы дзяцінства, юнацкасць, старасць.
Дня не было:
Дзённыя клопаты разбегліся,
Распаўзліся,
Прытаіліся,
Баючыся напомніць аб сабе.
Ночы не было:
Чародка ружовых сноў
Скінулася зграяй ваўкалакаў,
Шэрых, чорных,
Яны вылі і хапалі за горла.
Жыцця — не было,
Але не было і смерці.
Быў — дух, ператвораны ў полымя.
Мужнасць нараджала герояў.
Помста нараджала герояў.
Надзея нараджала герояў.
Крыўда нараджала герояў.
Смутак нараджаў герояў.
Адчай нараджаў герояў.
І толькі здрада — нараджала тхароў.
Яны пладзіліся і самі сябе жэрлі.

Мы замкнулі свае вусны на замок.
Дзе схаваны ключы,— не ведалі самі.
Не хацелі ведаць, не жадалі ведаць.
Было — не адамкнуць той замок
Ні крывёй, ні жалезам.
Дарэмна здрада падбірала ключы і адмычкі.
Мы пільна ахоўвалі таямніцу,
Таямніцу жыцця.
Мы хавалі яе ў нетрах цёмнага лесу,
Мы хавалі яе на папялішчы спаленай вёскі,
Мы хавалі яе ў зруйнаваных гарадскіх мурах,
Мы хавалі яе ў сваім сэрцы...
І калі ўжо нічога не заставалася,
Нічога! —
Мы перадавалі яе ў іншае сэрца,
А самі падалі на зямлю,
Раскінуўшы рукі крыжам.
На адзінае імгненне
Сонца працінала цемру.
Мы глядзелі на яго,
Глядзелі, ўжо не прымружваючы вачэй.
Лёгка жыць,
Лёгка паміраць,
Адчуваючы
Сваю дужасць,
Сваю веліч,
Сваю Праўду.

## ТРОЕ ЎНАЧЫ

Па правую маю руку ішла
Мужнасць,
Па левую, крыху адстаючы,—
Страх.

Ноч
прыслухоўвалася да нашых крокаў.
Ноч
углядалася ў нас цьмянымі бельмамі.
Ішлі...
Баяліся наступіць на якую гадзюку.

А яны —
таіліся,
варушыліся,
сычэлі.
Недзе нешта цырыкала:
цурык...
цурык...
цурык...
Не, гэта не чужынцы.
Гэта толькі наская сонная птушка ў кустах.
Недзе нешта цяжка дыхала:
хальт...
хальт...
хальт...
Не, гэта не чужынцы.
Гэта толькі наша ўласнае дыханне.
Так мы ішлі,
беглі,
паўзлі...
да мэты.
І раптам я адчуў, што па правую маю руку
няма нікога.
Але...
нікога не было і па левую.
Мае спадарожнікі пакінулі мяне.
Першы —
знік дзесьці наперадзе.
Другі —
крочыў назіркам ззаду.
Я застаўся сам-насам са сваім сэрцам.
А яно ўсё мацней —
біла,
біла,
біла...
аж пакуль...
Ноч грымнула выбухам.
Трое зрабілі сваю справу.

## КАЗКА

Ляці, крумкач! Там дзесьці
Дні вечнасць перагортвае.
Не шкодзіла б прынесці
Вады жывой і мёртвае.
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Дарма свой век убіў я,
Нічога не зрабіў я.
Мне б жывой вады,
Я б зрабіў тады...
Пэўна...

Імчыся, шэры воўча!
Ляці стралой напеўнаю.
Праз ночы патаропча
Вяртайся з каралеўнаю.
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Паплачу, паўздыхаю,
Бо дзеўчыну кахаю...
А яна мяне?
Эт, вядома, не.
Дзе там!

Шчупак! За плынню сіняй
На мора, гэй, туманнае,
Пярсцёнак прынясі мне
І ключ, на дне схаваныя,
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Спяваць бы навучыцца,
Са шчасцем заручыцца,
Свет бы ўвесь, як дом,
Адамкнуць ключом...
Свеце!

Спяшайце, калі ласка!
Жыццё ж, як казка, баецца.
Ды скончылася казка —
Дзесь знікла, не вяртаецца.
А я сяджу і думаю,
Куды падзець бяду маю?
Хіба за працу брацца?
Яна ўратуе, праца!
А тады мяне
І бяда міне.
Праца!



# РАМАН САБАЛЕНКА

Раман Карпавіч Сабаленка нарадзіўся 15.10.1907 г. у в. Сабалі Брагінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Гомельскі педагагічны тэхнікум (1929), вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце (1933—1935). Працаваў журналістам, у 1957—1966 гг.— намеснік галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва». Дэбютаваў вершамі ў 1928 г. У 1935 г. апублікаваў паэму «Брагін» (часопіс «Полымя»). Выдаў зборнікі вершаў «З родных крыніц» (1950) і «Мая эстафета» (1954). Памёр 13.5.1975 г. Аўтар многіх кніг прозы. Выйшлі «Выбраныя творы» ў 2-х тамах (т. 1 — 1967, т. 2 — 1968), «Выбранае» (1977, аповесці і апавяданні).

## ГОЛУБ ЮНАЦТВА

Голуб юнацтва крылаты,
Дзе ты лятаеш?
Над чыёю хатай

Робіш кругі
На крыллях тугіх?
Шкада, што ты з-пад маёй страхі
Вылецеў загадзя.
Я ж гаспадар табе неблагі
Дома і на людзях.
Я хацеў, каб лунаў ты высока,
Як згледзець воку,
Каб ты вечна шумеў крылом
Над маім крокам
І над маім жытлом.
Я не выгнаў цябе б з-пад страхі,
Хай бы ты там хоць век векаваў.
Але от за якія грахі
Пасівела мая галава?
Я ж і ластаўкі не спароў,
Вераб'я не пазбавіў прытулку,
А калі грукатаў
над ваколіцай гром,
Я для іх расчыняў свой дом
І даваў ратунку.
Гэтак добра дзяліцца сваім жытлом,
Хоць часцінку цяпла свайго даць другім.
Закружы ж, голуб мой, над дваром
На крыллях тугіх.
Забуркуй і ўзбудзі буркаваннем
Не мяне аднаго...
Можа, я і не ўстану,
Натаміўшыся ў працы за дзень,
Дык узбудзіш маіх дзяцей,
Ім жа трэба расці...
На зары
Кажуць рост вельмі спорны...
Паглядзі, вунь жа выйшлі ўжо муляры,
Матарысты ўключылі маторы —
Гэтак дзень пачынаецца наш
У імклівым разгоне.

Ён таксама юнак
Малады, як вясна
На загоне.
Шчасцем мы не абдзелены.
Не!
За вялікім гасцінным сталом,
Узмахні ж, голуб мой, на вясне
Нада мной,
над маім жытлом
Галубіным юначым крылом.

*1947*



# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

Station Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Нарадзіўся 19.2.1908 г. у в. Бакінава Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. Скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут у Мінску (1934). Працаваў у прэсе. У 1937—56 гг. у геалагічных экспедыцыях у Сібіры. Друкуецца з 1924 г. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Аўтар паэтычных зборнікаў «Вершы» (1934), «Дарогаю вясны» (1959), «Навальніца» (1966), «Сябрам» (1972), «Рэха маладосці» (1984), «Сонца над маім асеннім садам» (1987), «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1978) і інш. Для дзяцей зборнікі «Звярыны баль» (1936), «Лясная калыханка» (1958), «Будзільнік» (1966), «Вясёлыя дзятлікі» (1970), «Казёл на верталёце» (1987) і інш. Пераклаў паасобныя творы Ю. Тувіма, У. Бранеўскага, Э. Краінскага, В. Кавальскага, К. Слівінскага і інш.

## РАДАСЦЬ МАЯ ЗВІНІЦЬ...

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

Радасць мая звоніць
Словам маладым
Ад сялянскіх гоняў,
Ад сялянскіх ніў.

Ад дуброў шумлівых,
Ад вясковых хат,
Дзе жыцця імклівы
Крочыць новы лад.

Дзень мне усміхнецца,
Ён такі, як я.
Ну, дык хто памкнецца
Радасць утрымаць?

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну ■ усмешкай
Сённяшняму дню.

*1926*

## НА ДВАРЫ МАІМ ЛІСТАПАД

Асыпаецца жоўты сад.
Лістапад ідзе, лістапад.
Сцежка скопана капяжом
Ля акна майго, як нажом.

А я кладачку пакладу
На пясочак сыры, на ваду,
Кладку любай і прыгожанькай,
Не замочыць свае ножанькі.

Яна ж кажа: — Голуб шызанькі,
Дый зазімак ужо блізенька,
Я ж баюся яшчэ змоладу
Першых замаразкаў, холаду...

— Дык да ганачка ад варот
Пранясу цябе цераз лёд,
Пацалункамі засланю,
Гарачэйшымі ад агню.
Асыпаецца жоўты сад,
На двары маім лістапад.

*1940*

## ХІБА ЎПЕРШЫНЮ ІДУ ПА КРУЧЫ?..

Быццам першы раз убачыў гэту покаць,
Быццам першы раз спускаюся з гары...
Ты хапаешся спалохана за локаць,
Суцішаеш крок да Ангары.

Хіба ўпершыню іду па коўзкай кручы
Да заснежаных вяршыняў гор?
Знаю нораў хваляў злых, кіпучых,
Бачыў жах парогаў і шывёр.

Сумаваў не раз па тых мясцінах,
Дзе льняныя косы, вочы — ружы цвет.
Браў калісь пад локаць я дзяўчыну,
Лепшую за ўсіх, за цэлы свет.

Васільковыя ў яе гарэлі вочы.
Больш такіх няма, клянуся я, павер...
Дык хутчэй уніз, сухар размочым:
Згаладаўся, як таежны звер.

*1954*

## ЗАКІД БЕССМЯРОТНАМУ

Зямля на экватары крыху вышэйшая.
*Ньютан*

Я весці спрэчкі не аматар,
Вялікім не магу пярэчыць,
Не быў я там, дзе ёсць экватар,
А пару слоў скажу, дарэчы.

Сцяна Ангарскае плаціны,
Што трыста трыццаць рэк трымае,
Вышэй, вядома, той мясціны,
Дзе шнур-экватар пралягае.

І, стоячы каля падножжа,
Сказаць Ньютану я гатовы:
«О, бессмяротны! Быць не можа,
Што там вышэй! Гатоў даць слова:
Адгэтуль я невыпадкова
Свет бачу і Стары і Новы».

*1956*

* * *

Я не жораў, ды і я ляцеў
З выраю нязвычнага дадому.
Мабыць, толькі круглай сіраце
Хваляванне гэткае вядома.

Як раней, пераступіў парог
Даўняга таварыша і друга.
Да яго я не зайсці не мог,—
Хіба ж п'яніца я, валацуга.

І ўвайшлі са мною пах смалы,
Подых кедраў і таежных елак.
За дарожны час, хоць не малы,
Пахі выветрыцца не паспелі.

Але тут ва ўсім інакшы пах,
Колер пераважна бірузовы,
Сцены і падлога ў дыванах...
Сцепаюся я ў сваіх кірзовых.

— Прабачай, калі патурбаваў.
На дварэ слата, а я з дарогі...
Хоць бы ён па імені назваў,
Хоць бы ў вочы глянуў — не на ногі.

Сэрца, гэта ты сюды вяло,
З дня на дзень чакаючы сустрэчы.
Чуеш, як пякуча абдало
Скразнячком паўночнай халадэчы!

Бачыў я не раз ледавікі,
Холад і мароз даўно вядомы.
Вытру ногі аб палавікі,
Выйшаўшы з твайго, мой дружа, дому.

*1958*

## СКАРЫНА Ў ПРАЗЕ

Скарына расціраў камяк зямлі
У шурпатых пальцах,
Карэнне зелля разглядаў,
Што, нібы ніткі, звіты.

Хоць лекавых раслін аддаўна
Быў вядомым знаўцам,
Расліну ж распазнаць не мог
Вучоны самавіты.

Нарэшце асвятліла твар
Уміг здагадка.
Нібы пасля цямна
Убачыў ён заранкі.
Батанік на калена стаў
Ля самай градкі:
— Ды гэта ж з тых раслін,
Што ў нас растуць ля Абалянкі!..

Радзіма,
я пакінуў сам твае лясы,
Палі, і гарады, і сёлы,
Пайшоў у свет шукаць я для цябе
Святло навукі...
У Празе прыязнай не знаю
Адзіноты невясёлай.
А сэрца неспакойна ўсё ж, бывае,
Б'ецца ад нязнанай мукі.

Хай не крыўдуюць чэхі
(Кожнага лічу з іх братам),
Што па радзіме тут, бывае,
Іншы раз сумую.
Я ж травы гэтыя і дрэвы —
Сад багаты! —
Для нашай еднасці і прыязі
Душой гадую.

І тут, каля крыніцы, што бруіцца
З-пад заімшэлай камяністай кручы
І вільгацю няспынна поіць
І дубы, і травы,
Я зелле-кветкі вырасціў,
Што маюць сок гаючы
Для нашых ран,
І лаўры пасадзіў
Для вашай і для нашай славы.

*1962*

## ЦВІЛІ РАМОНКІ НА ЛУГАХ

Цвілі рамонкі на лугах
І васількі у жыце,
І рассцілалася смуга
Пад сонцам у зеніце.

Усё жывое на зямлі
Даўно дажджу чакала,
На кветках сонныя чмялі
Гулі ледзь чутна, вяла.

Адзіны дуб паміж ялін
Прасцёр свабодна плечы,
Сарокі шумна між галін
Спрачаліся аб нечым.

І адступаў лясцамі лес,
І слаліся выгары,
І чорны пень на ўзвышша ўзлез,
Нібы уцёк ад кары.

Трымцелі лісцікі асін
І пляскалі ў далоні,
Ад іх пустых лядачых кпін
Прыкрыў ляшчыннік скроні.

А я угледзеў жоўты мох,
І пэўна, мне здалося,
Што чую топат ціхіх ног,
Што крочыць полем восень.

Глядзелі кветкі на лугах
На сонца у зеніце,
Неўтаймаваная туга
Схавалася у жыце.

*1976*

## ВАЛАЧОБНІКІ

Блукалі валачобнікі пад ранак за сялом.
За хмарамі падранымі ўжо зоркі не было.
Між імі, гарлапанамі,—
крычаў старэнькі дзед:

— Вясна прыйшла жаданая, прыйшла на цэлы свет...
Мяне між імі, юнага, тады там не было,
Аб гэтым і не ведала вясновае сяло.
І так яно праходзіла нямала зім і лет...
— Вясна прыйшла жаданая,—
крычаў ахрыплы дзед.

Ах, дзе ж вы, валачобнікі, і я гадамі дзед...
Вясна прыйшла жаданая,
вясна-красна на свет.

*1971*



# ЯЎГЕНІЯ ПФЛЯЎМБАЎМ

Яўгенія Эдгардаўна Пфляўмбаўм (нарадзілася 18.10.1908 г.). Вучылася ў Мінскім белпедтэхнікуме. Вершавы дэбют у 1924 г. У 1926 г. друкавалася ў калектыўным зборніку «Вершы» (з З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай).

Найпаўней творчасць Я. Пфляўмбаўм прадстаўлена ў кнізе «Сувой жыцця» (1989).

## У ПОЯСЕ ВЯСНЫ СУРОВАЙ

Так заўжды прагнуць пачуцця,
Пазнаючы яго бясхібна,
Як маці пазнае дзіця
Праз ростані глухія скібы.

Так прадчуваць яго ва ўсім,
Драбніцу кожную аслухваць,
Каб як агню не прыгасіць
Пустой будзённай пацярухай.

Ад безудзельнасці людской
Навослеп крочыць у нягоду,
Да вуснаў тулячы рукой
Яго дыхання чысты водар.

І зноў насустрач ідучы
У навальнічную аблогу,
Не засланяючы нічым
Ні сэрца, ні жыцця самога.

І жыць без гэтага цяпла
У поясе вясны суровай,
Дзе і пралеска не цвіла
Пад шаранам сухога слова.

## ЖЫЦЬ!

Калі разнядужыцца сэрца,
У кратах б'ючыся сваіх,
Як быццам за сажань ад смерці
Ты ўласны свой чуеш уздых,—

Пакліч на ратунак былое,
Дыхні успамінам такім,
Што зрушацца сцены ў пакоі
І вецер усходзіцца ў ім.

А з ветрам і морскія хвалі
Апырскаюць соллю парог:
Пакліча павабная далеч
Яшчэ не таптаных дарог.

І зноў ты пачуеш, як прагай
Напоўніцца сэрца тваё,
Няўтомнае сэрца бадзягі,
Шукальніка спеўных краёў.

І зноў у нябыт не паверыць
Душы акрыяўшай узлёт:
Ёй жыць і бязмежжамі мераць
Ружовы усход і заход.

## МЫ ПІШАМ...

Ратуючы свой ветразь ад мялін,
Ад зноў нераспрамененага неба
Мы пішам, як будуем караблі,
Як руні даглядаем дзеля хлеба.

І слова, як падкова на дзвярах,
Што дом твой вызваляе ад маркоты,
Што нішчыць, узгараючыся, страх
І думку раскалыхвае з дрымоты.

Мы пішам, падуладныя начы,
Імгненню, што скараецца імкненню,
І нам ужо ад слова не ўцячы —
Нявольніцтва яно ці вызваленне.

І смешна, калі ў вершах гамана:
Ці варта, ці не варта быць у славе —
Мы пішам, каб устояла сцяна
У сэрца адбудованай дзяржаве.



# ЮРКА ЛЯВОННЫ

Юрка Лявонны (Леанід Мікалаевіч Юркевіч; 29.7.1908, г. Чавусы Магілёўскай вобл.— 13.12.1943). Скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут у Мінску (1934).

Працаваў у прэсе. Аўтар зборнікаў вершаў «Камсамольскія вершы» і «Штурм» (1930), «Жалезныя віхуры» і «Разбег» (1931), «Стала і мужна» (1932). У 1960 г. выйшла «Выбранае».

Выступаў і як празаік, выдаў зборнік нарысаў «Крок пяцігодкі» (1931). На словы Ю. Лявоннага пісалі песні М. Чуркін, Н. Сакалоўскі, І. Любан.

## КРЫШТАЛЬНАЙ ЦВЕЦЕННЮ ЗАРУЖАВЕЛІ ДАЛІ

Крыштальнай цвеценню заружавелі далі,
І ціхі поўдзень кволы пах прынёс.
Маю краіну цемрай агарталі,
І груганы прарочылі ёй лёс...

Мая краіна светлых дзён не знала,
Яе удзел — спрадвеку боль і здзек.
Таму ў змаганні — іскарка запалу
На полымя мяняецца ў людзей!

І веру я, што не ў сівых сталеццях
Скрозь заквітнеюць ружамі сады
І злучацца сусвету гарады.

І чалавек не будзе сніць аб леце,
Шукаючы прытулку на планеце,
Бо ўсюды лета будзе ўжо тады...

*1927*

## НА МЛЫНЕ

У жарнавах шуршыць пшаніца,
Як шурпаты жвір ці шрот.
За ракой гукае гліца...
Мкнуцца хвалі напярод!

Сівы дах парос травою.
Млын увесь — як вадзянік...
Ўсё бурчыць: няма спакою
Ані ўночы, ані ўдні!

Закіпай бяздонне вод!
Ў белай пене —
Працы звенні,
Гул вясенні
Ў летуценнях,—
Правяць хвалі карагод!..

А за гаем — сонца. Даль —
Посцілкаю гладкай...
Льецца песняю вада
За яловай гаткай.

Рып драўляны — рып калёс.
Ветры у прасторы.
І кладуцца кроплі рос
Раніцой ля бору.

...«Не піхайся... Знай чарод!»
Куль нясуць аж трое,
І шуміць, шуміць чарот
На вясёлым строі!

Ношкі збожжа... Белы пыл...
Меле млын паволі.
. . . . . . . . . . . . .

Вяжуць сонца у снапы
На жытнёвым полі.

*1928*

## РАЗМОВА З МАРСІЯНАМІ

Для нашчадкаў новае, светлае эры
Ў прыродзе
Не можа быць межаў.
Бяздонне і холад нямога этэру
Бліскучыя крыллі разрэжуць!

Калі мяне возьмуць —
Я першы паеду,
Скрозь цемру, між ямін і гор,
З кур'ерскім вагонам, у госці [illegible] суседу,
Які за мільёны вёрст.

А покуль...
Фантазія ніткі звязала
Ў карунак лятункаў і мар,
І чырванню свеціць над нашым вакзалам
Таемны і змрокавы Марс.

Там сеткі каналаў...
Такія ў Егіпце
Цяламі масцілі рабы,
Калі фараоны трымалі ў кіпцях
Разлівы, салдат і сады.

Далёкія людзі ў аблічча нянаскім
З планеты бога вайны!
Можа, ў балоце,
Шкадлівым і гразкім,
І вас патапталі яны?

Можа, і ў вас намазолены карак
Уласным прыгонам даўно?
Гэй, марсіяне —
Ударым, ударым
Не міфам, а жорсткай вайною!

Няхай ваш радысты кароткім сігналам
Паведаміць тэмпы змен,
Аб тым,
Як на зграю шалёнай навалы
Збірае палкі Камінтэрн.

Мацуйце атрады (развеецца гора!)
У бой за найлепшую з мэт!
...І загараецца
Безліччу зорак
Прывабны і шчыры сусвет.

А хмаркі надыдуць — касмічная ростань,
І пеніцца гладзь акіяну.
З цыліндраў фантазій
Пытліва і проста
Глядзяць на Зямлю марсіяне...

*1935*



# АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ

Алесь Мілюць (Аляксандр Макаравіч) нарадзіўся 6.10.1908 г. у вёсцы Скорычы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў два класы пачатковай школы, займаўся самаадукацыяй. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў 26.10.1944 г. на фронце ва Усходняй Прусіі. Друкаваўся ■ 1928 г. у прагрэсіўных заходнебеларускіх газетах і часопісах, а з 1939 г.— у стаўбцоўскай раённай газеце. Асобныя вершы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Крывёю сэрца» (1967).

## ЯНЫ

Запыталіся ў іх, хто такія яны
І чаму тут марнуюць жыццё без пары?
«Мы — саломенных стрэх, бедных вёсак сыны,
Мы — байцы за народ, мы — жыцця змагары!»

Папыталіся ў іх, за што з роднай зямлі
Іх сагналі сюды на нямала гадоў?
«Мы за Волю, за Праўду святую ішлі,
Мы стаялі за долю гаротных братоў!»

Папыталіся ў іх, што ім трэба было?
Што хацелі яны, што імкнуліся ўзяць?
«Мы хацелі, каб ў свеце загінула зло,
Каб самім нам над скарбам сваім панаваць!»

Папыталіся ў іх, што ім будзе пасля?
Які лёс іх спаткае у прышласці дзён?
«Хай пагінем усе... нас прытуліць зямля,
Кінуць людзі за кроў нашу катам праклён.
Будуць помніць і помсціць за нас!» —
Такі быў іх на гэта адказ.

*1930*

## НАПРАДВЕСНІ

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Прабудзіць нашы нівы, дубровы.

Нехта дужы, і смелы, і горды
Расчасаў на загонах чупрыны,
І запелі шчаслівым акордам
Стрэхі хат і дарог каляіны.

Нехта глянуў у цьмяныя шыбы
Залатою вяснянай касуляй,
Так ласкава глядзіць толькі хіба
На дзяцей дарагая матуля.

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Кожны з нас быў да працы
гатовы.

*1939*



# МІХАСЬ БАГУН

Міхась Багун (Міхаіл Фёдаравіч Блошкін; 8.11.1908. г. Мінск — 17.2.1938). Скончыў курсы пры Беларускім педагагічным тэхнікуме ў Мінску (1928). Настаўнічаў, працаваў у прэсе. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Рэха бур» (1931), «Рэвалюцыі» (1932), «Выбранае» (1961). Выступаў і як празаік, перакладчык. 3.11.1936 г. арыштаваны, асуджаны на 8 гадоў зняволення ў сталінскіх лагерах. Памёр у Сіблагу.

## РАСТРАСЛІ СТАРЫЯ КЛЁНЫ...

Растраслі старыя клёны
Ночы чорную кару,
На блакітныя загоны
Хтосьці выкінуў зару.

Сонцам роджанае ранне
Выбягае на палі,
На закінутай паляне
Нехта золата разліў...

Жыць так хораша на свеце!
Жыць без суму і тугі!
Малады бадзяка-вецер
Грае сонцу ціхі гімн...

І ў душы грымяць акорды
Ды на розныя лады:
Я сабой і сонцам горды
І, як ранне, малады!

Пахам іскрыстага рання
Я абмыю юны твар,
На красуючай паляне
Вып'ю радасць хараства.

І пайду назад дадому
Праз расквечаную гаць,
Каб другой або другому
Свежасць рання перадаць.

*1928*

## ВЯСНОВЫ ЭСКІЗ

Пахнуць далі бярозавым сокам,
Чарназёмнаю пахнуць вясной.
На палях — не акінулі вокам —
Закурыўся растрэсены гной.

Па-знаёмаму вечар гарэзны
Па-над борам цалуе зару,
І махае бялявы бярэзнік
Павуціннем зялёных рук.

Вольхі новай набраклі сілай
Над талеркай азёрнай вады,
Млын стары, па-старому мілы,
Хоча стаць, як і я, маладым.

Дажывай свае дні, старэча,
Захлынайся ў жытнёвай крыві,
Камсамольцы з песняй пад вечар
У калгас прывязуць паравік!..

*1928*

## ЛАГЕР УНАЧЫ

Як толькі на плечы
Сярэбраны серп
Ускіне туманная ноч,
Расплешчуцца зоры
Па белай расе
Халодным і чыстым вінам.
Прыціхнуць даліны,
Задрэмлюць бары,
Апошніх агонь
Папярос дагарыць...
Палаткі, як белы
Натоўп птушанят,
Нячутна склікае
К сабе цішыня...
Спакой перарэзалі
Крыкі савы,
Блішчыць, як пярсцёнак,
рака,

Ды там,
На дарозе,
Стаіць вартавы
З вінтоўкай
Ў надзейных руках...
Узад і уперад
Гушкаецца цень,
Маўкліва знікае,
Раптоўна расце.
З-за чорных гарматаў
Праз змрок, праз кусты
Ўсміхаецца зорам
Прыкручаны штых...
На ціхай дарозе
Нікога няма,
Калышацца ноч над ракой...
І чорныя жэрлы сталёвых гармат
Вартуюць савецкі спакой.

*1929*



# МІКОЛА ЗАСІМ

Мікола Засім (Мікалай Арцёмавіч; 19.11.1908, в. Шані Пружанскага р-на Брэсцкай вобл.— 19.7.1957). Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Беларусі (1948). У 20—30 гг. за рэвалюцыйную падпольную дзейнасць уладамі буржуазнай Польшчы няраз арыштоўваўся, сядзеў у турме. У Айчынную вайну ўдзельнік антыфашысцкага падполля і партызанскага руху. У 1948—57 гг. працаваў у брэсцкай абласной газеце «Зара». Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Ад шчырага сэрца» (1947), «Вершы» (1954). Выйшлі «Выбранае» (1960), «Вершы» (1973).

## ПАРАГВАЙ

Ў кожнай вёсцы, ў кожнай хаце,
Як вялік Палескі край,
У старога і дзіцяці
Ў вуснай слова «Парагвай».
Агітацыя вядзецца —
Балахоўцамі, бадай:
«Бедната хай прадаецца
І рушае ў Парагвай.

Усяго там у дастатку:
Пра зямлю, што й гаварыць.
Хто там знае пра падаткі?
Ёсць што есці, ёсць што піць.
А курыць — махоркі горы,
Да труны вам не скурыць,
Ў Парагваі лепей хворым,
Чым здаровым у вас жыць».

А знайшоўся між сялянаў
Ў вёсцы Шубічах Цімох
І так кажа капітану:
— А бадай ты, пане, здох!
Забірай ты перш брухатых,
Ачышчай ад злыдняў край,
Мы ў сябе без вас патрапім
Зрабіць лепшы Парагвай.

*1935*

* * *

Мы нічым так не багаты,
Як багаты мы бядой,
Нашы хаты — ў шыбах латы,
Сцены сыплюцца трухой.
Наш кажух — у куце плесня,
Электрычнасць — корч смальны,
Плача з намі наша песня
Пад хаўтурныя званы.

Наша страва — з квасам бульба,
Наш абутак — гумаў круг,
Наш цягнік — у рукі кульба,
Голад — верны брат і друг.
Наша школа — мур за кратай,
Наш тэатр — то секвестратар,
Кіно наша у шынку,
Воля наша на шнурку.

*1937*

## ВЫПРАЎЛЯЛА МАЦІ СЫНА

Выпраўляла маці сына,
Выпраўляла ў ночку,
Выпраўляючы, прасіла:
— Сынку мой, сыночку!
Мо цябе я не пабачу,
Але хочу, сыну,—
Калі суджана загінуць,—
Каб героем гінуў.

Хоць застануся сама я
На старыя леты,—
Гітлер-гад няхай пазнае
І кацюг ягоных зграя,
Як чапаць Саветы...
Выпраўляла сына ў ночку,—
Паліліся слёзы...
Раным-рана у лясочку,
Ў белым снезе, на грудочку,
Ля старой бярозы.

Крумкачы гульню спраўлялі...
Досыць глюгам стравы:
Злева — немцаў сто ляжала,
Сын матулі — справа.

*1941*

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ БАЦЬКОЎ

Не застрашыце нас, каты,
Ні расстрэлам, ні пятлёю.
За кроў маткі, за кроў таты
Сваю помсту я утрою.

Вобраз голуба-татулі
І ў маршчынах маткі твар
Трапнай зробяць маю кулю
І распаляць помсты жар.

А калі загіну ў бойцы,
Дык такі я не адзін,
Будзе помсціць вам, забойцы,
Друг мой — іншай маткі сын.

*1943*

## СІНІЯ ВОЧЫ

Сінія вочы, сінія вочы,
Вас я ў магілу браці не хочу:
Там пад сырою цяжкай зямлёю
Радасць не бліснe чыстай слязою.
Пакінуць вас хочу наверсе зямліцы,
Дзе праца бурліць і жыццё б'е крыніцай.
Сябры, не шкадуйце, як лягу ў магілу,—
Шчыра галубце
дачаньку мілу:
Яе ж вачаняты — мае, у краплiцу,
Купаныя ў той жа цудоўнай крыніцы,
Палюбяць жыццё, як хацелась паэту,
Сінія вочы —
знайце пра гэта.
Сінія вочы, сінія вочы...
Я паміраці сёння не хочу,
Смерць калі ж прыйдзе, ведайце, людзі,
Засім змагацца, дужацца будзе.
Бо сінія вочы дачуркі, паверце,
Мне адагнацца памогуць ад смерці...

*1955*



# ПЯТРУСЬ ГРАНІТ

Пятрусь Граніт (Іван Пятровіч Івашэвіч) нарадзіўся 11 (24).1.1909 г. у вёсцы Зачэпічы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. Скончыў Навагрудскае педвучылішча (1930).

Друкавацца пачаў з 1933 г. Аўтар зборніка вершаў для дзяцей «Сцяжынка» (1978). Лірыка грамадзянскіх матываў прадстаўлена ў калектыўным зборніку «Сцягі і паходні» (1965).

## БРУКАР

Брукар молатам сталёвым
Звоніць, б'е па камянёх:
Хоча шлях пракласці новы,
Каб не раніць людзям ног.

Утрымае цяжкі молат
Мазалістая далонь.
Размахніся — як той волат,
Высякаючы агонь!

Толькі рэха раздаецца,
Іскры свецяць у вачах.
Камень сцелецца-кладзецца —
Пракладае новы шлях.

Новы шлях прамы і роўны,
Каб не раніць болей ног.
Па ім пойдзе люд працоўны
Да святла і перамог.

*1934*

* * *

Ад працы цяжкое
Ты рук не хавай.
Хоць змучаны, стомлены,—
Песні спявай.

Хай ведаюць гоні,
Лугі і лясы
Аб дружбе і долі
Сярпа і касы.

Рабочыя рукі,
Як рэмень, далонь —
Не знаюць дакукі,
Бо ў сэрцы агонь.

Ці чуеце песню,
Палі і лясы,
Аб лучнасці цеснай
Сярпа і касы?!

*1938*



# СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

Сяргей Дарожны (Сяргей Міхайлавіч Серада, 25.2.1909, г. Слонім — 19.7.1943). Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1930). Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Звон вясны» (1926, з І. Плаўнікам), «Васількова россып» (1929), «Пракосы на памяць» (1932). У 1966 г. выйшлі «Выбраныя вершы».

## ВЕЯНЬ

**Урывак**

*

І чым болей шумуе вецер
І крыжуюцца сцежкі ля хвой,
Я іду весялейшы у свеце,
Ведучы сцежкі долам-травой.
Можа, хто іх калі палічыць,
Можа, ветры пяском занясуць,
А пакуль буду скрозь навальнічыць
І пажоўклую нішчыць красу.

*

Зацвітуць і асыплюцца ружы,
Вецер долам лісты замяце,
Толькі я, мой далёкі дружа,
Буду болей яшчэ залацець.
Бо хачу не пялёсткамі падаць,
Не схіляцца, губляючы ліст,
А цвісці, каб званіла радасць
І калоссе аж нікла зямлі.

*

Мне ўсяго толькі дваццаць гадоў,
А здаецца, вялікая ношка,
Бо нямала таптаў я шляхоў
І губіў на зямлі валошак.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І чым больш адцвітае дуброва,
Тым ярчэй мае вочы гарадь,
Тым званчэй на лісты каляровасць
Рассыпае асенняя рань.

*

Хай лістамі паляны варожаць
І заўсёды шуміць вербалоз,
Я іду стрэць дзяўчыну прыгожую
З навальніцаю русых валос.

Я іду расказаць ёй, далёкай,
Што у сэрцы маім вясна,
Хоць і восень кілімы паблёклыя
Усцілае на сцежках нам.

*1927*

## ВЕСНАВОЕ

Бязмежна рады я сягоння,
Здаюся ў песенны палон...
Кудысьці коні мчацца, коні
Вясенніх і ружовых дзён.

Мінулі золкія завеі,
І клён забыты ля акна,
Ў лятунках ранніх ружавее
Там, за фіранкаю, вясна.

Там, у вясновым шуме саду,
Зімовыя забыты сны,
Там кожны клён бязмерна рады,
Адчуўшы подыхі вясны.

Такая слаўная пагода,
Лятункаў мітусіцца рой...
Я паланён душы разводдзем,
Палескай роднаю вясной.

. . . . . . . . . . . . .

З такога цеснага пакоя
Душа ірвецца ўдалячынь,
Туды, дзе ў бэзавым спакоі
Бярозы ходзяць паначы.

І я схіляюся ў знямозе,
Бо гэта ж толькі сніцца мне:
Зіму апошнія марозы
Дарысавалі на акне.

*1929*

## ЗА ВУЧОБАЙ

Дожджык расцягвае тонкія ніткі,
Роніць іскрыстыя кроплі на шкле.
Жоўты аловак, пакрэмзаны сшытак
Перада мною ляглі на стале.

Як адзінота на спушчаным трапе,
Я сярод даўніх эпох уначы...
Мне дазваляецца мецьсабе лямпу
Роўна у трыццаць і дзве свячы.

Каб у сталетніх пацёмках і пыле
Мудрасці даўняе сівых вякоў
Гэтыя трыццаць і дзве мне свяцілі
Сярод нязведаных слоў маяком.

І, як студэнту-стыпендыяту,
Тэмай адзначана мэта мая:
Лірыкай сумных тэорый і датаў
Мне захапіцца і
Апяяць.

Мне дазваляецца быць супакойным
Перад эскадрамі літар і слоў,
Мне дазваляецца пеша і конна
Ездзіць па кнігах забытых вякоў.

Але ўспаміны... з імі ці зладзіш?..
Восень стаіць між апаленых дрэў,
Быццам паяц на бязлюднай эстрадзе
Сярод запыленых вуліц і стрэх.

Перада мной узнімаюцца сцены
Слаўнай Элады
Байніцы эпох,
Вобразы Троі, асад Карфагена
Ў звоне шчытоў, у прызыве трывог.

Тупаюць коні,
Ломяцца дзіды,
Трупы на полі ляжаць, як снапы...
Стогнуць кіфары аб тых, што не прыйдуць,
Песнямі славячы сумную быль.

Скора дванаццаць. На шыбіне вецер
Квола здувае слязінкі вады.
Троя асаджана...
Троя здаецца...
Літараў войска ахутвае дым.

Морак радзее за вокнамі. Нават
Дожджык сціхае і гасне святло.
Я пераможаны, я засынаю,
Голаў схіліўшы над самым сталом.

Побач на ложку заснуў мой таварыш,
Знаю, і ён, мой вясёлы зямляк,
Сёння Парыж аддае камунарам
І галасуе за смерць караля.

Ён не пакіне сваёй барыкады
Ў час, калі возьмуць апошні рэдут.
Гэта відно: ён Камуне не здрадзіць,
Ён не надзене нявольніцкіх пут.

Тонкай струною нацягнены провад
Дзесьці далёка урэзаўся ў сінь...
Заўтра прафесар, нахмурыўшы бровы,
Скажа: — Залічана,
Добра зусім!

*1929*



# ВАЛЕРЫЙ МАРАКОЎ

Валерый Дзмітрыевіч Маракоў (27.3.1909, в. Акалонія, цяпер у межах г. Мінска — 29.10.1937). Скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут у Мінску (1934). Працаваў мулярам, настаўнічаў у Бабруйску. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Пялёсткі» (1926), «На залатым пакосе» (1927), «Вяршыні жаданняў» (1930), «Права на зброю» (1933), «Лірыка» (1959). У 1936 г.— арышт і турма. Асуджаны ў 1937 г.

* * *

Белае зімняе поле,
Ніў белагрывы прастор
Дыша магутнаю воляй,
Воляй залочаных зор.

Эх, разыдзіся над вёскай,
Сонечнай песні вясна.
Радасна-родных палосак
Ў сэрцы не змоўкне струна.

Сэрца не лёд і не камень,
Ў ім не стрымаеш ты кліч,
Кліч маладога жадання
Вольных прастораў зямлі.

Кінуў той кліч я сягоння,
Сам малады, як вясна,
Радасна-сонечных гоняў
Ў сэрцы не змоўкне струна!

*1925*

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ НА ЗАПАЛКАВАЙ ФАБРЫЦЫ

Да жахлівасці
жорсткае цела станка,
і іграе вачыма
сяброўка ў зялёным,
і гудуць,
і праходзяць
па сэрцы цыклоны,
услаўляючы дні залатога вянка.
Я схіляюся да жалеза і дрэва
бліжай,
і раптам
з адвечнага мора імглы
завітвае вецер —
сляпы чарнакніжнік —
прычытаннем асіны
і енкам пілы.
На палі праліліся
зімы сівізна,
смерць прыйшла
беспадстаўна і жорстка.
Лесарубы-дзядзькі
пад шэранем шорсткім
працавалі у лесе
з відна да відна.

А раннем
па рэйках скакалі вагоны
(рэспублікі нашай
лясныя шляхі),
нас вецер праводзіў
і ныў, як шалёны,
знянслаўлены творца
жабрацкай тугі.
І вось ён прыйшоў
і ударам ў акно
парушыў спакой,
узбудзіў успаміны
дрымотнага лесу,
і зорнай даліны,
і тых, што жывуць
і памерлі даўно.
Ляжыць прада мной бервяно —
не ахопіш,—
стаю і дзіўлюся:
аж кідае ў жах.
А слаўны і заўжды задуманы хлопец
гаворыць — паэта
і сябра мой
Стах —
пра наша юнацтва
і старасць Еўропы.
...І гэтае дрэва
мы кінем
за дзверцы
ў агонь,
каб эпоха
свяціла ярчэй!
Каб нашай рэспублікі
дужае сэрца
не знала змяінай атруты начэй.
Каб сонца і птушка
ўрываліся ў вокны,
каб промні шугалі
з кутка у куток,
каб заўжды ўключалі,
як быццам знарок, мы
у нашыя сэрцы
вясны сваёй ток...

Я ж з песняй
праз дымныя рэкі
і кручы
праношу свой лёс,
як жалезны набой,
каб нашай эпосе
быць заўжды сугучным
і гэту эпоху ўзнімаць
над сабой.
Другой пяцігодкі
смарагдавы выбух,
як дзень малады,
над краінамі крат
заліў
залатымі праменнямі шыбы,
дзе з намі — кітайскі гарняк
і салдат.
Мы лепшае дрэва
сягоння без злому,
як наша юнацтва,
бяром у станкі
і шчырасцю песцім,
як сонцам і громам,
каб класці набоем
агонь ў карабкі.
За гэтую працу,
за дружбу і шчырасць,
за кожнае слова,
за кожны наш
выраз —
вітае дзяўчына
ў зялёным агні,
каб сэрцам ішлі
маладыя
цыклоны,
па моры — эскадры,
па рэйках — вагоны,
ўсё далей,
наперад —
на грудзі вясны...

*1932*



# ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

Зінаіда Аляксандраўна Бандарына (нарадзілася 11 кастрычніка 1909 г. у г. Гродна ў сям'і настаўніка. Вучылася ў Мінскім белпедтэхнікуме, у Маскоўскім дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі, а затым у Акадэміі мастацтваў (Ленінград), пасля чаго працавала на кінастудыях у Маскве, Архангельску і Грозным. У час Вялікай Айчыннай вайны была санінструктарам у легендарнай дывізіі генерала Панфілава. Першыя вершы З. Бандарына надрукавала ў 1926 годзе. У 1931 г. выдала зборнік «Весняцвет». Пазней працавала ў жанры прозы. Памерла З. Бандарына 16 красавіка 1959 г.

## ШЭПТАМ ДЗІЎНЫМ

Шэптам дзіўным прасторы спавіты,
Завілося калоссе ў вянок.
І хвалюецца ў постаці жыта...
Шэры змрок загінуў даўно.

Заістужыла чырванню неба,
Чырвань хмар палягла на ваду...
Празвінела ды водгулле следам,—
Гэта жнейкі на працу ідуць.

Сонца паліць, пячэ, не шкадуе,
Песня ймкнецца: «Зажалі — дажнём».
Грамаду прывітай маладую,
Што ваюе на полі з сярпом.

Прытаміліся ногі і рукі,
Ды затое снапы, снапы...
Павязуць іх пад гоман і грукат
На гумно, дзе сумуюць цапы.

Хоць і цяжка бывае часінай,
Я люблю і прастор, і палі.
Змрок кудлаты ў амшарах загінуў,
Плыве шум каласістых далін.

Люба подых агністага лета
Ды з сярпом на плячы спатыкаць
І на постаці спелага жыта
Ад расы да расы працаваць.

*1925*



# МАКСІМ ЛУЖАНІН

Максім Лужанін (Аляксандр Амвросьевіч Каратай). Нарадзіўся 2.11. 1909 г. у в. Прусы Салігорскага р-на Мінскай вобл. Скончыў Беларускі педагагічны тэхнікум у Мінску (1928). Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1928—31). Працаваў у часопісе «Узвышша», на Беларускім радыё (1930—32). 10.8.1933 г. асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі. У 1935—41 гг. на выдавецкай рабоце ў Маскве. Удзельнік Айчыннай вайны. У 1944—53 гг. у газеце «Звязда» і сатырычным часопісе «Вожык» у Мінску. У 1967—71 гг. галоўны рэдактар сцэнарнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Друкуецца з 1925 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Крокі» (1928), «Новая ростань» (1930). «Галасуе вясна за вясну» (1931), «Шырокае поле вайны» (1945), «Прасторы» (1958), «Прага крыла» (1974), «Паразмаўляй са мной, зямля» (1983), «Вярнуся ветрам» (1987) і інш. Выступае і як празаік, крытык, кінасцэнарыст. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Гогаля, М. Горкага, М. Шолахава, А. Пушкіна,

А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, У. Бранеўскага, Ю. Тувіма, К. Галчынскага, М. Яструна, В. Трапачынскай-Агарковай (раман «Лясныя долы») і інш.

Выйшлі «Зборы твораў» (т. 1—3, 1963—70; т. 1—4, 1979—81).

---

## СКОНЧЫЎШЫ ПАХОД

Па гэтых воблаках вандроўных,
Па кроплях дажджавой вады
Пазнаеш ты мой клопат кроўны,
З каторым я прыйшоў сюды.

Ды дзе б там ногі ні хадзілі,
А вочы ўсё ж такі вялі
Да абрабаванай радзімы,
Да растарошчаных сяліб.

А дым стаяў, як чэмер горак,
І прагарэньваўся прастор,
Калі на сіні панадворак
Выносіў вечар сіта зор.

Іх не маглі скляваць зяніткі
Даўгімі дзюбамі за ноч,
І, абабраныя да ніткі,
Бярозы стыглі басанож.

Мы шлях шукалі па варонках,
Што, помсты просячы ў нябёс,
Сляза бяздомнага дзіцёнка
Выпальвала ў палях наскрозь.

Нам жыць павек з сваёй зямлёю!
Учора скончыўшы паход,
Ужо шурпатаю рукою
Араты ўцёр шчаслівы пот.

І ты, напэўна, мне даруеш,
Што не магу я адысці
Ад чорных скіб, ад першай руні,
Ад звону ветраў у трысці.

*1945*

## ВЯСНА

Дзесьці з-пад Слуцка, а можа, з-пад Любані
Нехта ідзе па набракшых палях...
З гнёздаў буслы пазіраюць і дзюбамі,
Стрэлкамі нібы, паказваюць шлях.

Зграбная постаць выростае ў далечы,
Штосьці знаёмае ў ёй пазнаю:
Голлем прысад, быццам крыллем гайдаючы,
Душу і песню турбуе маю.

То прабяжыць, як дзяўчо неўспагаднае —
Пырснуць пралескі на сцежцы лясной,
То нечакана задзівіць і ўзрадуе
Сталай і шчодрай жаночай красой.

З добраю ласкаю зерне прадрогшае
Цёплай зямлёю агорне — мужай!
Ступіць — і дзень неўзаметку пабольшае,
І захлынецца ад шчасця ручай.

Клопату многа ў мае падарожніцы.
Нівы, каханне і дожджык касы.
Не наракайце, што трохі апозніцца —
Будуць у часе шумець каласы.

Дыхае вецер смалістаю гліцаю,
Сінія травы упарта растуць.
Блізка яна!
І гудкі над сталіцаю
Так заклікальна пад ранне пяюць.

З Маем пры людзях вясна абдымаецца,
Бы ўпершыню, ёй насустрач іду.
Вокны і дзверы ў дамах расчыняюцца —
Добрую пару я ў горад вяду!

*1956*

## ПРАВОДЗІНЫ

*Памяці Якуба Коласа*

1

Поле, луг
Пачарнелі ад золкіх дажджоў,
Дні мінаюцца хмарныя, нерассвітаўшыя.
Добры друг
Ад мяне адышоў,
Не спытаўшыся,
Не развітаўшыся.

Добры друг
Усяго, што расце і жыве,—
Земляў, сонцаў і сэрцаў прастору вялікага,
Сціплы той чалавек,
Што наўкруг
Дзядзькам клікалі,
Бацькам клікалі.

2

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Толькі вось нарадзіўся, як быццам хвіліна прайшла:
У нястачах — маленства, па астрогах — юнацтва,
Сталасць войны скрышылі...
А смерць нібы тут і была.

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Сама ў сілу ўвабраўся, у ясную поўню гадоў.
А табе — ні сяброў, ні прывычнае працы,
Ні сардэчнай размовы, ні мілых, над Нёмнам, дубоў.

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Колісь люльку давалі, ў курган засыпалі каня,
Чарку — выпіць дарогай, рог — да блізкіх азвацца,
Залаты — каб пранесла ракі небыцця быстрыня.

Вось і ўсё.
Каб і ўзяў гэта — мала карысці!
Сціхла сэрца, няма каму кроў весяліць,
Холад скурчвае пальцы, як сівер асенняе лісце,—
Ні па лесе прайсціся, ні люлькі набіць.

Як зміръщца, згадзіцца!
А ён жа з пароды асілкаў,
Што праломвалі горы, сякеркай валілі кражы,
Падымалі паноў на паўстанцкія вілкі
І стаялі насмерць пры сваім рубяжы.

Мог ён гэта!
Шукаў, дзе цяжэй, дзе упарцей работа:
Песняй мур закладай, ацяпляй дужым словам прастор,
Калі ты чалавек, дык прымі ўсе людскія турботы...
Век за імі хадзіў ён ды, ходзячы, так і памёр.

Сад застаўся шумець.
Спелы яблык блішчыць на прыпёку,
Смелы шчыглік пяе пра жыццё — не пра смерць.
Толькі ўжо гаспадар сам за браму не ступіць ні кроку
І не прыйдзе дамоў.
Сад застаўся шумець.

3

Аніколі ў жыцці не была яшчэ гэткай даўгою
Мне ад плошчы Цэнтральнай да Круглае плошчы дарога:
Людзі ўсе — за табою,
Людзі ўслед за табою,
Як рака па разлогах.

Ты ж быў добры і светлы, зірнеш, і абудзіцца шчасце,
Відната нечуваная ўміг заўладае душою...
Дык чаму ж не насустрач натоўпы, з якое напасці
Людзі ўсе за табою,
Толькі ўслед за табою!

І адзін ты, адзін сярод вуліцы самай шырэйшай,
Рух увесь супыніўся, пагаслі найменшыя гукі:
Зараз, зараз пачуюцца свет расчыняўшыя вершы,
Зараз, зараз расшчэпяцца век працаваўшыя рукі.

Боль сціскае павекі.
І ужо?
І навекі?

Аніколі ў жыцці не была і даўгой і кароткай
Мне праходка па горадзе нашым, як смутная гэта
праходка.

Трубы плачуць мядзяныя,
Цяжка ўздрыгваюць плечы.
Мы ж не з медзі, не з каменю,
Мы — сыны твае, сын чалавечы!
Хоць і моцна любілі,
А песень такіх не зладжылі,
Каб цябе пабудзілі.
Горка нам,
Несуцешным сынам,
За труною ступаць,
Гаварыць пры народзе.
Шмат гадоў мы хацелі цябе сустракаць,
Давялося ж праводзіць.

А насустрач — зямля.
Не разрыты пагорак пясчаны,
А жывая планета прымае вялікае сэрца,
Там, дзе ходзяць дажджы, каласяцца паляны,
Дзе слядоў чалавечых з бяскрайніх прастораў не сцерці.

4

Я распальваў касцёр, млява слаўся на мох
Пахкі дым ядлаўцовы.
То крышку падскочыць,
То зальецца агеньчык,— прабіць ён не мог
Тумапоў адсырэўшае клочча.

Два дубы ў галавах,
Дзве яліны ў нагах,
Штосьці шэпча таполяў сям'я гаваркая,
Віснуць слёзы імжакі на жоўтых кустах,
Быццам я той агонь не палю, а хаваю.

Туманок, туманок!
Хто цябе навалок
На прадоннае, соннае возера Нарач?
Хоць бы ветру глыток
Ці нябёсаў шматок,
А то ў хмары глядзіш і ступаеш на хмары.

А як зырка звінела ля гэтай вады
Наша полымя ў часе апошняй сустрэчы,
Калі мы, не расслухаўшы крокаў бяды,
Запрасілі гасця ў кола песень і спрэчак.

Ён прыехаў вясёлы, усмешліва кпіў,
Як мудрэц, што стаіць над жыццём і над смерцю,
Браўся загрудкі з імі.
— Як быць? — гаварыў.—
Пасабіце, не выберу часу памерці.

Калі ўзімку — марозна, не выкапаць склеп,
А вясною — зямля многа лепей ад раю,
Летам — часу няма, трэба думаць пра хлеб,
Хіба ўвосень, зірнуўшы, якія ўраджаі.

— Не,— казалі мы,— не! Так не выпусцім з рук,
Столькі будзеце жыць, колькі нам заманецца! —
Ён гразіўся: — Вазьму ды зусім не памру,
Але ж часу вам дам, не паходзіце ўлегцы.

Цераз момант на сіні азёрны разлог
Кідаў вокам, далёкі ад гэтай размовы,
І гукаў дочак сябравых, белагаловых,
Нібы згледзеўшы далечы іх нетаптаных дарог.

Гэта ўсё я пабачыў з густых туманоў,
Не ўпаліўшы за вечар набракшага вецця,
І тады вось, майстры піянерскіх кастроў,
На ўспамогу прыбеглі вясковыя дзеці.

Прыцягнулі сухі беразак на аблонь,
Бураломіну-хвою скруцілі ў гушчары,
Акурат, як вучыў ён: раскласці агонь,
Каб у лесе і разу сякерай не ўдарыць.

Хлопчык скінуў пільчак, памахаў на цяпло,
Як начлежнікі робяць.
Уга, зашугала!
І адразу ж лясных верхавін памяло
Разгайдалася, вымела ў небе прагалак.

Мы паселі ўкружка. Я паціху кажу,
Як любіў ён жывое, як мы неаднойчы
У яго цеплыні сагравалі душу
І ягоным святлом распагоджвалі вочы.

Жыта сеяў, саджаў маладыя дубкі,
І цяньку дачакаўся і плёнаў вялікіх.
Колькі ён парабіў, пахадзіў напрасткі,
Каб мінула нас доля Сымона Музыкі.

Ён жа сам быў такі...
Бедны хлопец Кастусь,
Што каленьмі сваціў у апратцы кастравай,
Выспеў коласам буйным,
а Беларусь
Стала чутнай і знанай на свеце дзяржавай.

Разгуляўся касцёр, расшыбаўся наўзлёт,
Аж памкнуўся злізнуць сіняватую зорку.
Пакружыўся над намі лясны самалёт,
Насварыўся крыламі:
— Эй вы, на пагорку!

Два дубы ў галавах,
Дзве яліны ў нагах —
Не жалобная варта.
Мы сталі ў дасвецці
Вартай гэтых дзяцей, што ўзыходзяць на шлях,
Каб жывога агню не задзьмуў узвей-вецер.

Так пясняр вартаваў, так і ўсім наказаў,
Ён памёр, не сышоўшы з паста, камуністам.

І пачулі малыя, нібы залунаў
Па-над возерам голас магутны і чысты.

Прагучалі на ветры
Яго запаветы:

«Ці ты воін у скатцы,
Ці юнак баявы —
Палюбі сваю працу,
І ты вечна жывы

Беражы і ахоўвай
Залатыя правы
Нашай роднае мовы,—
І ты вечна жывы.

У бяду, ў небяспеку
Не ўгінай галавы,
Другам будзь чалавеку,—
І ты вечна жывы.

Не шкадуй для Радзімы
Ні турбот, ні крыві,
Пройдуць леты і зімы,
А ты — вечна жывы».

Яго імені той невялікі касцёр,
Гаварылі, відзён быў не толькі на Нарачы.
Падышло, блізка ў твар зазірнула жыццё:
— Добры дзень вам, таварышы!

*1—3.VII.1957*

## НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

Зноў, як раней у краі тым:
Высакагорныя абвалы,
Лясы, над прорвамі масты...
І сонца ціхенька спытала,
А дзе забавілася ты?

Ты скрозь пазнілася тады.
Машыны, вадаспады, людзі —
Усе збіваліся з хады,
Але ўсміхаліся марудзе
І даравалі:
— Паўбяды!

А як уцешна мне было,
Што сонца, хоць усе абшары
Даўно чакалі на святло,
Пакуль ты хустачку да твару
Не завязала,—
не ўзышло!

*7.VI.1957*

## НЕВЫГОЙНАЯ ПЛЯМА

Узляцеў з твайго берага
Першы выбух, той самы...
На ўвесь твар твой, Амерыка,—
Невыгойная пляма.

Небыццё Хірасіміна,
Зыркі жар Нагасакі...
Чалавецтва засілена,
Зборы трубяць ваякі.

Сцежка чорная, грузкая...
Век не выгаіць сонца
Кроў зямлі беларускае,
Боль краіны японца.

*1984*

## ЗАКЛАДЗІНЫ ПУШЧЫ

Не пад шчаснаю зоркай,
З тых, што іншым раслі,
Я радзіўся на горкай,
Вельмі гордай зямлі.

Нас за бесцань збывалі,
Як ляжалы тавар,
А калі мы крычалі,
Білі ботам у твар.

Я, прагнаны праз чэргі
Лесасекі скразной,
Сёння выйшаў праз мергель
Надбалотнай сасной.

Сыплю з ветрам насенне —
Пушча жыць будзе зноў,
Калі звычкі карэння
Пераймае ў дубоў.

Не скрабіся ў пясочку,
Жылле ўглыбкі гані,
Пахкіх смол у падсочку
Прынясуць карані.

Буду век я відушчы
І ўсе крыўды сышчу,
Калі новыя пушчы
Над сабою ўзрашчу.

*1985*



# СЯРГЕЙ РАКІТА

Сяргей Ракіта (Сяргей Васільевіч Законнікаў, 15.10.1909, в. Літвінава Дубровенскага р-на Віцебскай вобл.— 1942(?). Скончыў Наватухінскую школу другой ступені. У 1929 г. быў накіраваны на работу ў рэдакцыю гомельскай абласной газеты «Палеская праўда». З 1930 г. з'яўляўся кіраўніком Гомельскай філіі БелАПП. Служыў у Савецкай Арміі (1932—33). Працаваў у Мінску ў рэдакцыях газет, на Беларускім радыё, у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, адначасова вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава. Друкаваўся ў калектыўным зборніку «Разгон» (1930), выдаў зборнік паэзіі «Я агітую за пяцігодку» (1931).

Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў працоўна-папраўчых лагерах. Памёр у лагеры.

## ДРУГУ-ЎДАРНІКУ

Табе мая песня,
Таварыш і друг,
Агнём парыванняў сагрэтая.
Табе, мой таварыш,
Я песню дару —
Запал і імкненне паэта.
Мы разам з табою
Нясём у грудзёх
Вялікую палкую радасць
За тое, што змогу
Бяруць у баёх
Рабочага фронту атрады.
Мы разам з табою
Імкненнем гарым —
Юнацтва парыў нарадзіла.
Мы заўжды будоўлі
Гатовы дарыць
І мускул,
і розуму сілы.
У вас на заводзе
Натхнёны уздым —
Змаганне за творчыя высі.
Я ведаю, дружа,
Што ты, малады,
У гэтых баёх не здасіся.
Я тэмы лірычных трывог пазабыў:
Я песні й сябе перайначыў.
І вось адчуваю да сэрца прыліў
Крыві маладой і гарачай.
Табе мая песня,
Таварыш і друг,
Агнём парыванняў сагрэтая.
Табе, мой таварыш,
Я песню дару —
Запал
і імкненне паэта!

*1931*



# ПАВЕЛ СУШКО

Павел Міхайлавіч Сушко нарадзіўся 7 лістапада 1909 г. у в. Сушкі на Міёршчыне ў беднай сялянскай сям'і. Працаваў на сельскай гаспадарцы. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР — старшыня сельсавета. У час Вялікай Айчыннай вайны — партызан 4-й Беларускай партызанскай брыгады. Удзельнічаў у аднаўленні разбуранай вайной калектыўнай гаспадаркі, быў селькорам абласной, раённай і рэспубліканскіх газет.

Узнагароджан медалямі. Памёр 26 верасня 1974 года. Пачаў выступаць у друку з 1938 года. Вершы змешчаны ў зборніках «Сцягі і паходні», «У паходзе», «Партызаны, партызаны».

## ТРЫ ДАРОЖАНЬКІ

Тры дарожанькі
У сырым бары,
Пралажылі іх
Хлопцы-змагары.

Па дрыгве адна
З іх блукаецца,
Сувязной яна
Называецца.

Па другой ісці
Цераз ельнічак,
І значон на ёй
След разведчыкаў.

Ішлі трэцяю
Хлопцы-волаты
За любімы край
Біцца з ворагам.

*1942*

* * *

Як плаўнае, прыцішанае гранне,
Што вабіць сэрца да сябе здаля,
Я адчуваю роўнае дыханне,
Тваё дыханне, родная зямля.

Яно чутно мне ў зрухах весняй руні,
Яно чутно мне ў пошуме лісця,
У ціхім спеве красачкі-красуні,
Ва ўсім, чаму даеш ты сок жыцця.

Жыццё — на цёмна-сінім небе зорка,
Што ночкаю пагодлівай зіхціць,
Імгненне — і ў бяздонныя прасторы
На небасхіле знічкаю зляціць.

Пакуль настане ззянне таго рання,
Дзе яснай знічкай дагару і я,
Прашу дазволу весці мне шуканне
Ў тваіх разлогах, родная зямля...

Дазволь ісці сцяжынкаю няпройдзенай
І цешыцца на мілую красу,
Згубіўшы на тваіх прасторах сум,
Знайсці той скарб,
Што быў яшчэ не знойдзеным.

*1968*



# СЯРГЕЙ КРЫВЕЦ

Сяргей Міхайлавіч Крывец нарадзіўся ў 1909 г. у в. Дубна Гродзенскага р-на Гродзенскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Беластоцкім педагагічным інстытуце (1940—1941). Загінуў 28.4.1945 г. пад час штурму Гдыні. Друкаваўся ў заходнебеларускім часопісе «Заранка». Вершы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Крывёю сэрца» (1967). У 1972 г. выйшла кніжка вершаў «Дубок», укладзеная Р. Шырмай.

## КРЫЗІС

Зноў асенні чорны вечар.
За вуглом скавыча вецер,
　Ў хаце гойдае абраз.
На сцяне шасцяць абоі.
Плаўна ў цень без перабояў —
　Цік-так... цік-так...— сходзіць час.

Вецер свішча, завывае
І, як сцягам, павявае
　Занавескай на акне;
Як над возерам багністым
Кружаць думкі згніўшым лістам
　Над пытаннем — так ці не?

Сумна. Жудасна. Трывожна...
З-пад падлогі асцярожна,
　Быццам змей, вылазіць змрок.
Вылез. Сеў. Двухзначна глянуў...
Ўстаў. Па хаце крокам п'яным
　Ходзіць ўздоўж і ўпапярок.

Раптам к лямпе ён падкраўся,
Хлоп! Агеньчык захістаўся,
　Ўгору скочыў і пагас.
Копціць кноцік непрыемна,
Сэрца б'ецца непрытомна.
　Цік-так... цік...— нясецца час.

Вось чутно — жыццё злятае,
А з ім моладасць святая —
　Скарб адзіны мой.
Лёс я свой выразна бачу,
Чую, знаю, што заплачу,
　Стаўшы над труной.

Б'юць гадзіны. Я гукаю:
— Гэй, прыйдзі, душа жывая,
　Ў мой закляты кут!
Пасядзі са мной хвіліну,
Раскажы, ці не загінуў,
　Як і я, мой люд.
Ды скажы, якая сіла
Нам пуціны перакрыла
　Пакрываламі цьмы?
Ці ў Ікаравыя крылы,

Аб якіх юнацтва сніла,
Можам верыць мы?
Светач веры у змаганне,
Ў мрок няўпорнага канання
Ты ўнясі з сабой;
Асвяці мне пуць-дарогу —
Я з надзеяй ў перамогу
Вечнасць выклічу на бой.

Стук...
Ідзе...
Вецер дзверы адчыняе.
Ў хаце гоман, рогат, стук.
Чую, руку мне сціскае
Чарада мазольных рук:
— Не адзін ты, нас мільёны —
Не пайдзём к панам
з паклонам!

## СЫПЛЮЦЬ ДУМКІ

Ночка чорным пакрывалам
Мне акно завесіла.
Ў хаце холад (дроў замала).
На душы нявесела.
Мне б сяброў наведаць трэба.
Думка — не гарэзія.
Сеў, падумаў. (Скуль ўзяць хлеба?)
Эх, жыццё — паэзія.
Цяжка й дарма. Але веру,
Возьмем цябе прозаю.
Стаў пісаць — няма паперы —
Думкі нецвярозыя.
Слініць дождж. На панадворку
Ноч ў гразі палошчацца.
Закурыць (была б махорка)
Неяк надта хочацца.
Ператрос усе кішэні,
Ціха, назбіраецца!

Пацягнуў (адны карэнні),
Чад клубком хістаецца.
Сыплюць думкі, сыплюць мроі
Іскрамі з-пад крэсіва.
Прыйдзе час (і мы героі!),
Ну й гульнём жа весела.

*1936, Беласток*

## УПАЛІ ПУТЫ

Адзін удар — і ўпалі путы
З грудзей няшчаснае краіны!
І вось закончан шлях пакуты,
Хто жыў астаўся — не загіне.

Сыны працоўнага народу!
Выходзьце з мрочнага падполля!
З чырвоным штандарам са ўсходу
Да нас прыйшла другая доля.

Да нас зляцеў чырвоны вырай,
Ўсе йшлі вітаць жаданых птахаў.
Усе уцешыліся шчыра,
І я ад радасці заплакаў.

Мой край, празваны Беларуссю,
Даруй за слабасць, што я плачу,
Бо перадаць яшчэ баюся
Таго, што сёння я пабачыў.

Паноў няма! Няўжо то ява?
Няўжо, калі прамоўлю слова,
Не рыне гончая аблава,
Каб зноў зрабіць мяне нямовай!

Не так даўно, бо толькі ўчора,
Магутнасць іх яшчэ я бачыў.
О, колькі слёз і колькі гора!..
О, колькі ляманту і плачу!..

Каменні трэскалі ад жалю,
Выходзіў Нёман з берагоў...
Нам грудзі помстаю дрыжалі,
А гнеў марозіў ў жылах кроў.

Ды не, не сон перада мною.
Сцягі чырвоныя навокал,
І свеціць ласкай незямною
Майго народа ўзрок глыбокі.

*28 верасня 1939, Беласток*

## МЫ ЗАБЫЛІ, ШТО МОЖНА ЛЮБІЦЬ

Мы забылі, што можна любіць,
Эх ты, моладасць наша суровая!
Але сёння ужо, так і быць,
Пацалую цябе, чарнабровая.
Не судзі мяне, хто малады,
Правы сэрца не намі напісаны.
На вясне пачынаюць сады
Разгарацца ружовымі вішнямі.
Дык хай будзе, што мае ўжо быць,
Покуль вішня красы не асыпала,
Покуль кроў маладая дыміць,
Я люблю.
Не магу не любіць,
Бачна, доля такая мне выпала.

*1940*



# АЛЕСЬ ПРУДНІКАЎ

Алесь Пруднікаў (Аляксандр Трафімавіч; 1(14).4.1910, в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на — 5.8.1941). Скончыў Ленінградскі настаўніцкі інстытут (1938). Працаваў на рэспубліканскай кніжнай базе, у Белдзяржвыдаце. БелТА і клімавіцкай раённай газеце «Камуна». Быў рэпрэсіраваны, высланы ў Карэлію, дзе працаваў спачатку на будаўніцтве, затым — настаўнічаў. Загінуў пад час Вялікай Айчыннай вайны, будучы разведчыкам партызанскага атрада. Першы верш апублікаваў у 1930 г. Выдаў асобнай кнігай паэму «Ясныя зоры» (1932).

## АБРАБАВАНЫ СТРОНГ

Гэта было на ваенным парадзе.
Горад грымеў. Хваляванні. Рух...
Стронг не бунтуе... Ён любіць
парадак...
Ён верыць Вільямсу — гаспадару.
Вось ён выходзіць вясёлым з аўто
З верай у поспехі шахтаў, Вільямс,
І па-акцёрску вітае натоўп.
І цешыцца раннем яго сям'я.
Ён Стронга рукой па плячы пахлопаў:
— Ты кроўны англец, Стронг!
Я помню, калі выпраўлялі ў акопы
Цябе на германскі фронт:
Дзень быў зялёны...
І лэдзі вам слалі
Свае пацалункі з букетамі руж...
Ішоў ты без імя...
Вярнуўся са славай
З-за даляў Ла-Манша пад маршы
труб!
Якая ўцеха! Я многа павінен...
Бо ты пераможцам прыйшоў у Брад-Форд
І зноўку вугольныя крышыш
цвярдыні.
Геройскі імпэт
І брытанскі форс!
Усе акіяны разлінены плаваннем,
Рэйсам увязаны ў вузел парты.
У сусветных затоках,
у бухтах і гаванях
Вугалем нашым жывуць флаты.
Спяём жа з табою мы славу
вітальную
Нашай блакітнай краіне цуд!
Брытанец ніколі не здрадзіць
Брытаніі.
Як спрытнасць спартсмену, як рукі
плыўцу.
...Гэта было на ваенным парадзе...
Стронг у захапленні,
ён верыць, што:

Брытанец брытанцу нізашта
не здрадзіць,

I можна падняць за Вільямса тост,
I можна прайсці адвячоркам
па травах,

I лёгка дыхнуць, і забыць на тугу, —
Вільямс не пакрыўдзіць...
У чым жа справа?
А справа ў тым, што гады бягуць.
Глухім запусценнем на банкі
лажацца,

I голад на шыю кладзе пятлю,
I Стронг не патрэбен цяпер
у шахце,

Як вугаль патопленаму караблю.
Ён доўга блукаў па пляцах-
праспектах,

Стамляліся ногі... Куды ісці?
I ў думках вярзлося, як быццам
ён скептык,

Не бачыць жыцця ў жыцці.
— Што ж мне — павесіцца?
Выпіць атруты?

Кінуцца з даху у бездань-шлюз?
А вы балявацьмеце, паны,
над трупам

З віватамі вугальнаму каралю,
У штрэках якога
жыццё я пакінуў?

Згарэўшых у топках за дваццаць год,
Там русасць валос маіх выбеліў іней,
Там стан мой сагнуўся у крук дугой...
А ты захаваўся, Вільямс, не чуеш?
Я горкую праўду хачу сказаць:
Ты абакраў мяне!
Я патрабую —
Вярнуць мне жыццё назад!
Не зможаш? Я знаю цябе, сабака!
Схаваўся за шторы сваёй хлусні!
Твой Стронг пасівелы
не ўмее плакаць,

Маліцца зладзею,
падаць ніц.

Няхай я галодным пайду
з кастылямі
І з раненых ног няхай выступіць
кроў, —
Я скіну адвечнага рабства лямку
На тлустыя шыі багатыроў!
Мой прадзед — жабрак старасвецкі,
Я ж быў таварам жывым
свой век...
І ўрэшце народзіцца,
сонцу ўсміхнецца
У муках няволі
мой сын — чалавек!

*1932*



# ЗЯМА ПІВАВАРАЎ

Зяма Раманавіч Півавараў нарадзіўся 5.6.1910 г. у г. Касцюковічы Магілёўскай вобл. у сям'і рабочага-шапавала. Скончыў літаратурны факультэт Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1934). Першы верш апублікаваў у 1925 г. На пачатку 30-х гг. друкаваўся ў ленінградскіх часопісах і альманахах. Аўтар зборніка вершаў «Лірыка двух нараджэнняў» (1934). Памёр 14.7.1938 г.

## ЛІРЫКА ДВУХ НАРАДЖЭННЯЎ

Саламяная страха,
крывенькая хатка,
Хлеб на стале
з мякінаю ці лебядою.
Пры лучынным святле
нарадзіла мяне матка
разам з маёю бядою.
Хоць заіскрыліся вочы радасці
ў нашай хаце,
Ды трэба ж лішнюю дабавіць хлеба лусту.
Хто ведае,
што там было
у сэрцы маёй маці,
Калі слязінкі
акрапілі хусту?
На каго толькі
не гнуў спіны сваёй?
Перад кім толькі
не трэсліся мае калені?
Пра гэта запытайцеся сям'і сваёй,
А лепш раскажуць вам вякі і пакаленні.
А далей?
Пачыналася пякельная мая работа
ад срабрыстых ранніх рос
Да салонага
палудзеннага поту
І да вячэры
гарачых слёз.
Пра тое вам раскажуць
вякі і пакаленні,
Што першае было маё
такое нараджэнне.

Разам з подыхам грудзей
матухны-зямліцы
Я прачнуўся, выйшаў
у блакітны ранак.
Прыгадаў я сёнечы
свой суседскі ганак,
Да якога, молячыся,
прыпадаў я ніцам.

Былі дарогі дзве
і сцежкі дзве.
З іх адна — жабрацтва, жах нягод.
Другая парасткам
цягнулася к вясне
На заліты золакам усход.
Стаяў,
рукамі сціснуўшы скроні,
Варажыць пачаў
забабоннай варажбою,
На якой дарозе быць сягоння?
І якой пайсці цяпер хадою?
І вырваў
пасля доўгіх турбот
Сваё сэрца,
што старой крывёй атручана.
Кайстра жабрачая
кінута ў брод,
Мне з другім жыццём
спраўляць цяпер заручыны.

Браты,
Што ў сэрцы захавалі заўтрашні дзень,
А на зброі —
непарушнасць мушак,
Абрабаваныя негры Амерыкі
і кітайскія кулі палёў
шырокіх,
Ці падобны вы да нас —
на зноў народжаных дзяцей,
што вылезлі з пялюшак —
Маладых і чырванашчокіх?
Піць
радасць
хачу,
Як п'юць прыгаршчамі
бярозавік малыя дзеці,
З прагнасцю
жыццёвага гарэння.
Я слаўлю маё другое,
дагэтуль шчэ не пазнанае ў свеце
Нараджэнне.

*1933*



# ЗМІТРО ВІТАЛІН

Змітро Віталін (Дзмітрый Іванавіч Сергіевіч; 15.7.1910, г. Калінкавічы Гомельскай вобл.— 1942?). З 1929 г. жыў у Мінску. Працаваў на Беларускім радыё. Быў членам БелАПП. Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (1932). У 1933 г. быў рэпрэсіраваны, жыў за межамі БССР.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, прапаў без вестак на фронце. Літаратурную дзейнасць пачаў у другой палове 20-х гадоў. Выдаў зборнік «Будзем жыць» (1932).

## НОВЫ ДОМ

Такая бель!
Такая бель вакол!
Яшчэ цячэ са сцен і поўніць ранне...
Мне сорамна за бруднае акно
І за вазон
Сухотнае герані...

Вось гэта дом!
Сапраўдны новы дом!
Запалымнее ў ім жыццё другое! —
Займе яго
Вясна і маладосць
Камунаю вытворча-бытавою...

Нядаўна тут цягнуўся ў шыр пустыр...
Нядаўна тут ён рос у рыштаваннях...

І вось цяпер
Ў пакоях тых пустых
Святла і белі
Дружнае з'яднанне!

Узняўся дом,
Узняўся вежай дум,
Мяцежных дум,
Як хвалі, неспакойных:
— Пакіну бруд,
Пакіну і пайду
Спяваць і жыць
У новыя пакоі!..
Такая бель!
Такая бель вакол!
Яшчэ цячэ са сцен і поўніць ранне...
На злом, на злом —
Замшэлае акно!
Ў памыйніцу
Праклятыя герані.

*1930*

* * *

...І зноўку, і зноўку я песняй звіню
Да кропкі узбуранай песні.
Сястра, я ганьбую, кляну я вайну
І чышчу твой любы вінчэсцер.

Інакш немагчыма, паслухай мяне,
Іначай ніяк немагчыма,—
Нам трэба затворам умела звінець
Як тою дэталлю машыны...

І зараз, сястра мая, мне не да сну,
Хоць ноч ахінула гадзіннік,—
Я ясна ўяўляю, і чую вайну —
І прытавы подых магільны.

І сэрца калоціцца, сэрца дрыжыць
І песня, здаецца, нямее...
Сястра мая! Чуеш, мне хочацца жыць,
Мне хочацца жыць, разумееш!..

І самай бязлітаснай помстаю ты
Устанеш з магілы ў Палессі.
Мы будзем пракладваць да Сонца масты
Вінчэсцерам гэтым і песняй!

*1930*



# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

Ларыса Антонаўна Геніюш (9.8.1910, маёнтак Злобаўцы, Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.— 7.4.1983). Скончыла Ваўкавыскую гімназію (1928). З 1937 г. у Празе (Чэхаславакія). З 1948 г. у СССР. У лютым 1949 г. асуджана на 25 гадоў працоўна-папраўчых лагераў, у 1956 г. вызвалена. З 1956 г. жыла ў г. Зэльва. Друкавалася з 1939 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Невадам з Нёмана» (1967), «На чабары настоенае» (1982), для дзяцей — «Казкі для Міхаські» (1972), «Добрай раніцы, Алесь» (1976).

## НЕ ВЕРУ

Не веру, не веру, каб ў сцюжу замерзла,
што цудна вясной расцвіло,
не веру, не веру, каб калісь замерла,
што некалі песняй жыло.

Што вецер крылаты у небе сасватаў,
калі зацвіталі сады,
ды зоры у далі вяселле спраўлялі,
аж месяц упіўся бляды.

Не веру, не веру, каб днём жыцця шэрым
камусь заламалась крыло,
не веру, не веру, каб згасла, замерла,
што некалі песняй жыло.

*1940*

* * *

Маю душу ў спакоі пакінь,
дум крылатых не стаў на калені,
нат вачэй паднямонская сінь
пацямнела ў адчаі цярпенняў.

Не скрываю няспутаных дум,
узіраюся смела і проста,
сваёй сцежкай наперад іду —
Юдаў твар для мяне не сяброўства.

Мо замала вам грошай далі?
Што ж, прадаць вам другіх давядзецца.
Прыйдзе час, і на нашай зямлі
на пакутнай не будзе вам месца.

*1942*

## ТАНЦУЕ ДОЖДЖ

Танцуе дождж па дахах камяніцаў,
танцуе дождж па лысіне брукоў,
з дамоў замурзаных вада слязьмі струіцца,
ў рынштоках пеніцца каскадам брудных слоў.

Па вуліцах снуюцца парасоны
і людзі корчацца, змалелыя і так,
а у вачах заплесненых і сонных
блішчыць аднолькавы слізкі каменны шлях.

Ніколі быццам тут не ззяла сонца,
вясною нат не лашчыла вачэй,
і быццам хмары зрэбныя бясконца
ўсё гасяць радасць, тушаць бляск надзей.

Танцуе дождж па дахах камяніцаў,
задорна-звонкі выбівае рытм...
Вачыма хочацца праз цяжасць хмар прабіцца,
дарогу сонцу яснаму раскрыць.

*1942*

## ДЗЕД

Была ў дзеда дудка,
Была ў дзеда люлька,
Была ў дзеда падружанька
Сівая бабулька.
Дудачка іграе,
Сэрца пацяшае,
А закурыць дзедка люльку —
Гора забывае!
Цешыць дзедка дудку,
Цешыць дзедка люльку,
Клапоціцца ля яго
Сівая бабулька.
Ўсё суседзі хочуць знаць...
Раз, кругом пасеўшы,
Сталі ў дзедачкі пытаць,
Хто яму мілейшы.
Дзядок кажа — дудка,
Бабка кажа — люлька...
Людзі думаюць сабе:
«Ой, мусіць, бабулька!..»
Усё ж ніхто не мог пазнаць
Дзедавай натуры,
Места праўду адказаць —
Толькі люльку курыць.
Ўсё ад раніцы гудзе,
Ўсё на дудцы йграе,
А на бабку — прыйдзе дзень —
Увагі не звяртае.

Ўскалыхнуўся цэлы свет,
Б'юцца людзі-брацця,
Ціха толькі дзед жыве,
Хваліць бога ў хаце.
Толькі шчасце у людзей
Доўга не трывае,
І да дзеда адзін дзень
Смерць прыйшла ліхая.
Дзеда дома не было —
Ён з дудой і люлькай
Пайшоў рана на сяло,
Пакінуў бабульку.
Бабка сцяміла, што ёй
Смерць дзядочка скосіць...
Паківала галавой,
Гэтак смерці просіць:
— Места дзеда лепш мяне,
Смерць, вазьмі, ліхая!..
Хай дзядок яшчэ жыве,
Хай на дудцы грае!
Мае радасці ён тры,
Я ж з усіх найменша,
Дык мяне ты забяры —
Дудачка пацешыць!
А для смерці ўсё адно:
Душаньку хацела,
Дзед ці баба ж не відно,
Бо душа без цела...
Ды, забраўшы бабін дух,
Паляцела далей,
Бо другія ўжо вакруг
Там яе чакалі...
Ой, прыйшоў дзядок дамоў,
Не жыве бабулька...
Не хапіла ў дзеда слоў,
Пакацілась люлька...
— Ах, бабулька,— плача дзед,—
Чаму ж не паждала?
Пацямнеў мне цэлы свет,
Як цябе не стала...
Сеў ён сумна ля акна;
Заіграла дудка,
Сумна плакала яна,
Да й замоўкла хутка...
Ўжо не будзе болей граць,
Люлька дагарэла...
Прыйшлі людзі ды глядзяць —
Без душы ўжо цела...
Другім страшна, як памруць,
Дзед памёр іначай.
Поўна радасці у твары —
Ён бабульку ўбачыў...
Любіў дзедка дудку,
Любіў дзедка люльку.
Ўсё ж мілей за ўсіх была
Сівая бабулька.

*1943*

## СТАРАЖЫТНАЯ САГА

Градам слоў б'еш у сэрца маё,
нат вясняных не слухаеш казак,
толькі ў маршы ідзеш праз жыццё,
знаеш слова адно: абавязак.

Быццам панцыр на сэрца ўзлажыў —
не прабіць яго нават вачыма.
Не ад шэптаў кахання дрыжыш,
а ад яснага слова: Айчына.

Места ў вочы — глядзіш на курган,
места рук маіх — меч абдымаеш.
Нат не бачыш, як гнуткі мой стан,
нат не чуеш, як шчыра кахаю...

Тваё сэрца рашуча так б'е...
Толькі сіла, нязломная сіла...
Ці не чуеш, што травень пяе,
што чароўная ноч гаманіла?

Цябе, знаю, нішто не сагне,
ты жывеш толькі, моцны, для краю.
Ўсё ж ты казачны сон для мяне,
ўсё ж цябе я бязмежна кахаю.

Шчасце колісь, як птах, адляціць,
нат каханне згарыць, як лучына,—
сонцам толькі не згасне ў жыцці
несмяротнае слова — Айчына!

*1943*

* * *

*Дануце Бічэль*

Добры дзень, дарагая, харошая,
маладзенькі праменьчыку наш,
заварожана разам з Каложаю,
ганаровая Нёмнава страж.

Ноччу цьмянаю зоранька светлая
тым, хто ў цемры, ў бяспуцці,— маяк,
беларуская, тысячалетняя,
ў кожнай песні, бы Нёман, свая.

Ві з праменняў сваю недавітую —
з хвойным пахам жывучай смалы —
залатую, пасажную нітачку
на падарак каханай зямлі.

Кіне месяц у Нёман па зорачцы,
потым выбежыць сам на папас.
Хай прадзецца табе, няхай творыцца —
яшчэ скрыні не поўныя ў нас...

*1965*

## КУФАР

**Урыўкі з паэмы**

Быў час ў маім краю
сягоння туманны,
аднесены хваляй,
час прадзены, тканы.

Працоўныя рукі
каханай матулі
усіх накармілі,
усіх апранулі.

Ад лёну зярняці
да белых палотнаў
паслала, спрала,
паткала ахвотна.

Не проста, не роўна,
а ўсё пераборам,
пад колер краіны
цудоўным узорам.

О сэрца матулі,
жывая крыніца,
дазволь мне сягоння
ля куфра спыніцца.

Над працай тваёй
у паклоне сагнуцца,
ўспамінам мазольнай
рукі дакрануцца.

За тое, што нас ты
вякі апранала,
за тое, што лёгка
табе не бывала.

*

Шырокі, высокі, акованы куфар,
малёваны вокал, з клямкаю са сталі,
не стыдна б такому і на панскі хутар.
Куфар незамкнёны, бо у нас не кралі.
Загарнула бабка посцілку удвое
і нядужай века падняла рукою.
У пахучым куфры важна ўсё ляжала,
што сама бабуля працай рук прыдбала.
Быццам водар з поля пранясло ля хаты,
так запахла лугам, чабаром і мятай.

*

Ах, ляны, ляны, залатыя сны,
белы кужаль — цвет вішнёвы
на грудзях вясны.
Ля маёй мяжы век бы ім цвісці:
поўны куфар тканай белі —
замуж можна йсці.
Сінія ляны, зіхацяць яны.
Ў бурны Нёман на світанні
выплылі чаўны.
Наперадзе той, каго Пётрам зваць.
Мне бы сёння на красёнках
сонейка снаваць...

Адцвілі ляны.
Восень, туманы...
Буду церці кволы лён мой,
прасці да вясны.
Буду віць, снаваць, досвіткамі ткаць,
вечарамі прыйдзе Пётра
песняй памагаць.

*

Палатна сувоі белыя, льняныя,
стаяць, быццам сваі цёсаныя тыя,
спрадзеныя тонка, вытканыя туга,
выбеліў іх травень сонейкам і лугам.
Вечарамі колькі трэба было прасці,
колькі ткаць, бяліці, пакуль ў куфар скласці.

*

Бела навокал, аж вочы баляць,
вішні лунаюць ля плота,
белы ўвесь сад, беляхціць сенажаць —
то сонейка беліць палотны.

Белыя косы, бялявы хлапец
каля дзяўчат завіхнуўся,
з песняю выйшлі дзень белы сустрэць
белыя, белыя, русыя.

*

Сцежкамі у полі ўздоўж дарожных даляў
вышытыя розна ручнікі ляжалі,
белыя, даўгія, гэтак ў час мяцелі
студзень каля хатаў чысты снег пасцеле.
А на іх рукою вышыты жаночай
сінія валошкі з макамі ў вяночак,
галубок і пеўнік, ягады каліны,
нагаткі, рамонкі, гожыя юргіні.
Па канцах карункі тонкім павуціннем
альбо пераплётам фрэндзлі зіхацелі.
Ў покуці павесіць, на абраз у хату,
альбо перакінуць цераз плечы свату
ручніка такога не ўстыдно дзяўчыне,
знача, з працавітых, калі поўна скрыня,
няхай паглядаюць і сваты і госці,
колькі вышыванай, любай прыгажосці.

*

Пальцам няцяжка нітачку віць,
долю з праменных валокнаў,
нітачка ўецца, песня ляціць,
зоры калыша звонку.
Дзеўцы няцяжка кросенцы ткаць,
ўзор вышываці не сумна,
па ніцях, па струнах чаўночкі мігцяць.
за імі снуюцца думы...

*

Белыя кашулі, рукавы ў заборы,
пазуха скрозь-наскразь вышыта узорам
чорным і чырвоным, ў васілёчкі — сінім,
роўненька пры боку зложаныя ў скрыні.
Некалькі настольніц з найтанчэйшай пражы,
а у кожнай колер і узор інакшы!
Вось бліскучы, ў восем нічальніц, шырокі,
і другі, ў чатыры, з фрэндзлямі навокал,
той з льняной карункай, мяккі, бы шаўковы,
той утком суровым на другой аснове...
Вось, здаецца б, выняў, на сталы паслаў бы
і гасцей жаданых пасадзіў на лавы,
пірагі паставіў, частаваў бы мёдам,
ганарыўся працай і харошым родам.

*

Дываны — луг квяцісты ў руках,
мары дзіўныя, ўтканыя ў ніці,
каляровы дзявочы пасаг,
промень шчасця з жыццёвай крыніцай.

Кветак спеў, чорнай долі на злосць,
кліч тугі апяяны узорам.
Дываны — маладосць, прыгажосць,
гоман сэрца жывы і задорны.

Калі ходзе дзяўчына, як мак,
калі хата цвіце дыванамі,
не мяняўся б ніводзін юнак
сваёй доляю нават з панамі!

*

А хустак, як макаў!
Розных шаляновак
з дзён яшчэ дзявочых,
сініх і бурдовых.

Цёмныя — у царкву,
калі пост надыдзе.
Ясныя, як сонца,—
тыя на Вялікдзень.

У кветкі, юргіні,
каласы і зелень.
Тыя — йсці ў гасціну,
тыя — на нядзелю.

Ясны шоўк — на свята,
а паркаль — на будзень.
Ёсць у чым бабусі
паказацца ў людзі.

*

Кветка ў полі — галоўка жанчыны,
сонца ў вачах, а сама сцебялёк,
хустку на косы вясёлкай накіне,
каб макам ці ружаю ззяла здалёк.
Чыстую, светлую альбо узорную,
часам чырвоную — ў радасны дзень,
часам ўдавіную, сумную, чорную:
без хусткі ў людзі дзяўчына не йдзе.
Гнуцца на сцежкі сцяблінкі чароўныя,
кветкі на косах залётна нясуць.
Сёстры бярозаў, танклявыя, стройныя,
краем сваім беларускі ідуць.

*

Яшчэ адна хустка, цёплая, цяжкая,
баба яе велькай хустай называе.
Ёю ў непагоду добра атуліцца,
старым у дарозе і для маладзіцаў.

Мяккаю, шырокай,
зложанай удвое,
ахінуць ля сэрца
дзіцянё малое.

Вось ляжаць ля хустаў,
скручаныя роўна,
горкі саматканых
паяскоў цудоўных.
Ў ёлачку, у «пчолку»,
вузенькіх, шырокіх,
каляровых, розных —
не палічыш вокам!

Паясочак сіні — недзе ад матулі,
а чырвоны, яры — мужу да кашулі,
а вось гэты — гожы, доўгі, з кутасамі,
падпяразваў святам бабін брат часамі.

Загудзелі дуды, гуслі заігралі,
брат скакаў, а з ветрам кутасы лятал...
І слязу змахнула рукавом бабуся,
бо адзіны брат той з вайны не вярнуўся.

А шырокі пояс, зложаны ў дзве столкі,
падпяразваў колісь дзед бабулін толькі.
Зіхацеў на свіце, шырынёй бы ў пана,
толькі што не слуцкі, а удома тканы.
Хутчэй, чым прыняці той абычай панскі,
спадабала шляхта паясок сялянскі,
не са слуцкіх — родны паясок зрадзіўся,
а насіці пояс пан ў сялян вучыўся...

*

Хвартушок — гэта белае дзіва,
найтанчэйшы, з кудзелі лянок,
гэта гонар ўдалой маладзіцы,
кветкі — ўзорным вяночкам ля ног.

Можна ім закрыць вочы ад шчасця,
калі шчокі калінай ірдзяць,
схаваць слёзы, калі не удасца
тое шчасце навекі ўтрымаць.

Хвартушок — чарадзейнае хусце —
гэта стан свой задорна абвіць.

Ў бель чаромухі голаў чыюсьці
ў забыцці на хвартух палажыць.

Хвартухоў у бабкі — розна вышываных,
белых, ясных, сініх, дарагіх і танных,
гэтыя — на будзень, тыя — пад кудзелю,
гэтыя — ў гасціну, тыя — на нядзелю,
гэты — йсці у царкву, той — на дзень кірмашны,
на канве рабінай вышыты, інакшы.
А вось гэты, ў кветкі, з тоненькае пражы,
то на смерць бабуся адлажыла важна.
Гэткая ж кашуля і каптан навюткі,
андарак сліўковы, хуста і абутак —
ўсё гэта заўчасу зложанае ў скрыні
і чакае толькі той сумной гадзіны,
каб у раз апошні, гожа, па-сялянску,
апрануць бабусю без чужое ласкі.
Гэтак і для дзеда, гэтакі абычай, —
ўсё ляжыць, чакае, покуль смерць пакліча.
А ў малым прыскрынку, што збоку прыбіты,
акрамя караляў, стужак аксамітных
ёсць і жменька грошай, на долы, на труны,
на шчырасць апошняй гасціны хаўтурнай...

*

Сутонне. Ўжо мала што
ў куфры відаць,
схілілася голаў
бяссільна.

Не хочацца куфра таго закрываць,
ўспаміны яго абступілі.
Зрабілася цёмна і пуста наўкруг,
прабіліся слёзы на вейкі,
і цяжка апала са змораных рук
акована куфрава века.

*1965*

* * *

Толькі чыстыя сэрцы пяюць.
Толькі птушкі, вітаючы сонца,
ды калі свае гнёзды ўюць,
звоняць песнямі ў неба бясконца.

Гэта подзьмух жывучай вясны,
ясных промняў няўлоўная жменя
прабудзіла кругом галасы
маладосці, сілы, квітнення.

Сум праходзіць мінулай зімы,
заміраюць нягоды жыццёвыя,
падымаецца радасць з зямлі,
сакавіцкім павевам аднаўленай.

Сіла крылаў не знае граніц,
абмінаючы сцежкі глухія,
п'е душа з першародных крыніц
беларускай адвечнай стыхіі.

Вырываецца песня у свет
моцнай прагай дабра і свабоды
за птушынымі песнямі ўслед.
І паэты птушынага роду.

*1980*



# Алесь Жаўрук

Алесь Жаўрук (Аляксандр Дзмітрыевіч Сінічкін; 19.8.1910, г. Сянно Віцебскай вобл.— 23.8.1942). Скончыў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры (1938). З пачатку Айчыннай вайны на фронце. Загінуў пад Сталінградам. Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Ручаіны» (1936), «Дняпро выходзіць з берагоў» (1938), паэмы «Крывёю сэрца» (1938) пра барацьбу з фашызмам у Іспаніі. З А. Ушаковым напісаў кніжкі для дзяцей «Пра майго таварыша» (1939), «Пра майго катка» (1950), паэму «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939). У 1960 г. выйшла «Выбранае», у 1987 г.— «Крывёю сэрца».

* * *

Гаварылі, часамі увосень
Завінаюцца сцежкі у сум,
І юнацкія свежыя крозы
Маладую губляюць красу,

І што сэрца у цемрадзі стыне,
І цішэе слоў песенных цок,
Як каханне чарнявай дзяўчыны,
Як сяброўства кудравых хлапцоў.

Толькі я, мо таму, што прысады
Адмаячылі золатам ліп,
Калышу ў сэрцы ціхую радасць
Ў адцвітанні вячэрняй зямлі.

Можа, і часам завяне бадзёрасць
І гады лягуць шэрагам плям,
Толькі сёння агністыя зоры
Адзначаюць мой песенны шлях.

І калі непакорныя ветры
Распляскаюць ў раздоллях свой смех,
Загараюцца вочы прыветней
Надыходзячай белай зіме.

І звініць непаўторнасцю чыстай
Ў кожным слове юнацкай страфы
І бароў маладая ўрачыстасць,
І сумётаў чарэшневы пыл.

*1929*

## РАГАЧОЎСКІ СШЫТАК

**Урывак**

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю,
Мой зялёны,
Мой птушыны горад Рагачоў.

Кіраўск. Стынь. Карэльскія бярозы.
Кліча новых сцежак харaство.
Што паробіш з неспакойным лёсам,
Салаўіным цяжкім рамяством?!

Ціхім ранкам пад павевам лёгкім
Над вадою шэпчуцца сады.
Ціхім ранкам у прасцяг далёкі
Я прайду, задумны й малады.

Між сланечнікаў праз палісаднік
Пракладу шырокі росны след,
Лодачнік,
Заядлы галубятнік
І вясёлы на зямлі паэт.

І аднойчы вечарам лагодным
У гасцях у дальніх землякоў
Раскажу я з гонарам пра родны
Свой зялёны горад Рагачоў...

*

Уздрыгнуўшы, паплывуць вагоны,
Ціхі домік прамільгне здалёк...
Апусцеў садоўніцкі зялёны
З невысокім ганкам флігелёк.

Даўняя сумотная аповесць!
Як вялікі некалі сказаў,
Там пакутваў,
Там кахаў я колісь,
Там сваё я сэрца пахаваў...

...Дзе ж ты зараз,
Па якіх сцяжынах,
З кім ты ходзіш,
хоць бы ведаў я,
Дзе яна, пад колер апельсінаў
Хустка бесарабская твая?

Я на кожным ветраным паўстанку,
Паўз які шляхі мае вядуць,
Ўсё шукаю поглядам смуглянку,
Ўсё баюся, каб не прамінуць...

Пра спатканні гэткія
і ў далях
Успамін не хутка растае.
На любым карэльскім перавале
Буду славіць яблыкі твае.

Буду частаваць сяброў на сходзе,
Ўспамінаць пра шумныя сады,
Пра гурток мастацкі на заводзе,
Пра разгул дняпроўскае вады,

Пра вазоў калгасных караваны,
Пра дзяўчынку з грыўкай залатой,
Што маіх паэм усхваляваных
Не хацела слухаць ні за што.

*1936*

## ДНЯПРО ВЫХОДЗІЦЬ З БЕРАГОЎ

У добры час
Крамяна-звонкай
Сакавіковай раніцой,
Узняўшы бурных хваль гамонку,
Зламаўшы мост лядзяны свой,
Сабраўшы з гор і просек чорных
Ваду затопленых снягоў,
Кіпучы,
шумны,
непакорны
Дняпро выходзіць з берагоў.

Як мора цэлае, праз грэблі
Да самых сосен на гары
Пуляюць пругкіх валаў грэбні
І круцяць шумныя віры.

І ўся славутая акруга
Пяе, як маладосць твая...
Выходзь жа,
Верная падруга,
Апора лепшая мая!

Калісьці
Кволаю дзяўчынкай
Цябе сустрэў я на шляхах
З пярэстай лёгкаю хусцінкай,
З галінкай бэзу у руках.

Ідуць гады.
Ты стала дужай.
Вышэй ты стала і статней;
Ідуць гады, і наша дружба
Штодня цясней,
Штодня мацней.

І так нам сцежкаю лагоднай
Скрозь
Поруч крочыць у прасцяг
З вясёлай песенькай паходнай,
З цяплом сяброўства у вачах...

Глядзі,
Сабраўшы ў хвалі спрытна
Ваду затопленых снягоў,
Кіпучы,
бурны,
ненасытны
Дняпро выходзіць з берагоў.

Які прастор!
Які надзіва
Прыгожы дзень!
Цудоўны край!
Дык узнімай жа лебядзіны,
Крылаты парус узнімай.

Хай б'юцца хвалі ў борт бясконца —
Мы пераможам волю стром.
Насустрач маладому сонцу
Свой лёгкі човен павядзём.

І песняй простаю і шчырай
Уславім дружбы светлы шлях,
Сцягоў нямеркнучую чырвань,
Зямлю
І квецень у садах.

*1938*

## СЛАНЕЧНІК

У лёце гэтых дзён бясконцым,
Пад гэтым небам маладым
Твой лёс маім быць ясным сонцам,
А мой — сланечнікам тваім.

Куды ні пойдзеш, ні павернеш —
Я ўслед вярнуся за табой,
Як той сланечнік сонцу верны,
Сваёй кудравай галавой.

*1938*

## «РУЖА»

А ці міг, ці век — не знаў ніхто там,
Колькі моўчкі праляжалі мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.
Толькі раптам лютаўская сцюжа
Адступіла быццам, адлягла.
Чую і не веру сам я — «Ружа»,
«Ой, расцвіла ружа, расцвіла...»
Азірнуўся: ціха ў задуменні
Сам сабе спявае зампаліт.
Слухаем. І нікне поўнач ценем,
Іншыя ўстаюць хлапцам палі.
Случчына каму, каму у песні

Амсціслаўшчына яго ўстае,
Мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,
Вербы, вочы ясныя твае.
І узбек, сусед мой, вочы мружыць
(Што ён прыгадаў у той цішы?),
Слухаў, слухаў і ўсміхнуўся: «Ружа.
Ружа,— зноў ён паўтарыў,— якшы».
І да самае атакі потым
Больш не думалі аб сцюжы мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы...

*1942, Мажайск*



# УЛАДЗІМІР КОРБАН

Уладзімір Іванавіч Корбан (25.8.1910, г. Барань Аршанскага р-на Віцебскай вобл.— 10.11.1971). Удзельнік Айчыннай вайны. Працаваў на заводах у Беларусі і Ленінградзе. З 1952 г. у рэдакцыі сатырычнага часопіса «Вожык», у 1967—71 гг.— яго галоўны рэдактар. Першыя байкі надрукаваў у 1945 г. Аўтар зборнікаў баек, сатырычных і гумарыстычных вершаў, вершаваных фельетонаў: «Мы іх ведаем» (1950), «Байкі» (1953), «З вецярком» (1957), «Не на сваім месцы» (1965), «Свінні ў рэпе» (1968) і інш. Пісаў гумарыстычныя апавяданні, вершы і байкі для дзяцей: «Янка і санкі» (1957), «Пра жывёл і пра звяроў» (1963), «Суседні двор» (1967) і інш. Выйшлі «Выбранае» (1976), «Дзядзькава крыўда» (1982).

## МЛЫНОВЫ ПЫЛ

Не ведаю, уранку ці пад вечар
У выніку прыемнейшай сустрэчы
Знаёміліся неяк дзве свінні.
«Чыя ж вы будзеце? — Рабая запыталася ў суседкі.—
Такія гладкія... а вашы дзеткі
Зусім, як здобныя сачні».
«А мы — уласнасць млынарова,—
Хаўроння адказала ёй.— У нас
Уся жывёла напаказ —
І свінні, і карова,
Бо гаспадар наш зухаваты:
З млына як вернецца дахаты
Ды шапку над карытам абтрасе,—
Вось пылам тым і сыты мы усе».
«А можа, гаспадар ваш і ў кішэні
Мукі ці жыта дзве-тры жмені
Дахаты іншы раз нясе?»
«Часамі ёсць выпадак і такі».

---

А пыл ідзе не толькі ад мукі...
Пыліцца можа цэгла, лес, цвікі
І іншы матэр'ял, які
Знаходзіцца каля рукі...

*1948*

## ГУРКІ

Аднойчы, робячы агляд калгаснаму гароду,
Гароднік, дзед Мірон, заўважыў шкоду —
Там нехта пачапаў гуркі.
«Чакай жа! — думае стары.— Я выяўлю нягодную пароду.
Зладзюга, не мінеш ты дзедавай рукі».
І тут жа лёг у буракі —
Зрабіў на шкодніка засаду.
Прайшло гадзіны дзве. Вось бачыць ён: з-за саду,

Цішком, канавай ля мяжы,
Паўзуць два хлопцы, як вужы,
К гароду падпаўзлі і — шасць! — у грады.
А дзед на дыбачках падкраўся ззаду
Ды — цап абодвух за штаны!
«Ану! — крычыць.— Ні з месца, гады!
Калгас рабуеце, авеччыны сыны!»
Зладзеі бачаць, што ў бяду папалі.
«Дзядулька! — кажуць.— Мы гуркоў не кралі,
Мы так дзівіліся, бо думалі, што гэта кавуны,—
Такія ж велізарныя яны!
І як ты вырасціў такое дзіва?»
«Гуркі выдатныя»,— сказаў дзед ганарліва.
«Цябе б, дзядок, Мічурыным лічыць!
Табе б, дзядок, гароднікаў вучыць!»
І дзед іх выпусціў, ніякай кары не ўчыніў,—
Яны падхвальвалі, а гэта дзед любіў.

---

Часамі кара абыходзіць міма
Гібрыда шкодніка і падхаліма.

*1948*

## ГІЕНА І ЗЕБРА

Рашуча фактамі прыпёртая к сцяне,
Калі звяры іх выказалі ў вочы,
Гіена заскуголіла аднойчы:
«Чаго вы ўсе напалі на мяне?
Драпежніца!.. Я не такая,
Не!
Пара цяпер ужо не тая,—
Драпежніцтва знікае!
І мы становімся — зірніце — пакрысе
Адно да аднаго падобныя усе.
Вось Зебра вам,— яна палосы мае,
Такія ж, як і я, сябры мае.
Мы з Зебраю радня, дазвольце вам давесці!»

«А хто каго з вас будзе есці?» —
Пытанне Антылопа задае.
«Ну... гыр-р-р... вядома, я яе...»

---

У гэткую «радню» рабочага прыняць
Капіталісты згодны,
Таму яны штосілы і крычаць
Пра нейкі там «капіталізм народны».

*1956*

## МАТЫЛЁК

На сцэне дэкарацыі стаялі,—
Спектакль у тэатры меўся быць.
Над афармленнем мастакі папрацавалі...
Ды і было ім што рабіць,
Напэўна, шмат начэй не спалі.
Нарэшце ўсё. Святло пагасла ў зале,
А сцэну асвятлілі ліхтары.
На сцэне парк стары.
Алея, ліпы ў рад пасталі,
Усюды клёны высяцца, дубы,
Асіна пахілілася крывая,—
Старанна выпісаны сук любы,
На месцы ўсё, але... чагосьці не хапае.
Глядзіць вядомы рэжысёр здалёк,
Маўчыць, ніяк не распачне гаворкі.
І раптам праз акно знадворку
На сцэну уляцеў звычайны матылёк.
І сцэна ажыла,— лісты затрапяталі,
І ветрык зашумеў у бэзавых кустах,
Пачуўся нават ружаў пах,
І нібы птушкі ў парку заспявалі,—
Жыццё зірнула з кожнага кутка.

---

Чытаеш іншы твор — на месцы ўсе дэталі,
Але няма... жывога матылька.

*1960*



# ЗМІТРОК АСТАПЕНКА

Змітрок Астапенка (Дзмітрый Емяльянавіч; 10.11.1910, в. Калеснікі Хіславіцкага р-на Смаленскай вобл.— 1944). Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум (1929). Друкаваўся з 1926 г. 5.12.1936 г. арыштаваны, асуджаны на 8 гадоў. У час Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, быў на фронце. Загінуў у кастрычніку 1944 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «На ўсход сонца» (1931), «Краіне» (1931), «Абураныя» (1932), «Трактар» (1933, для дзяцей), навукова-фантастычнага рамана «Вызваленне сіл» (1932).

## НА ШЧАСЦЕ ПЕСЕНЬ

Прымі мяне ў свае абыймы,
Неперноможнае жыццё!
Рукамі дужымі, грубымі
Расклаў я светлы свой касцёр.

На вогнішчы яго вясёлым
Дрыжыць мільённы шумны смех —
Аб чым прыснілі мае сёлы,
Зямлёй натруджаны лямех.

Гняла пачварная прытуга
У моры згадак і падзей.
На шчасце, песень, цвёрдасць духа
Я не згубіў між дробных дзей.

Збярогшы песень белы статак,
Прайду, як сон мае зямлі,
Пакіну іншым сотні згадак,
Як тыя, што да нас прыйшлі.

Начэй не сплю ў глухую бессань
З усімі разам і за ўсіх.
А сэрца ў тым жа ладзе б'ецца,
Як б'ецца у сяброў маіх.

Спакойна будучыню стрэнем,
Ва ўсіх якая увачч у...
Такім, як дыямент, як крэмень,
Сягоннячы я быць хачу.

Я буду першым з самых першых
І сынам сонечнага дню,
Аддаўшы краю ў шчырых вершах
Сваю сумленную данню.

*1932*

## НА БЕЛЫМ ПАГОРКУ

На белым пагорку
Мы гуртам юнацтва страчалі,
Курылі махорку,
Смяяліся ў ясныя далі.

На сонца, на зоры,
На цёмныя пушчы глядзелі,
Ў лясныя азёры
Кідаліся з белай адмелі.

З юнацкіх гасцёвак
На шлях выбягалі шырокі.
Між сцежак жыццёвых
Сабе выбіралі дарогі.

Расталі ў тумане,
Прабеглі, як лёгкія хвілі,
Гады нашай рані,
Якіх мы тады не лічылі.

Вайна і пажары
На нашую долю прыпалі,
Варожыя хмары,
Цалункі смяротнае сталі.

Смыляць нашы сэрцы,
Працятыя гневам і болем.
Час іхняе смерці —
Час клятвы святой перад боем.

Хоць крыўдна, хоць горка —
Будзь мужным і цвёрдым, як крэмень.
На белым пагорку
Сваю перамогу мы стрэнем.

*1943, красавік*

## ЭДЭМ

**Урыўкі з паэмы**

...Мінуў, як вечнасць, дзень. Другі. Але
Разведка не дазналася нічога.
Эсэсаўскія часці, што ў сяле
Размешчаны, стаяць на варце строга.

І трэці дзень мінуў ужо, калі
Хлапцы з застаў на баравых дарогах
У зямлянку да Андрэя прывялі
Бяздомнага маўклівага старога.
Яго пазнаў Саковіч. Перад ім
Быў сельскі поп, стары айцец Макарый.
Ён знаў яго даўно, ды не такім
Маўклівым, а з усмешкаю на твары.
З усмешкай, за якую ў даўні час
«Папом вясёлым» бацю ахрысцілі.
— Адкуль, айцец?..
Макарый у адказ
Махнуў у бок сяла, што мглела ў сіні,
У бок ракі далёкай і бяроз.

а. Макарый

Адтуль... Я вам не вораг. Я прынёс
Табе, Андрэй, паклон Анастасіі.

Саковіч

Яна не ўмерла?!

а. Макарый

Да яе ў турму
Мяне вадзілі,— так яна прасіла.

Саковіч

Яна не ўмерла, бедная!.. Чаму
Яна не ўмерла?!

Партызан

Эх... каб наша сіла!

5

Але няма расткоў яе, няма!
Няма, і ўжо ніколі іх не будзе...

Даўно, даўно, у той далёкі час,
Калі бацькі яшчэ не мелі нас,
Бо нас шчэ не было тады на свеце,
Ды і бацькі былі бадай што дзеці,
Якраз, напэўна, ў гэты самы час

Прымушан быў архіерэйскай карай
Ў сяло з дзябёлай матушкай прымчаць
«Вясёлы поп» — святы айцец Макарый.
Старыя людзі кажуць, што сюдой
Прыехаў ён мажны, чырванашчокі,
З маленькай кучаравай барадой,
Што ён хадзіў, узяўшы рукі ў бокі,
Што ён вяселлі адпраўляць любіў
І піць гарэлку пляшкамі і болей,—
За гэта ён і пакараны быў
Свайго начальніцтва святою воляй.
Ён быў не п'яніца, які ўзахлёб
Сівуху хлышча ды губляе розум,—
Ён проста быў вясёлы рускі поп,
Які хоць піў, ды болей быў цвярозым.
Асеўшы тут — такі ўжо, мабыць, лёс
(На ўсё бяруць у нас яго прычынай),—
Дажыў Макарый да сівых валос
І дацягнуў аж да вайны Айчыннай.
Нямала ён дзяцей тут ахрысціў,
А колькі павянчаў у сельскім храме,
А што адной гарэлкі перапіў —
Аб гэтым можаце судзіць вы самі!
З любым пагутарыць ён быў гатоў
Па-свойску, гэта значыць, па-сялянску.
— Які я поп! — казаў ён.— Мне б кароў
Разводзіць сіментальскіх ці галандскіх!..
Ён быў музыкам. Шчэ з юнацкіх дней
Ім музыка ўладала з дзіўнай сілай,
І скрыпка гучная была часцей
Ў яго руцэ, чым чарка і кадзіла.
Як толькі ад царквы ці ад віна
Быў вольны поп,— скідаў свае ён транты,
І Грыгам альбо Брамсам давідна
Тады гучэла баціна веранда.
Аднойчы ён праходзіў ля карчмы
(Яе трымаў бадай усім знаёмы
Карчмар-яўрэй, многасямейны Шлёма)
І прыпыніўся. За дзвярыма смык
Гуляў на струнах, і якісь матыў,
Макарыю дагэтуль не вядомы,
Так дзіўна ліўся, што Макарый быў
Як ланцугом прывязаны да дома

Яўрэя Шлёмы. Не ўтрываўшы, ён
Адкутаў дзверы: «Добры дзень у хату!..»
І ў той жа міг матыў свой зухаваты
Іграць пакінуў Шлёмаў сын Арон.
— Што гэта гралі вы? — спытаўся поп. —
Прабачце мне, мы незнаёмы з вамі...
— Што гралі?! — Шлёма ў дзіве зморшчыў лоб. —
«Лявоніху!» Вы ж, пэўна, чулі самі...
— Сыграй яшчэ!
Тут Шлёма ўзяўся сам
За скрыпку і паддаў такога жару
Сваёй рукою ўторам і басам,
Што поп Макарый аж змяніўся з твару:
— Які характар! Ах, які выраз!
Як самабытна, Госпадзі Ісусе!.. —
Так ад яўрэя поп у першы раз
«Лявоніху» — красуню Беларусі —
Пачуў і з той пары бадай штодня
Ў карчму хадзіў, пакуль не пераняў
Матыў яе, і так ім захапіўся,
Што не заўважыў сам, як дакаціўся
На гэты раз да страшнае бяды.
Вы знаеце — хаця б з літаратуры, —
Што быў за час, што быў за лад тады,
Калі духоўнікам не па натуры
І не па сану іхняму было
Заходзіць у карчму ці да яўрэя
Альбо, тым болей, граць на ўсё сяло
«Лявоніху». Ізноў да архірэя
Пайшоў данос, а тут Макарый сам
Дадаў бяды сабе, ды шчэ якое!..
Быў у нядзелю поўным-повен храм
Набожнаю грамадаю людскою.
Грымеў прыгожа падабраны хор,
І бацюшка за царскімі вратамі,
Узяўшы іх надзейна на запор,
Надоўга знік. Сказаць папраўдзе, там ён
Сеў адпачыць. Адкуль узяўся смык,
І поп заграў — паціху, пад сурдзінку...
У гэты час даносчык-дзяк, як бык, —
— Вонмем!..[1] — зароў, і ў тую ж мо хвілінку

* Вонмем! (царк.-славянск.) — слухайма!

Пачулася з прытвора спакваля:
«Ой, ды што ж там за Лявоніха была!»
Ён анямеў — айцец Макарый «на кон»
Паставіў святасць храма, і дыякан
Усклікнуў зноў: «Вонмем!..»
Адказам быў
Усё той самы д'ябальскі матыў:
«Ой, ды што ж там за Лявончык быў,
Што Лявоніху за гэта не набіў!!.»
Ужо расчулі першыя рады,
І храм ахоплен быў вялікім дзівам:
«Лявоніхі» вясёлыя лады
Ўзнімалі і старых сваім матывам...
Ды здагадаўся ў час прамудры дзяк
Даць рэгенту паспешны тайны знак —
Хор ірвануў штосілы «Алілуя»
І заглушыў «Лявоніху» ўдалую.
А хітры дзяк насілу адарваў
Макарыя ад музыкі грахоўнай.
Вось як здавён яшчэ нас чараваў
Прызыўны гук «Лявоніхі» чароўнай!
Яна ва ўсіх нас у крыві жыве —
Лясоў, балот крывіцкіх Лёрэлея,
І той, хто можа танцаваць яе,
Той аж да самай смерці не старэе.
Праз нейкі час, як гром, прыйшоў загад
Прыбыць папу у Мінск са справаздачай.
— То за «Лявоніху»... Які, бо, гад
Данёс у Мінск? Напэўна, дзяк, няйначай...—
Але ж, як кажуць, як ты ні круці,
А прыйдзецца калісьці памярці...
І поп Макарый у жахлівай стоме
Праз тыдзень быў у архірэйскім доме.
Паслушнік далажыў, і ля дзвярэй
Яго сустрэў благачасцівым гневам
Апаплексічны тоўсты архірэй
І стаў сячы направа і налева:
— Ерэтык! Змій! Заблудшая аўца!
Злашкодны таць, што ўпоўз да нас употай!
У манастыр да смертнага канца!
У Салаўкі — на чорныя работы!..—
І так далей. Стаяў айцец Макар
Прад архірэем спуджаны страшэнна.

«Якая ж з гэтых памянёных кар
Мяне спасцігне?» — думаў ён смірэнна.
Тым часам прытаміўся архірэй.
У крэсла бухнуў. Выцягнуў хусцінку.
«Апраўдвайся, Макарый, ды хутчэй!..»
І выняў скрыпку поп і пад сурдзінку
«Лявоніху» шкадлівую заграў...
— Святы айцец, яна мяне згубіла,
Але ж паслухайце,— якая сіла!..—
І пятае калена распачаў.
Спачатку меўся ўскочыць архірэй
І гневам зноў абрушыцца вялікім
На дзёрзкага папа. Але мякчэй
Зрабіўся раптам ён. Са светлым лікам
Прысеў ізноў. Рабіла дзіва скрыпка,—
Рука праасвяшчэннага, як рыбка
У летняй рэчцы плавае ў цяпле,
Ў паветры плавала і па стале
Вясёлы такт прыкметна адбівала...
Праз паўгадзіны сакратар нямала
Быў здзіўлены, зірнуўшы з-за дзвярэй:
Наўкол папа-музыкі архірэй
Хадзіў кружка, як той шчупак на вудзе,
У бурным танцы...
Не! Жывыя людзі
Не могуць, што там лішняе казаць,
«Лявонісе» жывой супрацьстаяць!
— Ідзі, мой сын, і болей не грашы! —
Сказаў архіерэй на развітанне
І благаславіў музыку ад душы,
Не налажыўшы жаднага спагнання...

...Ён не загінуў. Цераз колькі дзён,
Абдзёрты, дзікі, напалову голы,
У дальняй пушчы апынуўся ён.
Дарогай ён мінаў жытло і сёлы
І абыходзіў за вярсту людзей,
Бо іх баяўся. Быў той год багаты
На арахі, і імі кожны дзень
Жывіўся, быццам дзік, Юхім Кашлаты
І гэтым жыў. Як чорныя вятры,
У пушчы дні і ночы праляталі.
Шаптала ноч яму імя сястры,

А дні імя Саковіча шапталі...
І ён зрываўся, і далей ішоў,—
Абы ісці, абы не быць на месцы.
Звінеў над ім зялёны шум лістоў.
Праз іхні шум ён ясна чуў, як дзесьці
Рыдала й плакала яго сястра.
Праз тыдзень ён узбіўся на зямлянку
У пушчы. Дахам ёй была кара,
А тапаром, без пілкі, без рубанка
Была ўся чыста зроблена яна.
Была ўжо ноч, калі ён так шчасліва
Знайшоў яе. Да вузкага акна
Прыпаў ён тварам і застыў ад дзіва:
Прад ім стаяў царкоўны аналой.
Курэлася кадзіла сінім дымам.
Старэнькі поп, павернуты спіной
Да здзіўленага відам тым Юхіма,
Укленчыў, малячыся,— ён хрысціў
У самаробнай ліпавай купелі
Дзіцё. Непадалёк ўдваіх сядзелі —
Бабуля і малое год шасці.
Вось павярнуўся поп, і ўміг Юхім
Пазнаў: то быў «вясёлы поп» Макарый.
Ён прыгадаў той страшны дзень, з якім
Знік поп старэнькі ў баравым гушчары.
Ён прыгадаў, як між зялёных ніў
У дзень павешання цяжкой ступою
Ішоў Макарый з кайстрай за спіною
І як Юхім тады за ім сачыў...
І ён падумаў: вось надзейны той
Прыязны друг, каго ён не баіцца,
З якім сваім адчаем, і тугой,
І крыўдамі ён можа падзяліцца,
З каторым можа ён зрабіцца зноў
Былым Юхімам, спраўным чалавекам,
Каторы дасць прашчэнне ад грахоў
Хрыстовым імем ныне і навекі,
Бо і Хрыстос не праклінаў сваіх
Забойцаў, калі імі быў распяты.
Дык чым жа горшы ад забойцаў тых
Нямецкі стараста Юхім Кашлаты?
Вось кут, дзе ён нарэшце адпачне,
Дзе знойдзе добры схоў ад партызанаў!

Абы пражыць вайну, а па вайне,
Дасць Бог, пачне сваё жыццё ён занаў...
Так думаў ён і да квадрата шкла
Цікоўна прынікаў заросшым тварам,
Хутчэй бы гэтая кабета йшла
Дамоў ды стрэўся ён з айцом Макарам!
Але яна не йшла. Сваё радно
Ля печкі на падлозе разаслала,—
Відаць, бабулька тут заначавала...
Тады Юхім пастукаў у акно.
Той стук нясмелы ўчуўшы, без спалоху
Айцец Макарый выйшаў да парогу.
...Узняўшы срэбны бліскавічны крыж,
Стаяў прад старастам айцец Макарый,
І столькі велічы было на твары
Ягоным грозным, што Юхім, як мыш,
Нырнуў у цемру і паміж ялін
Пабег, як звер бяжыць ад чалавека,
І бегла ўслед: «Ад сёння і навекі...
Будзь пракляты на век вякоў!.. Амін!..»
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ураннi ціхім шляхам баравым
Ішла з ахрышчаным дзіцём бабуля,
З шасцігадовым, каля ног, малым.
І толькі яр сасновы абмінула,
Як закрычаў малы: між светлых дрэў,
Дзе лёталі па сініх кветках пчолы
І птушкі цвіркалі, як здань, вісеў
Страшлівы труп, абдзёрты і паўголы.

Малы

Хто гэта, баба? Што ён робіць там?

Бабуля

Маўчы, ён нежывы!..

Малы

Яго забілі?

Бабуля

Не, дзетухна... Відаць па ўсім — ён сам...

Малы

А, ведаю,— то немцы з ім зрабілі!..

*1944*



# АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

Алесь Дубровіч (Аляксей Рыгоравіч Рэдзька) нарадзіўся ў 1910 г. у в. Галубічы Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Друкаваўся з 1928 г. Нізкі вершаў змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Крывёю сэрца» (1967). Расстраляны фашысцкімі акупантамі ў снежні 1941 г.

## МЫ

Мы — скрыўджаных няпраўдай струны,
Адным распалены агнём.
Мы гімн пакуце граем сумны
І славу барацьбе пяём.

Натхненне наша у змаганні
За шчасце новага жыцця,
Мы летуцім аб светлым ранні,
І шмат у песнях пачуцця.

Мы сэрцам полымным і чыстым
Асвецім шлях сябрам другім
І верым: песняй урачыстай
Мы перамозе зложым гімн.

*1932*

## КІНУ СВАЕ ДУМЫ

Кіну свае думы жураўліным лётам —
Хай лятуць да сонца, у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
І пра тое сонца буду ціха граць.

І хоць скасцянеюць пальцы на марозе,
Не пакіну кратаць галасістых струн,
Хай зімой завеі выюць на парозе
Ці ў барах сасновых плачуць, як лясун.

А як пашарэе белы снег пад плотам —
Падкручу ў цымбалах кожную струну
І на ўсіх, залітых ранняй пазалотай,
Я зайграю з ветрам маладым вясну.

І па хатах людзі вечарам лучынным
Пра вясну, пра сонца будуць гаварыць;
Выйдуць на пагоркі з туманоў лагчынных,
Каб вясенніім сонцам грудзі апаліць.

Дык ляціце ж, думы, жураўліным лётам,
Каб хутчэй сустрэцца з сонцам і з вясной!
Я іграць не кіну пад лазовым плотам,
Рукі не самлеюць, воч не сплюшчу сном!

*1938*



# АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

Аляксей Аляксандравіч Зарыцкі. Нарадзіўся 22.3.1911 г. у г. п. Хоцімск Магілёўскай вобл. Скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў (1936). У 1938—46 гг. у Савецкай Арміі. Друкуецца з 1927 г. Выдаў многія паэтычныя зборнікі: «Эпічныя фрагменты» (1932), «Дняпроўскае рэха» (1946), «Залатое дно» (1955), «Размова з сэрцам» (1961), «Мая асяніна» (1973), «Трывожная госця» (1986) і інш. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1969; т. 1—2, 1981). Перакладаў з рускай, украінскай, літоўскай, нямецкай, польскай паэзіі (творы А. Міцкевіча, Я. Бжэхвы, В. Варашыльскага, Л. Левіна). Памёр 29.10.1987 г.

## ПЕСНЯ ПРА МАЛАКО

Дзе тут мрамар, вечнасць, зоры,
Адзінокай чайкі крык?
Ля калгаснае аборы
Ходзіць пільны вартаўнік.

Дзе ж рыданні і праклёны,
Сум гітарны за акном?
З малаком стаяць бітоны,
З цёплым, свежым малаком.

Смак яго — ну проста дзіва!
Вып'еш кубак, просіш зноў.
Нашых рук у ім руплівасць,
Сок салодкіх мурагоў.

І з'ядуць з калгаса хлопцы
З малаком пшана гаршчок.
Хай гарыць ліпнёвым сонцам
Маладая чырвань шчок.

Я не браў для гэтай песні
Зор у неба напракат —
Нівы шум, калгаснай, весняй,
Даў ёй свежасць,
Даў ёй гарт.

Знаю — «рыцары мастацтва»
З «вышыні» швыргнуць мячы.
Дзе ж імпэт і рух юнацтва
Ім, старым, перамагчы!

Заглядаць ім з вечным сумам
Ў вокны нашыя цішком.
Нам жыццё і свежасць думак,
Нам і каша з малаком.

*1929*

## ПАЛЕСКІ ВЕЧАР

Палескі вечар выйшаў на раку,
Брыдзе па ціхіх берагах паволі,
Спявае недзе дзеўчына ў садку,
Рахманы вол прылёг каля таполі.

Гай засынае, спіць дрымучы бор,
І Прыпяці Дняпро шырокі сніцца.
Гарыць над самай кручаю касцёр,
Рыбацкі казанок над ім дыміцца.

Прынадны, трапятлівы аганёк,
Паселі побач рыбакі паўкругам.
І ўсё крычыць трывожна драч здалёк,
Шукаючы падругу дзесь за лугам.

Хацеў бы я на гэтай кручы стаць
Кастром, што пахне дымам і смалою,
Каб над ракой то полымем шугаць,
То іскрай узлятаць малою.

*1937*

## ДНЯПРО

Лугоў мурожных бачу я абрус,
Лясныя грывы, кручы і даліны.
З раўніны рускай цераз Беларусь
Ідзе Дняпро да мора, да Ўкраіны.

Так тры краіны, родных трох сясцёр,
Тры сэрцы шчырых, мужных тры народы
Дняпра спакойны велічны прастор
Злучае плынню яснай назаўсёды.

І лёс сясцёр адзін, адна ў іх кроў,
Адно ў іх шчасце і адна любоў.
Радзіўся я ў дняпроўскай старане,
Малодшая сястра — радзіма мне.

І горды я, што вырас ля Дняпра,
Што шыр рачная мне ў душу запала
Даўно, як ля рыбацкага кастра
Я грэўся хлапчуком яшчэ, бывала.

І слова даў я вернае тады,
Што, дзе б ні быў, Дняпро мой
помніць родны.

І многа рэк за гэтыя гады
Пабачыў я, прайшоўшы шлях паходны.
Ды сніўся мне Дняпро, і дым кастра,
І Беларусь — малодшая сястра.

*1945*

## АРЛІНАЯ КРЫНІЦА

Не пачуць табе, орле, ніколі
Ветру посвіст у жнівеньскім полі,
Рэчкі плёскат ды шолах таполі:
Непрабудны твой сон непарушны...

Дзе ж ты, орле, дзе, родны і мужны,
Спіш цяпер? За якою далінай?
Пад якою шумлівай ялінай?

...Не шукайце магілы арлінай:
Кажуць, там, дзе Гастэлава сэрца
Перастала, успыхнуўшы, біцца,—
На тым месцы сягоння ліецца
З глыбіні нечапанай крыніца.
Вербы ўзнялі над ёй свае шаты,
І ваду з яе п'юць арляняты.

*1945*

* * *

Быў я ў агні,
І пад агнём,
І на кані,
І пад канём.
Ляцеў да хмар,
Бываў на дне.
І смерць у твар
Глядзела мне.
Ў баях згубіў
Я шмат сяброў,
Ды не забыў
Юнацкіх сноў
І маладых
Высокіх дум.
Я чую іх,
Як весні шум
Гаёў і рэк...
Яны ва мне
Наяве, ў сне,
Навек, навек!

*1956*

* * *

Не ціхне рэха змоўклых галасоў.
Мінулае заўжды для нас адкрыта.
Я чую пошум колішніх лясоў,
Калі бяру кавалак антрацыту.

Я зніклых акіянаў сумны ўздых
У старажытнай ракавіне чую.
А захачу — і прашчураў маіх
Убачу я і з імі заначую.

Засне ў пячоры ля агню радня,
Я ж слухаць буду пад завейны лямант,
Як тысячы гадоў назад да дня
Трубіў у роспачы апошні мамант...

А як, хаця б на сотню год якіх,
Уперад мне праз далячынь прарвацца,
Каб час за мной ніяк не мог угнацца,
І да нашчадкаў завітаць сваіх
Хай на мінутку,
Хай на міг?

*1966*

12—729

## МАЯ АСЯНІНА

Заўжды ў асенні час,
Нібыта князь даніну,
Збіраў пастух у нас
Калісьці асяніну.

Туман, што сырадой.
Імжа імжыць праз сіта.
Хто палатна сувой
Даваў, хто трохі жыта.

Ужо на сенажаць
Маю кладзецца іней.
Час надыходзіць дбаць
І мне аб асяніне.

За век свой я няшмат
Напасвіў песень надта
І асяніне рад
Цяпер і небагатай.

Хай толькі на стале б
Было, што змалку люба:
І мёд, і жытні хлеб,
Ды сырадою кубак.

Асеннюю журбу
Аддам ляснояму слову.
Але сабе трубу
Пакіну пастухову.

Вазьму трубу-дуду,—
Пастух з ёй не сумуе.
А мо і завяду
Яшчэ раз пра вясну я?!

*1965*

## МАЁ БЯССМЕРЦЕ

*А. Д. З.*

Я ў бяссмертных хадзіў на вайне:
За чатыры гады не кранулі
Ні асколкі мяне,
Ні кулі.

І хваробы і немачы следам за мной
Не хадзілі ніколі-ніколі,
Хоць і мок я ў вадзе ледзяной,
Хоць і спаў на сумётах у полі.

Смерць, відаць, разгубілася ў тыя гады
І мой адрас згубіла:
Ты ж мяне так чакала тады,
Так любіла!

Дзе ж свой гарт я згубіў,
Учарашні салдат?
Дзе ж маё франтавое бяссмерце?
То заб'ецца трывожнае сэрца не ў лад,
То бяссонне прад'явіць
Правы на дасвецці.

І цябе часта бачу я нейкай чужой,
Не такой, што чакала калісьці,
І тады за акном вераснёвай імжой
Пачынае маркота шушукаць у лісці.

Пад уладаю весняю сноў
Да мяне прыхініся пакорна,
Пакахай так, як некалі, зноў,
І бяссмертным я стану паўторна.

*1969*

## КАЛЯ ВЯЧЭРНЯГА КАСТРА

Гарыць касцёр на ўзлеску,
А ў ляску
Зязюля, звонкае лясное дзіва,
Кукуе.
Кожнае яе ку-ку
Гучыць у гэты вечар так тужліва.

Вячэрняга кастра празрысты дым
І голас адзінотніцы-зязюлі
Упершыню гавораць мне аб тым,
Што лепшыя мае гады мінулі.

Я просты рабацяга, я прывык
Надзею гадаваць у буднях рупных,—
Маё сягоння — гэта чарнавік
Маіх наступных дзён і спраў наступных.

Дык знікні, знікні, дыму зыбкі цень,
Зязюля, сілы набярыся весняй:
Наперадзе ж яшчэ мой лепшы дзень,
Мой лепшы дзень з маёю лепшай песняй.

А ноч ідзе.
Ёй нейкі чарадзей
Дарогу пасыпае зорным жвірам,
Куе кукуля ўсё радзей, радзей,
І дрэвы пахнуць першым сном і мірам.

Паволі дагарае мой касцёр,
І цішыня, з любой былінкай ў згодзе,
У ноч, нібы ў агромністы шацёр,
На пальчыках выбачліва ўваходзіць.

1974

* * *

Над Дняпром ты крэп і рос,
Там сталеў [illegible] рыбацкай верай:
Маніць бераг — сведчыць плёс,
Плёс зманіў — засведчыў бераг.

Зразумеў ты,—
Скрозь і спрэс
Ёсць закон, ён без паталі:
Поле крадзе — бачыць лес,
Лес украдзе — ўбачыць поле.

Так любы намоўны цень
Пройме праўды моц скразная:
Дзень загубіць — ноч пазнае,
Ноч заб'е — пазнае дзень.

*1975*

## БЯСЦЭННЫ ДАР

Бездыханны камень праз вякі ляжыць
І чужы жывым трывогам застаецца.
Толькі той, хто ўведаў, што такое жыць,
Тужыць, што са смерцю ён не размінецца.

Ды тужы не вельмі ты, душа жывая,
Ганарыся сонцам, кожным нашым днём.
Нават смерць, нарэшце, плата замалая
За той дар бясцэнны, што жыццём завём.

*1970—1977*



# СЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ

Сцяпан Іванавіч Ліхадзіеўскі (9.5.1911, в. Баславічы на Случчыне — 13.2.1979). Вучыўся ў Белпедтэхнікуме (1926—30), у Беларускім дзяржаўным універсітэце (1930—31), у Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце (1931—33). Скончыў Томскі педагагічны інстытут (1939). Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», БелАПП, працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». У 1933 г. высланы ў Казахстан. З 1939 г. жыў у Ташкенце, працаваў выкладчыкам Ташкенцкага педінстытута. Доктар філалагічных навук, прафесар. Друкавацца пачаў у 1925 г. Выйшлі зборнікі вершаў «Чырванеюць вішні» (1931), «Рокаты дальняй прыстані» (1931), «Крывавыя знічкі на снезе» (1932), «Мы — маладая гвардыя» (1932), кніжкі вершаў і перакладаў «Берасцянка жывых трывог» (1962), «Вянкі камунарам» (1974).

## ЯГО ЖЫЦЦЕ

Ён перажытае прасеяў —
І вывад сам прыйшоў тады:
Яго жыццё — землетрасенне,
Расцягнутае на гады.

Гудзе зямля на дзевяць балаў.
Любімы Мінск, не наракай!
Імчыць ён к новаму прычалу,
Дзе сонца, стэп, Келес-рака.

Сары-Агач — прыстанак новы,
Аул, казахскі гарадок.
Тут хваляваннем адмысловым
Напоўніўся яго радок.

Ён у Ташкенце год студэнтам.
Перапрапіскі шчоўкнуў біч —
Пара развітвацца з Ташкентам:
Сем балаў б'е — і ён таміч.

Будынак белы з мар не знікне,
Бярозавы цудоўны гай...
Томск старажытны,
ратаўнік мой,
На ногі стаць дапамагай!

Трыццаць дзевяты. Перавалы.
З дыпломам ён. Ды па страсе
Удары ў тры-чатыры балы.
Ці растрасе? Не растрасе!

Педінстытуты! Alma mater
Вы для таварыша майго.
І калі ён у чым аматар —
Адукавалі вы яго!

Яму сваціў і дзень вясенні,
З рук залатых падмога йшла.
Гуло антыземлетрасенне,
Антыштуршкі раўнялі шлях.

Жыве ў Ташкенце чвэртку века,
Не знае, дзе закончыць век.
Ён беларус сярод узбекаў,
Між беларусаў ён узбек.

Шэсцьдзесят шостага падзеі:
У эпіцэнтры — трэск і гром.
Няшчасце ён з народам дзеліць,
Паранены ягоны дом.

Землетрасенне ў простым сэнсе,
Тут больш метафары няма.
Куды ні кінься і ні дзенься,
А васьмібальны ўдар прымай!

Бульдозеры крышылі сцены,
Знішчалі дрэвы, вінаград.
Прыватны ўласнік, злазь са сцэны
І не аглядвайся назад!

...Замок нямы — і будзь
хоць слесар...
Крычу ў бальнічнае акно:
— Як пачуваемся, прафесар?
Крыху раскіс? І як даўно?

На твары ўсмешка не патухла,
Хоць трохі трэба слых напяць.
І, размалёваны жаўтухай,
Гаворыць ён: «Штуршок на пяць...»

Хоць бал яму самому выстаў!
«Праз месяц выйду, і тады...»
Ён камсамольскім актывістам
Ідзе праз годы й гарады.

*1969*

## ПАД БЕЛАРУСКІМ НЕБАМ

Магільная брама,
Асінак статак...
Дзень добры, мама,
Дзень добры, тата!

Работы бездань,
Нарэшце змаглі мы
Знайсці пад бэзам
Вашы магілы.

Дарэмныя мроі
Адкінем наводшыб...
Прывёз я з сабою
Сыноў малодшых.

Ляцелі пры гэтым
Яны без прынукі,
Інтэлігенты,
Сялянскія ўнукі,—

Мая надзея,
Мае галінкі.
Хай сэрца вядзе іх
На добрыя ўчынкі.

Штодзённы клопат
Аб іх не завяне.
Шкада, што на хлопцаў
Не можаце глянуць.

Ім зычу здароўя,
І сіл, і настрою.
Няхай раніцою
Пап'юць сырадою,

З сапраўднай крыніцы
Вады паспытаюць,
Няхай мне стаміцца
Ад іхніх пытанняў.

Адкрыцці хай робяць
Не толькі з вокнаў,
На дожджыку дробным
Хай трохі памокнуць,

Хай больш не баяцца
Маланкі і грому,
Ад іх не імчацца
З рачулкі дадому,

Хай грыб не апошні
Падымуць з разборам,
Углыбяцца ў пошум
Сасновага бору.

У хаце, пад небам,
На сене пахучым
Хай нашу, як трэба,
Мову падвучаць,

Хай кожны адкрые
Фальклору крышталі —
Даўно «Песняры» ім
Кумірамі сталі.

Жывёле тут можна
Прыйсці на падтрымку.
Хай здымецца кожны
З канём у абдымку,

Хай зелля (пачэсна!)
Нарвуць парасятам,
За вухам пачэшуць
Рахманым цялятам,

Адклаўшы кніжкі,
Капаюць хай бульбу,
Вяскоўцамі крышку
Няхай пабудуць,

Агледзяць уважна
Камбайнаў работу,
Прачуюць аб важных
Калгасных турботах.

Хай знаюць, як хлеб нам
Даецца надзённы,
Што жыць ганебна
Без працы плённай.

Ім светлыя далі...
А вы, дарагія,
Адпрацавалі,
Сваё адрабілі.

Не быў даўнавата,
Не бачыўся з вамі —
Прабачце, тата,
Прабачце, мама.

*1973*



# ВАСІЛЬ ВІТКА

Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько). Нарадзіўся 16.5. 1911 г. у в. Еўлічы Слуцкага р-на Мінскай вобл. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Скончыў Слуцкую прафтэхшколу (1928). Працаваў у прэсе. У 1939—41 гг. сакратар Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. У 1951—57 гг. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1957—74 гг. галоўны рэдактар дзіцячага часопіса «Вясёлка». Друкуецца з 1928 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі: «Гартаванне» (1944), «Вернасць» (1953), «Ружа і штык» (1958), «Праводзіны лета» (1972), «Вышыні святла» (1977), «Случчына» (1981) і інш. Для дзяцей выдаў кнігі «Дударык» (1964), «Азбука Васі Вясёлкіна» (1965), «Хто памагае сонцу» (1975), «Мы будуем метро» (1979) і інш. Сааўтар чытанак для 1-га і 2-га класаў.

Дзяржаўная прэмія БССР 1972 г. за кніжку «Чытанка-маляванка» (1971), «Казкі» і паэму «Беларуская калыханка» (1971).

Міжнародным журы па прэміях Х. К. Андэрсена ўзнагароджаны Ганаровым дыпломам (1978).

## ПАВЕРКА

Б'е гадзіннік дванаццаць.
Сусвет неабдымны
Ловіць
Кожнае слова Крамля.
Устае
У натхнёным,
У велічным гімне
Неабсяжная
Наша зямля.

Дзе б ні быў ты,
Запомні,
Што гэтай парою
Мы звяраем не толькі
Гадзіннікаў ход,—
Запаветныя думы
Звяраем з Масквою,
З сэрцам партыі
Сэрцы звярае народ.

*1945*

## РУЖА І ШТЫК

Перасохла рэчышча,
Дзе крыніца бегла.
Дзе стаяла печышча,—
Учарнела цэгла.

А мясціна бою
Зарасла травою,
Лебядою сіваю,
Стрыклівай крапіваю.

Толькі там, дзе ўпаў ты,
Каля самай хаты,
Дзе твой след крывавы,—
Не растуць там травы.

Помнік твой увіты
Непадкупнай ласкай —
Штык у зямлю ўбіты,
А паблізу — каска.

Беражэ ўспаміны
Пра цябе, мой дружа,
Куст густой шыпшыны
Ўвесь у буйных ружах.

Хай хто дакранецца
Да яго рукою —
Упадзе на сэрца
Кроў жывой расою.

Прарасло жалеза
Вострымі шыпамі,
Будзе вечна свежай
Аб салдаце памяць.

*1956*

## ПОМНІК ЛАСЮ

Як вадаспад, пясок сыпучы
Цурчыць струменем пад адхон...
Ён выбег з лесу, стаў над кручай
І так стаіць, усім відзён.

Пад ім шаша няспынным рухам
Шуміць, машынамі гудзе.
— Глядзіце, лось! — А ён і вухам
Не варухне, не павядзе.

Як тонкая страла, нацяты,
Рагамі ўпёрся у блакіт.
Такім на памяць ён узяты
І ў бронзе на заказ адліт.

І як далёкі адгалосак,
Дзе славу ён сваю насіў,—
І назвы навакольных вёсак
І нават прозвішчы — Ласі.

О, людзі! — як сказаў бы класік,—
Не любіце прыроды вы.
Няхай бы ж ён і ў нашым часе
Стаяў над кручаю жывы.

І, спуджаны гудком машыны,
Зноў кінуцца ў гушчарнік мог
І каля цёмнае яліны
Біць капытамі рыжы мох.

*1958*

## ШАРАЯ ГАДЗІНА

Пеўневым барвовым грабянцом
Запаў лясок на даляглядзе.
Развітальным, сумным пасланцом
Сонечны прамень упаў у садзе

І на шыбе так зазіхацеў,
Што міжволі жмурыліся вочы.
Летні дзень упарта не хацеў
Саступаць рубеж раптоўнай ночы,

За зямлю трымаўся з усіх сіл,
Ні вяршка не аддаваў без бою,
І сыходзіў вузкі небасхіл
Чырванню гарачаю, густою.

Нездарма, напэўна ж, нездарма
Даўняя прыкмета ёсць такая:
Недзе там, на захадзе, вайна,
Калі гэтак полымя шугае.

І я доўга з-пад рукі гляджу:
Не, мая радзіма не ў трывозе.
Сяду і хвіліну пасяджу
На знаёмым бацькавым парозе.

Цьмее край зямлі і ледзь трымціць
Тонкаю агністаю палоскай,
І, наструненая ўся, звініць
Вечаровым водгаласам вёска.

Вось апошні валасок пагас,
Прыцемак плыве ўжо над нізінай.
Гэты час на Случчыне у нас
Называюць шараю гадзінай.

У цішы вячэрняе пары
Добра пра наступны дзень памарыць...
На начную змену трактары
Выйшлі ў поле, запаліўшы фары.

Значыць, сонечны прамень не згас,
Ён на варце нашай мірнай працы.
Вывернуўшы дум сваіх запас,
Трэба мне ізноў за песню брацца.

Хай паверкай перад новым днём
Будзе гэты час мой вечаровы.
Нездарма ж такім агнём
Небасхіл палаў барвовы.

*1958*

## У ІМЯ АЙЦА...

У імя айца і сына
І ўсемагутнага духу,
Божа, не грукай у спіну
І не лупі па вуху.

Ты так мяне, грэшнага, перыў,
Што я ўжо ва ўсім вінюся,
Самаахвярна веру
Кожнай тваёй аплявусе.

Нібыта на прывязі чоўнік,
Снуюся ў жыццёвых кроснах,
Раб твой, слуга твой, чыноўнік,
Якому ад страху млосна.

Ледзь тузанеш нагавіцы,
Урэжаш казённай папругі,
Прысыплеш азадак гарчыцай,
А потым прызнаеш заслугі.

Падымеш мяне, балеснага,
Спагадай прылашчыш урэшце,
І я ўжо спяваю песні
Пра дзіўнае дзіва ў рэшаце.

Аж выпінаюся з сілы,
Першы бягу за пратэсай
Навысціжкі перад усімі,
Паперад самога прагрэсу.

Таўку ужо іншых у спіну
З размаху луплю па вуху
У імя айца і сына
І ўсемагутнага духу.

*1969*

## ЖЫТА

Бясконцай вечнасці хвіліна.
Запомніце яе і зберажыце
І ты, мая асенняя каліна,
І позні васілёк у спелым жыце.

Як першае прызнанне і ахвяра,
Так нечакана жыта загучала.
І шчасце горкае, і страх, і кара —
Усё злучылася ў адным харале.

Адзін над намі бог — магутны Бах.
Раве арган, бушуе чад палынны,
Сасмаглы пацалунак на губах,
Як вечнасць — неўпатольны, неабдымны.

Каханая, ты ўсім сусветам правіш
Між небам і зямлёй адна.
І кожны колас — паслухмяны клавіш,
А кожная саломінка — струна.

Бясконцай вечнасці хвіліны...
Запомніце яе і зберажыце
І ты, мая асенняя каліна,
І позні васілёк у спелым жыце.

*1971*

* * *

Вышыні святла — святыні,
Саласпілсы, Хатыні,
Вы ўжо не толькі ўспаміны,
Што душы людскія крояць,

А памяць, прысяга і споведзь,
Запісаныя навечна
На дрэве магутным, рассечаным
Маланкаю да карэння.

Не вытрывала знямення,
Загаварыла каменне
Такой невымоўнай пакутай —
Не чутай яшчэ, не адкутай
Ні ў бронзе, і ні ў жалезе,
І ні ў радках паэзіі.

На попеле, на руінах
Шуміць пераможнае жыта...
Вышыні святла — вяршыні
Жыцця, што бяссмерцем здабыта.

*1975*

## ДЭЛЬФІНЫ СЛУХАЮЦЬ МУЗЫКУ

Славутыя даўнія меламаны,
Вызнаўшы моры і акіяны,
Ледзь не за фалды нас тузаюць —
Просяць зямное музыкі.

Бліпчаць, усміхаюцца
Вочкі-гузікі:
Так падабаецца
Наша музыка.

Спрэс перапоўнены дэльфінарый,
Куды ні глянеш — пары і пары.
Адны фракі,
Адны манішкі.

Акулы-небаракі
Стуліліся нішкам.
Не вельмі разявіш зубастую пашчу,
Самі кіты на канцэрце нашча.

У старога дэльфіна
Маладая дэльфініха —
Не то графіня,
Не то дафініха.

Строгі экзамен для музыкантаў:
Крый Бог, пераблытаць алегра
з андантэ,
Не дацягнуцца
Тэрцыяй
Да прэста,—
Скандал! —
Не сцерпіць
Фінвал
Пярэсты.

Тонкі знаўца
Усіх мадуляцый
Ловіць быстра
Любыя рэгістры,
Радасна слухае хвалю такую,
Якое не чуў я
І не пачую.

Бывае, скорчаць горкую міну,
Пераміргнуцца дэльфін з дэльфінам,
Сумна ўсміхнуцца сабе — і маўчок:
Верхняга до не дабраў смычок!
То раптам зморшчацца ад перабору,
Глянуць з дакорам
На дырыжора:

— Друг паважаны, не тыя вяршыні,
Не тыя прасторы, не тыя глыбіні...

Я ўпэўнен, што так разважаюць дэльфіны.
Магутны ты, чалавек, ды зарана
Сцураўся вытоку свайго — акіяна,
Дзе б'ецца адвечнае сэрца планеты,
Адкуль пачынаюцца далі сусвету,
Якi вымяраеш вышынямі ты,
А мы — глыбінямі дабраты.

Горкага азарэння хвіліны:
Вашая праўда, ваша, дэльфіны.
Гэтак сказалі, нібы даравалі,
А мы ж вас нядаўна яшча забівалі.

I хоць бы на памяці прыклад адзін,
Калі чалавека пакрыўдзіў дэльфін.
Што гаварыць — я часцей усё чую,
Як у няшчасці людзей ён ратуе.

Мабыць, залішне пыхі, зазнайства
Лічыць мне, сябры, вас за ўласнае царства.
I вернага друга ўзяўшы за глотку,
Змусіць вышукваць падводныя лодкі,
Гнаць нам у сеці рыб касякі —
Хай служыць, калі ён разумнік такі!

Ці мала, ці мала чаго хто захоча...
Уважлівей глянем другу у вочы,
Паверым у хвілю шчаслівую гэту —
Дэльфіны слухаюць музыку свету!

*1977*

## ПРЫРУЧЭННЕ АГНЮ

Кінуты гаспадаром няўдзячным,
Ён памкнуўся быў за ім услед.
Доўга ў цемры бег, пакуль не ўбачыў,
Што ўжо не дагоніць, што аслеп.

Ледзь навобмацак прыпоўз у прысак
Каля прыдарожнае лазы,
У гарачы жвір уткнуўся пысай
І счарнелы прыкусіў язык.

І сканаў бы — спамінай як звалі,
І які быў верны ён, агонь,
Калі б гэтай ноччу не прысталі
Двое закаханых да яго.

Быццам пасля доўгае разлукі
Папрасіліся да сябра на пастой, —
І, ласкавыя адчуўшы рукі,
Ён падскочыў, замахаў хвастом.

І такой пяшчотай і любоўю
Агарнула ўзлесак цішыня —
Родныя, жаданыя абое
Застануцца тут ажно да дня!

І з'ядналіся адным даверам —
Цемра са святлом, з душой душа...
Ціха спалі дрэвы ў змроку шэрым,
І ўздыхала сонная шаша.

Хто пра шчасце іх, траіх, раскажа?
Не пытай ні ясень, ні сасну.
І агонь знябыўся, не заўважыў,
Яе на досвітку і сам заснуў.

*1977*

* * *

Якая асалода — жыць,
Знаць вартасць кожнае гадзіны,
Тым, што адкрыта, даражыць
І адкрываць за дзівам дзіва,

З апошніх сіл узяць рубеж,
Бясконцасці жыцця здзівіцца,
Пераканацца, што жывеш,
Што сэрца яшчэ можа біцца!



# ПАВЕЛ ПРУДНІКАЎ

Павел Іванавіч Пруднікаў нарадзіўся 14.7.1911 г. у в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут (1937). Першыя вершы надрукаваў у 1930 г. У 1932 г. выйшла кніжка вершаў «Песні грузчыкаў» (пад псеўданімам Паўлюк Буравей). У 1937 г. быў рэпрэсіраваны, жыў у Бурацкай АССР, Іркуцкай, Омскай абласцях, Краснаярскім краі. У 1946—1952 гг. настаўнічаў на Смаленшчыне. Працаваў у школе ў Браслаўскім раёне. У 1968—71 гг.— старшы рэдактар часопіса «Служба быту Беларусі». У 1968 г. выйшаў зборнік паэзіі «Час майго нараджэння», у 1979 г.— «Прысады», у 1986 г.— «Заасцер'е».

* * *

Дождж шуміць за акном, нібы хвоя,
І па шыферы даху бубніць.
Так бубніць, што не ўлежыць і хворы
У такія асеннія дні.

Будзеш суткі хадзіць у дрымоце,
А прыляжаш — не мусіш заснуць.
Ты не раз у тузе і самоце
Прыгадаеш гарэзу-вясну.

Мне ж, прызнацца, такая часіна,
Як заўсёды, ідзе на карысць,
Бо працую на ўсю сваю сілу,
Як з рыдлёўкай, кіркою калісь.

Тут нішто не пашкодзіць у працы,
Не адцягнуць ні рэчка, ні лес,
Са спакусай не трэба змагацца —
У гарэнні, кіпенні увесь.

Сам бубню, лапачу на машынцы,
Толькі рэха ляціць за акно!..
І святло мне на сэрца лажыцца,
Хоць ні сонца, ні зор не відно.

* * *

Дрэвы, дрэвы — векавыя сосны,
Прыпыніце, любыя, свой шум.
Ад яго балюча мне і млосна...
Пачакайце трошачкі, прашу.

Гоман гэты, патрыярхі лесу,
Палюбіў я з даўняе пары.
Але сёння ён статонным прэсам
Апусціўся на мяне ў бары.

Прыгадаў я ўсе мае пакуты:
Панаванне голаду і стынь,
Што ў нутро садзілася атрутай
Сярод дрэў заснежаных, густых.

І тады шумелі вы вось гэтак,
Прытуліўшы да сваіх грудзей
І байцоў бяздомных, і паэтаў
Цёмнай ноччу і ў пагодны дзень.

Не забудуцца і тыя вёсны,
Ад якіх хацелася ўцячы...
Дрэвы, дрэвы —
 векавыя сосны,
Не шуміце, дайце адпачыць.

## ТУНЕЛЬ

Помніш стромкія, шэрыя скалы,
Не прыкрытыя шапкай раслін,
І бяскрайнюю роўнядь Байкала?
Там духоўна з табой мы раслі.

Мы ўзрывалі каменныя глыбы,—
Прабівалі праз горы тунель.
Мёрлі птушкі, хавалася рыба,
Пакідаючы завадзь і мель.

Як паветра, тунель быў патрэбен
У далёкі той памятны час.
Ён для нас быў дыханнем, і хлебам,
І «акном» на Далёкі Усход.

На суседнім «птушыным базары»
Чуўся крык без ніякіх патрэб.
Мы ламамі, як пёрамі зараз,
Зараблялі надзённы свой хлеб.

Над Байкалам, крутым узбярэжжам
Абалокі плылі чарадой.
Мы стаялі на кручы, як вежы,
Ўспаміналі дзяцінства і дом.

У гадах тое ўсё патанула
І ў байкальскіх густых туманах!..
Толькі зноў штосьці за сэрца кранула,
Быццам зноў я ў скалістых гарах...



# АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

Анатоль (Акім Пятровіч) Астрэйка (24.7.1911, в. Пясочнае Капыльскага р-на Мінскай вобл.— 23.8.1978). Скончыў настаўніцкія курсы пры Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме (1930), вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута (1932—34). З 1930 г. на журналісцкай рабоце. У 1942 і 1943 гг. накіроўваўся на акупаваную тэрыторыю Беларусі. Друкаваўся з 1928 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Слава жыццю» (1940), «Слуцкі пояс» (1943, надрукаваны друкарняй падпольнай слуцкай газеты «Народны мсцівец»), «Добры дзень» (1948), «Песня дружбы» (1956), «Бацька мой Нёман» (1961), «Сэрца насцеж» (1965), «Цвіціце, верасы» (1975), «Ураджай цяпла» (1978) і інш. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы А. Міцкевіча, У. Бранеўскага, Л. Шэнвальда.

## СЛУЦКІ ПОЯС

Нада мною блакітны шацёр,
А навокал — лясы і лясы,
Мая Случчына з тысячы зор
Тчэ на восень свае паясы.

І калі ўсё збярэ палатно
І павесіць бяліць цераз край,—
Будзе цёмнаю ночкай відно,
Хоць іголкі на сцежцы збірай.

Млечным Шляхам завецца
здаўна
Гэты пояс, што лёг цераз бор,
Што саткала мая старана
З маладых і нягаснучых зор.

І ступаючы лёгка у мхі,
На трывогу някошаных траў,
Мы па зорцы шукаем шляхі
Да варожых часцей і застаў.

А калі мы вяртаемся ў бор,
На шляхах падарваўшы масты,
Ападаюць на сівы чабор
Зоры ціхім туманам густым.

Высцілаюць нам ціхі кілім
Да зямлянак праз шум баравы,
А над намі па шляху сваім
Сумна ў вырай лятуць журавы.

*1943*

## ЧОРНЫЯ КОСЫ, ЧОРНЫЯ ВОЧЫ

Цёмныя ночы, асеннія ночы,
Хлопец астацца дома не мог:
Чорныя косы, чорныя вочы
Хлопца свайго правялі за парог.

Чорныя вочы, чорныя косы
Хлопец з сабою нясе па вайне.
Стынуць на ботах асеннія росы,
Буйныя росы ў сваёй старане.

Дзе ж тыя косы, дзе ж тыя вочы?
Хлопец дарэмна чакае пісьма.
Цёмныя ночы, асеннія ночы,
Весткі ад любай так доўга няма.

Хлопец ідзе па ваеннай дарозе,
Блізка ўжо хата над родным Дняпром.
Позна — дзяўчына вісіць на бярозе,
Чорныя косы вісяць пад акном.

Хлопец раняе гарачыя слёзы,
Напраст к бярозе ідзе праз быллё
І асцярожна здымае з бярозы
Сэрца сваё і каханне сваё.

Бой будзе жорсткі асенняю ноччу,
Вораг заплаціць паганай крывёй
За тыя чорныя косы і вочы,
Што на бярозе заціты пятлёй.

*1943*

## ЛАНДЫШЫ

Я іх табе вясной прынёс
З зялёнае лясное далі.
Празрыстыя крупінкі рос
Яшчэ на лісцях трапяталі.

Пачырванела ты ў адказ
На мой паклон і прывітанне.
Хай песняй стане гэты час
Майго юнацкага кахання!

Не вінаваты я, што мы,
Чаго няма, таго і просім.
Не злуй, што я сярод зімы
Табе тых красак не прыносіў.

А ты кіўнула галавой,
Маўляў, дарма сябе трывожыш:
Яны патрэбны мне зімой,
Вясной прынесці кожны зможа.

*1945*

## НЁМАНУ

Трапечуцца белыя хвалі
І коцяць жарству і пясок,
Што ■ берага, з гор адарвалі
Выпадкам ці, можа, знарок.

О Нёман, і слава, і песня
Народа майго і зямлі!
Магілаю ворагу цеснай
Не раз твае хвалі былі.

Свае ўсе пагоркі і долы,
Балоты, лясы, гарады
Ты хваляй, як песняй вясёлай,
І песціў і лашчыў заўжды.

Рака наша слаўная, Нёман,
Чысцейшая чэрвеньскіх рос,
Хто мар не ўплятаў у твой гоман,
Табе хто пашаны не нёс?

І вечна да працы ахвочы,
Не спіш ты ні днём, ні ўначы,
І вецер спяшыць апаўночы,
Каб хвалям тваім памагчы.

Аб бераг высокі
І роўны
Жарсцвяны і ўкрыты лазой,
Не стукаеш, граеш чароўна
Блакітнаю хваляй сваёй.

*1946. Гродна*

* * *

Быў бой. Аглушаны пальбой,
Я не пакінуў на згіноту
Сваю рачулку пад вярбой,
Бярозак звонкую пяхоту.

Я сумаваў па іх. Трывогі
Душу абпальвалі маю.
Крычаў з крывавае дарогі
Прыціхнуць трохі салаўю.

А ён спяваў у лозах ніцых.
Ну што яму, ну што яму!
Кавалак неба ды крыніцу,
Чаромхі белую зіму...

Не ведала пра бітву птушка,
Пра смерць людскую і пра кроў.
Ёй салаўят на лозах гушкаць,
Для нас вырошчваць салаўёў.

Ніколі з гора я не плакаў,
Але, пачуўшы, салаўя,
Пасля бязлітаснай атакі,—
Слязой шчаслівай плакаў я.

*1973*

* * *

Абманулі мяне прадчуванні,
Не збыліся ружовыя сны.
Адцвіло, дагарэла каханне
Нечакана ў закутку лясным.

Я ж бярог яго, думаў, навечна
Хопіць песень і казачных дзіў.
Ды патух aганёк той сардэчны,
Ціхі смутак ўва мне нарадзіў.

Я не следчы. Шукаць вінаватых
Я не буду. Не буду тужыць.
Чым жа рану на сэрцы залатаць,
Горкі боль на душы заглушыць?

Далікатная цацка — пачуцці
І каханне, як майскі той цвет,
Бушавалі, шумелі ў закуцці
І пагаслі, што ўспышкі ракет.

Шлях жыццёвы — адны летуценні.
Сёння ноч, заўтра радасны дзень.
Дзякуй шчасцю за слодыч імгнення,
За красу неўміручых надзей.

Прадчуванням не буду я верыць,
Спадзяванні ў душы берагчы.
Буду я ад самотнасці дзверы
Замыкаць на надзеяў ключы.

* * *

Я нічога не шкадую
І нямногага хачу.
Толькі песню веснавую
Да сябе не прыручу:

Хай жыве, пяе, смяецца,
Нібы сонечны прамень,
Хай усцешыць маё сэрца
У асенні хмуры дзень.

Я нічога не шкадую,
Ані смутку,
Ні бяды.
Я са словамі вандрую,
Не тамлюся ад хады.

Мне, асенняму,
Не спіцца,
Не хачу праспаць вясну,
Гукі срэбранай крыніцы
Я зімой сцюдзёнай сню.

Я нічога не шкадую,
З сэрца радасці не рву,
Па сваёй зямлі вандрую
І надзеямі жыву.

Я люблю напеў таполяў,
Шэпат клёнаў і бяроз,
Зачарован жытнім полем
Я да радасці і слёз.

Я нічога не шкадую,
З песняй па жыцці вандрую.



# ЮЛІЙ ТАЎБІН

Юлій Абрамавіч Таўбін (15.9.1911, г. Астрагожск Варонежскай вобл.— 30.10.1937). Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (1931—33). З 1933 г. жыў у Цюмені. Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Агні» (1930), «Каб жыць, спяваць і не старэць...» (1931), «Тры паэмы» (1931), «Мая другая кніга» (1932). Асуджаны 10.8.1933 г. на 2 гады высылкі на Урал, а 19.10. 1937 г. прыгавораны да расстрэлу.

## ГЭТА НАМ

Нас мільёны... Мы інакшай,
Лепшай долі кавалі,
Гэту долю, гэта шчасце
Нам крывёю здабылі.

Хто сказаў, што мы прысталі,
Што няма ў нас гарту, сіл?
Яркім полымем запалім
Аксамітны небасхіл!

Гэта нашай юнай раці,
Поўнай прагі і красы,
Шлюць паклоны сенажаці
І зялёныя лясы.

Гэта нам спявае гімны
Буйны вецер у лісці,—
Мы, адважныя, не згінем,
Пераможам у жыцці.

*1926, кастрычнік*

* * *

Мой махнаты Дунай б'е хвастом ля парога,
На прыганку завіўся пукаты гарох...
За парканам удаль пралягае дарога,
А за даллю ёсць многа прыгожых дарог.

З тых дарог ёсць адна — вілаватай хадою
Мне з дзяцінства блукаць па ёй вырашыў лёс...
Буду доўга хадзіць я сцяжынкаю тою
Пад прывабным і чыстым люстэркам нябёс.

Пройдзе многа гадоў... Будзе гожага многа...
Я вярнуся спачыць пасля цяжкіх дарог...
Будзе зноўку Дунай біць хвастом ля парога
І спадаць на прыганак пукаты гарох.

*25.VII. 1929*
*М. Самацеевічы*

## ...І Ў НОВЫХ УЗБУДЖАНЫХ СЛОВАХ

І ў новых узбуджаных словах,
І ў новых раздзелах паэм
Мы помнім эпоху лістовак,
Мы духам падпольным жывем.

І ў новыя дні і прыгоды,—
І ў кожны асветлены дзень
Не можам забыцца пра годы
Крывёю залітых падзей,

Пра час, калі ноч была грознай,
Тэрорам грозіў рэвальвер,
Калі гаварылі адозвы
З гектаграфаваных папер,

Калі па гуртках нелегальных
Таіўся разбуджаны крык,
І перасцярогаю дальняй
Ўзлятала імя — «бальшавік»,

Калі па дарогах няроўных
Ішлі ў ланцугах бедакі,
Імчалі на поўнач, на поўнач
З кратамі
цягнікі.

А дні перарэзвалі краты —
Мы зараз жывем іх іскрой
І мы адчуваем іх пафас
Сваёй камсамольскай душой.

За здзек экспедыцыі карнай,
За земляў крывавы падзел,
За арышт партыйнай друкарні,
За кожны ганебны расстрэл,

За рогат напудранай шляхты,
За чыстую братнюю кроў,
За дні векавой катаракты,
За строй равелінных муроў —

За ўсё
маё юнае племя
Вялікую помсту нясе:
Паэта — у шчырай паэме,
У вобразаў моцнай красе,

Тэкстыльшчык — у тонкай тканіне,
Студэнт — праз апошні залік,
У новай савецкай машыне,
Ў гектары калгаснай зямлі,—

Ва ўсім, што мы робім і славім,
У кожнай драбніцы малой —
Ёсць смелая наша нянавісць,
Ёсць кропля адплаты маёй.

*1929, снежань — 1930, кастрычнік*

## СІРАНО ДЭ БЕРЖЭРАК

Імжа, імжа засцілае свет,
Размыты дажджамі тракт...
З пабітаю лютняй ідзе паэт
Сірано дэ Бержэрак.

Жыццё неўзаметку, як дым, прайшло...
Пакінута недзе труна...
Ніхто не частуе яго даўно
Бадзёрай бутэлькай віна...

Гадоў кавалькады ніхто назад
Не можа адкінуць бег...
І месяц смяецца, як тлусты абат,
Над торбай паэтавых бед.

Імжа, імжа засцілае свет,
Як смерць васпяны барак...
З разбітаю лютняй ідзе шкілет —
Сірано дэ Бержэрак.

Ён песні старыя заводзіць свае,
Ступіўшы на мой парог,
І вось ён гэткую песню пяе
Каля маіх варот:

«...Я шмат даведаўся, шмат пазнаў,
Я жыў, як жыве менестрэль.
Пакуль не падрэзалася струна,
Не ўклала ў труну дуэль.

За мною з палаца імчалі ганцы,
Я шпагаю іх калоў...
І ведаў я многа прыгожых жанчын,
А болей — прыгожых слоў.

Я спаў у труне колькі соцень год,
І мне абрыдзеў спакой...
Я ўстаў і стукаю ў дошкі варот
Параненаю рукой.

...Пусці, пусці мяне, брат паэт,
Я дужа прыстаў і знямог,
Бо гэтак многа змяніўся свет
І ўсё патанула ў вякох.

Я ўбачыў — паэты цяпер ужо
Не чуюць гармоніі слоў...
Яны хаваюцца ад дажджоў
За тарчай пісьмовых сталоў...

Шмат свет наш ведаў ганебных плям,
Але мы паэты былі,
А тут паэт укладае план
Сваіх празаічных былін.

...Пусці, пусці мяне, брат паэт,
Я хутка навек засну...
Пакіну жахлівы, як воспа, свет
І лягу ў сваю труну...

Вось ранне зганяе далёкі туман...
Пусці мяне, любы,— так
Яшчэ не прасіў паэт-дуэлянт
Сірано дэ Бержэрак...»

. . . . . . . . . . . . . . .

Туман расплываецца над зямлёй,
Тчэ сонца агністы шнур.
З дакорам глядзяцца на мой пакой
Вочы старых гравюр...



# КЛІМ ГРЫНЕВІЧ

Клім Лазаравіч Грыневіч (5(18).2.1912, в. Шасцёраўка Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.— 3.3.1941). Вучыўся ў Беларускім вышэйшым (1932—1933) і Ленінградскім імя Герцэна (1937—41) педінстытутах. Настаўнічаў у Казахстане (1933—35) і ў г. Балагое Калінінскай вобл. (1937—41). Быў рэпрэсіраваны.

Друкаваўся з 1930 года. Выдаў зборнік «На бераг» (1932).

# ПЛЫТАГОНЫ

Апошнюю кінулі прыстань...
Плаўна ідуць плыты —
Уздоўж берагоў імшыстых
Ды верасоў
Густых...
Бадзёра стаіць плытагон,
Паклаўшы руку на штыль:
— Заве лесапільны завод,—
Штодзённа заве плыты...
Заве ён сасновы лес,
А мы ж так
марудна гонім!
— Гэх: там, сябры, смялей! —
Крычыць ён другім плытагонам.—
Трэба хутчэй гнаць,
. . . . . . разбег хады...
І рысамі валакна
Барозны бягуць вады.
З хлебам
Вісіць хатыль —
Глядзіць на яго
Плытагон...
І моцна трымае штыль...
...Мігаюць чубы берагоў...
Струнамі шумлівых вод
Грае стары Днятро,
Пра лесапільны завод
І перазвон шасцярон...
— Хлопцы, націсні смялей!
Да ночы
туды
прыгонім,
Дзе так патрэбен лес,—
Кажуць сабе плытагоны.
Апошню кінулі прыстань...
Плаўна ідуць плыты
Уздоўж берагоў імшыстых
Да рыштаванняў густых.

*1931*



# АНАТОЛЬ ІВЕРС

Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско). Нарадзіўся 15.5. 1912 г. у в. Чамяры Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. Удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Праследаваўся ўладамі буржуазнай Польшчы. У Айчынную вайну антыфашыст-падпольшчык, партызан. У 1943 г. сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта, выпускаў падпольную газету «Барацьба». Працаваў у прэсе. З 1976 г. сакратар Слонімскага раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Друкуецца з 1934 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Песні на загонах» (Вільня, 1939), «З пройдзеных дарог» (1970), «Жыву ў бацькоўскім краі» (1982), «Я пайшоў бы ўслед за летам...» (1987).

## ХТОСЬ РАСЧЭСВАЎ ЗЯЛЁНЫЯ СОСНЫ

Хтось расчэсваў зялёныя сосны,
Што адкінулі кудры назад.
Аб начах тых смалістых і росных
Я ніяк не магу расказаць.
І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
Паліць смагаю мяккую сінь,
Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
Калі можна падняць парусы!
З процьмы думак —
Не вытканых кроснаў —
Мне запомніўся ўзор — дзераза...
Былі ночы — іх зблыталі сосны,
Што адкінулі кудры назад.

*1938*

## ДА ЖНІВА

Ты, радзімае поле, скажы
Каласістым павевам вясны,
Хай не хіліцца аж да мяжы
Жытні колас ля стромкай сасны.

Недзе песню араты згубіў
На шнурах — на барознах крывых.
З ёю пеніцца вецер між ніў
У пырсках сонца — чырвонай крыві.

І заціснуўшы туга жывот,
Кажа дзецям цярпець... да жніва.
Галаву перакінуў праз плот,
Каб вачыма калосся зрываць.

Ловіць песенны той пераліў,
Што не знае былля і мяжы.
Прыйдуць трактары ў полымя ніў,
Там, дзе некалі колас тужыў.

## ГЛЯДЖУ НА ЛЕС

*Памяці жонкі,*
*замучанай фашыстамі*

Далёкі лес — зялёны грэбень,
І пасмы хмарак залатых
На ранішнім прыгожым небе,—
І ўсё глядзіш на золак ты.

Такою я цябе запомніў,
Такою ты тады была.
Нібы сама з тых яркіх промняў
Сягоння да мяне прыйшла.

А я стаю ўсё на паверцы
Як верны друг твой, як салдат.
Заўжды ў маім збалелым сэрцы
Гарыць агонь падзей і дат.

*1949*

## УСПАМІНЫ

Успаміны, успаміны,
Вы прыйшлі з якіх вякоў?
Не адкінуць, не пакінуць —
Абступілі навакол.

...Выплывае з добрай ласкі
Хутар (нервы прыбяры).
Не кулацкі — партызанскі,
Дзе збіраліся сябры.

Яблыні цвілі і грушы
Пад лясны, ледзь чутны шум.
Патэфонная «Кацюша»
Развярэджвала душу.

Цягнікі ляцелі прахам
І завальвалі адхон —
Чорным долам, чорны страхам
Быў для немцаў перагон.

Не памог фашыстам бункер —
Усё схавалася ў траве...
Толькі хутар ля чыгункі
Дажывае доўгі век.

Гаспадар не йдзе на хутар —
Ні стары, ні малады,
Дзе туман, як дым, ахутаў
І падзеі, і гады.

*1979*



# МАКСІМ ТАНК

Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко). Нарадзіўся 17.9. 1912 г. у в. Пількаўшчына Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Скончыў польскую сямігодку, вучыўся ў беларускай і рускай гімназіях. Удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). У 1948—67 гг. галоўны рэдактар часопіса «Полымя», 1967—90 гг. старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1958 г. старшыня Рэспубліканскага камітэта таварыства савецка-польскай дружбы. У 1961—66 гг. кандыдат у члены ЦК КПБ, з 1966 г. член ЦК КПБ. Друкуецца з 1932 г. За рэвалюцыйную дзейнасць і прапаганду рэвалюцыйных ідэй у паэтычных творах арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы, прыгаворваўся да турэмнага зняволення. У віленскай турме Лукішкі арганізаваў падпольнае выданне рукапіснага часопіса «Краты» (1933). У Вільні выдаў зборнікі «На этапах» (1936, канфіскаваны), «Журавінавы цвет» (1939), «Пад мачтай» (1938), паэму «Нарач» (1937). Аўтар зборнікаў паэзіі «Вастрыце зброю» і «Праз вогненны небасхіл» (1945),

«Каб ведалі» (1948, Дзяржаўная прэмія СССР 1948), «На камні, жалезе і золаце» (1951), «След бліскавіцы» (1957, Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1959), «Мой хлеб надзённы» (1962, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1966), «Глыток вады» (1964), «Хай будзе святло» (1972), «Нарачанскія сосны» (1972, у перакладзе на рускую мову, Ленінская прэмія 1978), «Прайсці праз вернасць» (1979, Літаратурная прэмія імя А. Фадзеева 1980), «За маім сталом» (1984) і інш. Для дзяцей зборнікі «Галінка і верабей» (1946). «Конь і Леў» (1955), «Быліна пра касмічнае падарожжа Мураша Бадзіні» (1979), «Ехаў казачнік Бай» (1983) і інш. Выйшлі «Зборы твораў» (т. 1—4, 1966—67; т. 1—6, 1978—81). Пераклаў на беларускую мову творы многіх польскіх паэтаў: А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Л. Стафа, Ю. Тувіма, У, Бранеўскага, А. Важыка, В. Гамуліцкага, М. Гжэсяка, Т. Гіцгера, Т. Голуя, С. Р. Дабравольскага, Я. Івашкевіча, Е. Путрамента, Т. Ружэвіча, А. Каменьскай, Т. Кубяка, Я. Леханя, Ю. Озга-Міхальскага, Л. Пастэрнака, А. Сланімскага, А. Слуцкага, В. Шымборскай, К. А. Яворскага і інш.

---

## У МАРШЫ

Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі,
На пераломе
Жалеза і песні,
Ў новых маланках, у новым громе.
Свет стары грудзям быў цесны.

Цесны завулкі і плошчы нашы.
Граззю і снегам
Іх пазанасіла.
Трэба, каб фронтам прайшлі шарэнгі,
Песні, штандары і сіла.

Толькі каб нашых радоў не ламалі!
Хай з паўдарогі,
Хто слаб, адыходзіць!
Тых, што не вераць у дні перамогі,
Трэба не браць у паходы.

Плакаць не будзем над паўшымі ў маршы.
Не, брат, не варта!
Нашто ім малітвы?
З новай адвагай, сілай і гартам
Іх памянём новай бітвай.

Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі,
На пераломе,
У бурным прадвесні,
Ў новых маланках, у новым громе
Молатам выкутай песні.

*1935*

## АКТ ПЕРШЫ

Досыць!
Не штука іграць на кларнеце,
Медныя жменяй сыпаць акорды,
Блудзіць па прытонах,
Цешыць тлустыя морды.

Хай хто
Зайграе з вас шыбеніц струнамі.
Глянь!
Чорныя сёння прадмесці прыйшлі.
Першы свой акт будзем іграць на пятлі.

Клікніце ўсіх з прадмесцяў парыжскіх,
Стэпаў румынскіх
І тых, што на Ціргартэнштрасе
Сталі ў завеі чырвонай.
Хай сёння прыйдуць салдаты
Шанхая, Кантона.

Вуліцы, плошчы ўдоўж, папярок
Звоняць рытмам шалёным.
Сцягі — пажар,
Бунт — крок.
Колькі нас?
Мільёны.

Усталі.
Узялі Карпаты і Альпы.
Доўга і шмат хто не верыў,
Пакуль не сказалі вулканы
Кардыльераў.
І гаварыў сівы Манблан:
Гарадь Гімалаі
І шуміць неспакойна спакойны калісь акіян...

Год, і дзень, і лічбы
Падасць вам нехта другі.

А ноч прыйшла
З-за калючых дратоў,
Лягла на саломе,
На нарах астрожных...
Доўга нехта сярод шэрых муроў
Гаварыў асцярожна.

Потым змоўк і астрог...
Мінуты раслі ў стагоддзі.
Крык!..
Нехта да цемры астрожнай
Яшчэ не прывык.

Цішу парвалі сігналы-свісткі,
Крокі,
За кратамі снег, месяц...
Голас дазорцы чуваць:
— Апошняя ноч...
Заўтра яго павесяць.

Зноў з падвалаў прыйшла цішыня,
Кроў зледзянела ў жылах;
Вострыя, чорныя ў чэрап яна
Кіпцюры запусціла...

Недзе далёка
Сумуе гаротная матка,
Ў цесных рабочых кварталах не спіць.
Цяжка
Доўгую ноч,
Ноч бясконцую ёй перажыць...

Ведаем — смерць, як жыццё,
Адважна спаткаеш,
Толькі хоць бы адзін
Прыйшоў развітацца
З баёў барыкадных, з этапаў таварыш!

Кашляе нехта, чуваць за сцяной...
Ведаем — сёння да ўсходу
Зазвоняць крокі мільёнаў у такт
І сярод плошчаў і вуліц
Агнём рэвалюцыі
Мы распачнём другі акт.

*1935*

## СПАТКАННЕ

— Ну што ж, кажы, што ў вас чуваць? —
Пачаў стары пра сенажаць,
Успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад слёз...

А потым я загаварыў:
— Нічога, год я перажыў.
Ды не адзін — сядзіць нас шмат,—
Прывыклі трохі і да крат...
Ну, як там мама і сястра?
Пара ўжо на зіму араць.
І як там кратаецца дзед?
Ім занясі ад нас прывет!

— Нічога, мы-то жыць жывём,—
Вось ты тут сохнеш за мурам...
Я ў торбе сухароў прынёс,—
А вочы мокрыя ад слёз...

— Не плач! Мы вернемся вясной
І выйдзем ў поле грамадой,
Сустрэнем новы ўсход зары,—
Не плач і не бядуй, стары!

Вясною светлаю з-за крат
З сяўнёю, поўнаю зярнят,
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор...

Стары, я знаю, верыць мне
І сам гаворыць аб вясне,
Здаецца, падужэў, падрос,
Хоць вочы мокрыя ад слёз...

*1936*

## ПЕСНЯ КУЛІКОЎ

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня у хаце згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...
Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам,
Доўга іх пілуе месяца сярпом
І снуе на плоце белы снежны кужаль
З доўгай снежнай песняй за сляпым акном.
Дымна ў печы дровы і карчы палаюць.
Зайцамі кладуцца цені на сцяне.
Пеніцца сярдзіта бульба, закіпае
Снежнаю завеяй ў чорным сагане.

— Ну, садзіся з намі! — дзед стары гаворыць
І акраец хлеба чорнага кладзе.
— Наарфуе снегу, бы мякіны горы,
Ні праехаць полем, ні прайсці нідзе...
Сам, відаць, далёкі... не з блізкіх аколіц,
Не з-пад нашых, пэўна, саламяных стрэх...
Ды апранут слаба — змерзнеш недзе ў полі;
Хоць на лаве мулка, пераспі начлег!

Бачыш: у нас голад, жыць нялёгка, браце,
Хлеб на стол кладзецца толькі для гасцей.
Добра, калі хопіць бульбы ў нашай хаце
Да вясны, да першых з выраю гусей...

Час такі нядобры. З першых дзён марозу
Маладых нямала ў турмы павялі.
Шмат разоў, напэўна, шэрыя бярозы
След іх белым ветрам ў полі замялі.
Каб далі вучыцца нам на мове роднай,
Ўсе мы дамагаліся грудзьмі...
Я ўжо хутка лягу пад сасной зялёнай, —
Што, скажы мне, будзе з нашымі дзяцьмі?

У кутку, на нарах, на старую кніжку
Ціхі голас льецца і чупрыны бель;
Сумна з маладзіцай над малой калыскай
Ўсхліпывае песняй белая мяцель.
— Спі, засні, маленькі!..
— Што, мужык на працы?
Кажаш, у астрозе?
Дзесяць год далі?!
— Спі, засні, саколік! —
Быццам дождж гарачы,
Так з вачэй у маткі слёзы паплылі.

— Я, стары, таксама з-пад страхі сялянскай,
Быў і там, дзе сёння твой гаруе сын...
Шмат слядоў пакінуў на дарогах гразкіх,
На скрыпучых струнах белых палазін...

— Спі, засні, маленькі, родненькі саколік!
Ну, не плач, мой добры!..
Слухай: ля ракі
Не мяцель галосіць на заснуўшым полі,
А ў імгле зблудзілі, пэўна, кулікі...

І стары ўздымае выцвілыя вочы:
— Ну скажы, ці доўга гэта будзе так?
Сеяць усё сеем —
з рана да паўночы,
А з бяды не можам выбрацца ніяк.
І ў нас цёмна, змрочна, толькі час ад часу
Загарыцца сонца паміж нашых стрэх,
Ды сядзім паўгода над галодным квасам,
Нашы сцежкі ў полі замятае снег...
Кажаш — ужо хутка выпрастаем плечы,
Кажаш аб шырэйшых нівах, аб вясне.

Вось і я, здаецца, вылез бы з-за печы,
Хай пакліча толькі моладзь і мяне.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

За разбітай шыбай стогне вецер глуха,
Рвуцца пражы ніткі, ўюцца на калкі...
— Спі, засні, маленькі... або лепш паслухай,
Як, зблудзіўшы недзе, плачуць кулікі...

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня у хаце згорбленай, старой;
Ціха дагарае ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой.
Пад разлівы песні хмарыць сон гарачы.
— Спі, засні, мой добры... слухай... ля ракі...

Ды і мне здаецца, што ў імгле, няйначай,
Не мяцель, а плачуць недзе кулікі.

*1936*

## ПАВЯЗЛІ ЦЯГНІКІ

Павязлі цягнікі
Восень з вёсак у горад
Праз імглу,
Праз іржышча, бары,—
Каб з антонавак
Сонца
І з стагоў памідораў
Дагарала на шыбах
Вітрын.

Ды ніколі не можна
Было ўдоволь напіцца
Таго сонца сіротам малым
З беспрацоўных кварталаў,
Сівым камяніцам,
Сутарэнням глыбокім,
Сырым.

Але можна было
Складаць песні пра восень
І пра жоўтае лісце
Дарожных бяроз.
Ў кожным слове шумелі
Мільёны калосся
І звінела сталь вострая кос.

Толькі, гэткую песню
Пачуўшы, вітрыны
Раптам гаслі,
Трывожна крычалі гудкі...
І ляцелі на вёскі
З новай весткай няспынна
Ашалелыя,
З грывай агню
Цягнікі.

Іх на кожным паўстанку,
Бы ўраджайнае лета,
Спатыкалі дзяўчаты
І хмары касцоў,
І з усёй Беларусі
Скрыпачы і паэты,—
А іх больш, як ў краіне
Маёй каласоў!

*1937*

## НЕ ШКАДУЙЦЕ, ХЛОПЦЫ, ПОРАХУ...

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Ўсе, каму свабода дорага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Пушча змрочная, высокая,
Недаступная паляна,
Будзь ты могільнікам ворагам,
Стань прыстанішчам для сокалаў —
Партызанаў.

Век жывым звяр'ю не вырвацца
І ад помсты не схавацца.
Нашы сілы растуць, шырацца,—
Над Дзвіной стаім, над Прыпяццю
На варце.

Днём буранамі крылатымі,
Быццам цень, праходзім ноччу
Сонным лагерам, між хатамі,
Знішчажаючы гранатамі
Банду воўчу.

Чуюць гады ў кожным шораху,
Што ўжо блізіцца расплата,
Чуюць з страхам песню ворагі:
Не шкадуйце, хлопцы, пораху
На катаў!

*1941*

## ЯНА ХАТУ БЯЛІЛА

Яна хату бяліла
І чароўнай рукой
Сцены, столь абвадзіла
Васільковай каймой.

Я глядзеў у здзіўленні
На разліў сінявы,
І на вочы-праменні,
На блакіт іх жывы.

Хоць быў час адыходзіць,
Ды ніяк я не мог
Аж да сонца усходу
Кінуць хаты парог,

Бо шляхі і крыніцы,
Нават сны, як зарой,
Абвяла чараўніца
Васільковай каймой.

І сягоння па краю,—
Хоць мінулі гады,—
Дзе бываю,— шукаю
Успамінаў сляды.

Толькі шмат у нас хатаў,
Дзе заўсёды вясной
Беляць сцены дзяўчаты
І абводзяць каймой.

Зойдзеш — бачыш: не тая...
Без патрэбы тады
Пра дарогу спытаеш
Ды папросіш вады.

*1944*

## КАБ ВЕДАЛІ

Расце на высокім кургане сасна,
Каб ведалі;
Дол апляла каранямі да дна,
Каб ведалі;
Вяршыняю зоры кранае яна,
Каб ведалі;
З ветрам звініць, як тугая струна,
Каб ведалі
Маткі,
Дзе спяць дзеці-сокалы сном;
Вятры,
Дзе іграць галасістым смыком;
Зоры,
Дзе ім асыпацца дажджом;
Птушкі у выраі —
Родны свой дом.

*1945*

## НА КАМНІ, ЖЕЛЕЗЕ І ЗОЛАЦЕ

Пакуль не ступілася джала разца
І рукі ад працы не морацца,
Я мушу пакінуць адбітак жыцця
На камні, жалезе і золаце.

На камні — няволі мінуўшыя дні,
Курганы ў палях адзінокія;
На цвёрдым жалезе — акопы вайны,
Разбітыя сосны высокія;

На золаце — ўзняты Кастрычніка сцяг,
Прасторы бязмежныя, ясныя,
Да сонца шырокі пралажаны шлях,
Багатыя нівы калгасныя;

На золаце — свята краіны маёй
З сябрамі, сяброўкамі ўдалымі,
З салютамі і незгасальнай зарой,
З гармонікамі і цымбаламі!

*1948*

* * *

Мне пару крыл дало юнацтва:
Адно — зары світальнай ззянне,
Парыў да сонца, да свабоды,
Другое — да цябе каханне.

Таму не знаў я зморы, стомы
У навальніцах, барацьбе,
А ты пытаешся, ці мог бы
Жыць без кахання, без цябе.

Спытайся птушкі, ці змагла б
Яна ўздымацца без крыла.

*1952*

## ПАЭЗІЯ

Я ведаў, што ты — бліскавіца,
Што хмары рассекла;
Я ведаў, што ты — вызваленне
З няволі і пекла,

Вясновая кветка,
Што камень прабіла магільны,
Разведчыка след
На дарозе крамністай і пыльнай;

Я ведаў, што ты — пацалунак,
Ты — дружба і радасць,
Ты — чорствага хлеба скарынка
І сок вінаграда.

А ты аказалася большым:
Ты — кроў, што пульсуе па жылах,
Ты — сонца, якое
Прасторы святлом азарыла,

І без чаго, як без маці
Або без радзімы,
Ні нараджацца, ні жыць
На зямлі немагчыма!

*1955*

## ВЕНЕРА МІЛОСКАЯ

Як жа знайсці мне яе тут, дзе поўна
Розных Палад, Афрадытаў, Медэяў?
Добра, што ты мне, Вергілій, прыпомніў:
«Et vera incessu petu it dea»[1].

Бачу: ідзе яна лёгкай хадою.
Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла,
Каб перад небам і перад зямлёю
Грудзі свае імі не засланіла.

*1956*

---

[1] Сапраўдная багіня пазнаецца па паходцы *(лац.)*.

## AVE MARIA

Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя,—
Ave Maria...

Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Адной манашкі, якая мае
Не больш, хіба, як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя,—
Ave Maria!

Нат пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш: стан непакорны,
Ножкі, якімі б на карнавалах
І захапляла і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія,—
Ave Maria!

Глядзіць набожна на крыж Пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія,—
Ave Maria!

Цябе атрутаю апалілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе...
О, як бы жалі рукі такія,—
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй
І калыхала б сваю дзяціну!
О, як кармілі б грудзі такія,—
Ave Maria!

Не знаю, можа, мая малітва
Мне памагла б выйграць гэтую бітву,
Але пазвалі яе; манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія, —
Ave Maria!..

*1957*

## ДАРОГАЙ З СЕНАЖАЦІ

Вечарэе. Дзень даўно павесіў
На сасне сваю касу зары.
Час і нам дамоў. Чырвоны месяц
Нас вядзе дарогай праз бары.

Ціха свішчуць крылы позняй сломкі,
Лесавік падпальвае карчы;
З камарынай талакою звонкай
Салаўі спрачаюцца ўначы.

Пахнуць пераспелыя суніцы.
Чую подых кожнага лістка.
Чую, як духмяная ігліца
Ападае з голляў сасняка.

Чую, як міжзорныя ракеты
Пралятаюць недзе нада мной...
Можа, мы — апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй?

*1961*

## ПЕРАПІСКА З ЗЯМЛЁЙ

Я пісаў зямлі многа лістоў
Пяром, якім пішуць лірычныя песні,
Гімны розныя,
маніфесты;

Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак,
Якія смяюцца і плачуць;
Пісаў спіцамі дрогкіх калёс,
Якарамі і мачтамі караблёў,
Штыком і
сапёрнай
лапатай;
Пісаў кубкамі, з якіх п'юць
За здароўе і вечную памяць,—
Але пакуль што
Адказ атрымаў я
Толькі на ліст мой,
Напісаны плугам.

Вось ён.
Парэжце на скібы яго.
Частуйцеся.
Ешце.

*1964*

* * *

Парог, вычасаны з успамінаў,
Астаўся за мной;
Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,
Асталіся за мной;
Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,
Асталіся за мной;
Хата, пакрытая крыламі ластавак,
Асталася за мной,—

Як жа мне не азірнуцца назад,
Нават калі б я застыў
Слупом солі?

*1965*

## КОЛЕР СНЕГУ

Нічога больш markdownрознакалёрнага,
Як узмяцелены снег,
Я не знаю.

Які ён быў сіні,
Калі замярзаў я
Ў пакоі настылым
Ці, беспрытульны, на вуліцы!

Які быў ружовы,
Калі я страсаў яго з плеч
Той, што прыносіла шчасце!

Які ён быў чорны,
Калі замятаў
След расстання з радзімай!
Які быў чырвоны
На брустверах нашых акопаў!

Які быў іскрысты і светлы,
Калі яго дзеці
Прыносілі мне ў падарунак!

Вось так і не знаю,
Які колер снегу
Сапраўдны.

*1966*

* * *

Я нёс табе песню,
Але, стрэўшы вецер,
Яна стала ветрам,
Што вее па свеце,
Пачуўшы дождж,
Ліўнем апала на полі,
А ўбачыўшы дрэвы,
Ўзнялася таполяй,
Зрадніўшыся з зернем,
Калышацца жытам,
Напіўшыся сонца,
Сінее блакітам —
Таму, каб пачуць
Гэту песню, ты мусіш
Са мною прайсці
Па шляхах Беларусі.

*10.III.1970*

## ЗВОН КРОПЛЯЎ

Поле ўздыхнула
Світальнай песняй,
Якая разгарэлася зарой
І разбудзіла вочап студні,
Пара ўставаць.
А я ўсё слухаю,
Як звініць ў маім юнацтве
Звон кропляў з вядра.
Звон кропляў.
Звон...

*3.II.1974*

* * *

Глухая партызанская дарога,
Зарослая ўспамінамі,
Зашыфраваная дзятламі,
Замаскіраваная лістападам,
Затканая павуціннем
Бабінага лета.

Яе не цяжка сёння абмінуць
Або — ў разводдзе —
і дамоў вярнуцца,
Калі не пільна ехаць.

Чаму ж абапал яе
Столькі курганоў?

Знаць, быў час,
Калі толькі яна
І вяла да жыцця.

*3.I.1975*

* * *

Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;

Ты яшчэ — чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;

Ты толькі — паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў,—

І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

*27.XII.1981*

## РЫЦАРСКАЯ БАЛАДА

Сёння, мінаючы руіны
Нейкага замка —
Такія старыя, што пра іх
Нічога не знаюць
І павівальныя бабкі —
Раптам убачыў:
На вежы паходні палаюць,
І нехта ў панцыры і з мячом
Мяне аклікае:
— Ты хто?
— Тутэйшы...
— А ты? — пытаюся са страхам.
— Я — Караткевіч Першы.
Скажы, калі па дарозе ішоў,
Не сустрэў ты славутых мужоў:
Баяна, Гусоўскага або Скарыну?
— Вечная ім памяць і ўдзячнасць краіны,—
З паклонам адказаў я.
І тут, успомніўшы, што мы некалі зналіся
І сустракаліся на розных турнірах,
Абняліся і расплакаліся з радасці.
Па-нашаму. Па-паўночнаму.
Па-беларуску. Шчыра.

*15.II.1983*

* * *

> Бачыць хоць дым, што
> Уздымаецца ў небе над берагам родным
>
> *Гамер*

Слухай, Харон-перавозчык,
З дарамі я не паскуплюся,
Толькі далёка за Сцікс не вязі ты,
Прашу цябе ў скрусе.

Чуць хачу пеўняў сваіх валачобнікаў,
Ранкам пагодным,
Бачыць хоць дым, што ўздымаецца ў неба
Над берагам родным.

*3.V.1983*

## ПАЖАР ТАРФЯНІКАЎ

За дымам — ні дарог, ні сёл.
Гарыць падпаленая багна.
Дракон агню глытае ўсё —
Ягаднікі, багунне, сфагнум,

Гняздоўі качак, журавоў,
Звяроў лаговішчы і сховы,
Прыстанішчы вадзенікоў,
Лесавіковыя дубровы.

Як жыць без гэтага ўсяго?!
Пажар! І з жахам адчуваю,
Што і мяне абняў агонь
І я з зямлёю выгараю.

* * *

Не знаю хто — ці чорт,
ці Бог —
Судзіў мне на раду
І выбраў з безлічы дарог
Адну, якой іду.

А на дарозе гэтай скрозь
Ірвы і можна стрэць
Расхлябаны цыганскі воз,
На якім едзе смерць.

Скрып непадмазаных калёс:
Няўжо ёй слёз не досць?
Шуміць лістотаю бяроз
Дождж. Памінальны дождж.

## МЕМАРЫЯДА

> Ля той ігрушкі сядзеў Касцюшка,
> Зараз там скверык на славу.
> А каля лугу Калонтай Гуга
> Спыняўся па малой справе.
>
> *Бой Жаленскі*

Не знаю, пошасць ці мода, можа,—
Знаць, усяго патрошку —
Ставіць усюды, дзе толькі можна,
Мемарыяльныя дошкі.

Ставіць, дзе хто на свет з'явіўся,
Ставіць, дзе поўзаў ракам,
Дзе хто вучыўся, дзе хто жаніўся,
Дзе што пісаў, небарака.

Кажуць, па дошкі чарга такая,
Якой не было ніколі.
Нават ці хопіць скал Гімалаяў,
Каб нас усіх задаволіць.

## ПЕРАД РАЗВІТАННЕМ

Фларэнцыя. Турысты. Крамы.
Бляск амаранту.
Над кожнай аканіцай, брамай
Канцоны Дантэ.

Чытаю, бо не за гарамі
Мой дзень паблеклы,
Калі сустрэнуся з сябрамі
На сходах пекла.

Таму хачу знайсці адгадку
Ў радках паэта:
Як зноў вярнуўся,
якою кладкай
Ён з таго свету.

Цямнее небасхіл. Крутыя
Раскаты грому.
Пусцее Плошча Сіньёры.
Пара дадому.

## РАСШЫТАЕ КРЫЖЫКАМІ

Узору не знаю я прыгажэйшага,
Як расшытая крыжыкамі
Трыпутніку ці канюшыны,
Бацькоўскіх ці маіх босых ног —
Палявая дарога;

Як расшытая крыжыкамі мулінэ
І калісьці падораная мне
Дзяўчынай кашуля;

Як расшытае крыжыкамі крыл
Жаўрукоў,
Ластавак,
Журавоў
Неба нада мной;

Як расшытыя крыжыкамі
Ручнікі,
Што на покуці ззяюць,
Стому з твару сціраюць
І на якіх маладым і гасцям
Мы падносім
Хлеб-соль...

Не, недарма, знаць,
Арнаментам гэтым —
А не дзідамі і арламі,
Не шаблямі і львамі —
Упрыгожаны
І сцяг наш.



# АЛЯКСЕЙ РУСЕЦКІ

Аляксей Русецкі (Аляксей Сцяпанавіч Бурдзялёў). Нарадзіўся 4.12.1912 г. у сяле Студзянец Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў Маскоўскі зоаветэрынарны інстытут (1935). Працаваў спецыялістам-бактэрыёлагам, у прэсе. Друкуецца з 1934 г. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Аўтар зборнікаў паэзіі «У заўтрашні свет» (1951). «Святло акон тваіх» (1959), «Служба святла» (1967), «Позірк» (1977), «Крокі сэрца» (1980), Літаратурная прэмія імя А. Куляшова (1981), «Хвала жыццю» (1987) і інш. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1982).

## МАЙ

Зямля марнела б ад былых нягод,
каб не ўбірала сокі, фарбы мая,
як ён з глыбокіх зерневых дрымот
раллю зялёным пер'ем прабівае;
як на галлі са скручаных вузлоў
ён выпірае, шырыцца ў паветры,
дрыжыць празрыстым лісцем, бы святло
спіртовых, лёгкіх аганькоў на ветры;
як, адрасціўшы вусікі, паўзе
мясістым хмелем па камлях дубовых,
праменні ў іскры дробіць на расе,
блішчыць на красках пылам каляровым,
мільгае пухам на кустах лазы,
звініць ля рэчкі тонка салаўямі,
мігціць травой, а любай валасы,—
ідзём,— кладуцца на плячо мне самі.
Магутны час! Мякчэй за лёгкі шоўк
на хвоях раны сцягвае жывіца,
пад папялішчам ходзіць моцны сок,
каб зелянінай новай адрадзіцца.
Цераз канавы, ямы і равы
імчыцца жыта хваляю разбеглай,
на сонца дом узводзіць, як жывы,
яшчэ сляпыя вокны з кучаў цэглы.
Я марыў часта аб такой вясне,
абшарпаны жалезам, закарэлы,
цяпер я чую — шырыцца ва мне
вясенняя стыхія яблынь белых.
Як воблаку, прасторна сэрцу зноў,
выразна ўсё, адшукваю з натхненнем
да думкі — думку, да зярна — зярно,
цаглінў — да цагліны аднаўлення.
Усё жывое са сваіх крыніц
уваскрасае з непакорнай сілай
на заклік сонца з майскай вышыні,
але яго не чуюць у магілах.
Сябры мае, героі-юнакі,
я не забуду, дзе тады глыбока
вас пахавалі цяжкія пяскі
і загарнулі назаўсёды змрокам.
Нас разлучыў, нам выпаў розны лёс,

хоць мы на бой ішлі хадой адзінай
за гэты мірны бляск зялёных рос,
за светлы дзень, што ўзняўся над Радзімай.
Няхай жа ў сны глыбокія да вас
даходзяць сонца тонкія праменні
і ціхіх ніў духмяныя струмені,
як да жывых у той смяротны час
даходзіў ваш жыццесцвярджальны геній!
Вяснянкі-краскі, сядзьце ўсе наўкол,
абвіце ўзгорак жоўты, шэры камень,
няхай пад ім учуюць, як на дол
кладуцца сэрцы нашыя з вянкамі.
Гары, святло магутнае вясны,
і ззяй вясёлкай колераў гарачых
над тымі, хто не змог прыйсці з вайны,
хто пераможны гэты май прадбачыў.

*1945*

# КІТАЙСКІЯ МІНІЯЦЮРЫ

## КУМІРНЯ

Даўно ў цаглянай скрыні, між дарог,
сядзіць скупы чорнабароды бог,
падмяўшы пад сябе старую рызу.
Як шрот, тугія зерні гааляна
у місцы падаюць яму глінянай,
а ў фанзе ўсё няма ні жмені рысу.

## ШТУКАР

Паперу пхае ў рот, а з-за шчакі
ён цягне доўга сінія шаўкі.
Кірмаш гудзе, крычыць яму: — Хо! Хо!
Пасля смяюцца з скупасці яго —
на латцы латка ў штукара парткі.

## БАЦЬКА І СЫН

Грузілі соль на ўзмор'і — дзве гары
за жменьку рысу.
Не утрываў стары —
і пахавалі бедака з рыдлёўкай...
А сын учуў, што ў той і ў гэты свет
цяпер ісці рабочым след у след
з вінтоўкай трэба,— і пайшоў з вінтоўкай.

*1946*

* * *

Ноч,
дарога,
светлы шолах —
зор варушыцца мурашнік,
вее водар цёмных долаў,
тлум сцішаецца ўчарашні.
Гэтай светлай, гэтай чорнай
акрыліцца б цішынёю,
каб узняцца ў час свой зорны
над сабою, над зямлёю
і зірнуць на шлях свой строга,
спавядацца мудрым зорам...
Светлы шолах,
ноч, дарога,
мармытанне,
гул матора...

*1978*

## ЯЗЫЧНІК

Той прашчур з капішча сышоў,
не ўшанаваў на ім нікога:
бунтоўная кіпела кроў
займець праўдзівейшага бога.

Каля Дняпра, знайшоўшы пень
ад зломленай асіны шэрай,
і першы дзень і пяты дзень
ён працаваў разцом, сякерай.

У ценю дрэў ён шчыраваў,
дзед барадаты, ў стружцы белай,
і бога ўзнікла галава
з абліччам цвёрдым, скамянелым.

Нажом гарачым ён правёў
па мёртвых вуснах асцярожна,
і бог паварушыў брывом,
паціху заўсміхаўся злосна.

І майстра ўкленчыў перад ім,
пасля прынёс карэц з вадою
і хлеб на ручніку льняным,
а бог сустрэў ухмылкай тою ж.

І апантаны чалавек,
ужо ачмураны, тым часам
нажом далонь сабе рассек,
крывёю богу вусны мазаць...

*1979*

* * *

Заўжды гучыць не пустаслоўна
купюры хрусткай намінал,
калі за ім стаіць каштоўны
вядомы сонечны метал.

Не кучаравым феерверкам,—
стальной маланкай бліскча верш,
як боль яму, надзеі веку,
агонь з-пад сэрца аддаеш.

Агонь бунтоўны, прагі праўды
і Праметэевай тугі,
а за яго з часоў Элады
караюць помсліва багі...

*1979*

* * *

Не паверу прарокам
нудоты і ліха,
пакуль морам гартаецца
вечнасці кніга
і звініць саламянай
струною пявучай
спелы колас пра зерне —
сваю неўміручасць.
Будзе робат і план,
і смугой таямнічай
будзе вабіць зямля,
неба — росчыркам знічак;
сэрца будзе ляцець
на нязнаную трасу,
толькі б волі ставала
і плыннага часу.
На жыццё будзе кожнаму
хмелю і жыта,
будзе з мора выходзіць
яго Афрадыта.

* * *

Я — мужыцкі сын, і радаслоўная
анідзе не значыцца мая,
дзед і прадзед, а далей замглёная
далячынь —
стагоддзяў акіян.

Зверху ў ім
я, нібы хваля з хваляю
веснавой блішчастае раллі;
у зямлю касцьмі, вярбой трывалаю
майго роду карані ўраслі.

Колькі летаў сам нагамі босымі
чуў цяпло вільготнай баразны,
захлынаўся на пакосе росамі,
ветрам дыхаў жытнім
і лясным.

Шмат сялянскай кемнасці, стараннасці
у палеткі ўкладзена было,
а пакінуў, можа, нават з радасцю
мной зямлю арануто,
сяло.

Не цярплю, хто ахкае і вохае,
як згадае хату,
кут бацькоў,
дэкларуе ў сувязі з эпохаю
да сваіх сцяжын, асін любоў.

Не пасада ■ гальштукам мне снілася,
дзесьці ўзяў сабе я ў галаву:
вёсцы не стае азоту й сіласу,
мне —
зямельных на жыццё навук.
У калгасе з ведамі прыдбанымі
сілы фермам, нівам аддаваў,
ваяваў з чыноўнымі прафанамі,
поле бою —
марная трава.

Час настаў ацэньваць словы працаю,
меркаваць аб справах па жніву;
я цяпер, відаць,
не маю рацыі,
што ад ніў далёка тых жыву.

Адспявала ў жыце перапёлачка
без мяне пра лепшае ў жыцці...
Не хачу ў нябёсы дыму воблачкам,
мне ў зямлю,
сваю зямлю сысці б.

*1985*



# АНДРЭЙ УШАКОЎ

Андрэй Фёдаравіч Ушакоў (1912, в. Рабяткі Чавускага р-на Магілёўскай вобл.— 1941 ці 1942). Скончыў школу металістаў. Вучыўся на крытыка-творчым аддзяленні Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску (1930—31). Скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага (1939). З 1939 г. у Савецкай Арміі, працаваў у газеце. Загінуў на фронце. Друкаваўся з 1929 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Рабочы пульс» (1932, разам з П. Ананьевым), «Праца і маладосць» (Віцебск, 1933), «Зарава вагранак» (1933), «Голас Радзімы» (1938), «Наша маладосць» (1962). Пісаў апавяданні, вершы і паэмы для дзяцей.

## МНОГАМУ ІМ ТЫ Ў ЖЫЦЦІ АБАВЯЗАН

Ля дарогі ўзняўся высокі курган,
Ён горда глядзіць на жыты і пожні.
Перад брацкай магілаю партызан
Спыніся і шапку здымі, падарожны!

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязам.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан!

*1935*

## РАДАСЛОЎНАЯ

Прасачы ад малпы да Адама
Продкаў паважаных развіццё.
Быццам за замкамі, за гадамі
Захавана іхняе жыццё.

Рослы селянін з-пад Магілёва,
Жыў мой прадзед у глухім сяле.
Жыў на месцы ўсё жыццё, як дрэва,
У цемры, як кажан жыве ў дупле.

Свет не бачачы далей мястэчка,
Працаваў з зары і да зары,
Гнуў спіну ў абшарніцкім двары
І сатлеў пакорна, быццам свечка.

На паглум аддай жыццё ў салдаты!
Дзед, хоць быў і смелы чалавек,
Каб не скласці косці на Карпатах,
Палец на руцэ адсек.

Сорак сутак насустрэчу сонцу
Бацька ехаў у чужую даль
Шапкамі перамагаць японца —
І прывёз кастыль, а не медаль.

Каля Віслы брат памёр ад газаў,
Роднай не пабачыўшы зямлі.
І, нарэшце,— камбайнер калгаса —
Я апошні з нашае сям'і.

За гадамі, за глухой заслонай
Бачу продкаў невясёлы век.
Я [illegible] свае вялікай радаслоўнай —
Самы найшчаслівы чалавек!

*1936*

* * *

Дзе ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа, у гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?

Каля воднай станцыі
З песнямі і танцамі
Моладзь весялілася гурбой.
За цяністым паркам,
Дзе прастор байдаркам,
Там я пазнаёміўся з табой.

Кожнай сваёй рыскаю
Ты мне стала блізкаю,
Нібы сябравалі многа год.
Над ракой блукалі,
Песенькі спявалі,
Разам сустракалі сонца ўсход.

Птушкі чулі-бачылі,
Стрэчу як прызначылі,
Дзе дубы над возерам раслі.
Час быў нешчаслівы —
Трохгадзінны лівень
Нашу дружбу цёплую разліў.

З той пары прыходжу я
Ў парк, цябе, прыгожая,
Поглядам шукаю між дзяўчат.
Колькі ні ўглядаўся,
А цябе няма ўсё,—
Сумны я вяртаюся назад.



# СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

Сяргей Іванавіч Грахоўскі. Нарадзіўся 25.9.1913 г. у м. Нобель Пінскага пав. Мінскай губ. (цяпер Зарэчненскі р-н Ровенскай вобл. УССР) у сялянскай сям'і. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1935). Арыштаваны 19.11.1936 г., асуджаны на 10 гадоў. Са жніўня 1949 г. паўторна на спецпасяленні ў Новасібірскай вобл. Працаваў у прэсе, на лесараспрацоўках у Горкаўскай вобл., настаўнічаў на Случчыне і ў Новасібірскай вобл. Друкуецца з 1926 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Дзень нараджэння» (1958), «Чаканне» (1960), «Памяць» (1965), «Зазімак» (1976), «Асеннія гнёзды» (1982, Літаратурная прэмія імя А. Куляшова 1983), «Выбраныя творы» ў 2-х тамах (1983), «Верую» (1987); для дзяцей — «Сёння і заўтра» (1961), «Гарыць касцёр» (1966) і інш.

## МАМА

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны
        прыйшло
                дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.

А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі,
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок».

І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як колісь, мамаю назваў».

Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова — «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

*1957*

## ДУША

Мяне выхоўвалі,
Мяне захоўвалі,
Я то з'яўляўся,
То знікаў,
Мяне вадзілі
І ахоўвалі,
Хоць и нікуды не ўцякаў.

І пад замкамі,
І пад пломбамі,
Нібы каштоўнасць,
Бераглі
І неба клеткамі
І ромбамі
Разлінавалі,
Як маглі.

Мяне узважвалі
І мералі,
Здымалі ў профіль
І анфас,
Але ні разу
Не праверылі
Душы наяўнасць
І запас.

Шкада,
Што не здымаюць копію
З яе юрысты і ўрачы,
І ні адна дактыласкопія
Не можа тут дапамагчы.

Мая душа супраціўлялася,
Бо верыла і тым жыла,
Не чэрствела
І не ламалася —
Была такою, як была.

Хоць дзіўна,
Ў чым яна трымалася?
А паспрабуй
Яе сагні!
Яна ж з маленства
Гартавалася
На чыстым,
Праведным агні.

*1964*

* * *

*В. М.*

Я цябе прыгадаў
Басаногаю, шустраю, тонкай.
Пад нагамі рассыпала
Раніца зерні расы,
І тады, у далёкія тыя часы,
Я цябе уяўляў
Залатою сасонкай,
І здавалася, будзеш такою заўжды —
Маладою, іскрыстаю, крышачку колкай.

Ды хіба ж загадаеш,
Каб вечна квітнелі сады
І у небе ніколі не гаслі вясёлкі?
Ды хіба ж загадаеш каму,
Каб гады
Над табою і мною улады не мелі,
Каб спынілася плынь веснавое вады,
Каб да старасці скроні у нас не сівелі?
Пасівелі, а сэрца не хоча старэць —
Мабыць, вызнана мала і зроблена мала.
Мы гарэлі ў агні, але нам не згарэць,
Навальніца прайшла, але нас не зламала.
Ты заўсёды была клапатліваю жонкай,
Ты суровай была міласэрнай сястрой.
Я цябе і цяпер уяўляю сасонкай,
Што яшчэ палымнее вячэрняй зарой.

*1956*

## 19 КАСТРЫЧНІКА

Здрабнелі зоркі ў тую ноч,
І месяц заблудзіўся дзесьці.
Мяне вядуць у змрок, а воч
Ніяк ад дому не адвесці.
Яшчэ зірнуў апошні раз
І ад пакуты аж заенчыў,
Калі ў маім акне пагас
І без таго слабы агеньчык.

Шумела ліспе, дождж імжыў,
У сцены біўся вецер з гулам.
І з гэтае хвіліны жыў
Я не ў наступным, а ў мінулым.
Паўзла дарога, як змяя,
Пранізваў холад мозг і цела,
І знічка ранняя мая
У чорным небе праляцела,

І след яе адразу знік
На заімглёным небакраі,

Не замаўкаў над намі крык
Начное крумкачынай зграі.
Вязуць. Не ведаю куды,
І так прыспешваюць таропка.
Няўжо у дваццаць тры гады
Лёс і на мне паставіў кропку?

Вязуць па вуліцах пустых,
Я не ў сваёй, а ў іх уладзе,
Мутнее зрок, тупее слых,
У думках — поўнае бязладдзе.
Не мог тады я зразумець
Той таямнічае работы,
Што будуць дваццаць год рыпець
І па душы таптацца боты.

Як толькі ўспомню чорны год
І ноччу страчаную волю,
Астудзіць спёка, быццам лёд,
Завея апячэ да болю.
Дажыў я ўсё ж да сівізны,
Як ні ламалі, ні малолі,
А вось сябры маёй вясны
Дамоў не вернуцца ніколі.

За імі спалены масты,
І сцежка даўняя глушэе,
Крышталь адвечнай мерзлаты
Аздобіў брацкую траншэю.
Яе карэнні аплялі
І дол сціскае невыносны.
Каторы год на той зямлі
Гайдаюцца над імі сосны.

А я жыву. І вось ізноў
Гляджу, як з клёна лісце льецца.
Паклічу ў госці ўсіх сяброў,
Але ніхто не азавецца.
Пабачылі б яны хаця
Наш новы дзень, і свет зялёны,
І вернутыя з забыцця
Святых пакутнікаў імёны.

*1987*

## А ДЗЕ ВЫ?

За сорак год там вырас лес,
Дзе я штодня са скуры лез:

Дзень пілаваў, пасля грузіў,
А мне начальнічак гразіў

І за віну, і без віны
Загнаць да скону на штрафны,

У БУР з парашаю, за краты,
Бо я занадта языкаты,

Бо я абразы не цярплю,
Бо я спагады не малю,

Бо не згадзіўся на даносы,
Таму загнуўся голы, босы

На трохсот грамах і вадзе,
І след бясследна прападзе.

Я выжыў. Я усё прайшоў
І месца у жыцці знайшоў.

Загаварыў, бо не маўчальнік.
А дзе ж вы,
«гражданін начальнік»?

## СТАРЫ МЛЫН

Не пытаюся, куды вядзе дарога.
Калі ёсць, дык некуды вядзе...
Можа, да млына таго старога,
Што ужо не меле, а гудзе

Вецер у пустых кашах і скрынях,
Зарастаюць мохам латакі,
І ляжыць на бэльках, быццам іней,
Пыл калісьці змеленай мукі.

Не, не збіўся. Прывяла дарога:
Млын дрыжыць адбіткам на вадзе.
Пагукаў, але няма нікога,
Нават следу не відно нідзе.

На прантах парэпаліся жорны,
Пацукоў цікуе кот рабы,
На прыступках і ў паддашшы чорным
Стогнуць і жыруюць галубы.

А было ж завознікаў памногу,
Жорны аж да поўначы гулі,
І вазы ў далёкую дарогу
Везлі мліва цёплыя кулі.

Паглядзеў на млын, нібы на страту
Даўніны забытай і нямой,
І сумеўся, разабраўшы дату,
Што забыты млын — равеснік мой.

*1987*

## КАЗКІ ЖЫЦЦЯ

А я дагэтуль веру ў казкі,
Хоць казкі розныя былі,
То з ласкаю, а то без ласкі,
З дабром і з горам на зямлі.

Я казкам веру, як і верыў,—
Без казак холадна душы.
А часам нейкія хімеры
Мне шэпчуць: «Лепш не варушы
Сваіх балючых успамінаў,
Жыві для радасных надзей,
Што толькі суцяшаць павінны
І сэрца хваляваць радзей».

Я часам сам сабе не веру,—
Дзе ява, дзе трызня, дзе сон,
А казкі пра ліхога звера
Трывожаць і да гэтых дзён.

То ў казках ажыве яскрава
Усё, што цешыла раней,
Але бывае часам ява
За казку страшную страшней.

Жыццё спяшаецца імкліва,
Гарыць, то тлее каганцом.
Я веру ў казкі са шчаслівым
І непрыдуманым канцом.

*1986*

## СЕЙБІТ

Плыве, як човен, вузкая труна
Над полем, над даспелымі жытамі —
Дзяды, кабеты і малыя дзеці
Хаваюць сейбіта, аратага, касца.

Хаваюць без аркестраў і вянкоў,
Без ганаровай варты і прамоўцаў.
Няма ні ордэнаў, ні некралогаў,
І толькі ў полі гнуцца каласы.

Ён пяцьдзесят разоў пасеяў жыта
І пяцьдзесят разоў абмалаціў,
Ён пяцьдзесят гадоў карміў уволю
Людзей, якіх ні разу не сустрэў.

Ніхто яму не дзякаваў ніколі,
Не ўспамінаў за шумнаю бяседай
Імя таго, хто малаціў і сеяў
І аддаваў усё, што мог аддаць.

Хаваюць сейбіта. Маўчаць дзяды,
а дзеці
Нясуць у жменьках вялыя рамонкі,
І над палямі не заходзіць сонца,
Якое ён заўсёды сустракаў.

Стаяць прысады ў ганаровай варце,
А ластаўкі лятаюць нізка-нізка
Над пыльным шляхам, над высокім жытам,
І журацца пры студнях жураўлі.

Ён першы раз патурбаваў вяскоўцаў,
І ўпершыню яго ўзнялі высока
Мужчыны над жытнёвымі палямі...
А недзе песня жніўная звініць.

*1966*

## ПРЫЗНАННЕ

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе на свеце,
За глухімі лясамі, за сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і, а ў нас, на планеце,
Ты ў зялёным і ціхім завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,
За паўкрока адно аднаго абмінуць,
Разысціся, як сцежкі расходзяцца ў полі,
І не знаў бы за страту каго папракнуць.

Мабыць, трэба было праваліцца у пекла,
Траціць блізкіх, пакутаваць, мерзнуць, гарэць,
Ратавацца, каб лютая сцюжа не ссекла,
Каб цябе пад Палярнаю зоркай сустрэць

І пазнаць, і адразу забыцца аб крыўдзе,
Каб праменьчыкі ўбачыць у зрэнках тваіх,
Нарадзіцца ізноў і паверыць, што прыйдзе
І збавенне, і шчасце адно на дваіх.

Падабрэць, памякчэць, назаўсёды скарыцца
Непадкупнай суровай тваёй чысціні,
Каб істоты тваёй адкрываць таямніцы,
Каб душу гартаваць на высокім агні.

Час ляціць і ляціць. Завіруха завеяла скроні,
Пакідаюць насечкі гады на ілбе.
Я гляджу на цябе, я дзіўлюся і сёння,
Чым я жыў без цябе, як я жыў без цябе.

*1967*

## ДОЎГАЕ РЭХА

Я адзін каля вогнішча ў полі.
Толькі іскры мігцяць і мігцяць,
То знікаюць у дыме паволі,
То да зор таямнічых ляцяць.

Я адзін. Толькі вецер трывожна
У ракітніку голым гудзе.
Можа, ў полі зблудзіў падарожны
І дарогу не знойдзе нідзе.

Я гукаю, і доўгае рэха
У асенняе поле плыве,
Замаўкае альбо на пацеху
Азываецца сумнай саве.

Я адзін каля вогнішча ноччу.
Толькі ўласны гайдаецца цень.
Я на зоры гляджу і прарочу
Ясны ранак і сонечны дзень.

*1988*

## ЗАБАРОНЦА

Чыноўнік спакойна давесці ўмее,
Што белае чорным уявіш і ты,
«Народ,— ён тлумачыць,— не зразумее
Занадта дачаснай тваёй праматы.

Народу патрэбны інакшыя песні,
Згадзіся, а іх у цябе і няма.
Пішы, каб вясною здалося прадвесне,
А восенню — лютая наша зіма.

Пішы для народа патрэбную праўду,
А ты калупаешся ў дробнай брыдзе,
Таму нават звання дасюль не прыдбаў ты,
Таму не вядомы нікому нідзе.

Я ведаю цвёрда, што трэба народу,
На варце яго інтарэсаў стаю,
Каб укараніць крытыканаў пароду
І ўзяць на цыгундар адвагу тваю».

Даслухаў яго, і, як токам, затрэсла:
«Народны заступнік» абедзве рукі
Да хрусту ўвагнаў у высокае крэсла,
Каб толькі не страціць рублі і пайкі.

Не, не абаронца ты, а забаронца.
Цябе нарадзілі за праўду раней,
Гатовага Месяц закрэсліць і Сонца,
Ды толькі народ за цябе разумней.

Што ён разумее, табе не закрэсліць.
Магчыма, пакруцішся трохі яшчэ
І вылеціш коркам з утульнага крэсла,
Як знізу і зверху табе прыпячэ.

## ПЕРАД ЗАСЛОНАЙ

Усе мы трошачкі артысты,
І роля ў кожнага свая.
То абы-як, а то ўрачыста
Іграў сябе самога я.

З усіх няма цяжэйшай ролі,
Бо не хапае з неба зор
І не падказвае ніколі
Жыццё — суровы рэжысёр.

Кім толькі я не быў на сцэне,
Каго я толькі не іграў.
То быў узнёслы летуценнік,
То ўваскрасаў, то паміраў.

Рамэа быў, «Шыльёнскім
вязнем»,
Адолець Гамлета хацеў,
Ды збіўшыся на першым сказе,
У апаметную зляцеў.

І зала адказала свістам
На непрадбачаны правал.
Відаць, заўсёды быць
статыстам —
Мой горкі лёс ці ідэал.

Ніхто не заўважаў старання
Да зморы і да забыцця,
Калі вагаўся я на грані
Сапраўднай смерці і жыцця.

Іграў то ўмела, то няўмела,
Бывалі спады і напал,
Пакуль душа не пасівела
І не наблізіўся фінал.

Знялі фанерныя калоны,
Скруцілі заднікі ў рулон.
Вось-вось зачыніцца заслона...
І я выходжу на паклон.

*1988*



# ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

Агняцвет Эдзі (Эдзі Сямёнаўна Каган). Нарадзілася ў Мінску 11.10.1913 г. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут (1936). Друкуецца з 1929 г. Першы зборнік лірыкі «Маё пакаленне» (1935). Выбраныя творы і пераклады ў двух тамах (1976), зборнік «Закаханым» (1986). Для дзяцей кнігі паэзіі «Васількі» (1947), «Твае таварышы» (1957), «Краіна маленства» (1975), «Доктар Смех» (1977) і інш., паэмы «Песня пра піянерскі сцяг» (1949), «Будзем сябраваць» (1979). Ганаровы дыплом Х. К. Андэрсена Міжнароднага савета па дзіцячай і юнацкай літаратуры (1986). З французскай мовы пераклала П. Беранжэ «Выбраныя песні» (1960, «Краіна Паэмія» (анталогія французскай паэзіі для дзяцей, 1962), Г. Апалінэра «Зямны акіян» (1973) і інш.

# З ЦЫКЛА «УЗБЕКСКІЯ МАТЫВЫ»

## I. ПАЭТЭСЕ ЗУЛЬФІІ

Ты прыслала сукенку з атласу іскрыстага,
Не здзіўляйся, чаму зажурылася я:
Бачу хвалі Салара празрыстага, быстрага,
Ўсю зямлю, дзе жывеш ты, сястра Зульфія!

Па-узбекску гамоняць таполі любімыя,
І цюльпаны пытаюцца:
«Помніш ты нас?»
Гэты край я назвала другою радзімаю
У далёкі, гаротны і памятны час.

Па спякотных завулках хадзілі ў шпіталі мы,
На вакзалах чыталі мы вершы байцам.
Разам ціха тужылі і зводак чакалі мы,
І, як сёстры, дзялілі мы хлеб напалам.

Асцярожна надзену сукенку шаўковую.
Гэта — подых далёкіх і цёплых вятроў,
Гэта — яркія макі, фіялкі ліловыя
І зялёнае полымя майскіх садоў!
Выбачай, што не многа табе падарыла я,
Усяго толькі вышыты сціплы убор:
Там пралескі сінеюць наіўныя, мілыя,
Там раскінуў галінкі сасновыя бор.

Беларускія фарбы табе падабаюцца —
На здароўе, на шчасце насі, Зульфія!
Хай жа нашы задумы, надзеі збываюцца,
Хай красуе зямля
і твая, і мая!

Наша дружба ў трывожныя дні пачыналася.
Мы тады па-жаночаму смерць праклялі!
Будзем сэрцам і працай у дні нашай сталасці
Бараніць хараство і жыццё на зямлі!

### 5. ЯК ПЕРАКЛАДАЕЦЦА МУЗЫКА

Як ударылі па струнах
Дзесяць музыкантаў юных,—
Я адразу прыгадала
Нашы мілыя цымбалы.

Ну і гукі!
Дробныя,
Чыстыя гарошыны,
Песняй непадробнаю
Людзі заварожаны.

З тэмпераментам іграюць
У гарачым гэтым краі:
Хоць да ночы,
хоць да ранку
Могуць сыпаць «польку-Янку»!

Іскрамі пякучымі
Гукі разлятаюцца,
Пчолкамі пявучымі
Ў кола зноў збіраюцца.

Я легенду адшукала:
Як узбечка пакахала
Цымбаліста баявога,
Беларуса маладога.

Як прывёз здалёку ён
Колер соснаў бронзавых,
Рэха рэчак звонкае,
Бляск лясоў бярозавых.

Сэрцам слухала дзяўчына
Песні дальняе краіны.
Беларускія цымбалы
Ціха «чангам» называла.

«Чанг» — прыгожы, родны мой?
Думай, як жадаецца!
Кожны раз па-рознаму
«Чанг» перакладаецца.

Я па-свойму ўпадабала
Чанг — мясцовыя цымбалы...
Так ці гэтак, грамадзяне,—
Пачалося ўсё з кахання!

Вось якая добрая
Сіла ёсць у музыцы!
Музыка, ты — шчодрая
Радасці саюзніца!

## МЕСЯЦ ТВАЙГО НАРАДЖЭННЯ

Кожны чым-небудзь нагадвае
Месяц свайго нараджэння:
Іншы — паважны, як снежань,
Ціха жыве на зямлі.
Незразумелым і зменлівым
Іншы бывае, як люты,—
Часам на лета паверне,
Часам — на люты мароз.

Той, як зямля красавіцкая,—
Юны, няўрымслівы, смелы.
Гэты,
як верасень, шчодры —
Людзям прыносіць плады.
Кожны па-свойму нагадвае
Месяц свайго нараджэння:
Гэты — гарачнасцю жнівеньскай,
Той — сакавіцкім святлом.

Толькі не ты! Хоць запісана
Ў пашпарце чорным па белым —
Студзень.
Прыкметам насуперак
Думаеш ты і жывеш.
Ты не пазычыў ні калiва
Ў сіняга, злоснага студзеня —
Добры і шчодры, як верасень,
І неспакойны, як май!

*1963*

* * *

Кажуць, што для доўгай маладосці
Трэба талент асаблівы мець...

Доўга будзе маладой жанчына:
Толькі закаханымі вачыма
Трэба на яе глядзець!

*1971*

* * *

А я не веру, што мінае лета —
Пара вясёлак, спёкі і грымот.
Я ўсё, нібы зялёная ракета,
Імкнуся у нязведаны палёт.

Я ўсё яшчэ цяплом вясны сагрэта,
Хоць восень ля акна майго бубніць.
У небе непатрачанага лета
Звініць маленькі жаўранак,
звініць!

*1975*

## САМЫМ МАЛАДЫМ

**З цыкла «Пушкінскія крыніцы»**

Дубровы пушкінскага краю,
Любоў крыніцы і агню!
Я зноў увосень адкрываю
Усё, нібыта ўпершыню.

Зноў пакланюся ў звонкай цішы
Празрыстым, трапяткім радкам,
Прысвечаным жанчынам
іншым —
Багіням, а не грэшным, нам.

У век наш атамны, ракетны
Яшчэ на свеце ёсць любоў.
Яна чакае ад паэтаў
Нясцёртых, першародных слоў.

Хай вам гарачы лёс юначы
Дасць сэрца зоркае ў жыцці —
Сваю Аленіну убачыць
І Анну Керн сваю знайсці!

*1975—1976*



# СЯРГЕЙ АСТРЭЙКА

Сяргей Адамавіч Астрэйка (1913, в. Каласоўшчына на Капыльшчыне Мінскай вобл.— 1937). Скончыў Мінскі педтэхнікум (1931). Друкавацца пачаў з 1930 года. Арыштаваны ў 1933 годзе.

Захавалася невялікая частка рукапісу падрыхтаванага паэтам першага зборніка вершаў.

## ПОШЧАК З УСХОНАЎ

У чалесніках даляў не гаснуць агні,
Шугаюць агні неўпынёна.
Мінулага постаць скавыча, вугніць
У муках страшэннага скону.

Ад працы заўзятай усхоны шасцяць,
У прышласць выводзіцца прокід.
З семнаццатай даты ў краіне наўсцяж
Чутны рэвалюцыі крокі.

Віхор перашкод не стрыножыць яе,
У прорву блуканняў не скіне,
Яна несціхана усюды снуе,
Не знае ўвярэды, спачыну.

Краіну узводзіць на сонечны тракт,
На затхласць маланку красае.
І вось падыходзіць яна пад вятрак,
У пыл пашчапаны часамі.

Навылет відно,
                    што жыцця не дадуць
Ніколі ніякія лекі.
Вятрак пачувае трывогу, бяду,
Канцы адрыпелага веку.

Вятрак адрыпеў і назаўжды заціх,
Памкнулася ў небыт старое.
На полі загоен глыбокі націн,
Пашастаны гіблыя строі.

Шчапаецца ціша балотных прагал,
Усхліпвае шэрасць выжарын.
Каб нетраў балотных нашчадкі ўблагаць,
Турбіны паўзуць на амшары.

Распорвае грудзі іржавых балот
Рыдлёўка жалезным ускраем.
Узмахвае змрок пранізаным крылом,
Ад роспачы зубы сціскае.

Разносяць падзеі у пэтлах, ушчэнт
І гэту нязвыклую брудасць.
На зблочаных нетрах штораз, то ярчэй
Зарэюць агні Асінбуда.

Ні вораг, ні змрок,
                    ні халодны туман
Не скрышаць купчастыя ўсходы,

У шляхах рэвалюцыю не затрымаць —
Сячэ яна ў пыл непагоду.

Ад працы заўзятай усхоны шасцяць,
Іх пошчак лунае далёка,
На шырах Савецкай краіны наўсцяж
Чутны рэвалюцыі крокі.



# АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў (6.2.1914, в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл.— 4.2.1978). З сям'і настаўнікаў. Вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме (1928—31), на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску (1931—33). Працаваў у газеце, на радыё, у Саюзе пісьменнікаў БССР. У 1941—43 гг. у армейскай газеце, у 1943—45 гг. у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945—46 гг. рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1958—67 гг. начальнік сцэнарнага аддзела, галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры Украінскай ССР (1973). Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Росквіт зямлі» (1930), «Па песню, па сонца!..» і «Медзі дождж» (1932), «Мы жывём на граніцы» (1938), «У зялёнай дуброве» (1940), «На сотай вярсце» (1945), «Камуністы» (1949), «Новая кніга» (1964), «Сасна і бяроза» (1970), «Мая Бесядзь» (1973), «Хуткасць» (1976) і інш., паэм «Аманал» (1933), «Баранаў Васіль» (1941), «Сцяг брыгады» (1943, Масква, Дзяржаўная прэмія

СССР 1946), «Прыгоды цымбал» (1945), «Новае рэчышча» (апублікавана на рускай мове ў 1949, Дзяржаўная прэмія СССР 1949, на беларускай мове апублікавана ў 1951), «Грозная пушча» (1956, 3-е дапрацаванае выданне 1963) і інш. Пераклаў на беларускую мову паэму А. Пушкіна «Цыганы» (1937) і раман у вершах «Яўгеній Анегін» (1949), «Выбраную паэзію» М. Лермантава (1969), паэму «Энеіда» І. Катлярэўскага (1969), «Спеў аб Гаяваце» Г. Лангфела (1969) і інш. За пераклады Лермантава, Катлярэўскага і Лангфела Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1970 г. У 1968 г. А. Куляшову прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі.

---

## БЫВАЙ...

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?..
А ў небе жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль жытнёвых шум,
Туды, дзе гойдала залёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты, што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманы,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я, хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся,
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць зялёны май.

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая.
Твой светлы вобраз панясу я па жыцці.
На ўсходзе дня майго заранка дагарае,
Каб позна вечарам на захадзе ўзысці.

*1928*

* * *

Плыла, цалавалася
Хмара з зямлёй,
Аж жнеі сярпы пакідалі,
Бо ўгледзелі ўжо, як збягаюць па ёй
Маланкі
На жытнія далі.

Таму што нясе яна мёд для пчалы
І робіць дарогу лягчэйшай,
Ўсе рэкі прыцягваць яе пачалі,
І хмара плыве да шырэйшай.

Сябе яна хоча ў тым люстры пазнаць,
Прыціхла,
На цыпачкі стала,
Глядзіць з вышыні
Ў пацямнеўшую гладзь,
Глядзіць,
Толькі плошчы ёй мала.

Зноў хмара злуецца, зноў, мусіць, з тугі
Кідае свае бліскавіцы,
Рассунуць хацела б яна берагі,
Хацела б
Краямі ўмясціцца.

І не ўпершыню з непакоем былым
Удаль адплывае без згадкі.
А следам за ёй,
Як за лёсам сваім,
Спяшаюцца воблакаў статкі.

Глядзяцца — адбітыя ў завадзяў шкле —
З нябёс у люстраную плошчу,
Красу сваю бачаць, блакіт свой.
Але
Я воблакам тым не зайздрошчу.

Хачу неспакойнаю хмарай грымець,
Маланкамі ўвесь апавіты,
Каб цяжка адразу было зразумець
Ці вокам акінуць,
Які ты.

Спакою не ведаць ні ноччу, ні днём
І не прыставаць у знямозе,
Вялікай любові дажджом
І агнём
Зямлю цалаваць па дарозе.

*1940*

## БАЛАДА АБ ЧАТЫРОХ ЗАЛОЖНІКАХ

Іх вядуць па жытняй сцяжынцы.
Чатырох.
Пад канвоем.
З дому.
Чатырнаццаць — старэйшай дзяўчынцы,
Тры гады хлапчуку маломў.
Разам з імі ў падвал халодны
Гоняць цётку — сястру Міная,
А Мінай — гэта бацька іх родны,

Бацька родны,
Мсціўца народны.
Піша вораг аб ім у газетах,
Аб чырвонай
Брыгадзе ягонай,
Па усіх
Былых сельсаветах
Клеяць новы
Загад суровы.
Са слупоў, са сцен, аканіцаў
Пагражаюць Мінаю загадам:
Ён павінен скарыцца,
З'явіцца,
Здацца ў рукі фашысцкім уладам.
І вісіць той загад друкаваны
На Мінаевай хаце і клеці;
А не з'явіцца — расстраляны
Будуць заўтра заложнікі —
Дзеці...
У чаканні смяротнага часу
У падвале дзеці Міная.
З імі цётка іх родная разам,
Ёй таксама расстрэл пагражае.
— А чаму нас вартуюць салдаты? —
Знаць маленькаму хлопчыку трэба,—
А чаму не пускаюць за краты,
За якімі і сонца, і неба?
А ці скора нас вызваліць татка?
— Скора,— цётка гаворыць малому,—
Татка прыйдзе і ўсім нам, дзіцятка,
Волю дасць, і мы пойдзем дадому...
— А чаму не прыходзіць ён? —
Сыну
Цяжка ўсё растлумачыць адразу.
— Спі, засні,— суцяшае жанчына
У чаканні смяротнага часу.
Цётка дзецям, уклаўшы малога,
Кажа праўду пра лёс іх суровы.
Не павінен ведаць нічога
Толькі меншы — сын трохгадовы.
— Вы нічога яму не кажыце,—
Навучае
Дзяцей Міная.

Сын у сне гаворыць аб жыце,
Па якому
Пойдзе дадому.
У астрожнай
Трывожнай
Цішы
Сняцца краты меншаму сыну:
— Тут і мокрыя сцены,
І мышы...
Татка, татка... забыў нас... пакінуў.
— Спі, засні,— суцяшае кабета,—
Спі, сынок, не твая гэта справа.
Спі, наш татка не прыйдзе,
На гэта
Ён не мае бацькоўскага права.

Ноч праходзіць,
Сонца ўзыходзіць,
Заспявалі жаўранкі ў полі.
Іх выводзяць салдаты
За краты.
Хлопчык рад і сонцу, і волі.
Іх салдат
Да сцяны прыстаўляе.
Цэліць кат
У льняныя галовы,
Пачынае
З сына Міная.
Стрэл.
Упаў хлапчук трохгадовы...
Кат ізноў пісталет узнімае...
На сцяне — заложнікаў цені...

Вось і ўсё.
Перад бацькам Мінаем
Станьце ўсе бацькі на калені!

*1942*

## НАД БРАЦКАЙ МАГІЛАЙ

Ёсць над Старою Русаю
руская вёска Лажыны.
Там, нібы ў Беларусі,
і вербы растуць, і рабіны.
Там жаўцеюць
Прыгожыя
Краскі
За вёскай у лузе,
Там ржавеюць
Варожыя
Каскі,
Нібы ў Беларусі.
Там магіла ёсць брацкая ў лузе
за вёскай Лажыны,
Там хлапцы беларускія чэсна галовы зпажылі.
Мы без слёз іх хаваем,
Памятаем пра свой абавязак,
Нашы слёзы саромяцца
мужных вінтовак і касак.
Мы не плачам, хоць знаем,
не проста салдацкія косці
Засыпаем мы жвірам халодным,
а большае штосьці...
Засыпаем мы твары
з вачамі і вуснамі тымі,
На якіх пацалункі
дзяцей і жанок не астылі.
Жвірам сыплем на рукі,
якія дзяцей тых насілі,
Жвірам сыплем на ногі,
якія паўсвету схадзілі.
Ногі просяцца ўстаць,
яны стомы ў дарозе не чулі,
Ды ўвагналі ў магілу
Іх сілу варожыя кулі.
Рукі хочуць яшчэ
да грудзей прытуліць сваіх сірат,
Ды з варожае ласкі паганай
дол цесны ім вырыт.
Хоць прымае іх гэта зямля,
як сыноў сваіх, шчыра,

Але просяць іх вочы
хоць жменьку палескага жвіру.
Толькі дзе яго ўзяць?
Як яны Беларусь пакідалі,
У дарогу з сабою
Мяшэчкаў з зямлёю не бралі.
Што ім жменька зямлі той?
Ты ўся ім патрэбна, радзіма,
А ў дарожным мяшэчку
ўмясціць цябе ўсю немагчыма.
Паспрабуй у дарогу забраць
тыя пожні, палі і крыніцы,
Тыя пушчы, што могуць
хіба толькі ў сэрцы ўмясціцца.
Беларусь мая родная,
як жа я рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
увесь і чабор твой і верас!..
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам пад сілу;
Наглытацца хачу тумаоў,
Твайго ветру і пылу;
Наглытацца хачу за сябе і за тых,
Што не ўстануць з нябыту;
Вочы просяць нябёсаў тваіх,
Ім твайго не хапае блакіту.
Мы сяброў засыпаем зямлёй —
Ленінградцы, татары, узбекі,
Мы клянёмся варожай крывёй
Напаіць беларускія рэкі.
Мы салют аддаём, памятаючы свой абавязак,
І не плачам, бо слёзы суровых саромяцца касак.

*1942*

## КАМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ

Цвёрда трымаўся юнак на дапросе,
Тоячы словы і думкі свае.
Вораг-жандар дакурыў папяросу
І камсамольскі білет аддае.

— Вось і білет твой,— сказаў ён ласкава,—
І ад яго на вачах у людзей
Ты адцурайся; выгодная справа:
Жыць застанешся,— жыццё даражэй.

Што ў ім карыснага? Кніжка, не болей.
Кніжку спалі, і размовам канец!
— Не, не спалю! — адказаў камсамолец,
Хай лепей сэрца мне спаліць свінец!

— Ты не згаджаешся? Вельмі шкадую.
Кінь свой білет у палонку тады.
— Не, я не кіну ў ваду ледзяную,
Сам лепш зайдуся ад лютай вады.

— Добра, хай будзе па-твойму.— На гэтым
Доўгі і нудны спыніўся дапрос.
І юнака з камсамольскім білетам
Босага гоняць на люты мароз.

Там ён, абліты вадой ледзяною,
К сэрцу рукою білет прыціскаў,
Быццам білет пад сцюдзёнай вадою
Сэрцу юнацкаму стыць не даваў.

Так і стаяў, смеючыся над катам,
Доўга па целе сцякала вада;
Так і застаўся стаяць каля хаты,
Быццам з чысцюткага літы ільда.

Так і стаіць, як жывы, перад намі,
Так і стаіць, прыціскае білет,
І не развітваецца з сябрамі,
І прастаіць яшчэ тысячы лет.

Ды не карой ледзяною пакрыты,
Ды не абліты вадой ледзяной,—
Выліты з бронзы і сонцам абліты
Будзе ён вечна стаяць над зямлёй.

*1943*

## КОЛАС

Коласу — вырасціць жменю зярнят.

*Максім Танк*

Шуміць авёс, звініць ячмень,
І верыш ты ахвотна,
Што каласы цалюткі дзень
Красуюць бесклапотна.

Ты працай дзень распачынаў,
Пацеў пад сонцам летам,
А коласу як быццам спраў
Няма. Няпраўда гэта.

Ты, з працы ідучы, прыкмець
Ягоную работу —
Вусамі ён варушыць ледзь,
Ён мокры ўвесь ад поту.

Не проста ён глядзіць увысь
На светлыя аблокі,
А знізу ўверх, а зверху ўніз
Свае ганяе сокі.

Ён з глебы гоніць кропляў шмат,
Іх грэе на праменні,
Бо трэба вырасціць зярнят
Яму не меней жмені.

Ён ловіць сонечны прамень,
Нябеснай рад вадзе ён,
Так напрацуецца за дзень,
Што ночку ўсю пацее.

Ні днём, ні ноччу ад турбот
Спакою ён не мае.
А раніцою з твару пот
Ён сонцам выцірае.

*1946*

## КАМУНІСТЫ

Камуністы — гэта слова, як са сталі,
Камуністы — гэта слова, як з агню.
Маркс і Энгельс нам імя такое далі
Сто гадоў таму назад упершыню.

Сто гадоў таму назад было нас мала,
Сто гадоў назад мы выйшлі на вайну,
Сто гадоў мы рыем дол для капітала,
Для хаўтур яго збіваем мы труну.

Мы не верым ані ў бога, ні ў малітвы,
І няма для нас другіх свяцейшых слоў,
Апроч лозунгаў і заклікаў да бітвы,
Апроч песень, ад якіх бунтуе кроў.

Нас не раз яны ўздымалі, як загады,
Камунізма даль — наш вырай дарагі,
Гнёзды нашыя — з каменняў барыкады,
Крылы нашыя — чырвоныя сцягі.

Камуністы — гэта Леніна салдаты,
Воляй партыі з'яднаныя рады.
Упісаны перамог сусветных даты
Іх крывёю ў каляндар на ўсе гады.

Незабыўных не забудзем мы ахвяраў,
Да канца за нашу справу пастаім,
Сцяг чырвоны векапомных камунараў
Нашай змене для палёту аддадзім.

Так і я аддам, як спадчыну, дазвання,
Барацьбы агонь, што ў сэрцы берагу.
Камуністы!.. Гэты заклік да змагання
Вымаўляць без хвалявання не магу.

Гэтым словам, гэтым імем самым чыстым
Самых блізкіх мне я клічу не адзін,
Я хачу, каб называўся камуністам
Родны сын мой, а таксама сынаў сын.

Сто гадоў прайшло, і блізка наша мэта,
Да якое з барацьбою мы ішлі,
Хутка будуць называцца — знаю гэта —
Камуністамі ўсе людзі на зямлі.

*1948*

## ДА ПАЭЗІІ

Я — вязень твой, а ты — мая турма,
Асуджан я любоўю пажыццёва.
Зняволенне маё датэрмінова
Ты скараціць спяшаешся дарма.

Дарэмна, заняволіўшы другога,
Ты варту памяншаеш мне ўдвая —
Не мае сэнсу гэта засцярога
І гэтая прадбачлівасць твая.

Я не збягу, пазбаўлены нагляду,
Не перастану ланцугом грымець,
Штодзень хадзіць на шпацыр па раскладу,
Галадаваць і ў карцэры калець.

Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,
Змяніць мой лёс уладаю сваёй,
Не ты мяне абрала — вязень твой
Абраў цябе на тэрмін пажыццёвы.

*1960*

## ПЕРАД ПАДАРОЖЖАМ

Агонь начлежны смаліць вецце,
Скубе мурог падбіты конь,
А я апошняга трохлецця
Дзень кожны кідаю ў агонь.

Я быў шуканнем ашуканы,
Дарогай у палон узят.
Не я — мой конь, непаслухмяны,
Непадкаваны, вінават.

Лясы б маіх блуканняў высеч,
Распяцца б на крыжы хваін
За сотні дзён, за сотні тысяч
На вецер пушчаных хвілін.

Адзін здабытак мой — пакуты,
Што сівізной ляглі на скронь.
Не лёд душы, а боль пякучы
Я ў прагны кідаю агонь.

Палю я рэшту дзён мізэрных,
Але не за цяжкія іх
Шуканні вернасці ў няверных,
Святой любові ў несвятых.

І не за тое іх палю я,
Што абпаліўся жорстка сам,
Што больш за марай не палюю,
Гадоў на марнасць не аддам —

Палю з рашучасцю суровай,
Каб сталь з іх выплавіць
да дня,
Загартаванаю падковай
Надзейна падкаваць каня.

Палае горан мой у соснах,
Куецца ў ім дарожны дух
Для горных круч,
для хваль высозных,
Для самых грозных завірух.

*1961*

## НА ПАЎМІЛЬЯРДНЫМ КІЛАМЕТРЫ

Жыццё маё на хуткасць гуку
Памнож і множанне правер.
Вось ты і адкажы, навука,
Адкуль вяртаецца цяпер

Лясной вяшчунні кукаванне,
Што, абудзіўшы першы сон,
Калісь пазвала ў вандраванне
Мяне на многа тысяч дзён?

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры,
Паміж наступным і былым.

Пакліч — былое адгукнецца
Жалейкаю за хваіной;
Скранісся — і важкой хадой
Наступнае ў паход кранецца.

Пяройдзе шлях у новы шлях,
Расстанне — ў новае спатканне,
Напеў жалейкі — ў труб гучанне,
Выток жыцця — ў жыцця працяг.

*1961*

* * *

Гадзіннік мой — не сонца, што ў зеніце,
Гадзіннік мой — не сэрца, што ў грудзях.
Сваім дакладным часам на арбіце
Сама зямля мой вымярае шлях.

Начы і дня адбіўшы чаргаванне,
На месцы не стаяць мацерыкі —
Па іх жывым і сонечным экране
Бягуць дарог і рэчак ручнікі.

Дыван вясны перацвітае ў лета,
Завея лісцяў — у сняжынак пух;
Я не хачу, каб некалі ўсё гэта,
Хаця б на момант свой спыніла рух.

Хай сэрца стане, сонца ў хмарах згіне,
А ты, зямля, няспынным крокам кроч,
Не дай на той мне ўпасці палавіне,
Дзе дня не будзе, будзе толькі ноч.

*1962*

* * *

Нябёсы — акіян, я знаў даўно —
Блакітны, неабсяжны, першародны,
А ўсё, што зорам на зямлі відно,
Ні больш ні менш, як свет яго падводны.

Тут — водарасці пушчы векавой,
Бялявых хмар, вятроў бясконцых плыні,
Спрадвечных гор застыўшыя вяршыні,
Усё яго — да хваль, што пада мной,

Дзе акіян разлёгся Атлантычны...
Тут свет другі: і глыбіня, і мель,
І ёсць прастор, не меншы за касмічны,
Для хваль салёных ростам з карабель.

Я — трэці свет, я — кропелька малая
Тых светаў двух — звычайны чалавек,
Што неба і зямлю ў сабе змяшчае
І ў свет адзін злучае іх навек.

*1962*

* * *

Парушыўшы законы прыцягнення,
Планетамі сярод другіх планет
Існуем мы з табой як выключэнне,
Мая любоў,— як свет і антысвет.

Ніколі мы адной не ходзім сцежкай,
Не дзелім хлеб і дзелім толькі соль,
Ты сустракаеш смутак мой усмешкай
І смуцішся, калі міне мой боль.

Адказваеш на мой сардэчны захад
Нязгодай, самай крыўднаю з нязгод.
Здаецца, павярніся я на захад,
Як тут жа ты павернешся на ўсход.

Аднак зямля б мая асірацела
І ўвесь сусвет ахутала б імгла,
Каб, выбухнуўшы раптам, адляцела
Ты ў невядомасць з хуткасцю святла.

*1962*

* * *

Не старадаўні бард, але ўсё роўна
Якогасць барда праўнук альбо ўнук,
Я доляю сваёю з ім не роўны:
Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук,

А ўсю Зямлю з арэнай —
Млечным Шляхам.

Качу яе, падобную на мяч,
Ахопленую вадародным жахам,
Як хворую, загортваю ў кумач,
Сачу, каб не скрануў яе з арбіты
Заакіянскі ядавіты грыб.

Галактыкі, як сведкі і арбітры,
Дарма з трыбун высокіх і сядзіб
Глядзяць на паядынак мой вячысты,
Як на даўно для іх знаёмы жарт.
Мяч круглы, як гавораць футбалісты,—
Яшчэ пабачым мы, чаго ён варт!

*1962*

* * *

Лес адпалаў і чорным стаў ад страты —
Агонь з галін абсыпаўся ўначы.
Завея гоніць лісцяў абручы
Па гулкіх уладаннях аўтастрады,
Туды, дзе халады і снегапады.

Аддаўшы лета бабінага жар
Кюветам, а нябёсам — павуціны,
Бярозы голыя чакаюць хмар,
Гатовыя зарыцца ў іх пярыны
Ад бессаромных сцюж і зыркіх фар.

Дзён залатых, раскіданых па свеце,
Не шкода мне — з дарог не падбяру.
І я гатоў, як дрэў трывалых вецце,
Пераступіць яшчэ ў адну пару
Свайго жыцця, пакінуўшы ў кювеце
Прыгожую ману аб вечным леце.

*1963*

* * *

Я хаце абавязаны прапіскаю —
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю, глінянай міскаю —
Усім, чым працы абавязан стол.

Я — матчын спеў, я — матчыны трывогі,
Я — матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад — у нару з нары —
Траціла́ваю пугай перамогі.
Дыміліся сямі франтоў дарогі
За мной, як дынамітныя шнуры.

Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварыў у бамбасховішча,
Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,
Мільярд калысак — у мільярд магіл.

*1963*

## САСНА І БЯРОЗА

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса,
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары ў пякельных катлах
Судна, паравоза
Прайшлі яны поруч гарачы свой шлях —
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны
Акопная проза:
Служыла салдатам сасна — для труны,
Для крыжа — бяроза.

Знікала з тузоў, гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынайшлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...
А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

*1968*



# ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ

Валянцін Паўлавіч Таўлай (8.2.1914, г. Баранавічы — 27.4.1947). Маленства правёў на радзіме бацькоў, у в. Рудаўка Слонімскага р-на. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі (1925), адкуль выключаны за нежаданне адмовіцца ад беларускай нацыянальнасці. З 1927 г. вучань Віленскай беларускай гімназіі, адкуль у 1929 г. выключаны як адзін з арганізатараў вучнёўскай забастоўкі. У 1929 г. за падпольную камсамольскую дзейнасць арыштаваны, зняволены ў слонімскую, пасля гродзенскую турму (1929—30). У 1930—32 гг. у Мінску: працаваў у газеце «Звязда», вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У снежні 1932 г. адкліканы на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь — член цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ у Варшаве, адзін з фактычных рэдактараў «Беларускай газеты». Прадстаўнік ЦК КПЗБ у Цэнтры нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. У 1934 г. арыштаваны пры спробе пераходу граніцы ў Савецкую Беларусь. Сядзеў у віленскай турме Лукішкі, асуджаны на 8 гадоў зняволення ў гродзенскім астрозе.

У 1939—41 гг. працаваў у лідскай раённай газеце «Уперад». У Айчынную вайну сувязны партызанскага атрада ў Баранавіцкай вобл., разведчык спецгрупы «Буравеснік» (1942—44). У 1944—45 гг. адказны сакратар навагрудскай раённай газеты «Звязда», у 1945—47 гг. навуковы супрацоўнік і намеснік дырэктара літаратурнага музея Я. Купалы ў Мінску. Друкаваўся з 1928 г. Першы пасмяротны зборнік «Выбранае» (1947). Выйшлі «Выбраныя творы» (1951, 1958), «Вершы і паэмы» (1955), «Творы» (1961), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967), «Пілую вершам краты» (1984).

Выступаў як крытык, публіцыст. Пераклаў на беларускую мову паасобныя вершы А. Міцкевіча, І. Крылова і інш.

---

## ДЗЯЎЧЫНЕ

І зноў загарэліся нашы зоры,—
аднак не пабачымся мы:
дарога мая напаткнулася ўчора
на шэрыя сцены турмы.

Знямела на міг ля адчыненай брамы,
і — жвір пад нагамі заныў...
Няхутка, дзяўчына, ізноў вечарамі
блукаць мне з табой у жытным.

І толькі штоноч на турэмнай пасцелі
жадаць, западаючы ў сон,
каб мары на крыллі журботным ляцелі
мінулым начам наўздагон.

Дагоняць —
зноў сцелюцца сцежкі пад ногі,
мой крок —
роўны з крокам тваім,
і зорамі звонка асыплюць дарогу
спагадлівыя салаўі.

І сэрца ў міраж, як у шчасце, паверыць
і соладка таяць пачне...
А раніца збудзіць,— акутыя дзверы,
іржавыя краты ў акне.

Ці доўга аб даўнім сны сніць у палоне?
Хто скажа? Гады праплывуць...
Калі не загіну,— усё буду помніць,
і ты, жывучы, не забудзь.

*1929, верасень*
*Слонім, астрог*

## АПОШНЯЕ СЛОВА

Аб чым прашу? — пытаеце дарэмна.
Надзеліце мяне вы без таго
і кайданамі, і пайком турэмным
не на адзін закратны, доўгі год...

Судзіце Рэчы Паспалітай імем,—
пакуль што вам судзіць, а нам —
ламаць турму,
і пад рукамі нашымі худымі
яшчэ пасыплецца халодны мур.

Я — камунар! Такіх, як я,— нямала
на нашай стогнучай спакон вякоў зямлі.
Ні разу нас магнаты не зламалі,
турма і шыбеніца не змаглі.

Міналі царствы золата і здрады,—
і ваша панаванне праміне.
Ці ж першыя вы судзіце за праўду?
Ці ж першага вы судзіце мяне?

І перад вамі на сукне зялёным
закон, падпісаны яшчэ царом.
Вы судзіце нізрынутым законам:
яго даўно разбіў народны гром.

Панове, скончыў я. Чарга — за прыгаворам.
Пайду ў турму і веру — будзе год,
калі маю прамову дагаворыць
натхнёны барыкадны кулямёт!

*25 лістапада 1929*
*Гродна, астрог*

## ЛУКІШСКІЯ ВЕРШЫ

Калі наспее ў сэрцы гром
і задрыжаць Лукішкі,—
пішу я вершы не пяром,
не ў запісную кніжку.

Тут і агрызак алаўка
недатыкальней табу,
а знойдуць — аднаго чакай:
за ўсё адкажуць скабы!..

Але нашто душой крывіць?
Знайсці — не іх рукамі:
я верш пад ззянне бліскавіц
запісваю у памяць.

Няхай вісіць загад-пятля
і суліць карцэр, голад...
Спалі маланка вас датла,
халодныя назолы!

Я сам і пасядзець магу,
а вершам — часу шкода:
шумець ім трэба на сцягу
і калыхаць паходы.

Глядзі ў ваўчок як дзень, так ноч,—
не ўбачыш, чорт зіркаты,
што я заўзята і даўно
пілую вершам краты.

*1935*
*Вільня, Лукішкі*

## БАЦЬКУ

Зноў цябе, мой родны, сустракаю
за маўклівай брамаю турмы.
Не такая то сустрэча, не такая,
пра якую летуцелі мы!..

Слова шчырае на вуснах вяне,—
ўсё чужыя вушы на віду...
Толькі вочы свецяцца вітаннем,
толькі сэрцы гутарку вядуць.

Ціхі сум апаў табе на вочы,
выглядае з іх і любасць і дакор,
быццам кажаш: «Сыне, мой сыночак,
ну калі ж ты выйдзеш на прастор?

Вось каторая вясна ўжо будзе
прыбіраць, аквечваць наш садок!
Гэты мур вясну ізноў астудзіць,
замарозіць у карэнні сок...»

Ах, мой любы! Хто ж тугі не знае? —
І ў турме яна разносіць боль...
Толькі ноччу на пасцель, хоць з краю,
сесці пані гэтакай дазволь.

Мы яе, праклятую, ўсё гонім,
каб не путала ні думкі, ні крыла,
І яснеем, калі ў холадзе далоні
пачынаюць зацiскацца і палаць.

Не ў адным мільёне рук заўзятых,
да крыві зацiснутых, ізноў
спее сіла нашае расплаты
з катамі, праклятымі даўно.

Прыйдзе час — абваліцца пад ломам
гэты мур падточаны, стары,
і на першым сонечным праломе
абмяняюцца слязой сябры.

Пот абцёршы, выйдзем, хто не згінуў,
п'яныя ад полымя, ў крыві.
Толькі ты, мой родны, мой адзіны,
да хвіліны гэтай дажыві.

*1 лютага 1935*
*Вільня, Лукішкі*

## ТАВАРЫШ

### Паэма

### 1

Спачатку было тут вузка
і яму і яго вясне.
Краты гнуў, надрываючы мускулы,—
думаў хлопец: краты сагне...

Дых спірала ў грудзях шырокіх —
наваліўся на грудзі мур,
а на лаце асфальту — і кроку
не было як ступіць яму.

Гэтак мала нагам прастору,
гэтак многа душы ярма.
І няскора, відаць, няскора
дні на пальцах лічыць турма...

І пакуль на секунды дробіш
доўгі, шэры астрожны дзень,—
пачынаеш сотую спробу,
ці турма не падасца дзе.

Адчыняе камеру стражнік
і збанок падае вады,
бліскавіца-спакуса дражніць:
вырваць ключ, а яго — сюды...

Праплывае чорная хмара,—
ён, здаецца б, хмару маліў,
каб пярун у астрог ударыў,
гэты камень з грудзей зваліў.

### 2

Не таўчы ты ў мур кулакамі:
не здрузгочаш голай рукой
цэглу гэтую, гэты камень,
што зрасліся спакон вякоў.

Лепш услухайся вухам чуткім,—
чуеш, браце: грыміць здалёк
на шляхах і на цвёрдым бруку
шматмільённы паходны крок.

І як рэха крокаў адлеглых,
стук — то роўны, то трапяткі:
гэта — нашы думы праз цэглу
прабіваюцца напрасткі.

Нават мур і той не аддзеліць
нас ад волі і ад сяброў.
І ўрываецца ў кожную цэлю
свежы подых іспанскіх вятроў.

Можа, ноччу мяне скатуюць;
заўтра кату на подлы ўдар
слова цвёрдае: «Пратэстую!»
з кожнай камеры ўдарыць у твар.

Вочы стражніка злосна засвецяць,—
адгадаеш: сказалі ўсе.
А пратэсты заўсёды вецер
праз драты на волю нясе.

3

Хлопца думы апанавалі...
Зноў на шлях адвечных бяроз
выпраўляла матуля ўдалеч.
Вочы матчыны поўныя слёз.

Расступіліся сцены адразу,
і разрося асфальт пад нагой —
захадзіў задуменна вязень
ад адной сцяны да другой.

Ён ішоў не па цэлі, здаецца,
а па сцежках сваіх былых,
і шумеў успамінам у сэрцы
прыдарожны сівы палын.

Білі ў бераг Нёмнавы хвалі,
і плыты заганяла на мель.
Дружна плытнікі баставалі,
баставала лясная арцель.

Забастоўшчыкам неслі дзяўчаты
хлеб і свежае малако —
надарэмна купец заўзяты
пагражаў і трос кулаком.

Устаяць купцу не ўдалося.
А як хлопца вялі ў турму,—
ўслед шумела тужліва калоссе,
нізка кланялася яму.

4

А пасля навучыўся стукаць,
перастаў і спаць, і хадзіць.
Хітры стражнік па гулкім груку
прылавіў — давялося пасціць[1].

Але як ні каралі старанна,
ён ад мовы Морзе не адвык,—
і злачынствам, і пакаранням
бескарысна губіўся лік.

Хутка ён разумеў з паўслова,
што задумаў стукаць сусед.
Па начах перастукі-размовы
весці з хлопцам любілі ўсе.

Як сапраўдны стары палітвязень,
мог «каня» на вярсту запусціць.
А схавае — ні ў якім разе
«грыпса» стражніку не знайсці.

І калі на зары ў пасцелі
прарабляў чарговы даклад,—
аж дзівіўся, што з цеснай цэлі
адсланяўся такі далягляд.

---

[1] Пост — форма пакарання за парушэнне рэжыму, скарачэнне астрожнага пайка да хлеба і вады.

Год прайшоў, пагналі, скаваўшы,
павялі на суд па гады.
Як вяртаўся, паказваў нашым
пяць гадоў — пяць пальцаў худых.

5

Кінуў Франка фалангу ў штурмы
на сталіцу волі — Мадрыд.
І камуны нашыя ў турмах
сам Грабоўскі[1] узяўся скарыць.

Рушыў голад у наступленне
на акоп непрыступны ў мурах...
Чым па-рабску жыць на каленях,
лепей стоячы паміраць!

За пратэст ад імя ўсіх цэляў
хлопца ў карцэр кінулі зноў.
Ён з вільготнага падзямелля,
гулка кашляючы, прыйшоў.

І, прыслухаўшыся, адразу
распытаўся праз «тэлеграф»,
ці фашысцкая тая зараза
хоць на каліва адлягла.

Доўга вестку моўчкі абдумваў,
а пасля суседа з гары
папрасіў ратаваць ад суму,—
пераслаць... крыху закурыць.

І ў суседа з махоркай блага,
трэба ў марах дымок пускаць...
Будзь праклятаю ты, фаланга!
Будзь праклятым, Грабоўскі-кат!

---

[1] Грабоўскі — міністр юстыцыі буржуазнай Польшчы, пасля паездкі ў Германію, дзе азнаёміўся з гітлераўскай астрожнай палітыкай, увёў вострае абмежаванне перадач з волі, накіраванае на выгаладжванне палітзняволеных.

6

Над турмой — неспакойныя думы
і мадрыдскія сны плывуць...
Знемагае душа ад глуму,—
па-іспанску трымай галаву!

Назмагаўшыся днём з Грабоўскім,
ноччу (дзверы адчыніць сон)
у брыгадзе імя Дамброўскага[1]
маршыруе таварыш на фронт.

І заўсёды — патрон апошні,
і заўсёды — паўзе, як гад,
люты вораг, агнём не падкошаны...
І таварыш хапае прыклад.

...Ах, чаму ж гэта сілы вянуць
і няма як рукой крануць?
Што гара, налёг мараканец,—
грудзям сціснутым не дыхнуць...

І прачнуўся, абліты потам.
Недзе гул адгрымеў гармат,
і свістала бяззубым ротам
у асіплы свісток турма.

Узнімаўся з ложка, як стручаны.
Харкнуў двойчы — і кроў і боль...
І яшчэ раз плюнуў балюча,
толькі глянуць — не глянуў больш.

7

Паламаўшы крылле аб краты,
дзень канаў і канаў — без канца.
Доўга стыў кавы пах гаркаваты,
доўга стыў на стале панцак...

Сеў за кнігу,— не бачыць літар:
вее полымем ад яе.
І рукою самлелай выцер
губы высахшыя свае.

---

[1] Адна з інтэрнацыянальных брыгад, якія змагаліся ў Іспаніі супраць фашыстаў.

Смага чорная сэрца паліць,
а збанок — у самым кутку...
Змераў вокам — такая далеч.
Вязнуць ногі ў асфальтным таку.

Страпянуўся... Пачула вуха
стук знаёмы: да сценкі прыпаў
і, хоць весткі ўсяе не даслухаў,
па мелодыі адгадаў...

— Не магу!.. На хвіліну прылягу,
хай гарачка перагарыць.
Ах, Малага, мая Малага!
Мой высокі, родны Мадрыд!

Загадай, Далорэс Ібаруры,
каб ні кроку болей назад!..
Я прыйду, і паспею да штурму
на чале беларускіх брыгад.

*

Непрытомны, схапіўся ноччу
і датуль выстукваў пароль,
аж пакуль недзе ў цэлі змрочнай
з нары сакратара не спароў.

Злез адказны з пасцелі нехаця,
да халоднай сцяны прылёг,—
дзіўны сказ укладае рэха
з літар, выстуканых здалёк;

— Я чакаць... не магу, таварыш...
там сцякаюць... крывёй сябры...
дазваляй... сакратар, мне... адразу...
на іспанскі фронт... у Мадрыд...

Усміхнуўся ў вусы адказны:
«Хлопцу жарты наўме,— няхай...»
І адстукаў дробна, выразна:
«Не пярэчу. Шчасліва. Бывай».

Жартаваў сакратар не ў пору
і падумаў зусім не так:
смерць стаяла з таварышам поруч,
выбіваючы дзіўны такт...

Заўтра, дружа, успомніш з болем
словы, сказаныя неўпрыцям,
зразумеўшы, нашто дазволіў,
куды выправіў, хоць і не сам.

9

Дзень займаўся звычайны, астрожны.
Як заўсёды, свісток свістаў.
Першы раз таварышу можна
на праверку і то не ўстаць.

Ні Грабоўскі яму не зважыць
маткай высушаных сухароў,
ці турэмны фельчар не скажа:
«Сімулюеш, як бык, здароў».

Спасавалі перад нязломным,
перад сэрцам, поўным агня.
Ён падаўся з камеры цёмнай
у далёкі паход да дня.

Толькі ты, старая матуля,
і не бачачы, век любі
постаць родную, што ссутулена
выйшла з хаты ў шлях барацьбы.

І пайшла, і ў слязах расплылася,
і не вернецца больш назад
ні да ціхай матчынай ласкі,
ні да гэтых адвечных прысад...

Ён ляжыць на нары халоднай,
малады — як ніколі раней.
Яго сэрцу ў вятрах паходняй
з пірэнейскіх скал палымнець.

*1936—1946*



# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ

Уладзімір Клішэвіч (27.2.1914, в. Чырвонадворцы Слуцкага р-на Мінскай вобл.— 14.11.1978). Скончыў Старобінскую сямігодку (1930), потым педагагічныя курсы ў Слуцку. У 1933—36 гадах вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. У жніўні 1940 года з Калымы быў прывезены ў Мінск на перагляд справы, але з турмы выйшаў у сувязі з перыпетыямі пачаўшайся вайны. Пад час акупацыі займаецца журналістыкай («Газэта Случчыны») і ў 1944 годзе пакідае радзіму. Жыў спачатку ў ФРГ, затым у ЗША. З вершамі выступіў на пачатку 30-х гадоў. У 1973 годзе зборнік паэзіі У. Клішэвіча «Сняцца дні мне залатыя» быў выдадзены ў Мінску рэдакцыяй газеты «Голас Радзімы». Аўтар неапублікаваных паэм «Васіль Каліна», «Шлях у светлае».

## ГУСІ

Праляцелі гусі па-над цёмным борам,
Смутак заранілі ў сінія прасторы.

Праляцелі гусі па-над чыстым полем...
Дзе ты, маё шчасце? Дзе ты, мая доля?

Ой, вазьміце гусі з сабой на хвіліну,
Бо ў мурох я гэтых без пары загіну.

Запытаў у іх я аб сабе нясмела:
— Ці не разам з вамі шчасце паляцела?..

Не сказалі слова, замаўчалі самі.
Гаманілі сумна сосны з верасамі...

*1937, верасень*
*Мінская турма*

* * *

Ой, чаму ў вас, тужлівыя ліпы,
Песня суму заўсёды адна?
Няхай я кубак роспачы выпіў,
Праглынуўшы атруту да дна...

Няхай я з акалелай душою
Вечна восень у сэрцы нашу,
Каб знайсці хоць хвіліну спакою
І парадаваць гэтым душу.

Мне сібірскія сняцца завеі,
Сніцца мне чорных дзён Калыма,—
Край, дзе людзі губляюць надзеі,
Край, дзе людзям ратунку няма...

Толькі ўбачу, як золата свеціць,—
Паўстае мёртвых целаў гара,
Паўстаюць іх галодныя дзеці
І крывёй на метале гараць.

Хто малюнкі знішчэння забудзе!
На ратунак жыццё не заві...
Страшным золата робіцца людзям,
Што гарыць пералівам крыві.

Не сумуйце, асеннія ліпы,
Калі радасць мая не відна...
Кубак роспачы ўчора я выпіў,
Праглынуўшы атруту да дна.

## НА ЧУЖЫНЕ

Калі б сюды буслы лятаді,
Калі б тут ластаўкі жылі,
Мы б крыху меней сумавалі
За морам на чужой зямлі.

Калі б пабачыў дзе на полі
Кароны пышныя дубоў,
Калі б аднойчы ў наваколлі
Зазелянеў Радзімы бор,

Калі б трашчалі тут сарокі,
Спяваў вясною салавей,
Тады б і гэты край далёкі
Рабіўся крышачку мілей.

Ды іх няма. Жыццё няміла.
Што мне з таго — калі б ды каб...
Дарма патрачаны ўсе сілы,
Я на чужыне вечны раб.



# АНТОН БЯЛЕВІЧ

Антон Пятровіч Бялевіч (27.5.1914, в. Дуброўка Уздзенскага р-на Мінскай вобл.— 11.4.1978). З сялян. Вучыўся ў Магілёўскім палітасветным інстытуце (1933—35). Працаваў у газетах. У Айчынную вайну ўдзельнічаў у партызанскім руху. Друкаваўся з 1937 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «На бацькоўскіх сцежках» (1946), «Жывая рака» (1955), «Вясёлка над полем» (1961), «Сонцам заручоныя» (1975) і інш. Для дзяцей кнігі вершаў і паэм «Ідзі, мой сын» (1953), «Тарасікава дарожка (1962), «Дабрадзейны асілак» (1973). На беларускую мову пераклаў паасобныя творы А. Міцкевіча і інш.

## СМЕРЦЬ МАЛАННІ

Да хаты, да самага ганку
Пад'ехалі немцы на танку
У сіняе ціхае ранне:
— Ты Корчык Маланяя?
— Маланяя.
— А муж твой тутэйшы ляснік?
Бальшавік?
Зvaloкся ў басяцкі атрад?..—
Пытаўся нямецкі салдат.

— Дзе муж мой, не знаю, не знаю.
Яго я і ў лесе гукаю.
Яго я і ўсюды пытаю
У блізкіх, далёкіх людзей.
Не кажуць мне людзі;
А дзе,
Чаму ён дадому не йдзе,—
Душою,
Душою не знаю,
Пад небам я вам прысягаю.

Ад хаты, ад роднага ганку
Павезлі Маланню на танку
Да штаба, да Сіняга Логу.
У звон далі людзі трывогу,
Выглядвалі людзі з акон;
Ішлі ўсё,
Ішлі на дарогу,
На звон.

Уранку ля школьнага ганку
Сядзела Маланяя на танку.
А немцы стаялі,
Маўчалі,
Душу як адвесці,
Не знаялі,
Прыдумаць як жарт ім хітрэй,
На смерць каб глядзець весялей,
Каб новаю кара была,
Каб доўга ў расказах жыла,
Каб ехаць з сяла да сяла

І рваць ім ад смеху бакі —
На гэта яны мастакі,
Род такі!

У сіняе ціхае ранне
Сказалі салдаты Маланні:
— Палі гэту свечку.
Ідзі
Праз вёску дадому, к сабе.
Патухне — мы кулю дадзім.
А дойдзеш — даруем табе.

У сіняе ціхае ранне
Праз вёску йдзе Корчык Маланне
І свечку, як зорку, нясе.
Выходзілі з хатаў усе:
— А можа, Бог дасць, данясе?

І людзі стаілі дыханне,
І ціха ступае Малання,
І выйшла ўжо з Сіняга Логу.
На поплаве босыя ногі
Палошча ў пякучай расе.
— А можа, Бог дасць, данясе?

Пранесці б за тую вунь горку,
А там ужо родныя стрэхі,
І ганак, і родны парог.
Ну, хіба ж чуць смех іх не горка?
А можа, прычыны для смеху
Не будзе, дасць Бог?

А вецер халодны ад рэчкі
Павеяў на твар ёй, на свечку,
І свечка маргае, маргае...
Малання той вецер глытае,
А рэчка ўсё больш прыганяе;
Усіх жа вятроў не глынеш,
Вятрам няма мер, няма меж.

— О вецер!
О ветрык мой ціхі!
Ну, хіба ж ты зычыш мне ліха?
Жадаеш ім хіба пацехі?

Жыццё мне загубіш для смеху?
О ветрык,
О вецер крылаты!
Мне ж блізка да роднае хаты,

Пад родныя блізенька стрэхі.
Прашу я, прашу цябе, любы:
Злітуйся,
Змілуйся...—
Шаптала,
Кусала пасохлыя губы
І вецер глытала.

Малання сышла ўжо за горку
І свечка ў зацішку,
як зорка,
Гарэла, мігцела прыгожа.
На двор узыходзіць.
О Божа!
Да ганку, да вокан нясе.
І ліпа лісты ёй трасе,
І радасны клёкат бусла,
Ўздыхнулі ўсе лёгка:
— Прыйшла!

У сіняе ціхае ранне
Тры кулі дагналі Маланню,
Упала яна, папаўзла,
І кроў аганёк заліла.

*1943*

## МАТЫЛІ

У нашай сонечнай хаціне,
Здаецца, сцены расцвілі:
То колер жоўты,
Колер сіні,
То матылі ўсё,
Матылі.
І ўсё ляцелі,
Ўсё ляцелі.
Вось так бы мы з табой
хацелі
Ляцець у родныя палі,
Як матылі,
Як матылі.

Лаўлю і гладжу я рукою
Па аксамітавым крыле...
А гэта вышыты табою
Ружова-сіняю каймою
Матыль крылаты на стале.

*1943*

## БОНДАР

Не карабель якісь касмічны —
Майструе кадзю пад страхой:
Шургоча пілка,
гэблік звычна
Плыве па клёпцы пад рукой.

Стаіць у стружках па калені,
Пад пілавіннямі варштат.
Умельства рук,
душы натхненне
У працу ўкладвае мастак.

Гатова кадзя.
— Гэн! З-пад стрэхаў,
Таўстая пані, выбягай!..—
Парог кранула —
гулкім рэхам
Гукнуў з яе дубовы гай.

Наліў яе паўнютку варам —
Нідзе працечкі не дала.
Уся спацелая ад пары,
Нібыта ў лазні пабыла...

На Месяц хтосьці скора сядзе,
А гэткі знойдзецца арол.
Ды трэба нам і гэта кадзя —
Гуркі прымае на засол!

І гэту кадзю лоўка, звычна
Майструе бондар, як мастак.
І нат прафесарам сталічным
У век ракетны і касмічны
Патрэбен бондар... Так жа?
Так!

*1963*

* * *

— Якія ў восені прыкметы,
Вядома вам? Скажыце вы!
— На крылах бабінае лета
Нясуць у вырай журавы.

— І ўсё?
— Не ўсё. Нясе вавёрка
Арэхі спелыя ў дупло;
Лістамі сцеле вожык норку,
Каб цёпла ў ёй зімой было.

— І ўсё?
— Не ўсё. Мядзведзь бярлогу
Шукае ў золкі снегапад;
Буслы на поплаве,
за стогам,
Сышліся, быццам на парад;

Важак і лекар іх буслінь
З чародкі гоніць недарэк.
— І ўсё?
— Не ўсё. Гараць каліны,
Крывёй наліты каля рэк.

— І ўсё?
— Не ўсё. У родным полі
Рунь сцелецца, плыве ў прасцяг,
І як ніколі, як ніколі,
У вёсках, сёлах, гарадах
Прапах укропам, духам кмінным
І кожны дом, і кожны стол.

— І ўсё?
— Не ўсё. У магазіны
Прыйшоў хлеб новы з родных сёл
— І ўсё?
— Не ўсё. Ідуць вяселлі,
Садзіцца шчасце на пасад,
І снежных ветраў каруселі
Нястомна кружаць каля хат.

*1964*

## ПЧАЛЯР

Між вуллёў пчаляр ідзе,
Цвет над ім лятае.
А на белай барадзе
Пчолка залатая.
Ціха поўзае сабе,
Як па белым цвеце...
Што ж ён пчолку не зграбе?
Можа, не прыкмеціў?
— От жа скора пекане! —
Крыкнуў пчаляру я.
А ўсе пчолы — на мяне:
Раскрычаўся, дурань!
Размахаўся, як вятрак,
Цішыню парушыў!..
Я — за слівы, за вішняк,
За старыя грушы.
Збег!
А дзядзька-чарадзей
Праз пчаліны звон ідзе,
Цвет над ім лятае.
А на белай барадзе
Пчолка залатая!
Акуратненька яе
Зняў, сказаў: — Галубка,
Не лянуйся. Сад заве.
Мёду дай два кубкі!

*1968*

## СПРАДВЕЧНАЕ

Як воўк памірае?.. Не бачыў,
Дзе схованку ён выбірае.
А чуў, як ваўчыца заплача,
Калі яе друг памірае.

Самотна галосіць ваўчыца,
А жальба — хмызамі, дубровай:
— Ці косткаю мне падавіцца,
Ці конскай жалезнай падковай?

А быў жа ты самы прыгожы:
Ікласты, падгалы, зіркаты.
Устанеш, падымешся, можа,
Лабастых дзяцей нашых тата?

А хто ж іх цяпер прахарчуе?
У іх толькі косці ды скура...

Вядома, не быў я расчулен,
Мяне не кранулі хаўтуры.
Ды толькі нібыта пачуў я
Ў жалобе вялікія буры
Жыцця і любві!

*1968*



# РЫГОР НЯХАЙ

Рыгор Восіпавіч Няхай нарадзіўся 22.11.1914 г. у в. Сяліба Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Завочна скончыў літаратурны факультэт Мінскага настаўніцкага інстытута (1939). Друкавацца пачаў у 1935 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Па сонечных узгорках» (1939), «Маё пакаленне» (1950), «Вялікі мой і ціхі акіян» (1954), «Размова з восенню» (1961), «Асеннія пракосы» (1973, выбранае) і многіх зборнікаў апавяданняў і аповесцей.

* * *

Я з баямі грознымі ішоў
Па зямлі, патоптанай франтамі,
Я чытаў лісты сваіх сяброў
І да болю сумаваў часамі.

Мне ніхто нічога не пісаў:
Беларусь стагнала у палоне,
І дзяўчыны русая каса
На чужыя падала далоні.

Нібы краю роднага красу,
Гандляры на рынку у Берліне
Прадавалі рускую касу
І вачэй знаёмых лівень сіні.

Адступіся, гора, прападзі!
Мне дайсці нялёгка да Бярозы.
Знаю, ўстане шчасця маладзік,
Будзе сонца,
Май,
Спаткання слёзы!

*1943*

## ВЯЛІКІ МОЙ І ЦІХІ АКІЯН

Шуміць ад ветру спелае калоссе
Там, за дарогай,
Дзе ляжаў дзірван,
І не сярпоў крывых —
Камбайнаў просіць
Вялікі мой
І ціхі акіян.

Гуляе поле хваляй залатою.
І радуецца сэрца гоням тым,
Дзе, ўзгадаваны шчодраю рукою,
Буяе колас
На сцябле тугім.

А па табе
Спазнаем мы, сцябліна,
Дзе ты расла,
Хто гадаваў цябе,
Якое сонца свеціць над краінай,
Якія песні пелі на сяўбе.

А песні тыя,
Што ішлі ад сэрца,
Аб Леніне,
Аб партыі былі,
Аб сейбітах,
Што ў грозны час ад смерці
Уратавалі родныя палі.

Ударыць хутка
Крыллямі тугімі
Камбайн навейшай маркі
«Ростсельмаш».
І не адно
Сярод герояў імя
Запіша журналіст у рэпартаж.

Тут, на палях,
Дзе прадзеды і дзядамі
Тупілі косы
Ў бур'янах штогод,
Бяда, як пыл,
Развеяна вятрамі,
Здабыў багацце працаю народ.

І мы ўраджай збіраем стопудовы
Там, за дарогай,
Дзе ляжаў дзірван...
Міжволі шэпчаш радасныя словы:
Вялікі мой і ціхі акіян!

*1950*

# ЦЕЛЯХАНЫ

*Веры Харужай*

Ціха белыя ўстануць туманы,
Пер'е кінуць на возера гусі...
Прад вачмі ажывуць Целяханы —
Незабыўны куток Беларусі.

Целяханы мае, Целяханы,
Ў зорку вашу даўно закаханы.

Шапацяць задуменна аеры
На палескіх прасторах уранні.
Помніць кожны, як мужная Вера
Падымала людзей на паўстанне.

Целяханы мае, Целяханы,
Вашы сцежкі са славы сатканы.

Помняць бор векавы і паляны,
Як ішлі у паход партызаны,
І заныюць старыя раны,
І зажурацца Целяханы.

Целяханы мае, Целяханы —
Родным борам ішлі партызаны.

А цяпер на абшарах багністых
Як праменні — каналы, дарогі,
І святло зор нязгасных, агністых
Азарыла шляхі перамогі.

Целяханы мае, Целяханы,
Вашы далі праменнем затканы.

Зорка ўпала ў аерныя далі,
Прамільгнула над лесам заспаным,
Пазаснулі на возеры хвалі,
Добрай ночы вам,
Целяханы.

*1961*



# РЫГОР ЖАЛАЗНЯК

Рыгор Самуілавіч Жалазняк (верасень 1914, Віцебск — 1942). Вучыўся ў Віцебскім фабрычна-заводскім вучылішчы чыгуначнікаў, працаваў у рэдакцыі газеты «Віцебскі рабочы» (1931—32), займаўся у Віцебскім кінатэхнікуме (1932—33).

Скончыў Ленінградскі універсітэт — (1938), займаўся ў аспірантуры; напісаў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія М. А. Багдановіча» (1941). Загінуў пры абароне Ленінграда. Паэтычны дэбют у 1931 г. Выдаў зборнікі вершаў «Першы вытап» (разам з Б. Люгоўскім, 1933), «Вясновыя будні» (1934).

## ВАЕНМОРАЎСКАЯ

Сіняй пенай,
Мора, пенься,
За кармою,
Вал, цякі;
Разлівайся,
Наша песня,
Па прасторах
Балтыкі.
Узвядзём
　　затвор на ўзвод.
Узвеем
　　вымпел вышай.
Бачым:
　　ў сінь савецкіх вод
Вораг
　　з мінай выйшаў.
Грэбні скалаў
　　хвалі ўзмылі,
Уніз святло
　　маяк схіліў.
Убягаюць змейкай мілі
　　за далёкі небасхіл.
Мы былі
　　ў глыбі Гальштрому,
У Гамбурзе і Любеку.
А цяпер —
　　імчым праз стромы
Да свае рэспублікі.
Завірухі і навалы
Бачны
　　праз пацёмкі нам,
У гамбургскім парту
　　паўстала
Грозна здань
　　Пацёмкіна.
Узнялася гладзь марэй,
　　час разліку
　　блізак.
Будзе час —
　　дамо мы рэйс
Праз сусвет
　　без візы.
А пакуль
　　пільней за вахту,
Узрастай, наш творчы ўздым.
Хай цячэ
　　краіне з шахтаў
Мора вуглю
　　і руды.
Узвядзём
　　затвор на ўзвод,
Узвеем
　　вымпел вышай,
Каб у сінь
　　савецкіх вод
Вораг зноў
　　не выйшаў.

*1932, кастрычнік*



# МІКОЛА СЯМАШКА

Мікола Сямашка (Мікалай Пятровіч) нарадзіўся ў 1914 г. у в. Барылы Полацкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны — на фронце. Загінуў у 1941 г. пры абароне Оршы. Друкаваў вершы з 1932 г. Аўтар зборніка паэзіі «Шчырасць» (1939).

## ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА

І на прывале, і ў паходах,
І днём, і ранкам на зары
Са мной яна, на мне заўсёды
Агнём рубінавым гарыць.

Устане дзень — жывы, вясновы,—
І сонца промень залаты
Сальецца з ёй, пяцiканцовай,
Ў малюнак дзіўнай яснаты.

А ў вечаровы час лагодны,
Пад дымкай цёплае зары,
Адлюстраваны край свой родны
Ў ёй бачу я: лясы, бары,

Азёр блакітнасць залатую
І шыр бяскрайнюю палёў.
Радзіму бачу, за якую
Ў смяротны бой ісці гатоў.

*1937*



# ВАСІЛЬ МАТЭВУШАЎ

Васіль Іванавіч Матэвушаў (19.3.1915, в. Княжыцы Магілёўскага р-на — 6.3.1974). Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1937). Удзельнік Айчыннай вайны. Настаўнічаў, працаваў у прэсе. У 1971—1974 гг. сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Друкаваўся з 1930 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Магілёўскі шоўк» (1957), «Зорны шлях» (1959), «Сярэбраная кладка» (1965), «Начны дождж» (1969), «Верасы» (1972), «Крынічны луг» (1976).

* * *

Калі зара агнём засвеціць
Над цёмнай пушчай за сялом,
Я ведаю, што ёсць на свеце
Не толькі ўтульны, цёплы дом.

А над далінаю і рэчкай
Мяне чакае золь дажджоў,
І можа вецер бессардэчны
Адлупцаваць з усіх бакоў.

Але ў жыцці спакойна, мірна
Вясны світанне не прасплю:
Я чую — ў засеках, у свірнах
Насенне просіцца ў зямлю.

І толькі хай усход засвеціць —
Мой след праляжа за сялом,
Каб самым светлым быў на свеце
Вялікай бацькаўшчыны дом.

*1959*

* * *

У кожнага ёсць ясны золак
І крылы дужыя свае...
І калі ты адчуеш кволасць,
Што быццам сілы не стае,

Спяшай да бору, дзе на ўзлеску
Пад дубам ранняю вясной
На тоненькай назе пралеска
Трымае сонца над зямлёй.

*1960*

* * *

Я тут не заблуджу нідзе,
Нявольнікам густот не стану:
Сцяжынка-вулка прывядзе
На плошчу — светлую паляну.

Каля яе з усіх бакоў
Стаяць сасонкі-манументы,
І да азёрных берагоў
Прасека пралягла праспектам.

Па ёй пайду і не міну
Грыбных паселішч і арэхаў,
Спаткаю сойку і жаўну,
Знайду загубленае рэха.

*1960*



# НІНА ТАРАС

Ніна Міхайлаўна Тарас. Нарадзілася 15.5.1916 г. у в. Заполле Навагрудскага р-на Мінскай вобл. Скончыла беларускую гімназію ў Вільні (1936), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1957). Удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, партызанскага руху ў Айчынную вайну. Друкуецца з 1936 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «На ўсход ідучы...» (1940), «Суніцы» (1946), «Вершы» (1952), «Кветка шчасця» (1958), «Пад белым яварам» (1966), «У тапаліную замець» (1976), «Праметэю прыйду пакланіцца» (1981), «Праз вятры-завеі» (1986) і інш. Для дзяцей зборнікі «Казка пра абавязкі» (1955), «Наш бор» (1968). Пераклала на беларускую мову творы А. Міцкевіча, З. Буля, А. Глісчыньскага, В. Карчэўскай, А. Красняньскага, Т. Міціньскага, М. Пшэдборскай, У. Слабодніка і інш.

## НА ЎСХОД ІДУЧЫ

Шумелі, шумелі бярозанькі ў гаю
Удзень і ўначы.
У іх я пра шчасце сваё запытаю,
Удаль ідучы.
Скажыце, ёсць многа дарог і сцяжынак
Між ніў і гаёў, —
Якою сягоння ісці я павінна
Па шчасце сваё?
Шумелі, шумелі бярозанькі ў гаі
Удзень і ўначы:
— Дарогу да шчасця ты знойдзеш у краі,
На ўсход ідучы.
Скажыце, ёсць песні, як сонная восень,
Як сум салаўя,
І ціха-журботныя песні калоссяў, —
Якую пяяць?
Не тую, што ціха шуміць на палетках
Тугою-журбой, —
Спявай, што у маршы спяваюць сусветным,
Выходзячы ў бой.
Шумелі, шумелі бярозанькі ў гаі
Да позняй начы...
Знайшла я і песню, і долю ў краі,
На ўсход ідучы.

*1940*

* * *

Сонца за хмаркамі ўранні
Скрылася — болей не свеціць.
Што ж ты мне сэрца параніў,
Мой найдарожшы на свеце?

Як жа мне, як жа развеяць
Хмарачак тых караваны?
Дзе ж мне нарваць таго зелля,
Каб загаілася рана?

Хмаркі развеюцца самі —
Ёсць вецярочак на тое.
Рану не сцішу слязамі,—
Ласкай тваёй супакою.

*1962*

* * *

Калі памірае мара,
Свет засланяе хмара
У паднябеснай прасторы,
І ўсё мацней ад гора
Сэрца балючыя ўдары,—
Калі памірае мара.

Калі ажывае мара,
Раптам паблекне хмара
У промнях сонечных весніх,
І нараджаецца песня,
Поўная дзіўных чараў,—
Калі ажывае мара.

*1967*

* * *

Ельнік вясняны пахне смалою,
Топіцца ў ранах соснаў жывіца.
А мы прыйшлі, каб вясною упіцца,
Новай вясною.

Ну, што сягоння раскажаце, сосны,
Знаю, вы тайнаў хаваеце многа
Аб партызанскіх, ваенных вёснах,
Аб перамогах.

Раніцай бор і духмяны, і звонкі,
Лашчыць пяшчотнасцю шум баравы.
Толькі ад бомбаў яшчэ варонкі.
Толькі акопаў былых равы...

Мы ўставалі да ўсходу сонца,
Дрэўца саджалі да самай ночкі.
У кожнай варонцы
Расці па сасонцы,
У кожным равочку —
Па яваронку.

*1959*

## НЕ ПІШЫ МНЕ ПІСЕМ НА МАШЫНЦЫ

Не пішы мне пісем на машынцы
Шрыфтам металічным і халодным,
Дзе любая літара з-пад пальца
Звычным штампам на паперу ляжа.
Дастаю з канверта ў хваляванні
Доўгі ліст твой — акуратны, чысты,
Пазіраю і ўздыхаю сумна:
Ні адной галоснай ані зычнай
Не сагрэла сэрца цеплынёю.
Я уважліва ліст твой разглядаю:
Ён, нібы пейзаж той аднастайны,
Ад якога, едучы наперад,
Часам стане моташна і нудна.
Або, скажам, дзікая пустыня,
Дзе адны пясчаныя буруны,
І нішто тут не ажывіць вока —
Ні адной іскрыстае расінкі,
Каб хоць трохі наталіла смагу,
Хоць зусім ад смагі паміраеш...
Ты пішы мне ўласнаю рукою,
Проста так, звычайна, як умееш,
Дзе пахіла, дзе радком няроўным...
Па тваім пісьме чытаць хачу я
Твае думы і душы парывы:
Тут знянацку ахапіла горыч,
І радка ў сумненні не закончыў,
Тут рука дрыжэла ў хваляванні...
І сярод параскіданых літар
Я знайду бліскучыя іскрынкі,
Што на сэрцы радасцю кладуцца
І ратуюць ад жывога болю,—
Сярод іх знайду крупінкі шчасця...

*1967*



# МАСЕЙ СЯДНЁЎ

Масей Ларывонавіч Сяднёў (1.9.1915, вёска Мокрае на Магілёўшчыне). Вучыўся ў Мінскім педінстытуце. Быў рэпрэсіраваны. У жніўні 1940 года з Калымы быў прывезены ў Мінск на перагляд справы, з турмы, аднак, быў вызвалены ваеннай разрухай чэрвеня 1941 года. Некаторы час жыў у роднай вёсцы, а затым супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі і ў 1944 годзе эмігрыраваў. Жыве ў ЗША. Друкуецца з 30-х гадоў. За мяжой выдаў зборнікі вершаў «У акіяне ночы» (1946), «Спадзяванні» (1948), «Ля ціхай брамы» (1956), «Патушаныя зоры» (1975), «Ачышчэнне агнём» (1985). Аўтар двух раманаў: «Раман Карзюк» (1985), «І той дзень надышоў» (1987).

## ВІДЗЕННЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Як толькі песняю сваёй зайдуся —
і Бацькаўшчына ў сэрца хлыне мне,
і лёгка робіцца ў начной задусе,
і быццам не на яве, а у сне.

Здалёк чалом ківае мне як быццам —
няўцешліваму сыну ў чужыне.
Іду як праз туман, хачу прабіцца,
ды сам не ведаю, ці гэта я, ці не.

Спыняюся, чакаю — ды няма прывету.
Спяшаюся — хоць ногі колюць хмызнякі...
Бо што мілей выгнанніку-паэту,
чым вобраз твой — далёкі і блізкі?

*1959*

## «ЖЫЖА»

Па вечарах, рвучыся з каленяў маці,
маленькім, я цягнуўся да «жыжы».
А «жыжа» — гэта была лучына,
што гарэла ў нашай хаце.

— Сядзі спакойна,— гаварыла маці,—
і не рвіся, а то жыжа куся.
Я ж не слухаўся маці
і рукамі цапаў жыжу —
найпрыгажэйшую рэч у нашай хаце.

І напраўду, прыгожая жыжа кусала балюча,
і з тых пор зваць пачаў я жыжу кусяй.

Злез з каленяў я матчыных. Свет,
што заззяў за нашай хатай,
пацягнуў мяне, як тая жыжа,
і пайшоў я у свет, недасяжны, далёкі.

Ён усімі сваімі фарбамі і колерамі
граў у сэрцы маім — і словы мае,
як маленькае, ішлі насустрач свету.

І яшчэ я пазнаў у тым свеце нешта,
што рабіла яго яшчэ больш прыгожым,
гэтым нешта былі самі людзі —
найцікавейшыя рэчы ў свеце.

## ВОСЕНЬ

Цяпер на бацькаўшчыне ўжо марозы
кладуць узор на ранішнім лядку.
Падпаленыя восенню бярозы,
усцяж, гараць на бальшаку.

Мне, босаму, не страшна, што я босы —
скачу па маразянай траўцы
шчэ валей.
Здаецца мне — як гляну на бярозы,
ад полымя мне іхняга цяплей.

У полі бацьку я ў падмозе,
гляджу жывёлу, бульбіны пяку.
І ўсё гляджу чамусьці, як бярозы
гараць на нашым бальшаку.

Я восенню жыву ў трывозе,
забудуся ды зноў кране:
падпаленыя восенню бярозы
гараць пякучай ранай ува мне.

*1983, верасень*
*Глен Коў*

## МАЯ LORELEI

Ёсць месца такое ў лесе,
з ім можа зраўнацца рай.
Там, на Палессі,
жыве мая Лёрэляй.

Як тая казуля
між сініх азёр,
у зрэбнай кашулі —
палескі узор.

Як нас разлучыла ліха
таму ужо колькі год,
над Прыпяццю плаўнаю, ціхай
гарыць задуменны заход.

Гадаючы ўсё аб нечым,
на бераг, дзе бору край,
самотная, кожны вечар
прыходзіць мая Лёрэляй.

Сама не свая такая,
як бы на якую бяду,
яна мяне ўсё гукае —
а мо да яе прыйду.

Стаіць у прасторы сінім
і моліцца ўсім святым,
ды голас яе бяссільны
вяртаецца рэхам пустым.

Рака пачынае хліпаць,
хвалямі біцца ў край.
Баюся, што кінецца ў Прыпяць
мая Лёрэляй.

*1983, кастрычнік*
*Глен Коў*



# МІХАСЬ КАЛАЧЫНСКІ

Міхась Калачынскі (Міхаіл Іванавіч). Нарадзіўся 12.1.1917 г. у г. п. Крупкі Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў курсы пры Камуністычным інстытуце журналістыкі (1936). Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., у Айчынную вайну армейскі журналіст. Працаваў у прэсе. У 1960—78 гг. галоўны рэдактар часопіса «Беларусь». Друкуецца з 1932 г. Аўтар кніг для дзяцей «Косця-чэкіст» (1938), «Пакет» (1940), паэтычных зборнікаў «Сонца ў блакіце» (1949), «Прыпар» (1956), «Сосны і дзюны» (1960), «Паясы» (1968), «Докшыцкі каравай» (1974), «Суквецце» (1977), «Да берагоў запаветных» (1983), шэрагу кніг для дзяцей. Перакладаў творы С. Ясеніна, А. Пракоф'ева, М. Бажана, А. Малышкі, П. Тычыны, А. Міцкевіча, Я. Конюша, Б. Саліньскага, Г. Шылкіна і інш. Выйшлі «Выбраныя творы (т. 1—2, 1971; т. 1—2, 1982).

## ВЕРНАСЦЬ

Расставаліся.
Салдацкая дарога
У прасцяг далёкі паплыла.
Ты ў паход мне не дарыла многа —
З ніткаю іголку прынясла.

Я бяру іх.
Будуць неабходны,
Хай на ўсякі выпадак ляжаць.
І цябе, як песню, ў час паходны
Буду помніць, буду ўспамінаць.

Аддала.
Успыхнула вясёлкай
І без слёз сказала на хаду:
— За табой, як нітка за іголкай,
Я па свеце да канца прайду!

*1938*

## КРУМКАЕ ЧОРНЫ ПТАХ

Да нашых прыціхлых зямлянак,
Захаваных у гушчарах,
Здаля прылятае шторанак
Глюгаты, зажураны птах.

Ён макаўку дрэва старога,
Прысеўшы, бярэ ў кіпцюры
І крумкае, крумкае доўга
На скразняковым вятры.

Мо крумкае ён без прычыны,
Або ёсць прычына ў яго?..
За рэчкаю бор крумкачыны
Абмалаціў артагонь.

Сюды карпусныя палілі
Здалёку, з-за нашай спіны,
Крышылі, ламалі, палілі
Усё — да апошняй сасны.

І дрэвы, як сімвалы жаху
Агнём здратаванай зямлі,
Замёрлі ў сумётах ад страху,
З іх чорныя рукі ўзнялі.

Ім сніцца пякельнага бою
Агонь той, што гойсаў наўскач.
Таму і старонніца бору
Птах чорнага д'ябла — крумкач.

*1940*

## ХАВАЛІ ЗАБІТЫХ

Пад вечар хавалі забітых,
Ледзь бой рукапашны заціх.
Ля свежай магілы на плітах
Жывыя сышліся да іх.

Сышліся усе пабрацімы,
Усе баявыя сябры,
І рэкі, й лясы ў павуціне,
І неба са стужкай зары.

Зірнуў я ў жалобе і гневе
Тады на падгорны самшыт,—
Прабітае лета на дрэве
Вісела, рыдала наўзрыд.

— Скажыце, што гэта такое?
— Аплакваюць пушчы герояў.

І позірк тады перавёў я
На пікі гранітныя Псоу.
Акроплены свежай крывёю,
Дол чорны струменіў тугу.

— Скажыце, што гэта такое?
— Аплакваюць горы герояў.

К жывым нашай трэцяе роты
Я позірк цішком перанёс,—
Чарнелі яны ад сумоты,
Але не паказвалі слёз.

Падкрадваўся вечар...
У смутак
І прыцемкі сонца зайшло...
Цясніны чакалі салюта,
Патронаў жа ў нас не было.

*1942*

## НАРЭШЦЕ ЦІШЫНЯ...

Напэўна, дзень упершыню такі
У цэлым свеце, як і ў нас, за Венай...
Паважна рунню споўдаюць гракі,
А рунь зялёная ім да калена.

Сінь азярыны, дзе каціўся гром,
Апошні раз нам граючы трывогу,
Раўнівец-кучар расплюскаў крылом,
Не баючыся ў цішыні нічога.

Вайна канчаецца...
Сняць міру сны
Зямля і людзі ратныя ў акопах.
Мы зноў вяртаем цішыню вясны
Табе, сівая мачыха Еўропа.

*1945*

## ТАК ПАМІРАЮЦЬ ПТУШКІ...

*У вянок У. Ф. Луцэвіч*

Зусім не верыцца,
Што мы прыйшлі,
Каб назаўсёды з ёю развітацца.
Магчыма, зноў сюды нас прывялі
Сцяжыны, не забытыя з юнацтва?

Тут шмат людзей сягоння, як заўжды,
І голас ціхі і трывожны гэткі...
На шыбах сівер распісаў сады,
І, хоць зіма, ірдзеюць срэбна кветкі.

Ім сніцца сонца, поле, паплавы
У звоне пчол, таполі з белым пухам,
І ланцужком у небе журавы,
І ластаўкі — гарэзы-шчабятухі.

Нічога болей згадваць не магу —
Ні слоў, ні песень, ні вясны пявучай.
Шапэн галосіць, гонячы тугу, —
Як цяжка гэта, як душы балюча!

Сумёты за акном...
Плыве труна...
І словы самі вяжуцца ў сумоце:
Так птушкі паміраюць, як яна,
Забыўшыся пра стому,
— у палёце.

*1960*

## СОСНЫ НАД СОЖАМ

*Івану Шамякіну*

У зялёнай лясной Церусе
Дужа стромкія, гонкія сосны
К сонцу ў неба імкнуцца усе,
Як ракеты хвастатыя ў космас.

А пад соснамі ў шчырым бары
Верас дзятлікаў, чэрвеня скрыпень,
І ля сцежак каровіных чабары,
І ля тракту — пад воблакі ліпы.

А далей, у разліве лугоў,
З чым зраўняцца й паводка не можа,
Травастой — не знайсці берагоў! —
І эпічная велічнасць Сожа.

Праз лугі ад пагоркаў крутых,
Скарб сцюдзёны забраўшы, крыніцы
Бацьку Сожу нясуць, як уздых,
Прагнуць з плынню яго пасястрыцца.

Спелы бор ткаў табе ў цішыні
Мудрасць думак і шчырасці строгасць,
І таму да людзей дабрыні
З дзён юнацтва ў душы тваёй многа.

Я не быў бы шчаслівы, каб сам
Не адчуў яе блізка.
За гэта
Мой паклон тваім долам, лясам
І тваёй Церусе запаветнай!

*1969*

## МЁД У СОТАХ

Мёд з падгледзін,
Мёд у сотах весні,
Той, што ў сонца выкраў цеплыню,
Докшыцкія кухары прынеслі —
Ёсць наедак пахкі ў іх меню.

Перад тым хвалілі ўсе грыбное,
Рыбнае з адменнасцю прысмак,
Фірменную смажанку з любовін,
Ёй бы — якасці дзяржаўны Знак!

Пелі свой бясхітрасны хвалебен
«Мукузані» з малахмельных лоз
І кваску,
Дзе ні дражджэй, ні хлеба —
Чысціня бязгрэшная бяроз.

Ну, а тут пчаліны першаўзятак,
Дар вясны ў ячэйках васкавых!..
Рыпнуў стол,
А ўсё застолле раптам
Стала — як вяселле у нямых.

Анямелі — не знаходзяць слоўца
Нават каралі гаваруноў,
Толькі ў вокнах
Грае, грае сонца
Кожнаю праменнаю струной.

А за вокнамі —
Чырвоны чэрвень,
Жыта ўстала — дзівяцца дзяды,
Ад зары світальнай да вячэрняй
Вяжуць гронкі завязі сады.

Мёд у сотах...
Ён пад столь напоўніў
Хату пахам ліпы, грэчкі, сліў,
А застольнікам сады напомніў,
Што на камянішчах расцвілі.

Грала сонца.
Ў промнях меданосы
Бачыліся людзям з-за стала,
Рыльцы кветак сонечных у росах
І на кожнай — рыжая пчала.

*1972*



# ЯНКА НЕПАЧАЛОВІЧ

Янка Непачаловіч (Іван Данілавіч) нарадзіўся 25.5.1917 г. у в. Мінкавічы Старадарожскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў завочна літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1940). Настаўнічаў на Міншчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны партызанскі сувязны. З 1967 г. жыў і працаваў у Мінску.

Друкаваўся з 1936 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Мера любві» (1958), «Позні паром» (1967), «Перад захадам сонца» (1977). Памёр 3.7.1969 г.

## ПА ЧЫМ ЧАЛАВЕК ПАЗНАЕЦЦА

Па чым чалавек пазнаецца? —
Калі б запыталі,
І я адказаў бы: — Здаецца,
Па трапнай дэталі.

Разумны — разумнае скажа,
Паслухаць цікава.
Сумленны — сумленнасць пакажа
Не словам, а справай.

А шчодры, сабраўшы бяседу,
Суседзяў частуе;
Скупеча пакажа суседу
Кішэню пустую.

Падліза — начальніка ў вочы
Палічыць за бога.
А дурань — таго мо й не хоча —
Наробіць дурнога...

Падаў хто руку ў небяспецы —
Мы другам назвалі:
Ва ўсім чалавек пазнаецца
Па трапнай дэталі.

*1956*

* * *

Гары, маё сонца, гары,
Абняўшы прасторы зямлі,
Любоў, сваю ласку дары,
Каб людзі у згодзе жылі;

Каб рунь аздабляла палі,
Каб сосны звінелі ў бары,
І птушкі каб гнёзды вілі —
На кожнай галінцы па тры!

Гары, маё сонца, гары,
Каб дрэвы і кветкі цвілі
І скрозь ад зары да зары
Над кветкамі пчолы гулі;

Каб хлеба хапала для тых,
Хто носіць свой век мазалі,
Каб нашыя з намі браты
Заўсёды у дружбе жылі;

Гары, маё сонца, гары,
Жылі каб табою усе,
Адчуў каб юнак і стары,
Што ў сэрцы ён сонца нясе,

Каб кожны ў рашаючы час
Мог сэрцам сяброў азарыць,
Каб сэрцу адзін быў наказ:
Гары, маё сэрца, гары!

*1957*

* * *

Дубы зямлю ўсыпаюць жалудамі,
Адчуўшы трухлаватасць унутры.
Вакол дубкі падымуцца з гадамі,
Каб іх жыццё спачатку паўтарыць.

Падымуцца вышэй бацькоў намнога,
Пашырыўшы зялёны карагод.
Хоць новае ідзе з глыбінь старога,
Але старому засланяе ход.

* * *

Развіхрылася віхура,
Закружыла ў танцах злосных,
Увайшоўшы ў лес пануры,
Загрудкі хапае сосны.

Бор схрысціўшы бураломам,
Нарабіўшы шкоды многа,
З свістам, гіканнем і громам
Рушыла сваёй дарогай.

Леглі ўпокат сосны тыя,
Што чубы ўпіралі ў хмары.
Не сляпая і стыхія,
Выбіраючы ахвяры.



# ПІМЕН ПАНЧАНКА

Пімен Емяльянавіч Панчанка. Нарадзіўся 23.8.1917 г. у г. Таліне, куды бацькі, бедныя беларускія сяляне, выехалі на заробкі (у 1920 г. вярнуліся на Беларусь). Скончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску (1934), Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Настаўнічаў у Магілёўскай вобл. (1934—38). Удзельнік Айчыннай вайны. У 1944—45 гг. знаходзіўся з савецкімі войскамі ў Іране. Галоўны рэдактар часопісаў «Советская Отчизна» (1954—58), «Маладосць» (1958—66). У 1966—71 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Друкуецца з 1934 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Упэўненасць» (1938), «Вераснёвыя сцягі» (1940), «Далёкія станцыі» (1945), «Прысяга» (1949), «Шырокі свет» (1955), «Кніга вандраванняў і любові» (1959), «Нью-Йоркскія малюнкі» (1960), «Тысячы небасхілаў» (1962), «Пры святле маланак» (1966, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1968), «Снежань» (1972), «Крык сойкі» (1976), «Дзе начуе жаўранак» (1979, у перакладзе на рускую мову, Дзяржаўная прэмія СССР 1981), «Маўклівая малітва» (1981), «Лясныя воблакі» (1985), «І вера, і вернасць, і вечнасць» (1987) і інш.

За паэму «Патрыятычная песня» (1975) атрымаў Літаратурную прэмію імя Я. Купалы (1959). Выйшлі «Зборы твораў» П. Панчанкі (т. 1—2, 1959; т. 1—3, 1967—71; т. 1—4, 1981—83). Выступае як крытык, публіцыст, перакладчык. На беларускую мову пераклаў паасобныя творы Ф. Шылера, А. Міцкевіча, Я. Райніса, М. Нагнібеды і інш.

---

## УПЭЎНЕНАСЦЬ

Адгрукаў гром. Адгаманіла лета
На мове зор малінавых і кветак.
Там, дзе гулі пшаніцы і жыты,
Стаяць снапы, як рыжыя браты.

Б'е жарабок падковай. Поўны воз
Гатоў адплыць да вёскі. Рып калёс
І хлебны пах зямлі, і гэты вечар —
Гавораць мне аб шчасці чалавечым.

А неба сінь глыбокая, як вочы
Маёй любімай. Я павольна крочу
Туды, дзе гай спавіў зялёны дым
І птахі звоняць на усе лады.

Хусцінка белая мільгнулася і знікла
Паміж арэшын.
Любая, чакай!
Давай з табой паслухаем, як гай
Спявае песню нам на мове звыклай.

Прысядзем да бяроз.
Мы маем права:
Багаты ураджай
глядзіць з паважных коп —
Усё гэта брыгады нашай справа,
Мы вырасцілі хлеб сваёй рукой.

Тваю руку да сэрца прыкладу я:
Упэўненасць і радасць б'ецца ў ім —
За нашую Радзіму маладую,
За скарб, які завём мы дарагім.

Чуваць, як дыша вераснем зара
Па ўсёй зямлі, што ў вечаровым дыме,
І добра нам маўчаць і пазіраць
На родны край вачыма маладымі!

*1937*

## РАДЗІМЕ

Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы,
І блакітныя рэкі, і мора зялёных лугоў.
Ты мяне гадавала, як маці, і рос я шчаслівы,
Не зазнаўшы галечы, з атрадам вясёлых сяброў.

О Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю,
І заўжды — ці працую, ці пільна на варце стаю,—
Я твой велічны вобраз у думках сваіх уяўляю
І люблю, як жыццё, я зямлю маладую тваю!

Бо на гэтай зямлі малаком мяне маці карміла,
Тут хадзіць я вучыўся і кнігі чытаў да зары.
Што ж мне можа быць больш
за Радзіму любімую міла?
Хто ж мне будзе радней за таго,
хто Радзіму стварыў?

Я спакойны юнак, можа, нават крыху сарамлівы,
Не пакрыўджу і птушкі,
бо знаю: ёй хочацца жыць;
Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

*1937*

## КРАІНА МАЯ

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.

Ты часта прыходзіш ка мне, як сон,
Хмараю прыплываеш,
Птушкай садзішся на ціхі клён,
Звонкім дажджом ападаеш.

Тады ўспамінаецца ўсё да драбніц,
Што звязана з родным краем,—
Як жыта шуміць, як агонь зарніц
На дне азёр дагарае.

Як летам спякотным за днямі дні
Ішлі па іржышчы калючым...
Мы ранілі ногі аб камяні,
І нам не было балюча.

І не было нічога ярчэй
За сонца на родным небе,
І не было нічога смачней
Матчынага хлеба.

Вада з прыдарожнага ручая
Была саладзей за мёд нам...
Краіна мая, маці мая,
Час твой цяжкі і гаротны!

Топча, катуе тваю зямлю
Вылюдак ашалелы.
Я кроў да апошняе кроплі пралью,
Каб толькі табе палягчэла.

Ні славы, ні скарбаў я не хачу,
Мне б толькі прыйсці непрыкметна,
Зямлю сваю пад нагамі адчуць,
Надыхацца родным паветрам.

*1942*

## ГЕРОЙ

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Не ён, а другія ішлі ў атаку,
Гранаты кідалі ў бліндажы,
Калолі фрыцаў, палілі танкі
І сцяг перамогі ўзнімалі ранкам
На заваёваным рубяжы.

А ён свае косці з іржавых калючак
Сваімі рукамі без стогну аддзёр,
Зваліўся на травы, і стала балюча
І травам, і росам, і ветрам гаючым,
Што прыляцелі з валдайскіх азёр.

*1943*

## У ТЭГЕРАНЕ

Гулам незнаёмым апалошча,
З-пад гары — агні, агні, агні.
І ляціць ад прывакзальнай плошчы
Чорны шах на бронзавым кані.

Дзіўна тут усё і незнаёма:
Песня-крык
і востры пах пладоў,
Казачныя постаці харомаў,
Сцены глінабітныя платоў.

На асфальце трапяткія цені,
Пад ліствою звоняць арыкі,
І пераліваецца адзеннем
Буйны вір натоўпаў гаваркіх.

І калі гарачымі вачыма
З-пад чадры іранка шугане,
Мімаволі ты прашэпчаш імя,
Чутае калісьці: — Шаганэ...

Заламаўшы сінюю пілотку,
Паліцэйскі ішака вядзе.
На рагу з алахам на ўсю
глотку
Брудны дэрвіш гутарку вядзе.

Дзівімся крыху на шоўк і шалі
Згодна абавязку ўсіх гасцей,
Ды раскоша нас не спакушае,—
Мы непараўнана багацей.

Нейкія замежныя салдаты,
Зорку запрыкмеціўшы маю,
Па панэлі грукаюць заўзята
І з павагай чэсць нам аддаюць.

*1944*
*Тэгеран*

* * *

Ты чуеш курлыканне — рад ці не рад?
Між хваляў густой сінявы
Лятуць жуpавы за гару Арарат,
На поўнач лятуць журавы.

Прывык сустракаць ты іх гэтай парой
Пад першай вясновай зарой.
А тут жураʙель, узмахнуўшы крылом,
У выраӣ праз сэрца ляціць напралом.

Забыў, што ад дому за тысячы міль,—
Злуешся і крыкнуць карціць:
«Гэй, хто там знаёмы да болю фільм
З канца пачынае круціць?»

Лятуць журавы на Казбек і Эльбрус,
І сэрца сціскае туга.
Сустрэне іх хутка мая Беларусь
На цёплых зялёных лугах.

Я зайздрасці к птушкам ніколі не меў —
Без крылляў мне нават ямчэй,
А зараз ад крыўды глухой анямеў
І з неба не зводжу вачэй.

*1944*
*Казвін*

## ПРЫСТАСАВАНЦЫ

Станкоў не знаюць, араць не ўмеюць,
Да воза з гноем не йдуць і блізка.
Разумнае, вечнае, добрае сеюць
Між мас працоўных амаль з калыскі.

Закончаць нешта з тугой нацяжкай,
Запас прыдбаюць цытатаў розных.
Дзяцей у школе вучыць ім цяжка,
Лягчэй, выгодней вучыць дарослых.

Цытата з вока, цытата з вуха,
І зуб у роце бліщчыць цытатай.
Глядзіш з сумненнем на сына-зуха —
Кім ён змайстрован? Наўрад ці татам.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць.

Разлік дакладны ды плюс удача,
Паклон начальству ды жартаў крышку —
Глядзіш, і стаўка, а там і дача,
Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі.

І, ўладкаваўшыся адмыслова,
Чужыя думкі прыстойна крадуць.
Зусім забылі жывое слова
І занядбалі людскую праўду.

Застылі твары кароўім лоем,
Нос падпірае тупая веліч.
Глядзяць з пагардай на ўсё малое,
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

У цёплых ложках хіхікаць любяць
З наіўных дурняў, што ў вёску едуць,—
Кватэры трацяць, кар'еры губяць,
Збываюць танна свае «Пабеды».

Вялікай працай заняты людзі,
Пяюць у шчасці, ў бядзе бядуюць.
Прыстасаванцы ж б'юць гулка ў грудзі,
Крычаць — «Гадуем...», крычаць —
«Будуем...»

Сярод народа такіх не многа,
Ды вельмі ж хітра яны нам шкодзяць.
Нам замінае вось гэта погань,
Як пыл дарожны ў цяжкім паходзе.

Іх распазнаюць людскія вочы,
Ні ў якіх норах ім не схавацца.
Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

*1956*

## КРАЙ ПАЭТАЎ

Добра ведаюць усе амаль з маленства,
Што паэтаў нараджаюць пад Смаленскам,

Ля падножжа Арарата і ў Сібіры,
І на землях Руставелі і Сабіра,

Над Дняпром, дзе нешта п'юць з пякучым перцам,
І на Балтыцы, дзе людзі з мужным сэрцам.

Часам іх знаходзяць у Разані,
А яшчэ жывуць паэты ў Дагестане...

Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны,
Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты.

Там зязюлямі завуцца ўсе кукушкі,
Гэтым краем з Кішынёва ехаў Пушкін.

Там прыгонных шмат паэтаў замарылі,
Там Міцкевіч закахаўся у Марылю.

І Тарас у Пецярбург ішоў праз слёзы,
На яго шляху журыліся бярозы...

З той пары там песняроў — нібыта маку,
Аж статыстыка дае ў падліках маху.

Край чаромхі і чабору, край прасторны,
Дзе і крытыкі вядуць сябе прыстойна.

Там маланкі аб дубы ламаюць коп'і,
Выдаўцы там не бяруць у рот ні кроплі.

Смела дзятлы пішуць вершы на бяросце,
Не вылазяць з-за стала па тыдню госці,

Бо у возеры вугры,
А стронга ў рэчцы.
Там машыны з канюшынай не у спрэчцы;

І з барамі ўсе заводы добра дружаць;
І салдат на службе служыць, а не тужыць,

Бо красуня перад ім не задаецца...
Там зубрыная гарэлка прадаецца,

А частуюць там гасцей баравікамі.
Самагонку п'юць паціху толькі самі.

Там чарнічныя ўсе ночы,
Сунічныя ранкі,
Там народ найболей любіць вершы Янкі.

Там дзяўчаты носяць белыя панчошкі,
Сто разоў цалуюць там і яшчэ трошкі.

Дзе ж той край залатакосы, край зялёны —
Рык ласіны,
Звон пчаліны,
Мора лёну?

Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;

Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі паляскавала.

*1963*

## РОДНАЯ МОВА

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ,—
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам,
Непаўторных вясновых бяроз,

Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,

Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю —
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

*1964*

* * *

То ў надзеях, то ў скрусе
Безаглядна жывеш.
Нібы конь той, па крузе
Ўсё ідзеш і ідзеш.

Іншы раз ірванешся —
Па гаючы глыток
Паляціш.
Спадзяешся:
Будзе новы віток.

Спадзяешся і верыш,
Што наперадзе ёсць
І паэзіі неруш,
І сама маладосць.

Мы штодня сабе хлусім...
Ну, а ісціна дзе ж?
Нібы конь той, па крузе
Ўсё ідзеш і ідзеш.

Дні імчацца імкліва,
Не шкадуючы сіл,
За апошні маўклівы
Свой зямны небасхіл.

Я не веру у цуды,
І туга не грызе...
Я развеяны ўсюды
Па шматку, па слязе.

На дарозе суровай
Недзе там, за табой,
І ласкавыя словы,
І пякучы мой боль.

Было шчасця не многа.
Больш агонь ды бяда...
Не шкада мне нічога?
Усяго мне шкада.

* * *

Хмары плаваюць над намі,
Зеляніна ўсё радзей.
Раз'яднанне, раз'яднанне
Дрэў, і птушак, і людзей.

Лісця жоўтае кружэнне,
Насцярожанасць травы.
Адчужэнне, адчужэнне
Ад высокай сінявы.

Гром апошні раз прагрукаў...
Дзе самоту мне падзець?
Ток і лазня, печ і грубка,
Вы ядналі век людзей.

Што людзей яднае зараз?
А ўсё тое ж: поле, цэх.
Часам чара, часам кара,
Часам грэх, а часам смех.

А суседзі сына жэняць,
Тут не восеньскі настрой...
Лісця жоўтае кружэнне,
Спелы яблычны настрой.

## ЗОРНЫ ЧАС БЕЛАРУСІ

У век бясконцага прытворства,
І крывадушша, і хлусні,
Мая зямля, ты светлы востраў,
Які ў маленстве толькі сніш.

У век крыві, пакут і гора,
Пагроз і атамных ракет
Ты ўзнагарода і апора,
Мой сацыялістычны свет.

І сёння ў еднасці адзінай
Паміж сясцёр, паміж братоў
Ты, Беларусь, мая радзіма,
Краса, і гордасць, і любоў.

Усе жылі пад перунамі,
Ды найгарчэйшы лёс быў твой,
І ўсе бляднеюць параўнанні
Перад нязломнасцю тваёй.

Жывём з братамі ў дружбе добрай,
У працы, як у дні атак.
На землі іншыя падобна
І непадобная, аднак:

Сваім Наддзвіннем, і Палессем,
І Белавежаю старой;
Сваёй «Лявоніхаю»-песняй,
Што ходзіць над усёй зямлёй;

Сваёй усмешлівай гаворкай
І памяццю сіроцкіх слёз;
Нязгаснаю Хатынню горкай,
Журбою ціхай трох бяроз.

І Брэсцкай крэпасцю, і Мінскам...
Ну а калі сказаць прасцей —
Гарачай бульбай, поўнай міскай
Мачанкі для сваіх гасцей...

Зямля сардэчная, зялёная,
З-пад партызанскага крыла
Ты Клімука і Кавалёнка
Да зорнай славы узняла.

Самаўлюбёна не хвалюся,
Што любім мы, што любяць нас,
Але для роднай Беларусі
Прыйшоў высокі, зорны час.

## БЕДУІНЫ

Бачыў я ў Афрыцы каля Сахары,
Як спрытна вярблюдзіц даілі
З гордасцю непрыступнай на тварах
Чорныя бедуіны.

Здаецца, бяда:
Спякота,
Пустыня,
Гнеўнае сонца,
Пыл.
Вятры гарачыя і густыя
Гудуць,
Як тэлефонныя слупы.

А ў бедуінаў
З пустыняй
І злітнасць, і роднасць,
Як у нас з нізінамі і далінамі...
Мы не ў Сахары,
Ды выпаўзла мода
Быць тубыльнымі бедуінамі.

Пакінуў жонку,
Жонка пакінула,
Суседзі дачу будуюць —
Крах... Катастрофа...
Планета загінула...
Нашы бедуіны бядуюць.

Не дасталі махеру
Ці нейкай дублёнкі,
Не прыслалі машыну,
Каб з'ездзіць на рынак,—

Забедуінілі
Нечыя жонкі.
Вы чулі плач бедуінак?

Паслухалі хітры замежны голас,
Прагная зайздрасць
Дурных прыдавіла:
«Ні кока-колы.
Ні жвачкі.
Гола...» —
Шэпчуць цішком бедуіны.

У мяне прыяцель калісьці быў,
Слёзна бажыўся,
Што будзе іншым,
А потым ізноўку
Горка запіў.
Бедуінчык.

Бедуінам сапраўдным
І пустыня — казырная карта,
У іх разумныя кемныя твары...
А нашых бедуінаў
І бедуінак смаркатых
Я паслаў бы
Павандраваць
Па Сахары.

## СХЕМА ЖЫЦЦЯ

Робім да стомы. Цягнемся. Марым.
Век здаганяем. Героямі ходзім.
Ззяем, як сонца. Чарнеем, як хмары.
Нешта губляем. Амаль не знаходзім.

Моцна кахаем. Ад шчасця заходзімся.
Рады, як чэрці. Як людзі, сумуем.
Сварымся. Мірымся. І разыходзімся.
Дзён не хапае. Тыдні марнуем.

Любім дзяцей. Патураем ім. Цешымся.
Радуюць дзеці. Дзеці палохаюць.
Грукне бяда — ад адчаю хоць вешайся.
Ну і наследнікі! Ахаем, охаем.

Верым з калыскі, што лепшае спраўдзіцца.
Побыт бацькоўскі не памятаем.
Плачам. Рагочам. Клянёмся не скардзіцца.
Дзесьці насмецім. Не падмятаем.

Добра ўсміхаемся. Злосна жартуем.
Здольнасці тупім. Хітрыкі точым.
Жонак ашукваем. Жонак раўнуем.
Некага хвалім. Некага топчам.

Грозна гарлаем. З глупствам згаджаемся.
І галасуем. І пратэстуем.
То абдымаемся з другам, то лаемся.
Лічым здабыткі і тару пустую.

Не заўважаем. Чула клапоцімся.
Успамінаем. І забываем.
Хутка узносімся. Коцімся, коцімся.
Маем што трэба. Нічога не маем.

Планы складаем. Махаем рукою.
Зрэдку бушуем. Ціха згараем.
Прагнем спакою. Не бачым спакою.
Моўчкі хварэем. І паміраем.

## АПОШНЯЯ ІМША

Працуй штодня,
Працуй няспынна,
Пакуль не грукне шэсцьдзесят.
Рабі ўсё моцна, як мужчына,
Які рыхтуецца ў дэсант.

На кулакі не спадзявайся,
Умей свой нораў закілзаць.
І салаўём не залівайся,
Калі няма чаго сказаць.

Дзяцей не крыўдзі,
І жаноцкасць
Сваёй паловы не грызі.
Не будзь для іншых крыжаносцам
І помстай людзям не гразі.

Шукай заўжды сябе самога
У працы добрай і цяжкой —
І чэсць, і славу, нават Бога,
А не ў расхваленых бажкоў.

Калі прайшлі ўжо шэсць дзесяткаў,
І ўсё не зроблена ў свой час —
Ні звону славы, ані свята
Не будзе ўжо ніколі ў вас.

Я не занудны прапаведнік,
Сваю я мучаю душу.
Я сам сабе служу абедню,
Сваю апошнюю імшу.

## ПАЭМА СОРАМУ І ГНЕВУ

Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе,
І славіў росквіт,
Светлы век машынны.
Глядзеў з пагардай на каня ў аўсе,
На воз бацькоўскі свежай канюшыны.

Я цэрквы закрываў,
Я абразы паліў,
Сялянскую маёмасць перапісваў.
І нюхалі нішчымныя палі
Кароў галодных
Родныя мне пысы...

Вайна усім прачысціла мазгі:
Жыццё і смерць,
І праўда, і сумленне
Адкрыліся між гора і тугі
У першародным матчыным значэнні.

Сябры часоў вайны...
О Божа мой!
Стагналі,
Нібы пёк палын у роце.
Не бачылі ў агні перадавой.
(Я не пра тых,
Хто вёў баі на фронце.)

Яны жылі ў маскоўскіх нумарах,
Пілі гарэлку, трэскалі тушонку.
Калі іх працінаў за блізкіх страх,
Дык прыязджалі суцяшаць іх жонкі.

Не страшны фашыстоўскі ім бандыт!
Пісалі ў цеплыні пра кроў народа,
Па Беларусі плакалі наўзрыд,
Вылізвалі сабе узнагароды.

Мы з перамогай ехалі дамоў
Край аднавіць разбіты і пануры:
Сумленнай праца будзе, без прамоў,
Навекі справядлівасць запануе...

Ды тыя,
Хто штодня крычаў «ура»,
Правадыровы помнікі драбілі.
Нам нахлусілі зноў:
«Прыйшла пара
Багацця, шчасця».
Стаў я зноў дэбілам.

Я ссек сады,
Прынёс бяды лясам,
Я сеяў кукурузу на балотах,
Абкрадзены народ
Пачаў цягнуць і сам,
І п'яніцы валяліся пад плотам.

Настала эра паразітаў і папер.
Зямлю я разлюбіў,
Уцёк з калгаса.

І працы мудры лад
Ледзь не пагаснуў.
А я пісаў пра дробязь
І... цярпеў.

То я ўзрасціў няўмек і гультаёў.
Застой. Крадзеж.
На складах — горы дрэні.
Зямлі і праўды,
Мовы і гаёў
Ірвалі мы спрадвечныя карэнні.

Я не збярог Купалу,
Мову не збярог.
Мне літасці няма і даравання.
Канчаецца апошняя з дарог,
Век ядзерны пачаў сваё рыканне.

«Ідзі хутчэй у свой любімы бор,—
Крычыць,— не ты ў бядзе той вінаваты».
Я сам сабе суддзя і пракурор,
Ну хоць шукай стары трафейны «вальтэр».

Убачыў я апошні свой раз'езд,
Апошнюю пляцоўку для адпраўкі...
Ды грымнуў тут
Выратавальны з'езд,
З'езд ачышчэння,
Абнаўлення, праўды.

Пра паскарэнне, якасць —
Шмат прамоў.
І пішуцца запозненыя п'есы.
Аматарам расправы —
Тысяча вымоў.
Зноў загучалі франтавыя песні.

Ды нехта ўсё ж
Баіцца злыдняў кратаць,
Гросмайстраў ашуканства, пахвальбы.
Сталы перастаўляюць хмурыя ілбы —
Чыноўніцкі прагрэс для бюракратаў.

З іх кожны дбае толькі пра сябе,
Па-новаму ўжо хлусіць —
Звыклая карціна.
Я радуюся нашай барацьбе,
Але баюся
Зноўку стаць крэтынам.

Жыццё — з любові, працы і пакут,
Адновім чалавечую іх вартасць!
А гнеў і сорам мне душу пякуць,
І гне маё сумленне вінаватасць.

Дык хто мы?
Песняры ці хлусняры?
Я добра жыў:
Пакутваў і спагадваў,
Я веру Леніну
З дзіцячае пары...
Няхай агнём бязлітасным гарыць
Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.



# УЛАДЗІМІР РАГУЦКІ

Уладзімір Лаўрынавіч Рагуцкі нарадзіўся 9.12.1917 г. у в. Цёплае Чавускага р-на Магілёўскай вобл. у настаўніцкай сям'і. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Першыя вершы надрукаваў у 1936 г. У 1940 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР прыняло да друку першы зборнік яго вершаў, але рукапіс згарэў у час вайны. Асобныя творы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967). Загінуў у 1941 г. на фронце.

## 17 ВЕРАСНЯ

Каліны схіляліся нізка,
І плакаў засмучаны гай.
Матуля ў журбе над калыскай
Спявала:
— Ой, баюшкі, бай!
Ты станеш на ногі, саколік,
А долі не знойдзеш нідзе,
І спевам птушыным ніколі
Цябе не парадуе дзень.
Яшчэ ад маленства да смерці
Зазнаеш нямала прынук,—
На панскіх абшарах прыйдзецца
Згінацца за працай у крук.
А сцежкі-шляхі да навукі
Для нас зараслі палыном...—
І раптам —
на вуліцы грукат.
Матуля зірнула ў акно.
Грымелі магутныя танкі —
Чырвоныя войскі ішлі,—
На новы матыў калыханку
У бедную хату няслі.

*1939*



# МІКОЛА СУРНАЧОЎ

Мікола Сурначоў (Мікалай Мікалаевіч; 1917, в. Слабада Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. — 20.4.1945). Вучыўся ў Гомельскім (1937—1939) і Мінскім (1939—1941) педагагічных інстытутах. Працаваў у газетах. З 1941 г. у Савецкай Арміі, удзельнічаў у абароне Каўказа, у вызваленні Беларусі і Польшчы. Загінуў пад Берлінам.

Друкавацца пачаў у 1933 г. Выйшлі зборнікі паэзіі «На сурмах баравых» (1946), «Барвовая зара» (1959), «Акопны спеў» (1986), нізкі вершаў змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967).

## У СТОПТАНЫМ ЖЫЦЕ

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце,—
Ёй не кажыце...

*1941*
*Заходні фронт*

## ПАХОДНАЯ

Нам яшчэ, магчыма, давядзецца
Піць ваду балотную з канаў,
І не хутка мірна усміхнецца
Рог вясёлкі паміж росных траў.

Нам, магчыма, лёс пасуліць многа
Непрадбачных і звычайных спраў;
Баявую не адну дарогу,
На якой смерць часта сустракаў.

На якой не зацвіце маліна,
Кветкі сохнуць, стогнуць крумкачы
І, як здань, зямлі маёй дзяўчына
Плача горка, косы ірвучы.

*Паўднёвы фронт*

## РАЗДУМ'Е

І ціпшыня, і стогн глухі,
І сэрца ачарсцвела быццам,
І хочацца на грунт сухі,
Нібы на ложак, апусціцца.

Мацнее бой, і ты з штыком
Ідзеш наўпрост да перамогі,
І, можа быць, сустрэне дом
Пасля вайны зусім нямногіх.

І, можа, я, як ветэран,
Паду на жоўклыя пракосы,
І да маіх гаручых ран
Нахіляцца спагадна лозы.

Не гэта нас турбуе! — Што ж? —
Без перамогі свет не міл мне.
Калі не я, жыць будзе ўсё ж
Зямля, што нас з табой ўзрасціла.

*4-ты Украінскі фронт*

* * *

Стаіць над попелам хаціны,
Пілотку зняўшы з галавы,
Сяло ў жалезнай павуціне,
А ў сінім небе жураўы.

А ў сэрцы?
Хіба ў сэрца глянеш,
Як у крыніцу ля сяла?

Маўчаць, стуліўшыся, сяляне;
Дзе вёска некалі была,
Дым рассцілаецца атрутны,
Агонь грызе галлё ракіт...

А сэрца?
Сэрца ў гневе лютым!
А ў сінім небе?
Ястрабкі.

*1944*



# ЛЕАНІД ГАЎРЫЛАЎ

Леанід Рыгоравіч Гаўрылаў нарадзіўся 2.2.1918 г. у в. Бердаж Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. у сям'і рабочага-сезонніка. Вучыўся ў Мінскім белпедтэхнікуме, у Інстытуце народнай гаспадаркі. У 1940 г. скончыў літаратурны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута. Першыя вершы з'явіліся ў 1935 г. Друкаваўся ў перыядычных выданнях, у альманаху «Аднагодкі». Нізкі вершаў змешчаны ў зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967). У 1961 г. выйшла кніжка паэзіі «Вернасць». Прапаў без вестак у 1941 (?) на фронце.

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
І плыве, як васількова пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Па вачах любімых, па губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зараніцы,
П'юць расу палеткі на зары,—
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

*1941*

* * *

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.

Бляск месяца, і вішань белых цені,
І пустацвет гарбузны на плятнях
Снуюць запеў, і лёгкім летуценнем
Спавіта песня аб цвітучых днях.

У водары палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.

Чаму ж усё сама ты не прыходзіш
На бераг мой, дзе лодкі чарадой
Калышуцца, дзе нізка над вадой
Каліны сняць каханне на выгодзе?

Я жду цябе, паніклыя туманы
Па цёплай разасяаліся вадзе,
Дзесь плюхнуў сом, і качкі крык стрыманы
Успалашыў сон дзеркача ў лазе.

Бяскрайнія шумлівыя прасторы
Шмат выткалі квяцістых пуцявін.
І як мне разгадаць тут, па каторай
Ты пройдзеш між узгоркаў і нізін?

Мы ў човен сядзем, плёскатам весла
Маладзіка разломім палавіну,
Каб лётам смелым, лётам сакаліным
Дужэла песня, спела і расла.

*1939*



# АЛЕСЬ БАЧЫЛА

Алесь Бачыла (Аляксандр Мікалаевіч; 2.3.1918, в. Лешніца Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.— 4.1.1983). З сялян. Скончыў Беларускі педагагічны тэхнікум (1934). Настаўнічаў. Завочна закончыў Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны працаваў у прэсе, у выдавецтвах. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1967). Друкаваўся з 1934 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Шляхі» (1947), «Зоры вясеннія» (1954), «Калючая ружа» (1962), «Дарыце цюльпаны» (1966), «Тры багіні» (1973), «Белы бярэзнік» (1976) і інш., лібрэта опер, тэкстаў многіх песень. Выйшаў «Збор твораў» (т. 1—3, 1986—87).

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ...

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві:
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках, азёрах і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсцяж
Народ наш працуе руплівa,
І край узвышаецца наш.

Я радасць сваю не стрымаю —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба,
Пачуцці ва ўсіх нас адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

*1950*

## * * *

Ніяк не даўмею,
Чаму так пяецца:
«Куды вецер вее,
Туды голле гнецца...»

Я ж голля не маю,
Згінацца не ўмею,
Хаваць не хаваю
Ні дум, ні надзеі.

Гляджу — вечарэе.
Няўжо мне здаецца:
Куды вецер вее —
Туды голле гнецца.

Няласкай і сумам
Павеяла лета...
Няўжо хто прыдумаў
Знарок усё гэта?

Хлусіць я не ўмею,
Ніяк не пяецца:
«Куды вецер вее,
Туды голле гнецца...»

*1970*

## ЕЛЬНІК

Ты застыў, быццам конніцы стоенай раць
Каб на ворага кінуцца з гікам.
Пад праменнямі сонца ажно зіхацяць
Вастраноса высокія пікі.

Здэцца, толькі зайграе трывогу гарніст —
І рванууцца зялёныя коні,
Без дарог паімчацца
Пад тупат і свіст
За прышэльцам чужым у пагоню.

Ды не трубіць гарніст...
Ад відна да цямна
Хоць і дрэмле лясная бясконцасць,
А між дрэў не сціхае нябачна
Вайна
За жыццё і за месца пад сонцам.

Хай яны і не ходзяць, як людзі,
Ў штыкі,—
Толькі церпяць не меншыя мукі:
Нездарма скрозь унізе чарнеюць сукі —
Напалову адцятыя рукі.

*1971*

* * *

Каму, скажыце, не балела,
Калі мана — выроддзе зла,
То джалам працінала цела,
То, як агонь, нутро пякла.

Бывала часам да нясцерпу...
Але стараўся я маўчаць,
Як між ільдоў халодных нерпа,
Бо не прывучан быў крычаць.

Нікому не грозіў пагрозай,
Злом не адказваў и на зло...
І хоць душылі горла слёзы —
Глытаў, каб іншым менш было.

*1971*

* * *

Нібы сімфонія жывая
Ці таямнічасць нечых дум,
Шуміць дуброва векавая...
І не канчаецца той шум.

У ім то радасць, то пагроза,
То стогн, то водгалас журбы...
Пра маладосць пяюць бярозы,
Пра вечнасць — хмурыя дубы.

Між іх гарэзлівай дзяўчынай,
Што к хлопцу збегла ўпершыню,
Палае чырванню рабіна
Нябачным водсвітам агню.

Уверх узняць не можа вочы —
Не выдаць сораму б свайго...
Адна асіна ўсё лапоча,
Нібы палохае каго.

Як ні стараецца самохаць,
Але зрабіць бяссільна зло:
Таго нічым не запалохаць,
Што ў юных сэрцах ажыло,

І што ў жыцці не памірае,
Не нарадзіўшы светлых дум...
Шуміць дуброва векавая
І, быццам споведзь, гэты шум.

У ім то радасць, то пагроза,
То стогн, то водгалас журбы.
Пра маладосць пяюць бярозы,
Пра вечнасць — хмурыя дубы.

*1974*

## ТРЫВОЖНАЕ ВЕЧА

Звоняць трывожна ў Хатыні званы,
Быццам склікаюць на веча
Памяць вайны, раны вайны,
Боль чалавечы.

Быццам склікаюць і іх, нежывых,
Блізкіх, някроўных і кроўных,—
Нельга быць поўнаму веча без іх,
Веча ж павінна быць поўным.

Крыўда не ціхне... Не прыйдуць яны...
Кожная плача травінка.
Звонам тужлівым у небе званы
Звоняць памінкі.

Будзяць трывогу апошніх хвілін,
Каменем помнікаў стынуць.
Грукае ў грудзі, як звон-напамін,
Попел Хатыні.

Стогне трывога і рэхам ідзе —
Мілю мінае за міляй...
Хочацца полю, каб болей нідзе
Гэтак званы не званілі.

Звоняць, не ціхнуць Хатыні званы,
Клічуць нястомна на веча
Памяць вайны, раны вайны,
Боль чалавечы!..

*1974*

* * *

І ты, і я... І на паўмілю,
Што ў дзень стварэння,— ні душы...
Бярозкі, ўбачыўшы, застылі —
Баяцца голлем варушыць.
Ступіць баяцца нават кроку
Ў наш чысты замак з крышталю,
Каб не падслухаць ненарокам
Святое першае: «Люблю!..»
Каб шэпат, стаўшы гучным рэхам,
Не нарабіў бы нам трывог,
І нехта злосны брудным смехам
З яго смяяцца гідка мог.
Хай заўтра яснае світанне
Абудзіць чысты новы дзень,
І на «люблю» — лісток прызнання
Не ляжа ценем нават цень.

*1974*



# ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

Эдуард Станіслававіч Валасевіч. Нарадзіўся 12.3.1918 г. у г. Магілёве. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1941). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у прэсе. Друкуецца з 1937 г. Аўтар зборнікаў вершаў і баек «Вершы і байкі» (1954), «Залатая рыбка» (1957), «Як дбаеш — так і маеш» (1958), «Арліны суд» (1959), «Соль» (1962), «Казёл адпушчэння» (1968), «На вясёлай хвалі» (1969), «Туды і рак з клешнёй» (1970), «Сур'ёзна і з усмешкай» (1973), «Рагаты анёл» (1978), «Кругавая парука» (1979), «Бегемот і іншыя» (1982), «Яечня на далоні» (1984), кніжак-баек для дзяцей, аднаактовых камедый, скетчаў.

## ХАМА

Хама па вушы закахаўся...
Ну што тут дзіўнага? Ён хлопец малады.
А надышла вясна. На рэках лёд падаўся.
Запахлі мёдам, зацвілі сады —
І з любаю сваёй ён запісаўся!
Ну і лады! Гадуйце дзетак.
Не ведайце бяды...
Ды дзе там!
І года нават не мінула,
Як нашага Хаму ў дугу сагнула...
Ну проста не пазнаць: схуднеў,
Не стаў галіцца,
На дзесяць год, здаецца, пастарэў...
(Што значыць, брат, з наскоку ажаніцца!)
А жонка не на жартачкі ўзялася за Хаму,
То ласкай, то слязьмі, то крыкам:
— Што ты за муж?! Я жыць жадаю з шыкам!
Усё на мне каб ззяла і зіхцела,
Каб я на золаце піла і ела!
Узяў мяне — дык даглядай!
Такога дурня пакахала...
Так прамахнулася! А-яй!
За мной ганяліся два генералы!
Мне абяцалі не жыццё, а — рай...
А я ім — дулю паказала!
За гэта ножкі мне павінен цалаваць,
Выконваць прыхмаці мае, жаданні,
Утулам і камфортам акружаць...
Цаніць сапраўднае каханне!
— Але ж дзе грошай столькі ўзяць адразу? —
Стагнаў збянтэжаны Хама.—
Манетнага ж двара ў мяне няма...
— Затое ўніверсальная ёсць база!
Паварушы мазгамі, шалапут...
Так жонцы дагаджаць Хама стараўся
Да той пары, пакуль сам не папаўся...
А жонка як? З ім села у турму?
Яна шукае новага Хаму.

*5.1.1953*

## ДЭЛЬФІН-ЭРУДЫТ

Дэльфін у моры быў намеснікам Кіта
І ведаў ён пытаннямі культуры,
А ёю кіраваць не зможа дурань,
Ён розум меў і шмат чытаў,
Кумекаў у мастацтве і літаратуры,
Да падначаленых не прыдзіраўся
І творцаў заўсягды цаніў.
Але, калі на семінар народ збіраўся,
«Экзамен» ён таму-сяму ўчыніць любіў:
— Скажы мне, Камбала, ды толькі не мані,
Чытала кнігу ты «Стары і мора»?
— Не. Не чытала.— Не чытала? Сорам!
А я чытаў. Хэмінгуэй! Цудоўны раманіст!
Абавязкова раю!
А ты, Катран, куды ўцякаеш?
Ты Янкі Маўра «Сын вады» чытаў?
Ну што маўчыш, нібы вадзіцы ў рот набраўшы?
А ты...— Ды тут, Дэльфіна перарваўшы,
Свой голас Краб падаў:
— А вы, Дэльфін шаноўны,
Чыталі твор «Марскі Індык»?
— А гэна што? Каго? — наш эрудыт бы прыкусіў язык.
— А я чытаў! Дарэчы твор цудоўны! —
Прамовіў пераможна Краб.—
І раю прачытаць таксама вам абавязкова!
— Дык аўтара мне падкажы хаця б...
— Дык гэна ж байка Міхалкова,
Яна вядома нават дзецям!
...З тае пары, колькі ні жыў Дэльфін на свеце,
Сваёю эрудыцыяй не казыраў
Прад кожным,
Бо зразумеў, што «зрэзацца» самому можна.

Мне тэму калісь Глебка падказаў.

*16.2.1981*



# ПАЎЛЮК ПРАНУЗА

Паўлюк Прануза (Павел Кузьміч). Нарадзіўся 18.3.1918 г. у в. Вылева Добрушскага р-на Гомельскай вобл. Скончыў Гомельскі педагагічны інстытут (1941). Удзельнік Айчыннай вайны. У 1945—78 гг. настаўнічаў у Нясвіжы. Друкуецца з 1940 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Разгневаная зямля» (1946), «Мае землякі» (1957), «Калі верыш» (1963), «Непаўторнасць» (1974), «Сустрэчы» (1983) і інш. Для дзяцей — зборнікі «Добры дожджык» (1960), «Ручаёк» (1969), «Вясновыя тэлеграмы» (1976), «Фарбы восені» (1982) і інш.

## НЕ ЭКСКУРСАНТАМ, А САЛДАТАМ...

Не экскурсантам, а салдатам,
Апаленым агнём баёў,
З гранатамі ды з аўтаматам
На дах рэйхстага я ўзышоў.

Была ўрачыстасці мінута
Пасля паходаў і турбот.
За ўсю вайну упершыню так
Спакойна выцер з твару пот.

Здалося: сонца стала ніжай,
Каб больш святла і ласкі даць,
А тых, хто ў лютых бойках выжыў,
Абняць, узняць, расцалаваць.

Глядзеў на ўсход я ў задуменні,
Здалёку бачыў родны край:
Палеткі ў зелені вясенняй,
Свой Гомель, па-над Сожам гай.

А нада мною сцяг узняты,
Прабіты кулямі, палаў.
Ад волжскіх стром, ад Валгаграда
Ён шлях салдатам асвятляў.

*1945*

## ТОЛЬКІ Б ТЫ АДПАЧЫВАЛА...

Прыцемкам прыйшла ты з поля
Ад камбайна, ад штурвала...
Ля акна маўчаць тапалі,—
Толькі б ты адпачывала.

Выплыў месячык прыгожы,
Яго воблачка схавала,
Вецярок дыхнуць не можа,—
Толькі б ты адпачывала.

Рэчка ўецца недалёка,
Човен гойдае памалу;
Ціш разлеглася навокал,—
Толькі б ты адпачывала.

Калі гнаў аўтамашыну
Я ў гараж — не да сігналу,
Ход прыцішыў на хвіліну,
Толькі б ты адпачывала.

*1950*



# МІХАСЬ ПЯНКРАТ

Міхась Пянкрат (Міхаіл Міхайлавіч) нарадзіўся 28.8.1918 г. у в. Карпілаўка Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Смілавіцкі паляводчы тэхнікум (1939). Удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939—1940 гг., быў цяжка паранены. Працаваў журналістам. Першы верш надрукаваў у 1937 г. Выдаў зборнікі вершаў «Салаўіны бераг» (1956), «Прынцыповы пасаг» (1978). У 1978 г. выйшаў аднатомнік выбраных твораў «Спатканне і ростані».

## ДУБОК

Кінеш вокам — шырыня такая!
У блакіце — птушак галасы.
Бачу, хтосьці мне здалёк ківае
Ад лясной ахоўнай паласы.

То ж дубок мяне пазнаў зялёны.
Столькі ў ім бадзёрай пекнаты!
На мае гарачыя далоні
Палажыў шырокія лісты.

Да дубка дзябёлага хінуся.
Як жа ён так хутка тут акрэп?
Жалудом даспелым з Беларусі
Ён прыехаў у шырокі стэп.

І цяпер у стэпавым разгоне,
Дзе ляглі пакорліва пяскі,
Мы стаім, абняўшыся, гамонім —
Лепшыя на свеце землякі.

Адчуваю: пад рукамі б'ецца
У галінах дужых цёплы сок...
Ганаруся, што пад ветрам гнецца,
Гнецца, ды не зломіцца дубок.

*1950*

* * *

Даўно траншэі зааралі,
Скрышылі залеж цаліны,
Даўно, як шчасце, сустракалі
Мяне, прыйшоўшага з вайны.

А помніцца: шумяць прысады...
Цяпло натруджанай рукі...
Сляза, адмучаная радасць,
Упала з матчынай шчакі.

Такім святлом гарэлі вочы:
Цяпер нам жыць і доўга жыць...

...А сэрца матчына не хоча
Такое стрэчы паўтарыць.

*1953*



# АЛЕСЬ БАЖКО

Алесь Бажко (Аляксандр Цімафеевіч). Нарадзіўся 22.10. 1918 г. у в. Даўгінава Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. Вучыўся ў музычным інстытуце імя С. Манюшкі ў Навагрудку (1936—38), Варшаўскай кансерваторыі (1938—39). Скончыў літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве (1955). Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Удзельнік Айчыннай вайны. Працаваў у друку, у выдавецтве, з 1973 г. дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы, у 1977—78 гг. галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР. Друкуецца з 1947 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «Суладдзе» (1975), «Каласы і скалы» (1978), паэм «Карвіга пакідае хутар» (1960), «Татры» (1963), «Блакітныя вербы» (1972), вершаванай аповесці «Лясныя крушні» (1981), кнігі аповесцей «Перад вераснем. Позняе ворыва» (1979) і інш. «Выбраныя творы. Паэмы. Вершы» (1987).

## СУЛАДДЗЕ

Мой дзед на слых цымбалы ладзіў,
Пасля ў задуме струны гладзіў
І гаварыў, што ў іх суладдзі
Ўсё падначалена спрадвеку
Зямным патрэбам чалавека.
І, калі ён душою чысты,
У струнах чуйных, галасістых
Ратунак знойдзе ад журботы,
Зайграе так, што людзі потым
Дружней араць і сеяць будуць.

Хто заадно з працоўным людам —
Абы-чаго іграць не стане
Ні ў час бяды, ні на гулянні.
Бо песняй можна і параніць,
Калі дасі патолю гукам.
«Суладдзе, брат, такая штука!..» —
Дзед «браў» акорд і пільна слухаў,
Каб гук які не рэзаў вуха.

Дзед і ў жыцці любіў парадак,
Не парушаў у вёсцы ладу,
Пакуль паны яму за песні
Луг не абрэзалі да весніц.
І адсядзець яшчэ ж прыйшлося.

Вярнуўся дзед з турмы пад восень,
Узяў дубовы кій, цымбалы
І пацягнуўся ў свет памалу.
А следам — злая пагалоска:
«Дзед назаўжды пакінуў вёску...»

Калі ж яго назад вярнулі,
Дзед нават солтыса расчуліў,
Сказаў, што хоць у панскім ладзе
Няма ні праўды, ні суладдзя,
Ён за цымбалы больш не сядзе.
Ды не паспеў той выйсці з хаты —
Дзед злез з палка ды зноў заўзята,
Але без лішняй спешкі, дбала
Так «падкруціў» свае цымбалы,

Каб на хрысцінах ці вяселлі
Вуглы і тыя ў хатах пелі,
Калі народ за стол пасядзе.
Ў суладдзі думак — спраў суладдзе.
І той, хто гэта разумее,
За трох рабіць і пець умее.

* * *

Стары цыган калісьці мне казаў:
«Мы, сокал, возім гора на вазах,
Таму нідзе прыстанку не знайшлі...»
Зямля мая! Хоць сонцам ашчасліў
Маіх сяброў, што некалі ў лясах
Далі мне прагу да жыцця ў пасаг
І навучылі песняй даражыць.
Мне і цяпер цыганскія вазы
Начамі сняцца — выскачыш, глядзіш
На бацькаў плот, палеткі, маладзік,
Ідзеш зацішку ля ракі шукаць —
А гэта сосны ля дарог скрыпяць
Па грудзі ў жыце ці сухой раллі...
Яны і песню новую далі.

* * *

Цягаў я жывыя сосны ў клець,
Пакуль адна ў руках не застагнала.
«Не хоча ў печы, матухна, гарэць»,—
Сказаў мне бацька і зрабіў цымбалы.

Прайшлі гады,
клець аджыла свой век.
І на цымбалах шмат адмецін часу.
Пад іх напеў я акупантаў сек,

Хадзіў на спеўкі ў дальнія калгасы.
Сябры жартуюць: «Пасівеў ты, брат,
А струны рвеш, не ў прыклад, як
малое...»
Рву, бо жыццю і новым песням рад
І не магу забыцца на былое.
А ўсё таму, што некалі вясною
Пачуў той стогн, абронены сасною.



# УЛАДЗІМІР ШАХАВЕЦ

Уладзімір Міхайлавіч Шахавец (26.11.1918, в. Кілія Барысаўскага р-на Мінскай вобл.— 1991). З сялян. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт БДУ імя У. І. Леніна (1946). Удзельнік партызанскага руху на Беларусі і баёў у складзе 1-га Украінскага фронту. У пасляваенны час на журналісцкай (1946—48) і выдавецкай (1948—1988) рабоце. Вершамі дэбютаваў у 1937 г. На беларускую мову пераклаў паэмы «Мцыры» і «Ізмаіл-бей» М. Ю. Лермантава, шэраг вершаў А. С. Пушкіна, У. Маякоўскага, С. Маршака, а таксама многіх украінскіх паэтаў. Вядомы як празаік («Выбраныя творы» ў 2-х тамах выйшлі ў 1978).

## У РОДНАЙ ВЁСЦЫ

Першы ціхі вясковы ранак
На сустрэчу са мною прывёў
І гарбы заімшэлых зямлянак,
І бязмежнасць родных палёў.

Я такога не бачыў ніколі:
Ад узгорка да самай ракі
Быльнягамі парослае поле
І на ім васількі.

І вакол, як абдыме вока,
Толькі сіні-сіні туман,
Быццам з нейкіх краін далёкіх
Нас праведаць прыйшоў акіян.

Хутка прыйдзе гарачае жніва,
А пажнеш тут колас які...
І зрабілася так тужліва,
Што цвілі васількі,

Што знаёмых палёў прасторы
Перайначыў суровы мастак,
Што людское пякучае гора
Выглядаць можа хараша так.

Мы да родных палёў прыложым
Дбайнасць нашай мазольнай рукі,
Каб вакол так балюча-прыгожа
Не цвілі васількі.

*1944*

## ПАСЛЯВАЕННЫ СТУДЭНТ

Ляжаў ён у траншэях пад замежным ветрам,
Прайшоў бязмежнасць стэпаў і прасёлкаў гразь;
Як сведкі гэтага, на гімнасцёрцы спектрам
Палоскі каляровыя гараць.

Траншэі зарастаюць быльнягом высокім,
А ён сядзіць над мудрай кнігай уначы
Да стомы трэніраванага вока,
Да болю у прастрэленым плячы.

Скрозь дым атак ён бачыў дзень, каторы
Апошнім будзе днём пажарышч і баёў,
І цішыня студэнцкіх аўдыторый,
Як сябра даўняга, яго сустрэне зноў.

І сёння бачыць ён скрозь лічбы вылічэнняў,
Гартаючы старонкі таямніц,
Што хутка смелых фантазёраў летуценні
Мы здолеем сапраўднасцю зрабіць.

Што хітра сплецены, упарты атам
Паслужыць верна і сялянскім хатам.

*1946*

## СЛОЎНІК ДЛЯ ЎНУКА

Ёсць гром аглушальны,
                                        пагрозна-суровы,
Вайны ўсёзнішчальнай бязлітасны гром.
А ты будзь знаёмы [illegible] грымотай вясновай,
Гатовай праліцца
                                на поле дажджом.

З жыцця твайго выкрасліць
                                                леты і зімы —
Няма злоснай бомбе задачы прасцей.
Ты ж ведай не атамны грыб Хірасімы,
А той,
        што на ўзлеску імшыстым расце.

Вінтовачны ствол
                                і гарматны прыносяць
Глыбокія раны пакутнай зямлі.
Ты ж ведай ствалы,
                                        што ўзнімаюцца ў просінь
У шчодрым убранні зялёных галін.

З таго аўтамата, дзе куляў багата,
Не згледзіш,
                        як злыдзень цябе пасячэ.
Ты ж ведай лагоду таго аўтамата,
З якога вада ручаінкай цячэ.

Не ведай ты тую смяротную мушку,
Бяруць на якую, каб знік ты навек.
Хай помніцца мушка, яна ж зелянушка,
Якая ў Максімавай казцы жыве.

Хай словы нялюдскія кануць у Лету,
Не будзем па іх у самотнай жальбе...
І Лету пакінем — для страху — паэтам,
А лета хай будзе, унук, для цябе.

*1985*



# КАСТУСЬ КІРЭЕНКА

Кастусь Кірэнка (Канстанцін Ціханавіч; 12.12.1918, в. Гайшын Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобласці — 1989). З сялян. Скончыў літаратурны факультэт Гомельскага педінстытута (1940). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У пасляваенны час — на журналісцкай рабоце: галоўны рэдактар часопіса «Бярозка» (1962—72 гг.), часопіса «Полымя» (1972—88 гг.). Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1970). Вершавы дэбют у 1939 г. Першы зборнік «Ранак ідзе» выдаў у 1945 г. Аўтар шаснаццаці арыгінальных кніг лірыкі, шасці паэтычных кніг для дзяцей. У 1969 і 1978 гадах выйшлі выбраныя творы ў 2-х тамах. Аўтар шэрагу зборнікаў прозы і публіцыстыкі. Перакладаў на беларускую мову творы У. Маякоўскага, М. Ісакоўскага, Я. Смелякова, А. Пракоф'ева, Я. Райніса, М. Рыльскага, У. Сасюры, М. Бажана, П. Тычыны і інш.

У 1963 г. зборнік вершаў «Смага» адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы, у 1972 г. «Кніга ста песень» — Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.

## РАНАК ІДЗЕ

Што гэта? Што гэта чутна далёка?
Быццам гамоніць, пяе?
Вецер, прачнуўшыся, кратае блёкат,
Гутарыць з вербай, прабуе ў асоках
Цымбалы свае.

Што гэта? Што гэта свеціцца ў змроку?
Меркне, не гасне ніяк.
Зорка шукае адцвіўшую зорку,
Дужыцца ўзняцца над Сожам шырокім
Зялёны маяк.

Дзе гэта? Дзе гэта песня зязюляй,
Чуеш — ку-ку ды ку-ку?
Сына ў калысцы галубіць матуля,
Дзеўчына з ночы па любым сумуе —
Адзін на вяку.

Шырыцца, шырыцца, плешча, бы хваля,
Гукаў настройны мажор.
Унь умываюцца золакам далі,
Унь заранiцы пялёсткі апалі
На поле, на бор.

Што ж гэта, што — цераз пушчы, па нівах,
Шляхам, уброд па вадзе,
З яснай усмешкай, прыгожай на дзіва,
Быццам крадзецца — а смела, імкліва?..
То ранак ідзе!

*1941*

* * *

Каля пажараў прыкурвалі,
У касках варылі гарбату.
Спявалі з вачмі пахмурнымі
Аб нівах сваіх і хатах.

Зайздросцілі ўсім параненым,
Жадалі ім радасці ўсякай.
А потым па росах ранішніх
Адважна хадзілі ў атаку.

Ля трыпаў чужых вячэралі
Ды зноў набівалі набоі.
Стралялі ў пацёмкі шэрыя,
Трывожачыся без бою.

Над брацкай магілай шчырую
Слязіну зганялі без слова.
І цяжка —
як птушкі ў выраю —
Спяшаліся ў шлях суровы.

На гонях, дзе бура гойсала,
Шукалі такое дарогі,
Дзе б трошкі маглі агойтацца
І сэрца, і рукі, і ногі.

Але пасля бойкі бачылі,
Што жыў яшчэ люты вораг.
І тут жа рукой гарачаю
Старанна сушылі порах.

Ізноў ад кастроў прыкурвалі,
Тужылі па родных хатах
І рушылі ў свет разбураны
Вялікай зямлі салдаты.

Маскоўскія, з Оршы, з Кірава,
Чарнігаўскія ды данскія,
Якіх апяюць са шчырасцю
І Вільнюс, і Мінск, і Кіеў.

І, пэўна, ніякай сілаю
Ніхто іх нідзе не спыніць,
Пакуль за краіну мілую
Іх сэрцы балець не кінуць.

А як гэты боль — бясконцы,
То век ім не знаць спакою
І вечна шагаць пад сонцам
Па грознаму клічу: «К бою!»

*1944*

## НА ПОЛІ БЯССМЕРЦЯ

Не паклаў нават ранца ўголаў,
Не ацёр і крывавага поту,
Злёг навекі на ўзмежку голым
Баец пяхоты.

Дагараюць чужынцаў танкі,
Бой на захадзе ўжо далёка.
На загоны сышла заранка
Нячутным крокам.

Падымае, цалуе травы,
Што зламаны нагой варожай.
І ўжо вецер вясны ласкавы
Запеў над Сожам

Пра бяссмерце байца пяхоты.
А юнак усё сціскае зброю,
Быццам сніць, што ізноў камроты
Гукнуў да бою.

Рукі прагнуць падняць гранату...
Ловіць слых гром гарматны рэдкі...
Спаў салдат. З-пад крыві салдата
Прарасталі кветкі.

*1945*

## ЛЕТНЯЯ НОЧ

І калі адзвінела дзявоцкая песня на ніве
І асеў на абочынах пыл палявых каляін,—
Настала вясковая ноч.

Вось з-за воблака вынырнуў
З радасным позіркам месяц,
І апала на грады цяжкая раса,
І тады зварухнулася ўсё, што ўзрасціў чалавек,
Што ён днём даглядаў, над зямлёй падымаў.

Расхінуўшы кіёўкі, гуркоўнік зялёнай касою
Пацягнуўся, як хобатам, да прамяністай слязы,
Азірнуўся кругом, варухнуў маладзенькім лістком,
Ціха клюнуў расіну, па жылках пагнаў.

І праз міг ужо стала буйнейшаю завязь,
І пахучы гурочак ад радасці піскнуў ажно,
Бы на ўлонні ў матулі,
Змясціўся на пульхнай зямлі
І ў здзіўленні ўтаропіўся ў зорную высь.

Скалыхнуўся сланечнік высокі, нібы па камандзе,
І відаць было, як падымаліся вышай ствалы
І як кожны шырокі свой твар падстаўляў
Пад расу, што клубілася парам наўкруг.

А ў садах даспявалі налітыя сонцам ранеты;
Раптам чуўся як быццам бы стрэл над зямлёй, —
Гэта рэпаўся яблык, так біўся ў ім сок,
Ледзь трымаўся, каб часам не ўпасці на дол.

Усю ноч не сціхала шчаслівая праца.
А на раніцы зморананая зямля
Паднясла чалавеку свае залатыя дары
І збудзіла ў душы яго радасці спеў.

Ён глядзеў з асалодай на роднае поле —
На пшаніцы, што дбайна трымалі цяжар каласоў,
На ільны пабялеўшыя, на высокі гарох,
На якім калыхаліся важка струкі,

І раджаўся ў ім гонар за лёс чалавека,
Бо яму ўся належала гэта краса.
Пахла мёдам. Аж соладка сэрцу было.
Зацвітала рослая грэчка ў палях...

*1953*

## БЕЛАЯ ЧАЙКА

*В. П.*

Прычапілася белая чайка ка мне:
Не паспею заснуць — а яна нада мною.
Кружа, кружа — то вострым крылом
чыркане,
То, як хваляй, гарачай абдасць белізною.

І крычыць, і крычыць так тужліва штораз!
І глядзіць, і глядзіць. А пагляд — дзікаваты.
Быццам нейкі таемны вядомы ёй сказ.
Быццам я перад ёю у чымсь вінаваты.

Я прачнуся. Я доўга нямею ў цішы.
Ты адкуль, мая чайка? Адкуль ты і што ты?
Я ж за век аніводнае чыстай душы
Не забіў — ні ў людзей на вачах і
ні ўпотай.

Тыя ж душы, якія паліў я агнём,
Былі з чорнае зграі, цямнейшыя ночы.
І яны аніколі ні ноччу, ні днём
Не схацелі б папасца ізноў мне на вочы.

Дык адкуль жа ты, чайка? Адкуль і чыя?
І чаго ты чакаеш? — скажы, калі можна...
...А, быць можа, ты тая трывога мая,
З якой колісь расстаўся я неасцярожна?

Можа быць, ты заўважыла ў песнях маіх
Вельмі чыннасці многа і многа спакою?
І, мне ўсё дараваўшы, прыйшла, каб да іх
Зноў вярнулася скруха за шчасце людское?

Не адказвае чайка... А я не магу
Жыць далей так, як жыў,—
каб і ўтульна і сонна...
Быццам хтосьці па свеце збірае тугу
І нясе ў маё сэрца — штоноч і штодзённа.

Нейкі кліч, нейкі звон усяліўся ў мяне,
Як хто водзіць па жылах смычком-
самайграйкай.
А ледзь вочы самкну — зноў крылом
чыркане,
Зноў крычыць нада мной
мая белая чайка.

*1961*

## ПАЛЕСКАЯ ПОЛЬКА

Гарманіст мяхі разводзіць,
І пайшло ў катле кіпець!
Проста самі ногі ходзяць,
Паспрабуй — стрывай, уседзь:

— Ой, хто з Полькай не танцуе,
Той дарма зямлю дранцуе.
Ох ты ж, Полечка мая,
Ты не любіш, люблю я!..

Без ашчады б'еш абцасы,
То й глядзі — захлыне дух.
А спаволіш ногі часам —
На ўсю хату грымне круг:

— Ой ты ж, Полька, што ты, што ты,
Ці шкадуеш мае боты?
Не шкадуй, я разлуплю —
Пайду новыя куплю!..

Дзе ж тут кінеш гэпаць — сорам! —
Заклююць і засмяюць.
Бо і Польцы нават — хорам —
Не пяюць — прысуд даюць:

— Пакуль Полька танцавала,
Патуль Польцы шанцавала.
Як не стала танцаваць,
Перастала шанцаваць!

— Перастала, перастала,
Пакуль зноў затанцавала.
Ох ты ж, Полечка мая,
Сып нагамі, як і я!..

І ўсе разам — сыплем, сыплем,
І ніяк ужо няўцям:
Хто дзярэ басок асіплы —
Ці твой сябра, ці ты сам:

— Ох ты ж, Полечка, ты Полька,
Мая радасць, мая болька,
Ох ты ж, Полька, хоць радзі,
А шпарчэй са мной хадзі!
А шпарчэй са мной хадзі,
Ды на іншых не глядзі!

— Ды на іншых не глядзі!..
— Ды на іншых не глядзі!..

Сціх гармонік...
— Стоп!..— Сябры
Кажуць: — Сядзь вось... Пакуры...

*1975*



# АРКАДЗЬ ГЕЙНЕ

Аркадзь Андрэевіч Гейне нарадзіўся 10.1.1919 г. у г. п. Бешанковічы Віцебскай вобл. у сям'і служачага. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску (1938—41). Загінуў 16.12.1942 г. Асобныя вершы змешчаны ў калектыўных зборніках «Камсамол на граніцы» (1939), «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967).

## ШЧАСЛІВАЯ ЗОРКА

Помніш, летняй ноччу цёмна-сіняю —
Шчаслівейшай нашаю парой —
Слухалі мы песню салаўіную
У зялёным садзе над ракой.

Месяц з-за высокіх ліп квітнеючых
Усміхаўся ласкавым святлом;
Зоркі, ясным бляскам палымнеючы,
Падалі далёка за сялом.

У народзе ёсць павер'е гэткае,
Быццам мае кожны чалавек
Зорку ў небе, для яго прыметную,
І яе жыццё — ягоны век...

Парашылі мы тады з усмешкаю —
Ты — сабе асобна, я — сабе —
Выбраць шчаслівейшую, найлепшую
Зорку...

Я спытаўся ў цябе:
— Ну, твая, напэўна, там, што свеціцца,
Дзе ляжыць вялікі Млечны Шлях,
Або там, дзе зорная Мядзведзіца,
Самая ярчэйшая...
                    Ці так?..

Ты зірнула ў ночы даль маўклівую
І сказала: — Не, не адгадаў;
Выбрала я самую шчаслівую,
Што ў Крамлі...
                    І выбар наш супаў...

*1938*

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧЫНЫ

Узыходзіла сонца над гаем.
Я цябе правяла за сяло.
Ты сказаў мне: — Бывай, дарагая!..
Усміхнуўся і сеў у сядло.

Я стаяла, махала рукою,
Налівалася сэрца тугой.
— Напішы мне што-небудзь парою,
Не забудзь, ненаглядны ты мой...

Нечакана з далёкай заставы
Вестка сумная ў хату прыйшла,—
Што загінуў у бойцы са славай
Лепшы хлопец і воін сяла.

Не змываецца гора слязамі,
Ад жальбы на душы не лягчэй.
Я пайшла за табою слядамі,
Што не выцвілі ў травах яшчэ.

Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі,
Згас твой погляд навек агнявы.
Галаву апусціўшы, на волі
Ходзіць сябра твой — конь баявы.

Я каня асядлаю з любоўю,
Я прачышчу вінтоўку тваю,
І — расплоцяцца ворагі кроўю
За цябе у наступным баю!..

*1938*



# АВЯР'ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ

Авяр'ян Сафонавіч Дзеружынскі (10.6.1919, в. Хляўно Кармянскага р-на Гомельскай вобл.). З сялян. Скончыў Магілёўскі газетны тэхнікум (1937), затым Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску (1941). Удзельнік Айчыннай вайны. У пасляваенны час на журналісцкай (1945—49) і выдавецкай рабоце (1950—89). Друкуецца з 1939 года. Выйшлі зборнікі лірыкі — «Песні маладосці» (1959), «Калінавы цвет» (1961). «Бярозавы вецер» (1990), пятнаццаць кніжак вершаў для дзяцей. Многія вершы паэта пакладзены на музыку.

## КАБ СЭРЦА ЎСКАЛЫХНУЦЬ...

Хацелася
Пагаварыць з табою,
Твой непаўторны голас
Зноў пачуць,
Ды ты, відаць,
Не хочаш быць са мною,—
Не мог
Твайго я сэрца ўскалыхнуць.

Гляджу даўно,
Як вечар дагарае,
На йгрышча ўжо
Каханыя ідуць.
Адной цябе
Не бачна, дарагая,—
Не мог
Твайго я сэрца ўскалыхнуць.

Гатовы ўсё, што ёсць у марах,
Здзейсніць —
Да зор ляцець,
Зямлю перавярнуць,
Каб ты была заўжды са мной,
Як песня,
Каб сэрца мне
Тваё ускалыхнуць.

*1953*

## ЧАРАЎНІЦА

Запляла дзяўчына ў косы
Стужкі каляровыя,
Яе бровы — смоль, а вочы —
Васількі жытнёвыя.

На мяне крадком зірнула,
І застыў без слова я:
Сэрца ўраз заваражылі
Васількі жытнёвыя.

З той пары — дзе ні праходжу,
За ракой, дуброваю,—
Не даюць нідзе спакою
Васількі жытнёвыя.

Трапіў, мусіць, чараўніца,
У твае аковы я —
Маё сэрца паланілі
Васількі жытнёвыя.

*1954*



# МІКОЛА АЎРАМЧЫК

Мікола Аўрамчык (Мікалай Якаўлевіч). Нарадзіўся 14.1.1920 г. у в. Плёсы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. У чэрвені 1942 г. пры акружэнні на Волхаўскім фронце ўзяты ў палон і вывезены фашыстамі ў Рур на каменнавугальныя шахты. Вызвалены ў красавіку 1945 г. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1949). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). У 1953—80 гг. рэдактар аддзела паэзіі ў часопісе «Маладосць». Друкуецца з 1937 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Пярэдні край» (1949), «Ключы жураўліныя» (1960), «Сустрэча былых канагонаў» (1963, Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы 1964), «Універсітэцкі гарадок» (1967), «Агледзіны» (1969), «Радовішча» (1967) і інш. Пераклаў паасобныя творы А. Міцкевіча, У. Бранеўскага, Я. Бжэхвы, Т. Кубяка, Е. Літвінюка і інш. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1980).

## БЕЛАРУСКАЯ САСНА

З кожнай штольні пахне беларускай,
Баравой, смалістаю сасной...
Пад зямлёй праход нязручны, вузкі
Выглядае просекай лясной.

Столь над нізкім вугальным забоем
Падпірае стойка не адна.
Некаторая з іх над табою
Зарыпіць, як голлямі сасна.

Ціснe яе зверху цяжкі камень,
Грунт падрэзаны асеў на ёй
Тысячагадовымі пластамі
На паўкіламетра таўшчынёй.

Не такі цяжар яна ўтрымае,
Выступіць, як пот, з яе смала,
А сасна, упартая, прамая,
Хоча зноў прабіцца да святла.

Ты з настойлівасцю вугаль колеш,
Іскры пырскаюць з-пад малатка...
Родная сасна пад цяжкай столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

*1947*

## СУСТРЭЧА БЫЛЫХ КАНАГОНАЎ

*Паўлу Беспашчаднаму*

Ты ж канагон, як кажуць, па прызванню,
А я, брат, паняволі канагон...
Заплюшчу вочы — ўсё як ёсць дазвання
Прыгадваю, нібы жахлівы сон.

Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,
І ў ёй не я, а сноўдае штодзень
Шкілет, які яшчэ абцягнут скурай,
Ды на сцяне — чужы сутулы цень.

Ты на радзіме працаваў з сябрамі,
Тут зваўся Стрэпетам твой верны конь,
Што ўстрэсваў грывай, цішу стрыг вушамі
І капытамі высякаў агонь.

Больш не расказвай мне у гэты вечар,
Як разумеў цябе ён пад зямлёй,
Бо сэрца птушкай раненай трапеча,
Гарачай абліваецца крывёй.

Са мной быў конь з чужой мянушкай Тойфель[1],
Не раз яго зваў небаракам я —
Па-свойму зваў, хоць сам не знаў пра тое,
Што вымаўляў ягонае імя[2].

Быў побач ён адзін у шахце рурскай,
Каму сказаць мог слова хоць адно...
Але ўсё роўна ён па-беларуску
Не разумеў, бядак, ні «тпру» ні «но».

Разумнымі слязлівымі вачыма
Глядзеў у твар мне з нейкаю журбой,
Як быццам шкадаваў, што немагчыма
Пагаварыць нам шчыра між сабой.

Яны ў яго жывога ашклянелі,
Ён паўаслеп ад цемры і ад слёз
І мне напамінаў, што ў падзямеллі
Мяне чакае гэткі ж самы лёс.

Туман клубіцца, цёплы надвячорак
Дыхнуў з прысадаў свежасцю начной.
Здаецца, там прыціхла дзесьці мора
За тапалінай роснаю сцяной.

А там жа стэп, капры і тэрыконы...
Адзін аднога ўзяўшы пад руку,
Ідуць удвух былыя канагоны
Па вуліцы ў данбаскім гарадку.

*1957*

---

[1] Тойфель — чорт *(ням.)*
[2] Армэр Тойфель — небарака *(ням.)*

* * *

Вось яны, прывольныя прасторы,
Роднае зямлі спакон вякоў!..
Паабапал аржаное мора
Ледзь не хлыне на бальшак з бакоў.

Па-над абеліскамі-слупамі
Дуб-асілак з гордай галавой,
Тройчы расстраляны перунамі,
Выглядае вежай вартавой.

А як пеўні абвясцяць світанне,
Разам [illegible] дбайным сонцам аглядаць
Гэтыя бяскрайнія ўладанні
Бусел падымаецца з гнязда.

Апячэ дзяўчына ранкам буднім
Ногі аб расу на мураве,
Ледзяной вады глыне са студні
І курлыкне хрыпла журавель.

Калі бачыў ты, як тут шугае
Бэз ліловым полымем ля хат,
Ад якога сполахі мільгаюць
Ў шыбах вокан і ў вачах дзяўчат;

Як кіпіць перад пачаткам лета
Квецень перагрэтая садоў
І ружовай пенай белацвету
Пырскае на разамлелы дол;

Калі чуў, як салаўі тут хорам,
Захлынаючыся ад красы,
Прапалоскваюць, бы лудзяць, горлы
Срэбнымі крупінкамі расы;

Калі звечара пасля змяркання
Адчуваў, душою маладых,
Як у сэрцах спее тут каханне,
А ў садах — духмяныя плады;

Калі бачыў, як святлом барвовым,
Азарыўшы да вяршынь лясы,
Незгасальным полымем ліловым
Тут гараць увосень верасы;

І калі не днямі, а гадамі
Адчуваў ты зблізку і здаля,
Як тут хлебам, мёдам і грыбамі
Пахне навакол сама зямля,—

Зразумееш ты тады, магчыма,
Не пражыць чаму мне без яе
І чаму ўсё тут перад вачыма
У ружовых фарбах паўстае.

*1958*

## КЛЮЧЫ ЖУРАЎЛІНЫЯ

Жан, у нас загаіліся раны на целе.
Зноў вясна... Зноў расталі даўно ледзяшы...
А пад сэрцам маім іх асколкі заселі,
І ад іх прабягае мароз па душы.

Ледзяшы-сталактыты ружовае солі
Ў падзямеллі чамусьці нагадвалі мне
Позні сок на бярозах, якія ў няволі
Цяжка ранены ў замаразкі па вясне.

Мо таму, што маё апякалася цела
Капяжамі салёнай падземнай вады,
Адчуваў я, здаецца, душой набалелай,
Як балюча смылелі іх раны тады.

Той парой нават птушкі з лясоў і сядзібаў
Уцякалі за свет ад грымот і агню,
А ў вадзе касякі насцярожанай рыбы
З перапуду хаваліся ў глыбіню.

Толькі людзі — магутныя духам і сілай.
Нам ратунак паслалі браты і сябры...
Касякі грозных птахаў сярэбранакрылых
З буркаваннем трывожным плылі угары.

Мне здавалася: імі расколваюць хмары,
Забіваючы ў іх клін за клінам здаля,
І заранкі выкрэсваюць кожным ударам,
Ад якога ўздрыгвалі неба й зямля.

Вартавыя ад жаху зусім анямелі.
А вясна, жураўліныя ўзяўшы ключы,
Адамкнула нам дзверы на свет з падзямелля,
Абдала нас святлом пасля змрочнай начы.

Жураўлі пралятали з выгнання дадому,
Абуджалі ў душы аб радзіме ўспамін...
Мы па іхніх ключах, як па стрэлках рухомых,
Вызначалі напрамак да родных краін.

Прыгадаў гэта я, калі ўбачыў, як гусі
Пацягнуліся з выраю зноў ланцугом
Да лугоў заліўных і азёр Беларусі
І дачка з гладыша п'е кляновік нагбом.

Думаў ты, што да вас заляцела гагара,
Ажно гэта гаргара, якая з-за хмар
Ураніла пяро агнявое ў Сахару
І па свеце атрутны рассеяла гар.

Зноў вясна... Жураўліныя ўспомніш ключы...
Жан, а ты спіш спакойна ўначы?..

*1960*

## РАБІНАВАЯ НОЧ

Павольна спее навальніца
Сярод засмяглай цішыні...
Буйнымі гронкамі зарніцаў
Змрок набухае ўвышыні.

А постаць белая ў трывозе,
Як здань, мільгае пры акне —
Каханы позніцца ў дарозе:
Хай непагадзь яго міне.

Захвалявалася каханка:
За тупатам дажджын услед
Мільгнуў, асветлены маланкай,
Яго знаёмы сілуэт.

Дыханне сушыць вільгаць твару,
Ад цеплыні ўзаемнай іх
На вопратцы знікае парай
Вільготнасць кропляў дажджавых.

Пад бляск маланкі ў гэткім стане
У ноч рабінавую ім
Аголены ўвесь свет паўстане,
Абмыты ліўнем агнявым.

*1975*



# АЛЯКСЕЙ КОРШАК

Аляксей Ігнатавіч Коршак (22.2.1920, в. Вуглы Капыльскага р-на Мінскай вобл.— 27.2.1945). Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (1938—41). Удзельнік Айчыннай вайны. Загінуў на фронце ва Усходняй Прусіі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1937 г. Аўтар зборніка вершаў «Апаленыя пялёсткі» (1963). Асобныя вершы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967).

## ТРЫПЦІХ

I

Паталі ў рэчцы белыя аблокі,
І падплыло пад берагі там неба —
Блакіт ласкавы, плынны і глыбокі.
Для хараства яшчэ хіба што трэба?
І падплыло пад берагі там неба.
На берагах стаяць алешын сцены.
Для хараства яшчэ хіба што трэба,
Калі ад сонца уцякаюць цені?
На берагах стаяць алешын сцены.
Лісты злятаюць і плывуць па плыні.
Калі ад сонца уцякаюць цені,
У сэрца радасць ліўнем вольна хлыне.

II

Нахіліцца над рэчкаю крушына,
Зачэрпне срэбра у лістоў далоні.
На хваль блакітных кволую тканіну
Спадзе сляза з ліста лагоднай скроні,
На стравы густыя лапуховы.
Ручай закленчыць ля калень кляновых.
Гляджу я задуменнымі вачамі
На стравы густыя лапуховы,
Што плаваюць забытымі слядамі.

III

І сумна мне і радасна чагосьці,
А думы наплываюць, нібы чоўны.
Аб нейкай невядомай прыгажосці
Складаецца ў душы напеў чароўны.
А думы наплываюць, нібы чоўны...
Гляджу я на струменістыя хвалі,
Аб нейкай невядомай прыгажосці
Нанізваюцца думы, як каралі.
Гляджу я на струменістыя хвалі,
На вольны, нібы мора, луг зарэчны.
Нанізваюцца думы, як каралі...
І так, здаецца б, скрозь, і так бы вечна.

*1940—1941*

## ГАРАЧЫНЬ

Гарачынь, як у пекле...
        Над засмяглымі травамі
Бачаць вочы адну толькі вялую сінь.
Без ніводнай хмурынкі неба томіцца млявае,
Смаліць сонца, астаткі адбіраючы сіл.
Хоць бы ценю якога...
        Хіба дыхаць тут можна?!
Пачарнелыя вусны хоць бы ў кроплі змачыць!..
На густых сенажацях, на істужках дарожных —
Скрозь
        прылеглі
                вандроўцы
                        спачыць.
Гэты, землю абняўшы, быццам сябра сустрэчнага,
Гэты, з неба не зводзячы воч застылы блакіт,—
Так спачылі на хвілю...
        Што кажу я? —
                Навечна.
Чуеш, сэрца? Навечна. Скуль жа холад такі?
Быццам дроў наваляна...
                Глянь, і жудасна стане...
Па-над імі ці ў сонцы, ці ў слязінах дажджу
Скора ўстануць курганы, і на кожным кургане,
Быццам яблыню, песню сваю пасаджу.

*1942, чэрвень*

## РАССТРЭЛ

Над расою густою
Адубелі дубы.
Залатою жарствою
Неба ўслана нібы.

Па-над возерам вербы...
Іх мой шлях не міне.
Тры маўклівыя стрэльбы
Праважаюць мяне.

Ледзь калышацца сучча,
Лісце шэпча над ім.
Ныюць раны балюча
Ды на целе маім.

Ласкай іх не атуліш,
Не абмыеш расой:
Тры халодныя рулі
Строга сочаць за мной.

Зоры тонуць на ўзлессі,
Ноч ужо растае;
Неба, поўнае песняў,
Нада мною ўстае.

Мне ў яго не ўзірацца
Больш ні ў яве, ні ў сне:
Куляў цэлых пятнаццаць
Нарыхтавана мне.

Ой вы, вербы й сасонкі,
Зораў спелых сям'я!..
З вамі сёння на золку
Развітаюся я.

Стрэлы раніцу раняць,
Пырсне кроўю зара,
І звалюся я ў яму,
Нібы дуб ці гара.

. . . . . . . . . . . . . . .

Над курганам, што ўстане
Нада мною тады,
Закрасуецца станам
Дужы дуб малады.

Прыйдзе днямі другімі
К яму сябраў сям'я.
Павітаюся з імі,
Гэты дуб — гэта я.

Хтосьці ў спеве чароўным
Ўспамяне мяне там...
Вось і жвір супакойны...
Дык страляйце! Ўсё роўна
Не забіць мяне вам!

*1943*



# ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

Пятро Прыходзька (Пётр Фёдаравіч). Нарадзіўся 25.2.1920 г. у в. Альшоў Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Магілёўскую газетную партыйную школу (1938), Вышэйшыя літаратурныя курсы пры СП СССР у Маскве (1956). Удзельнік Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, з 1967 г. у выдавецтве «Беларусь», у 1972—80 гг. у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Друкуецца з 1936 г. Аўтар зборнікаў вершаў і паэм «Голас сэрца» (1947), «Ранак над Эльбай» (1952), «Цёплы каравай» (1960), «Сонца раней узышло» (1967), «На пераправе» (1974), «Парог памяці» (1983, Літаратурная прэмія імя А. Куляшова, 1985), «Апаленыя вёрсты» (1986) і інш.

## ДЗЕ ПРАЙШЛІ САЛДАТЫ

Дзе прайшлі салдаты
Нашай стараны,—
Падымацца хатам
На палях вайны.

Там расці дубровам,
Сонцу палымнець
І лясам сасновым
Бронзаю звінець;

На палях шырокіх
Жыту красавацць,
На дубах высокіх
Буслам клекатаць;

Ручайкам прывольным
Ліцца па вясне,
Хлопчыкам ля школы
Бегаць па расе;

Віцца па-над ганкам
Стайкам галубоў,
Немкам і славянкам
Добрых мець сяброў.

Дзе мы бралі сходу
Нашы рубяжы,—
Усяму народу
Мірна, ў дружбе жыць!

*1950*

## ПРАДЧУВАННЕ

Яшчэ сутоннем з-пад хмар навалы
Ноч падступала да нас журбой.
А ты ці знала, ці прадчувала,
Што будзе ростань у нас з табой?

Ці прыкмячала ты рысу тую,
Што аддзяляе ад ночы дзень?..
Зязюля вешча зноў закукуе,
Галінку зломіць лясны алень.

Усё ў прыродзе — і людзі й птушкі —
Свой прадчуваюць вясны прыход.
Прыемна дрэвам галінкі гушкаць,
Калі зарою гарыць усход.

Адчуць прыемна не ў злой напасці
Шурпаты поціск дружбацкіх рук.
Прыемна маці ў пагодным шчасці
Адчуць пад сэрцам таемны стук.

Мой свеце любы! Ты ў прадчуванні
Не ўбачыш болей святла вясны.
Хай перакрэсляць твае світанне
Пяром жар-птушкі начныя сны.

*1983*

## САЛДАТ НА П'ЕДЭСТАЛЕ

*Памяці старшага сяржанта*
*Трыфана Андрэевіча Лук'яновіча —*
*воіна-беларуса,*
*які ў апошнім баі за Берлін*
*выратаваў ад смерці*
*нямецкую дзяўчынку*

Там, дзе пад вогненнаю сталлю
Кіпелі Шпрэе берагі,
Стаіць салдат на п'едэстале —
Зямляк наш, сэрцу дарагі.

У Трэптаў-парку, у Берліне,
Ён на віду Еўропы ўсёй.
Заняў свой пост пад небам
сінім,
Навекі зліўшыся з зямлёй.

Над ім не плакалі бярозы
Слязьмі жывых вясенніх рос,
Калі, увесь адліты з бронзы,
Падняўся ён у поўны рост.

Цяпер к яму пад сонца мая
Прыходзяць тысячы людзей.
Адной рукой ён прытуляе
Дзіцё малое да грудзей.

Дзіцё, якое вынес з бою,
Кладзе галоўку на плячо...
Рукой караючай — другою —
Рассек ён свастыку мячом.

Каб над зямлёй, крывёй
палітай,
Не ўсплыў смяротны ураган,
Свой позірк воін самавіты
Скіроўвае за акіян...

А мы ў германскую сталіцу
Прыйшлі к таварышу свайму,
За ўсіх, каму ён часта сніцца,
Зямны паклон адбіць яму.

Прыступкі вывелі высока,
Байцу паклалі мы чабор,
Каб не тужыў ён там, далёка
Ад родных хат і ясных зор.

І хай яго не засмучае
Зары абветранай усход.
Над ім без гора і адчаю
Вятры нясуць за годам год.

Мы да свайго ідзём кургання,
А ён трымаць будзе ў вяках
Булатны меч выратавання
І сэрца добрае ў грудзях.

*1948—1985*

## БРАГІНСКІ КЛЁН

Пад Брагінам, над ціхім
плёсам,
Адбіўшы ў ростані паклон,
Людзьмі пакінутую вёску
Тут сцерагчы застаўся ён.

Было сваё жыццё і ў клёна:
Дзе мы вялі калісь баі,
Яму пад кронаю зялёнай
Спявалі дружна салаўі.

Зрадні пасляваенным дзецям
Ён нарадзіўся тут і ўзрос,
Аддаючы палям, дасвеццям
Жывое срэбра чыстых рос.

Ён мог залечваць людзям раны
І арашаць сухі падзол,
Вясною сок даваць крамяны,
Амыўшы кропелькамі дол.

Цяпер стаіць, як адзічэлы,
З пахілым позіркам сваім.
І толькі вусень жоўта-белы
Лянiва поўзае па ім...

І вораг нават быў не рады
Той хмары, што і ўшыр і ўдоўж
З чарнобыльскай плыла прысады
І разлівала едкі дождж.

Той дождж, якога над дарогай
І сам ён, клён, не заўважаў...
Цяпер от стаў перасцярогай
Для ўсіх людзей, і дрэў, і траў.

*1987*



# АРКАДЗЬ МАРЦІНОВІЧ

Аркадзь Нічыпаравіч Марціновіч нарадзіўся 10.3.1920 г. у в. Барбароў Глускага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1939 г. скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г.— журналіст. У 1950 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП Беларусі, а ў 1955 г.— завочна філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Першыя вершы апублікаваў у 1938 г. Аўтар зборніка вершаў «Чырвоныя ветразі» (1965) і многіх кніг прозы.

## ЛЕГЕНДА

Было даўно... Зялёнае маленства.
Аднойчы старац к ночы прыблукаў.
Легенду, што гучала набажэнствам,
Пад гукі гусляў ён апавядаў.

Жыла загадка ў дзіўнай той легендзе,
Якая з жабраком блукала з краю
ў край:
— Што найлягчэйшае на свеце?
— Што саладзейшае на свеце?
— Што найцвярдзейшае на свеце? —
Разгадай!

З дзіцячай непасрэднасцю я цяміў:
— Пух,
мёд
і камень.
...Легенду ўспомніў я шмат год пазней,
Калі мой край і мір і волю страціў,
Калі быльнёг парос на баразне
І гора скрозь было — у кожнай хаце.

Быў сын адзіны ў маці. А вайна
Ні з чым, ні з кім лічыцца не жадала,
Нат з сэрцам маці.
І яна
Адзінага свайго на смерць паслала.

І ён загінуў як герой. Жыццём
Ахвяраваў, баронячы Айчыну.
І ў матчын, з той пары самотны, дом
Не суджана вярнуцца болей сыну.

А маці... Лепш не будзем гаварыць,
Што рана і цяпер агнём гарыць,—
Лепш даўнюю легенду разгадаем,
Што простую жанчыну праслаўляе:

— Дзіця на матчыных руках — за ўсё лягчэй.
— А малако яе найсаладзей.
— А сэрца матчына — за ўсё цвярдзей!

*1957*

## РОЗДУМ

Як дзень мінецца ў працы і турбоце,
Смуга вячэрняя на дол спаўзе,—
Люблю пасумаваць на адзіноце,
Аддацца думам і тузе.

Я шмат што прыгадаю ў тыя хвілі:
Дарогі, па якіх не змог прайсці,
Сяброў, што, мала зведаўшы ў жыцці,
Галовы на вайне зпажылі;

Загоны пачарнелай збажыны
На полі адстаючага калгаса;
Пялёсткі нерасцвіўшых красак
І чэзласць неўзаранай баразны...

Я шмат што прыгадаю. І тады
Адчую востра ўсёй істотай
Патрэбу працаваць з запалам маладым,
Заўсёды жыць з гарэннем і турботай.

Бо шмат яшчэ нязробленага, шмат...
Працуй жа, не спыняйся, брат,
І за сяброў, што не прыйшлі з вайны,
Працуй,— каб плён заўсёды быў двайны.

*1957*



# АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

Аляксей Васільевіч Пысін (22.3.1920, в. Высокі Борак Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.— 27.8.1981). З сялян. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску (1937—39), скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1958). Удзельнік Айчыннай вайны.

Працаваў у рэдакцыях раённых газет (1939—41, 1946—56), з 1958 г. у рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда», з 1974 г. сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення СП БССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Друкаваўся з 1938 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Наш дзень» (1951), «Сіні ранак» (1959), «Мае мерыдыяны» (1965), «Тваё далоні» (1967, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1968), «Пойма» (1968), «Да людзей ідучы» (1972), «Вярбовы мост» (1974), «Ёсць на свеце мой алень» (1978). Для дзяцей выдаў паэтычныя зборнікі «Матылёчкі-матылі» (1962), «Вясёлка над плёсам» (1964), «Колькі сонцаў» (1979), паэм «Кавылёк» (1966), «Дзяўчынка Марыям» (1970). Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1980).

## ВУЗЕЛ

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў;

Да кладак гладкіх,
Валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў
І помнікаў гвардзейскіх...

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел мой рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

## ІВАН-ЧАЙ

Вабіць незнаёмая дарога,
І сабе ты скажаш: прыкмячай.
А калі дарог на свеце многа,
Друг мой, Іван-чай?

Ды тваіх, смаленскіх, не забуду
У снягах, дажджах і сіняве.
Тройчы адбівалі вёску Буду,
Тройчы паміралі за яе.

А пад Будай — хлопцы пахаваны,
А пад Будай — многія сябры.
Аляксеі, Віктары, Іваны...
Гліна коўзкая. Падзол сыры.

Узышлі травой і гарыцветам,
Узышлі на радасць ці жальбу?
Вунь стаіць Іван па-над кюветам,
Галавой ківае: «Вось жыву.

Не здзіўляйцеся, што ўвесь чырвоны;
Восем куль было — крывёю сцёк.
Скора восень. Каркаюць вароны.
Жоўты каля ног маіх лісток.

Хочаш — пачастую нашым чаем,
Я ж цяпер навекі вадахлёб».
Не, Іване, з чаем — пачакаем,
Закурыць не лішне нам было б.

Мы цыгарку скруцім па-былому,
Пусцім шызы дым на правады.
Першая зацяжка — мне, жывому,
Бо занадта ў сэрцы гаркаты.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чырвань, чырвань, колер праваты...

* * *

Свецяцца пявучыя калоны
Быстрых ліўняў і жывых бароў.
Падарылі юныя мадонны
Сінявокіх радасных багоў.
А зямля гудзе не райскім садам,
На зямлі больш сосен і ракіт.
Падаём мы яблык — спелы атам
Ў кошыку, што сплецены з арбіт.
Вы яго бярыце ў свет зялёны
І нясіце з мудрасцю багоў.
Свецяцца пявучыя калоны
Быстрых ліўняў і жывых бароў.

* * *

*Міхасю Стральцову*

Лугоў зялёнае міжброўе,
Вада — славянскай сінявы.
Мне кожны колас Прыдняпроўя
Жадае добрага здароўя
Паклонам русай галавы.

Вось бескапытная дарога
Звініць у бесканечнасць дня.
Нібы на маманта жывога,
Гляджу на рыжага каня.

Зямля — у воблаках і мяце —
Ляці увысь,
Глыбока сей!
Сасна паклікала, як маці,
Працяжна, глуха: «Аляксей...»

* * *

*Сцяпану Гаўрусёву*

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Вазьму шурпаты каласок
На чуйным провадзе саломы —
І адзавецца мне здалёк
Мой продак — сейбіт незнаёмы;

Жней невядомых галасы
Ўсплывуць над постаццю сухою.
Раскалыханы каласы
Густой паўдзённаю смугою.

Тут даспявае пад смугой
Зліццё надзей, жаданняў сумесь.
Гудзе жытнёвы провад мой —
Часоў былых і новых сувязь.

І даспявае далягляд
У трапяткім мембранным гуле.
Шукаюць рукі тых зярнят,
Каб нас таксама дзесь пачулі.

* * *

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку,
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.

...Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

* * *

Ноч, стамлёную частымі снамі,
Памяць, промнем сваім не будзі!
Замыкаю гарамі, лясамі,
Пакідаю яе ў забыцці.

Пажадаю вам, людзі, ўсміхацца
Ў добрых снах... Я ад добрых адвык.
Мне пажары, пажары ўсё сняцца,
Я баюся аслепнуць ад іх.

І здзіўляцца, напэўна, не трэба,
Калі выйду, апалены, з сну
І, не ўбачыўшы блізкага неба,
Свет абмацваць пачну,
Як сцяну.

* * *

Дарожны пыл ідзе направа —
Развеецца і ападзе.
Зямля — густая пераправа
Забытых лёсаў і падзей.

Быў дзесьці я на пераправе
З імглы, з нябыту ў гэты свет.
Мяне збірала разнатраўе
З дажджоў зямных, святла планет.

Мне маці вызначыла роднасць
І па душы, і па крыві.
Туды, дзе гарызонт крывы,
Працягам вабіць бессмяротнасць.

Вядзе па зелені, па маю,
То птушку дорыць, то змяю.
Лес пашчапаны ўспамінаю,
Дубы ў барознах пазнаю.

Два светы ў памяці і зроку,
Мяжою — вастрыё ляза.
Ды я скажу святлу і змроку:
Дабра больш сеецца,
Чым зла.

Не кожны сейбіт. Суцяшэнне,
Магчыма, знойдзецца і ў тым,
Што сціпла ты паднёс насенне,
Згінаўся ў клопаце адным.

## ВАДЗЯНЫЯ МЛЫНЫ

Не растуць на вадзе палыны,
І таму не ўяўляем сялібы,
Дзе былі вадзяныя млыны,
Дзе выблісквалі цёмныя рыбы.

Гаманлівы віхрасты струмень
Пагасіла зялёная раска.
Да гусей сухапутных на мель
Тут не сыдзе дзіцячая казка.

Толькі ёсць
Дзень надзей у вясны:
Рэчка з неба вяртаецца ліўнем —
Паўстаюць вадзяныя млыны
Над жарствою, над чадам крапіўным.

Вадаспад разгуляўся — без зла
Можа змыць нават камень пячорны
Аж уздрыгвае побач зямля —
Так вуркочуць нясцёртыя жорны.

Пастараўся, падмазаў млынар —
На млынах ані скрыпу, ні рыпу.
Быў бы спрыт — і дастанеш з-пад хмар
Агняпёрую спелую рыбу.

* * *

Сады, як белагрудыя мядзведзі,
Павіслі на рагацінах падпор.
Сцвярджаючы, што дол і высь — суседзі,
Сышліся ярусы пладоў і зор.

Паўзе туман з нізін. Платы намоклі.
Струменіць цішыня.
І ля двара
Запахлі раптам дзедавы каноплі —
Прынада позняя для снегіра.

Дрымотную знямогласць даспявання
На яблынях няцяжка прыкмячаць.
Дзе ж тое дрэва мудрага пазнання
Дабра і зла?
Маўчаць сады. Маўчаць.

Не ўспыхвае і не трапеча лісце,
Хоць тут усё авеяна агнём,
Калі сузор'і яблыкаў пякліся
І гаслі са знявечаным галлём.

Пякліся яблыкі. І цень Адама
Віднеўся між счарнелых голых дрэў.
Тады не райская гарэла брама
І не спакуснік зваблівы дурэў...

Такія ж зоры, яблыкі такія,
Як год, як шмат гадоў таму назад...
І я кажу: не бойся, Еўдакія,
Ступіць у сённяшні прыціхлы сад.

* * *

На суровым сваім рубяжы
Горад падаў грымотнай сцяною.
З камяніц паляцелі стрыжы
Проста ўвысь, проста ў неба начное.

Білі ўнізе агню языкі,
І стагнала зямля валунамі.
А яны паміж зорак луналі,
Бы счарнелыя маладзікі.

На далёкай на той вышыні,
Дзе ні гулу, ні гуку, ні кулі,
Птушкі сховішча ў небе знайшлі,
На ляту птушкі ў небе заснулі.

Сон такі незвычайны — крыло
На струмені маўклівым, як вечнасць.
І паветра іх пругка нясло
Як далей ад бяды чалавечай.

Да людзей горад новы прыйшоў.
Толькі дзесьці высока ў блакіце
Спяць стрыжы... Не будзіце стрыжоў,
Душ адвеяных не разбудзіце.



# АЛЕСЬ АСТАПЕНКА

Алесь Астапенка (Аляксандр Кірылавіч) нарадзіўся 14.7. 1920 г. у в. Сырская Буда Кармянскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Да Вялікай Айчыннай вайны скончыў тры курсы літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Улетку 1943 г. пад Арлом быў цяжка паранены. Першы верш апублікаваў у 1942 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Выпрабаванне» (1947), «Дзень маёй Радзімы» (1952), «Сэрца спявае» (1960). Памёр 20.7.1970 г.

* * *

Калі ён стукае драўлянаю нагой,
Ідзе маруднай, цяжкаю хадой,—
Дарогу дай яму і пакланіся нізка,
Нібы яго даўно ты знаеш блізка.

Нядбалым у сям'і сваёй не быў,
Зямлю, народ і песню ён любіў,
Прыгожым, дужым маці узрасціла,
Каб ён падмогай быў пад старасць,
сын-асілак.

Прыйшла у край няпрошана вайна,
У пекла бою кінула яна,
Стаяў насмерць ён пад Масквой, Растовам,
Абкуран твар яго агнём баёў суровых.

Ён засланяў грудзямі Валгаград,
Ад Волгі немца гнаў аж да Карпат,
І мы на волі водар п'ём вясновы,
Бо ён прайшоў тут па палях, дубровах.

Каб не адчуў ён болю сваіх ран,
Раскінься, плёсаў сінь, азёраў акіян.
А пройдзе ён, руплівы, полем чыстым,
Зямля, пад ногі ляж травою шаўкавістай.

Шумі, шумі, зялёны, дзіўны гай,
Вясёлай песняй сына сустракай,
Гаі яму ўспаміны дзён балючых,
Сатканых са свінца і перашкод калючых.

Загляне на гулянку ў добры час,—
Не абнясіце міма хоць бы раз,
Няхай ён з кожнай чаркі пакаштуе,
На покут сядзе, як у нас бытуе.

*1945*



# ІВАН МУРАВЕЙКА

Іван Андрэевіч Муравейка нарадзіўся 21.10.1921 г. у в. Таль Любанскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава (1939), скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1964). У друку выступіў у 1936 г. Аўтар зборніка вершаў «Песня над палямі» (1965), кніжак вершаў для дзяцей «Ручаінкі» (1956), «Вось якія мы» (1958), «Пра работу і ляноту» (1960), «Дружная сямейка» (1961), «Сняжынкі-смяшынкі» (1962), «Сем колераў вясёлкі» (1965), «Лясное возера» (1970), «Мы таксама падрасцём» (1971), «Дуб і дубок» (1977).

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Ёсць паляна сіняя ў бары —
У глухім зялёным гушчары.
Чыстая, бліскучая, як люстра,
На паляну ручаінкі льюцца.

Лось сюды прыходзіць кожны ранак
І глядзіцца, як зачараваны.

А кляны, дубы, бярозы, сосны,
Быццам родныя браты і сёстры,
За галіны ўзяўшыся старанна,
Карагодзяць навакол паляны.

Над палянай з ранку да змяркання
Дружны хор птушыны не змаўкае.

Толькі ёсць адно расчараванне —
Не растуць суніцы на паляне.

Сіняя паляна у бары —
Возера дзівоснае, сябры.

## ЯБЛЫК

Залацісты, спелы яблык
На маёй ляжыць далоні.
Залацісты, буйны яблык,
Быццам сонейка малое.

Быццам сонейка малое,
Нават горача далоні.
Досыць чуць яго паціснуць,
І — у твар прамені пырснуць.



# МІКОЛА ГАМОЛКА

Мікола Гамолка (Мікалай Іванавіч) нарадзіўся 11.3.1922 г. у в. Брынёў Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1939—40, завочна ў 1948—52). Служыў у Савецкай Арміі (1940—46), з 1947 г. працаваў у прэсе. З 1967 г. адказны сакратар камісіі па Дзяржаўных прэміях пры Савеце Міністраў рэспублікі, у 1970—79 гг.— літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першыя вершы надрукаваў у 1937 г. Аўтар двух зборнікаў вершаў: «Зварот шчасця» (1946) і «Б'юць куранты» (1950) і шматлікіх кніг прозы для дзяцей.

## МАГІЛЫ СЯБРОЎ

Усюды ціш. Замоўклі песні звонкія,
Навіс над лесам цяжкі небасхіл.
Вакол зямля, пакрытая варонкамі
І ўзгоркамі прытоптаных магіл.

Адсюль на Беларусь дарогі вузкія
Назад да родных хат нас павялі,
Ішлі грузіны, беларусы, рускія —
Усе народы нашае зямлі.

Ішлі усе, не ўсім аднак жа суджана
Было дайсці у край мой дарагі.
Каля варонак тых смяротнай сцюжаю
У многіх абарваліся шляхі.

Мы пахавалі іх, любіўшых горача
Свой край, далёкую сваю сям'ю,
І [illegible] іх магіл, з маленькіх тых узгорачкаў,
Мы родную убачылі зямлю.

*1944*

## МАЙ

Сягоння май. І мой сусед
Узлез на дах высокай хаты
І прымацоўвае [illegible] страсе
Па-над парогам сцяг крылаты.

Глядзіць ён радасна удаль.
Трапеча сцяг, як птушка б'ецца,—
Яму ён, пэўна, перадаў
Усхваляванасць свайго сэрца.

*1947*



# АЛЕСЬ САЛАВЕЙ

Алесь Салавей (Альфрэд Радзёк-Кадняк, 1.5.1922, в. Крысава Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.— 22.1.1978). Вучыўся ў педтэхнікуме, да вайны працаваў у Лагойскай раённай газеце, настаўнічаў на Вілейшчыне. З пачатку 1942 г.— ва ўправе гарадскога пасёлка Ілья на Міншчыне, з кастрычніка — у Рызе супрацоўнікам часопіса «Новы шлях». З наступленнем Савецкай Арміі ў 1944 г. паехаў на Захад, жыў у Берліне, Празе, Вене. У 1949 г. пераехаў у Аўстралію. Друкаваўся з 1937 г. Першую кніжку паэзіі выдаў у 1944 г. у Рызе. У Вене выдаў гістарычную паэму «Звіняць званы святой Сафіі» і кнігу паэзіі «Сіла гневу», у Аўстраліі — зборнік вершаў «Несмяротнасць». Пасмяротны зборнік паэзіі — «Нятускная краса» (1982, Нью-Йорк — Мельбурн). Пахаваны ў Мельбурне на беларускіх могілках.

* * *

...сцелюць галовы, як снапы,
малоцяць цапамі сталёвымі,
на таку жыццё кладуць,
веюць душу ад цела.

*«Слова аб палку Ігаравым»*

Там, на пякельным таку, дзе цапамі малоцяць галовы,
веюць ад цела душу, поле ўсцілаюць касцьмі,
моцна трымаюць свой сцяг непакорныя ўнукі Усяслава,
падае збіты адзін — іншы змяняе яго.

Думаеш, воража, змыць непахісную славу крывёю?
Высям бязмежным раўню ейнай крывёй замуціць?
Колькі жыццё ні тапчы — не ўзнясешся да ясных сузор'яў,
колькі ўгару ні сягай — высяў табе не таптаць.

*1939*

## ВОСЕНЬ

Каля хаты мае дрэвы летнія ўборы асыпалі
і заслалі аранжава-мосяжнай коўдраю двор.
За маўклівым сялом, за панурымі сёстрамі-ліпамі —
з поля звезена ўсё — у сарочцы калючай прастор.

Восень там гаспадарыць; ідзе па зямлі валадаркаю;
ёй належыць усё: поле, поплаў, рака, сенажаць;
ёй належыць нат сонца — зацьміць іншы раз яго хмаркаю
і заплача, пачне кроплі спорныя слёз асыпаць...

Я гляджу за акно: панадворкі там жоўта-барвовыя,
ходзіць вецер па іх; дрэвы хіляцца з боку на бок;
і заўважыў: шчэ дань засталася адна выпадковая,—
на галінцы кляновай дрыжыць сірацінка-лісток.

З хаты выйшаў на двор. Асцярожна рукою дрыжачаю
абрываю лісток, прыкладаю да твару яго:
усёй істотай адчуў адышоўшае лета гарачае,
бураў грукаты, трэск перуноў і спякотаў агонь.

Што ж, нічога! Міне й гэта восень і зімка з марозамі,
прыйдзе час — дрэвы хмурыя лісцем ізноў зашасцяць...
Перабудзем, знясём і нядобрае, й злое, і грознае,
прычакаем вясны, няўнікнёнай сяброўкі жыцця.

*1942, верасень, Ілля*

* * *

Лясы. Узгоркі. Паплавы.
Блакіт нябёсаў. Сінь азёраў...
Далёка вы, далёка вы,
радзімы блізкія прасторы!

А дні сярод палёў чужых
спяляць пасевы залатыя,
Пайдзі, прыслухайся да іх:
шумяць пасевы, ды не тыя.

Шумяць. У даль палёў зірні:
яшчэ далей — палі радзімы.
Плывуць крывёй над імі дні
і плыць сягаюць над чужымі.

Знішчэнне там, дзе іхны след.
Сваім, чужым — адно. Дзе ж дзецца?
Куды ні глянь — вялікі свет,
а чалавек не мае месца.

*(6.9.1944) Гэдэмэстэ, Эстонія*

## СПІ...

Ты адзін — усё-усенькае:
радасць, мукаў забыццё.
Немаўлё маё маленькае,
найсвятлейшае жыццё.

Спі, мой сынку... Аргенцінаю
не злякае сябра-сон,
нешчасліваю гадзінаю
над табой не дзынкне ён.

Гаварыць пачнеш — часінкай той
зможаш праўду сна ўяўляць.
Кажны рух твой новы, сынку мой,
будзе родным прамаўляць;

не ўсміхнецца ні Бразіліі,
ні Алясцы, ні Канго...
Станьце ж, станьце, сны, ідыліяй
непадкупнага, свайго.

Не крануць хай слыху ценькага
словы: Перу, Парагвай,
і няхай у снох маленькага
ажыве бацькоўскі край.

*1946*
*На чужыне*



# АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН

Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін. Нарадзіўся 27.12.1923 г. у в. Машканы Сенненскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і фельчара. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1948). Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Працаваў у прэсе. Друкуецца з 1938 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Салют у Мінску» (1947), «На зоры займае» (1958), «Насцеж» (1960), «Адрас любві» (1964), «Верасовы ўзятак» (1974) і інш., кніг паэзіі для дзяцей: «Галубы» (1949), «Рыбы нашых рэк» (1952), «Вада і вуда» (1967) і інш. Паэма «Вецер з Волгі» (1963, Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1964). Аўтар шматлікіх кінасцэнарыяў. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы А. Міцкевіча, У. Бранеўскага, Ю. Тувіма, Я. Івашкевіча. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1984).

* * *

Жыцця майго і смерці пераправы
і Сталінград дагэтуль сняцца мне...
Зваліўся я, падкошаны жалезам,
абняў рукамі родную зямлю.
Яна прапахла дымам і палыннай
слязою нашых матак і дзяцей.
Калі я моцна сціснуў яе ў жменьцы —
праз пальцы пырснула густая кроў!..
Не помню, як мяне на самалёце
вязлі ў шпіталь, далёка на Урал,
дзе па імшарах шэрых журавіны
цвітуць і спеюць позна, як і ў нас.
Як толькі ўбачыў стол аперацыйнай,
у вокнах — чарналапую тайгу.
Спакой навокал... Гэтак бела-бела,
нібы калыша воблака мяне...
Мае здранцвелыя разнялі пальцы —
пасыпалася на паркет зямля.
І жвір маўкліва, доўга разглядалі,
пасля сабраў у жменьку санітар.
Сівенькі, на майго падобны дзеда,
нячутна ён падаўся да дзвярэй.
А раненыя трызнілі аб Волзе...
За вокнамі агні
і чорны снег...

*1943*

* * *

Сумна пахне палын
на зарослых
гарбатых руінах.
І кавалкі цаглін
пад нагамі...
Ідзеш, як па мінах.
Сэрца сцюжна ляціць
у прадонне ўспамінаў,
трывогі.
Ледзь ліхтарык бліпічыць,
хтось у цемры
шукае дарогі.
Пехацінец
ідзе,
бесхацінец
брыдзе
ад вакзала
ў паўночным спакоі.

Ветру,
хмарам,
бядзе
адчынены ў доме пакоі.
Там
усходцы вядуць
праз паверхі пустыя
да зорак.
Каля ганка цвітуць
палыны
у глыбокіх разорах.
У разбітых мурах
з плошчы Волі
кугакаюць совы...
. . . . . . . . .
У глухіх палынах
мы спаткаліся,
горад,
сурова.
Папялішчаў прастор
і агеньчык гаркавай карбіткі...
Вочы ясныя зор
над табой
пагасілі зеніткі...
Як цяплушка,
трамвай
нас вязе
да пярэдняга краю.
Катлаваны капай!..
Зноў
гудкамі
дасвецце заграе.
Сонцам ззяе пралом.
Скінь шынель!..
Йржавы лом
абатры над руінамі пакляй,
каб сівым палыном
рукі,
хлеб
і каханне
не пахлі.

*1945*

## ВЕЧАР

Улёгся пыл на вуліцы.
Туман да рэчкі туліцца.
Не плач
у самоце,
дзяргач,
на балоце.
На прызбе зоркай блізкаю
цыгарка ў цемры бліскае.
Здалёк
нечакана —
хрусь! — крок
ля паркана.
— Куды ідзеш, Наталачка?
— У агарод, Міхалачка.
— Па што?
— Па цыбулю.
— Пастой,
пацалую...
Абняўшыся,
за весніцы
ідуць пад вартай месяца
ў расу
па ажыны,
дзе сум
дзергачыны.

*1956*

## РЫБАЦКІ МОГІЛЬНІК

*Міколу Нагнібедзе*

Аповесць мора на граніце
чытай, не верачы красе
бурштыннага прыбою ў Нідзе
на Куршскай сонечнай касе,

дзе ноч і дзень дымяцца дзюны
на сыпкім беразе крутым
і хвойнічак, заўсёды юны,
па схілах сцелецца, як дым.

Імкнецца ён, разлапы, нізкі,
стрымаць адвечны рух пяскоў.
Сівая хваля ад калыскі
калыша долю рыбакоў.

Аповесць мора — на граніце
шчарбатых заімшэлых пліт,
на могілках старых у Нідзе
раскажа ўсё табе граніт.

Чытаеш помнікі,
здзіўлёны:
ну хоць бы надпіс быў адзін,
дзе строга значацца імёны
тваіх равеснікаў, мужчын!

Малыя толькі... і жанчыны...
Як быццам не плылі сюды
ніколі ў чоўне дамавіны
дзядзькі, падлеткі і дзяды.

Няўжо яны не паміралі
пад родным дахам — рыбакі?
На пенны бег балтыйскай хвалі
зірнеш імгненна з-пад рукі:

— Ах, там яны...—
Бурліць раўнівы,
цяжкі, у белай шапцы, вал.
Не моўкне шум рыбацкай нівы.
Чакаючы,
маўчыць
прычал.

*1959*

## СПЕЛЫ БОР

З усіх сабораў ёсць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
у спелым лесе, спелы бор,
звіняць твае званіцы.

У душным водары палян,
дзе маладосць хадзіла,
багун, дурнічнік, дурнап'ян —
раздзьмулі ўсе кадзіла.

Стаяць палкі баравікоў;
дрыжыць басок чмяліны.
Глыбокі мох,
на лісцях кроў
мядзведжае маліны.

Падсочак стрэлы на ствалах,
нібы крыжы пакуты.
Спяшаецца барсук-манах
у цёмны свой закутак.

Бурштынных смол здаровы дух.
На кроне ў высі яснай
на аблачынак белы пух —
дзярэ анёла ястраб.

На кожным кроку навіна,
і душна ад чабору,
а песню кожная сасна
свайму спявае бору.

*1959*

## У ЧМЯЛІНЫМ ЛУЗЕ

Ой мурожна ды росна
ля быстрай вады.
Закасі мае вёсны,
касец малады...

Перапёлцы жалосна
і чуюць лугі:
— Закасі мае вёсны,
касец дарагі.

Я сцяблінкай гатова
упасці ў пракос,
каб ты сніў мае бровы
і полымя кос.

Я сцяблінкай гатова
упасці ў пракос...

*1976*

## НЯВЫКРЫКАНЫ КРЫК

Шумі, свяці, мой ясны ясень.
Жыццё люляла і ламала.
Я паўтару цяпер, як вязень:
жыцця ў жыцці мне мала. Мала!

У тлуме стольнага папасу,
на скразняку віхур і станцый
багата я патраціў часу,
каб маладым урэшце стацца.

І пад зялёнай засняй лямпы
на белаце марозна строгай,
як лёд, ламае панцыр ямба
яшчэ не злоўленага стронга.

Туды, туды — дзе вечны клопат,
галін і крылаў скрыжавіны!
За трыснягом маторкі лопат...
Дажджом наліты след ласіны...

Вядома, сонца змоўчыць лета,
калі на пасвішчы ля статка
лізне зялёны ствол ракеты
даверлівае ласянятка.

А скалане душу як токам —
няўжо бяда абваліць неба
жудой у вусцях, у вытоках,
і ясны ясень згасне нема?

Крычу я ў свет, ад звад
аслеплы:
крыжовыя спусціце флагі,
каб мегатоннай смерці пекла
замураваць у саркафагі!

Наранку, з цёплага парога
працяты ветрыкам азарту,
сядлаю зноў агонь-дарогу
юнацкім воклічам: у заўтра!

Жыццё — не метульгі пацеха.
Таптала. Славіла. Ламала.
Нявыкрыканы крык, як рэха:
жыцця ў жыцці мне мала. Мала!

## ЗАМАСТОЦКІЯ ПРЫПЕЎКІ

Пара трывожнай асяніны.
Смуга і канапляны чад.
Лісцём пунсовае асіны
смяюцца вусенцы ў дзяўчат.

— Будзем пець і танцаваць
рознымі манерамі,
ну, а бульбу выбіраць
толькі з інжынерамі...
Джынсовыя шчыруюць шэфы —
з кантор і цэхаў бульбашы.
Дыміць, гарыць бульбоўнік
сшэхлы,
і неяк смутна на душы.

— Адвячорак ці дасветак —
у вачах стаіць туман.
Закахалася я гэтак,
хоць пішы з мяне раман...

Калі стамлёна
скарбу тоны
на Зорны Воз ускіне дзень —
праз мул і мут магнітафонны
крынічны выблісне струмень:

— Сыраежачку ў дуброве,
харашунчык, не крані —
Зіна круціцца ў любові,
як бяроста на агні!



# ВІКТАР ШВЕД

Віктар Швед нарадзіўся 23 сакавіка 1925 г. у вёсцы Мора Беластоцкага ваяводства ПНР. Скончыў Беларускі ліцэй у Бельску, аддзяленне журналістыкі (1955) і беларускай філалогіі (1969) Варшаўскага універсітэта. Працуе ў варшаўскім выдавецтве «Ксёнжка і ведза» («Кніга і веды»). З'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў. Даўно заваяваў значную папулярнасць на Беласточчыне як беларускі паэт і асветны прапагандыст беларускай літаратуры і культуры.

Аўтар паэтычных зборнікаў «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Дружба» (1976, Мінск).

## РОДНАЯ МОВА

Мова ты родная, мова прыгожая,
Як жа мы можам цябе не любіць!
Ты пратрывала атакі варожыя,
Не здолеў цябе аніхто пакарыць.

Ты пад страхою знайшла саламянаю
Прытулак ад цяжкай навалы, нягод,
Цябе, мова, носіць з вялікай пашанаю
У сэрцы сваім беларускі народ.

Паднятая сілай Купалы і Коласа,
Змагла ты правы ўсе свае адстаяць,
Змагла ты дайсці да магутнага голасу
І месца пачэснае ў свеце заняць.

Калі нехта скажа: ёсць мовы мілейшыя,
Яму адказаць я заўсёды гатоў:
Найпрыгажэйшая, найдаражэйшая
Мова зямлі роднай, мова бацькоў.

*1965*

## РУКІ МАЦІ

У жыццёвай восені позняй
Патрэсканыя, як барозны.
Прапахлыя прэлаю глебай
І свежым жытнёвым хлебам.
У працы цяжкой да болю
З сярпом абягалі ўсё поле.
У глебу жменька за жменькай
Сеялі збожжа з сявенькі.
Валодалі добра касою
І цэпам у пуні зімою.
Сыночка галубілі многа,
Пасля адпраўлялі ў дарогу,
І гэтыя ж самыя рукі
Галубяць і песцяць унукаў.
О, рукі, без жаднай заганы,
Дастойныя заўжды пашаны,
Найбольшае ў свеце багацце —
Рукі маці.

*1970*

## НАШЫ ПРЫГАЖУНІ

Валасы ільняныя,
Вочы васільковыя,
Тварыкі румяныя,
Ручанькі здаровыя.
Ў працы не лянівыя,
Ў хаце непаседлівы,
Для людзей зычлівыя
І надзвычай ветлівы.
Заўжды служаць радаю,
Шчырай дапамогаю.
Ніколі не падаюць
Прад бурай-трывогаю,
Пад цяжкою ношаю,
Пад жыцця нагрузкаю.
Прыгажуні нашыя,
Кветкі беларускія.

*1978*

## ЗМЕСТ

## ТОДАР КЛЯШТОРНЫ



## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА



## ПІЛІП ПЕСТРАК



## МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ



## ПАЎЛЮК ТРУС



## АДАМ РУСАК

## АЛЕСЬ ДУДАР



## УЛАДЗІМІР ХАДЫКА



## АЛЕСЬ ВЕЧАР



## ЮРКА ГАЎРУК



## ПЯТРУСЬ БРОЎКА



## ПЯТРО ГЛЕБКА

## СЯРГЕЙ ДЗЯРГАЙ



## РАМАН САБАЛЕНКА



## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ



## ЯЎГЕНІЯ ПФЛЯЎМБАЎМ



## ЮРКА ЛЯВОННЫ



## АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ



## МІХАСЬ БАГУН



## МІКОЛА ЗАСІМ



## ПЯТРУСЬ ГРАНІТ



## СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

УЛАДЗІМІР КОРБАН



ЗМІТРОК АСТАПЕНКА



АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ



АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ



СЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ



ВАСІЛЬ ВІТКА



ПАВЕЛ ПРУДНІКАЎ

## АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА



## ЮЛІЙ ТАЎБІН



## КЛІМ ГРЫНЕВІЧ



## АНАТОЛЬ ІВЕРС



## МАКСІМ ТАНК

АЛЯКСЕЙ РУСЕЦКІ



АНДРЭЙ УШАКОЎ



СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ



ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ



СЯРГЕЙ АСТРЭЙКА



АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ



УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ



АНТОН БЯЛЕВІЧ



РЫГОР НЯХАЙ



РЫГОР ЖАЛАЗНЯК



МІКОЛА СЯМАШКА



ВАСІЛЬ МАТЭВУШАЎ



НІНА ТАРАС



МАСЕЙ СЯДНЕЎ

### МІХАСЬ КАЛАЧЫНСКІ



### ЯНКА НЕПАЧАЛОВІЧ



### ПІМЕН ПАНЧАНКА



### УЛАДЗІМІР РАГУЦКІ



### МІКОЛА СУРНАЧОЎ



### ЛЕАНІД ГАЎРЫЛАЎ



### АЛЕСЬ БАЧЫЛА

ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ



ПАЎЛЮК ПРАНУЗА



МІХАСЬ ПЯНКРАТ



АЛЕСЬ БАЖКО



УЛАДЗІМІР ШАХАВЕЦ



КАСТУСЬ КІРЭЕНКА



АРКАДЗЬ ГЕЙНЕ



АВЯР'ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ



МІКОЛА АЎРАМЧЫК



АЛЯКСЕЙ КОРШАК



ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

Анталогія беларускай паэзіі. У 3 т. Т. 2 /Рэдкал.:
А 72 Р. Барадулін і інш.; Уклад. А. Лойка.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 623 с., іл.
ISBN 5-340-00120-2.

У 2-гі том увайшлі лепшыя творы беларускай савецкай паэзіі 20—50-х гадоў.

4702120000—019
А————————135—90
М 302(03)—93

ББК 84Бел

Литературно-художественное издание

АНТОЛОГИЯ БЕЛОРУССКОЙ ПОЭЗИИ
В 3-х томах
Том 2

Составитель
*Лойко Олег Антонович*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ
У 3-х тамах
Том 2

Укладальнік
*Лойка Алег Антонавіч*

*Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька*
*Рэдактар Л. Р. Законнікава*
*Мастак Н. В. Сустава*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо*
*Карэктар Л. М. Маслоўская*

ІБ № 2935

Здадзена ў набор 13.09.90. Падп. да друку 04.12.92. Фармат 84×108[1]/32. Папера кн.-часоп. Гарнітура звычайная новая. Афс. друк. Ум. друк. арк. 36,27. Ум. фарб.-адб. 36,74. Ул.-выд. арк. 27,85. Тыраж 6000 экз. Зак. 729. Цана 75 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.